# Прысьвячэньне

Выданьне прысьвячаецца памяці ўсіх беларусаў, хто ўклаў сваю працу, сілы і сродкі ў заснаваньне , фармаваньне і разьвіцьцё беларускай прысутнасьці ў Нью-Ёрку, хто былі адначасна і будаўнікамі Амэрыкі, што дала прытулак выгнанцам з Беларусі і стала іх другой радзімаю.

Таксама прысьвячаю кнігу маім сябрам і паплечнікам — сучасным беларусам Нью-Ёрку, якія годна працягваюць дзейнасьць папярэднікаў і ўтрымліваюць сваё нацыянальнае жыцьцё сярод прадстаўнікоў іншых народаў у «сталіцы сьвету».

*Ганна Сурмач*



# Зьмест

## ЧАСТКА **II**

ЧАСТКА **III**

# Прадмова

Гэтая кніга нарадзілася з прапановы сп. Вітаўта Кіпеля падрыхтаваць Спадарожнік па беларускіх мясьцінах Нью-Ёрку. Мяне адразу захапіла гэтая ідэя, якая, здаецца, ужо даўно ляжала на паверхні, але ніхто з амэрыканскіх беларусаў так і не наважыўся зрабіць гэтую працу. Сп. Кіпель нават сам са здзіўленьнем усклікнуў: «Як гэта мы не зрабілі такога даведніка да сёньняшняга часу!»

Задумка далася лёгка, але выканаць яе ў рэальнасьці аказалася даволі складанай і вельмі працаёмкаю справаю. Я адразу вырашыла не абмяжоўвацца толькі Спадарожнікам, але і зрабіць выданьне з двух частак: падаць Кароткі агляд гісторыі беларускай прысутнасьці ў «сталіцы сьвету» і Спадарожнік па Нью-Ёрку для беларуса, які зможа пазнаёміцца на роднай мове з гісторыяй і знакамітасьцямі гораду і пры гэтым знойдзе інфармацыю пра «беларускія сьляды» ў ім. Пазьней была дададзеная трэйцяя частка пра беларускія мясьціны паблізу Нью-Ёрку.

Гэтая кніга пра Нью-Ёрк з беларускага погляду, мы будзем глядзець на горад вачыма беларуса, які жыве ў гэтым мегаполісе ці прыехаў сюды госьцем.

Для падрыхтоўкі кнігі трэба было перабраць крыніцы

пра беларускае жыцьцё ў Нью-Ёрку, пра людзей, падзеі, мясьціны, дзе гэтыя падзеі адбываліся. Трэба было знайсьці ў рэальнасьці гэтыя мясьціны, сфатаграфаваць іх. Шмат часу давялося затраціць на пошук і падрыхтоўку зьвестак па гісторыі самога Нью-Ёрку і ягоных знакамітых мясьцінаў, пры тым , што ўсе іх даводзілася перакладаць на беларускую мову з ангельскай ці іншых моваў. Наколькі вядома, турыстычных даведнікаў пра Нью-Ёрк на беларускай мове пакуль не выдадзена.

Напачатку трэба было вырашыць і пытаньне, пра тое, якога тыпу будзе кніга. У выніку прыкідаў і роздумаў мы са сп. Кіпелем спыніліся на меркаваньні, што гэта не павінна быць навуковая ці навукова-папулярная праца, а толькі інфармацыйная, прыкладнога значэньня. Для навуковай працы патрэбна значна больш часу для аналізу знойдзеных крыніцаў і можа так стацца, што выданьне кнігі зацягнецца на доўгія гады. На нашу думку, навуковыя дасьледаваньні павінны быць зробленыя ў будучыні. А сам даведнік актуальны ўжо сёньня і трэба без адкладу працаваць над ім і выдаць для карыстаньня. Таму вы не знойдзеце ў кнізе навукова апрацаваных спасылак, каментароў і іншых атрыбутаў навуковага выданьня. Таксама не заўсёды ўдалося датаваць фотаздымкі.

Аднак, тым не менш, кніга можа быць крыніцаю інфармацыі пра гісторыю беларускай прысутнасьці ў Нью-Ёрку, тут пададзена гісторыя найбольш вядомых беларускіх арганізацый, што важна ў сытуацыі, калі пакуль няма дастаткова друкаваных выданьняў па гэтай тэматыцы. Спадзяемся, што будучыя дасьледчыкі змогуць скарыстаць кнігу для сваіх навуковых працаў.

Трэба зазначыць, што з улікам практычнай мэтазгоднасьці некаторыя зьвесткі дублююцца ў Агляндзе і Спадарожніку. Меркавалася, што некага з чытачоў можа зацікавіць не ўся кніга, а толькі адна з яе частак. Напрыклад, калі спатрэбіцца толькі Спадарожнік, тут варта паўтарыць важную інфармацыю з Агляду, каб чытач меў як найбольш поўнае ўяўленьне пра той ці іншы аб'ект аповяду.

Аўтарка бязьмежна ўдзячная сп. Вітаўту Кіпелю — аднаму з вядомых беларускіх дзеячаў у ЗША з паваеннай эміграцыі, аўтару кнігі «Беларусы ў ЗША», не толькі за ідэю выданьня, але і за надзвычай істотную практычную дапамогу ў падрыхтоўцы кнігі, без ягонага ўдзелу яна, верагодна, не магла б выйсьці ў сьвет.

Вялікая падзяка ад аўтара належыцца таксама сябру Бруклінскага аддзелу БАЗА Яўгену Папкову, які зрабіў кампутарную вёрстку выданьня, дызайнерскае афармленьне і аказваў іншую дарадчую дапамогу ў тэхнічных пытаньнях.

Выказваю шчырую падзяку Згуртаваньню беларусаў у Вялікай Брытаніі за фінансавую падтрымку выдаткаў на тэхнічную падрыхтоўку кнігі да выданьня.

*Ганна Сурмач*



# ЧАСТКА I

## Кароткі агляд гісторыі беларускай прысутнасьці ў Нью-Ёрку

### *Раньняя іміграцыя (17 ст. - трэйцяя чвэрць 19 ст.)*

Прысутнасьць беларускай іміграцыі ў Амэрыцы мае такую ж даўнюю гісторыю, як і гісторыя саміх Злучаных Штатаў. Падарожнікі з Вялікага Княства Літоўскага дабіраліся ў Новы Сьвет яшчэ пад час Калёніяў, у 17 стагоддзі.

Ад часу заснаваньня Брытанскіх Калёніяў і да апошняй чвэрці 19 ст. у Амэрыку прыязджалі толькі паасобныя малыя групы ці асобныя эмігранты. Некаторыя зьвесткі, якія падае Вітаўт Кіпель ў сваёй кнізе «Беларусы ў ЗША» (ст. 42), дазваляюць меркаваць, што такое адбывалася. Напрыклад, у старых хроніках ёсьць запіс, што «6 чэрвеня 1610 году імігрант з




*Новы Амстэрдам*

гораду Беластоку, доктар Лаўрын Багун прыбыў ў Калёніі».
«Іншы грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага, які рана прыехаў у Амэрыку і таксама мог быць беларусам па паходжаньні - доктар Аляксандр Куртыус (Курчэўскі), вучоны і настаўнік у Нью-Амстэрдаме (першая назва Нью-Ёрку ў 1626-64 гадох). Да свайго прыезду ў Калёніі ў 1659 годзе ён настаўнічаў у Полацку і Вільні. Магчыма, што гэта былі не адзіныя выпадкі і будучыя архіўныя грунтоўныя дасьледаваньні беларускай прысутнасьці ў каланіяльны перыяд выявяць новую інфармацыю.

Прыток беларускіх імігрантаў працягнуўся ў 18-19 ст., набыў размах ў 20 ст. і не перапыняецца ў бягучым 21 ст.

Амаль ўся гісторыя беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы ў значнай меры была зьвязаная з Нью-Ёркам.

Найбольш вядомым імігрантам з беларускіх зямель у 18 ст.

зьяўляецца, безумоўна, Тадэвуш Касьцюшка. Ягонае жыцьцё ў Амэрыцы не было наўпрост зьвязанае з Нью-Ёркам, але ягонае імя, як нацыянальнага героя Злучаных Штатаў, ушанавана і ў гэтым горадзе. У Нью-Ёрку існуе мост Касьцюшкі, яго імем названа вуліца і станцыя сабвэя ў Брукліне.



*Тадэвуш Касьцюшка*

Нарадзіўся Тадэвуш Касьцюшка 4 лютага 1746 году ў



*Дом-музэй Касьцюшкі ў Марачоўшчыне*

Мерачоўшчыне Слонімскага павету ў сям'і беларускага шляхціча са старажытнага роду Касьцюшкаў гербу Рох 111. Іх фамільны маёнтак знаходзіўся ў вёсцы Сяхновічы Кобрынскага павету (цяпер Жабінкаўскі раён).

Скончыў каталіцкую школу, а потым у 1769 годзе - Варшаўскі кадэцкі корпус. Працягнуў вайсковую адукацыю ў Парыжы, дзе 5 гадоў вучыўся ў вайсковай акадэміі. Але, па вяртаньні дадому яму не ўдалося знайсьці адпаведную адукацыі пасаду і малады афіцэр мусіў пакінуць Радзіму.

Маючы вольналюбівы характар і адвагу, Касьцюшка ўлетку 1776 года ў складзе групы французскіх валанцёраў накіраваўся ў Паўночную Амерыку, каб падтрымаць барацьбу амерыканскіх каляністаў супраць Вялікабрытаніі. Браў удзел у вайсковых дзеяньнях. Вызначыўся як таленавіты інжынер і вайсковец, што было заўважана і высока ацэнена будучым першым прэзідэнтам Злучаных Штатаў генералам Джорджам Вашынгтонам. 18 кастрычніка 1776 года Касьцюшка атрымаў

ад Кангрэса ЗША чын палкоўніка. Па плану, распрацаванаму Касьцюшкам, была ўзмоцнена абарона горада Філадэльфіі, тагачаснай сталіцы Злучаных Штатаў Амерыкі.

Паміж 1777 і 1782 гадамі Касьцюшка актыўна ўдзельнічаў у найбольш вядомых бітвах часоў вайны за незалежнасьць - пад Цікандэрогаю, Саратогаю, Гілфардам, Хобкірс Хілам, Чарлстанам. Распрацоўваў інжынэрнае забесьпячэньне наступаў і абароны, кіраваў умацаваньнем берагоў Гудзона і будаўніцтвам фартэцыі Вэст Пойнт. Менавіта яму належыць праект тыповага вайсковага форту, прыстасаванага да ўмоваў Амэрыкі.

13 кастрычніка 1783 года амерыканскі ўрад надаў Касьцюшку наступнае вышэйшае званьне брыгаднага генэрала. Ён быў у ліку трох чужынцаў, каго прынялі ў ганарове «Таварыства Цынцынаці», што складалася з самых вядомых удзельнікаў вайны за незалежнасьць. З рук Джорджа Вашынгтона Касцюшка атрымаў ордэн Цынцынаці, упрыгожаны дэвізам: «Усё аддаў дзеля выратаваньня Рэспублікі».

Службе ў амэрыканскім войску Т. Касьцюшка аддаў дзевяць гадоў свайго жыцьця. Разам з войскамі рэспубліканцаў ён прайшоў усе тагачасныя амэрыканскія штаты, стаў Ганаровым грамадзянінам ЗША.

Тадэвуш Касьцюшка пакінуў Амерыку ў сярэдзіне ліпеня 1784 году. На Радзіме ён, як і раней, не атрымаў вайсковай пасады. Ад гэтага часу цягам наступных пяці гадоў баявы генэрал займаўся звычайнымі клопатамі вясковага жыхара ў родавых Сяхновічах. Доўжылася Касьцюшкава сялянскае жыцьцё да другога падзелу Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага, калі ягоная Бацькаўшчына апынулася

перад пагрозаю страты незалежнасьці.

Вясной - восеньню 1794 года Тадэвуш Касьцюшка ўзначаліў паўстаньне супроць інтэрвенцыі Расеі, Прусіі і Аўстрыі. Ён лічыў абавязкам змагацца за незалежнасьць і свабоду сваёй краіны, якую дзялілі між сабою гэтыя агрэсіўныя суседзі. Менавіта за кіраўніцтва паўстаньнем Тадэвуш Касьцюшка прызнаны ў гісторыі нацыянальным героям Беларусі і Польшчы. Паўстаньне было жорстка задушана расейскімі царскімі войскамі.

Пасля разгрому паўстанцкіх войск паранены генерал Т. Касьцюшка 10 кастрычніка 1794 года ў бітве пад Варшавай быў захоплены ў палон, па загаду імператрыцы Кацярыны II тайна быў перавезены ў Санкт-Пецярбург і кінуты ў вязьніцу.

Пасьля сьмерці Кацярыны II 26 лістапада 1796 Т. Касьцюшку наведаў новы расейскі імпэратар Павал I і прапанаваў паўстанцам амністыю. Імпэратар хацеў падараваць Касьцюшку 1000 сялянаў і 12 тысячаў рублёў, ад чаго Касьцюшка адмовіўся, як і ад прапановы паступіць на расейскую службу.

Пасьля вызваленьня з турмы ў канцы 1796 Т.Касьцюшка праз Фінляндыю, Швэцыю і Вялікабрытанію ізноў перабраўся ў Злучаныя Штаты Амерыкі, якія лічыў сваёй другой радзімай, пасяліўся ў Філадэльфіі.

Аднак, гэтым разам Касьцюшка знаходзіўся ў ЗША толькі некалькі месяцаў (1797-1798г.г.). Перад ад'ездам ён напісаў тэстамэнт і пакінуў дакумэнт свайму блізкаму сябру Томасу Джэффэрсану, які падзяляў ягоныя ідэалы правоў чалавека. Паводле тэстамэнту Касьцюшка пакідаў усе свае амерыканскія актывы на справу вызваленьня і адукацыі амерыканскіх рабоў.

Але, на жаль, ягонае пажаданьне тады не было рэалізавана. Пазьней гэтая спадчына была ўсё ж выкарыстаная на заснаваньне навучальнай установы для афра-амэрыканцаў у 1826 годзе ў горадзе Ньюарку, штат Нью Джэрзы, якой было нададзена імя Касьцюшкі.




*Музэй Касьцюшкі ў Залатурне (Швайцарыя)*

Пасьля ад'езду з Амэрыкі Касьцюшка вярнуўся на сталае жыцьцё ў Эўропу, спачатку ў Францыю, затым - улетку 1815 году ў Швэйцарыю.

15 кастрычніка 1817 Тадэвуш Касьцюшка памёр у доме свайго сябра Франца Ксавэрыя Цэлтнера ў швэйцарскім

горадзе Залатурн (Solothurn).

19 кастрычніка 1817 года ў былым езуіцкім касьцёле Залатурна адбылося пахаваньне Тадэвуша Касьцюшкі. Ягонае забальзамаванае цела было захавана ў склепе касьцёла Залатурна.



*Шыльда з Музэя Касьцюшкі ў Залатурне (Швайцарыя)*

У чэрвені 1818 году парэшткі цела Касьцюшкі былі перавезены ў Кракаў і дастаўленыя ў касьцёл Святога Фларыяна, потым былі пахаваныя на Вавелі ў склепе у Саборы Святых Станіслава і Вацлава — пантэоне польскіх каралёў і нацыянальных герояў.

Унутраныя органы Касьцюшкі, якія былі вынятыя падчас бальзамаваньня, былі асобна пахаваныя на могілках у Цухвіле (Zuchwil), побач з Залатурнам, і застаюцца там па сёньняшні дзень. У 1820 годзе побач з польскай мемарыяльнай капліцай там быў усталяваны памятны камень. 16 кастрычніка 2016 году ў Цухвіле быў адчынены музэй Касьцюшкі.

У кастрычніку 2017 году помнік Касьцюшку быў адкрыты у Залатурне. Усталяванне адбылося па ініцыятыве і пры дапамозе беларускай дыяспары у Швайцарыі.

Сэрца героя не было пакладзена разам з іншымі органамі, а было захавана ў асобнай скрыні ў польскім музеі ў Раперсвіле (Rapperswill), Швэйцарыя. У 1927 годзе сэрца Касьцюшкі, разам з часткай збораў музэя, было перавезена ў Варшаву і зараз захоўваецца там у капліцы Каралеўскага палацу .

Памяць пра Тадэвуша Касьцюшку высока шануецца

ў краінах, дзе яму нададзена імя нацыянальнага героя - Злучаных Штатах, Польшчы, Беларусі, таксама ў Францыі і іншых краінах сьвету.

У Амэрыцы існуе шмат памятных знакаў ушанаваньня памяці змагара за незалежнасьць краіны. Рэзідэнцыя Касцюшкі ў Філадэльфіі зьяўляецца цяпер Нацыянальным мемарыялам Тадэвуша Касцюшкі (Thaddeus Kosciuszko National Memorial), знаходзіцца на адрасе - 301 Pine Street. Мемарыял, будынак якога пабудаваны ў 1775 годзе, унесены ў рэестр гістарычных помнікаў у 1970 годзе.

Бюст Касьцюшкі ўстаноўлены ў Кангрэсе ЗША, а яго-ная статуя стаіць у Lafayette Square насупраць Белага дому ў Вашынгтоне.

Помнікі Тадэвушу Касьцюшку ўстаноўленыя ў Бостане, Філадэльфіі, Дэтройце, Чыкага, Мілуокі, Кліўляндзе. У ЗША існуюць акруга Касьцюшка (Kosciusko County) ў штаце Індыяна, горад Касьцюшка ў цэнтральнай частцы штату Місісіпі (City of Kosciusko in Attala County), адкуль родам зорка амэрыканскага тэлебачаньня Опра Уінфры (Oprach Winfrey), яна жыла там да 6 гадоў. У паўднёва- усходняй частцы Аляскі ёсьць востраў Касьцюшкі (Kosciusko Island) у архіпелагу Аляксандр (пл.444.403 кв.м. - 38-ы па велічыні востраў у ЗША, названы у гонар Касьцюшкі ў 1879 годзе)

Імя Касьцюшкі ўшаноўваецца ў Вэст Пойнце, дзе захаваліся спраектаваныя ім умацаваньні.

Мост імя Касьцюшкі (Kosciuszko Bridge) існуе ад 1939 году ў Нью-Ёрку (Бруклін, Грын Пойнт). Другі мост Касьцюшкі (Thaddeus Kosciusko Bridge) пабудаваны ў 1959 годзе праз Mohawk River каля гораду Олбані, штат Нью-Ёрк. У 1925

годзе было створана польска-амерыканскае культурнае агенцтва — Фонд Касцюшкі, са штаб-кватэрай у Нью-Ёрку. У паўднёвым Тэксасе (South Texas) існуе музычная заля імя Касьцюшкі (Kosciuszko Hall) на адрасе: 7975 Fm 541 E, Stockdale, TX 78160.

У 1933 годзе Паштовая служба ЗША выпусціла памятную марку з выявай статуі Касьцюшкі ў Вашынгтоне. Марка была выпушчана да 150-годдзя атрыманьня Касьцюшкам амерыканскага грамадзянства.

Названая ў гонар Касьцюшкі гара ў Аўстраліі (Mount Kosciuszko), знаходзіцца ў New South Walles, Main Range, Kosciuszko National Park (частка нацыянальнага парку).



*Курган Касцюшкі ў Кракаве (Польшча)*

Імем Касьцюшкі названыя шматлікія плошчы, вуліцы, паркі ў розных краінах сьвету, у тым ліку і ў Нью-Ёрку, таксама

вуліцы імя Касьцюшкі ёсьць у Санкт-Пецярбургу і Львове.

У Польшчы у 1820—1823 гадах быў узведзены ў Кракаве Курган Касцюшкі, усталяваныя ягоныя помнікі.

У 2010 годзе Манетны двор Польшчы выпусціў залатую манету, прысьвечаную Касьцюшку, таксама было выпушчана некалькі марак з выяваю героя.

На Радзіме Касьцюшкі, у Беларусі, таксама шануецца ягонае імя, аднак меньш, чым ён таго заслугоўвае. У 2002 годзе Берасьцейскі аблвыканкам прыняў рашэнне аб аднаўленні разбуранай у гады Другой сусьветнай вайны сядзібы Касьцюшкі ў Мерачоўшчыне, Цяпер там дзейнічае музэй (Івацэвіцкі раён , Берасьцейскай вобл.). У Бярэсьці, Пінску, Гародні існуюць вуліцы імя Касьцюшкі. Паштовая марка, прысьвечаная Касцюшку была выпушчана ў Беларусі ў 1994 годзе.




*Паштовая марка*

У 2005 годзе помнік Касьцюшку з'явіўся ў Менску на тэрыторыі амэрыканскай амбасады, таксама ўсталяваны помнік і ў вёсцы Малыя Сяхновічы, Жабінкаўскага раёну Берасьцейскай вобласці.

Імя Касьцюшкі ўвекавечана ў шматлікіх мастацкіх творах і навуковых публікацыях. Адным з першых літаратурных твораў быў раман «Тадэвуш Варшавы», які быў напісаны шатляндзкім аўтарам Джэйн Портэр. Раман быў вельмі папулярным, асабліва ў Злучаных Штатах, ў 19-м стагоддзі кніга вытрымала больш за 80 выданняў.

У першай чвэрці 19 ст. эміграцыі з беларускіх зямель узмацнілася пасьля паразы паўстаньня 1831 году, некаторыя з паўстанцаў прыехалі ў Амэрыку. Сюды падалася і частка ўдзельнікаў паўстаньня 1863-64 гадоў. Спачатку яны затрымліваліся ў Нью-Ёрку, а потым расьсяляліся ў іншыя мясцовасьці. Шмат хто з іх называў сябе «ліцьвінам», але гэтая эміграцыя больш успрымалася ў Амэрыцы, як польская, найперш, дзякуючы польскаму друку.

У другой палове 19 ст. з Расейскай імпэрыі выязджалі ў эміграцыю ўдзельнікі розных рэвалюцыйных і сацыялістычных рухаў, якіх жорстка перасьледавалі царскія ўлады, некаторыя з іх былі выхадцамі з беларускіх зямель.

З гэтай катэгорыі эмігрантаў асобна варта зьвярнуць увагу на адметную постаць беларуса Міколы Судзілоўскага, актыўнага ўдзельніка народніцкага а пазьней і сацыялістычнага рухаў.

Мікала́й Судзіло́ўскі нарадзіўся 15 сьнежня 1850 у Магілёве ў беларускай шляхецкай сям'і, якая валодала маёнткам у в. Фастава Мсьціслаўскага павету.



*Мікала́й Судзіло́ўскі*

Мікола Судзілоўскі быў чалавекам шырокіх абсягаў дзейнасьці. Падарожнік-географ, аўтар публіцыстычных твораў, спэцыяліст у галіне этнаграфіі, энтамалёгіі, хіміі, біялёгіі, аграноміі, ён адкрыў

шэраг астравоў цэнтральнай часткі Ціхага акіяна, пакінуў каштоўныя геаграфічныя апісаньні Гаваяў і Філіпінаў. Ён быў доктарам, зь імем якога зьвязаныя пэўныя дасягненьні ў хірургіі, тэорыі тубэркулёзу і іншых хваробаў. Быў таксама сябрам Амэрыканскага таварыства генэтыкаў, некалькіх навуковых таварystваў Японіі і Кітаю. Таксама вядомы як філёзаф, прыродазнаўца, рэвалюцыянэр, удзельнік грамадзка-палітычных рухаў Беларусі, Расеі,Швайцарыі, Румыніі, Англіі, Францыі, ЗША, Японіі, Кітая. Валодаў васьмю эўрапейскімі мовамі, а таксама японскай і кітайскай.

Пасьля заканчэньня Магілёўскай мужчынскай гімназіі Судзілоўскі вучыўся на мэдыцынскім факультэце Кіеўскага ўнівэрсытэту. У Кіеве ён стварыў студэнцкі народніцкі гурток, потым выехаў у Швайцарыю, дзе пазнёміўся з лідэрамі рэвалюцыйнай эміграцыі Лаўровым, Бакуніным ды інш. Захапіўся народніцкай ідэяй «хаджэньня ў народ», праводзіў прапаганду сярод сялянства. З-за перасьледу з боку царскіх уладаў вымушаны быў выехаць у эміграцыю.

У эміграцыі рэвалюцыянэр апынуўся спачатку ў Лёндане, дзе ўдзельнічаў у працы эмігранцкіх арганізацый. Але ўжо летам 1875 году Судзілоўскі накіроўваецца ў Румынію, а на шляху ў Бухарэст прыпыняецца ў Жэнэве, дзе піша тэзісы сваёй доктарскай дысэртацыі. У Румыніі Мікалай Судзілоўскі займаўся доктарскай практыкай і рэвалюцыйнай дзейнасьцю. Наш суайчыньнік стаў адным з пачынальнікаў румынскага сацыял-дэмакратычнага руху, арганізоўваў сацыялістычныя гурткі. У 1877 годзе Судзілоўскі скончыў унівэрсітэт у Бухарэсьце.

У 1881 годзе румынскія ўлады за рэвалюцыйную дзейнасьць

выслалі яго ў Канстантынопаль.

Далей ён апынуўся ў Жэнэве і Парыжы, аднавіў адносіны з расейскай палітычнай эміграцыяй, сустракаўся з Пляханавым, Засуліч. Па прычыне далейшага перасьледу пакінуў Эўропу і накіраваўся за акіян.

1 жніўня 1887 году Судзілоўскі прыехаў у Нью-Ёрк. Ягонае знаёмства з Амэрыкаю пачалося, як і для многіх эмігрантаў, з першых крокаў па вуліцах Нью-Ёрку.

Але, доўга ён тут не затрымаўся і пераехаў у Сан-Францыска, дзе адкрыў доктарскую практыку. Судзілоўскі атрымаў амэрыканскае грамадзянства, стаў адметнай асобаю ў Амэрыцы.

Пражыўшы 5 гадоў у Каліфорніі, Судзілоўскі ў траўні 1892 году пераехаў на Гавайскія астравы, дзе займаўся таксама доктарскай практыкай. Пасьля далучэньня астравоў да ЗША ў 1898 годзе доктар рашуча ўключыўся ў барацьбу за незалежнасьць мясцовых палінэзійцаў-канакаў. У 1900—1901 гг. пад імем Каўка Лукіні ( Kauka Lukini) ён быў сэнатарам, а потым і прэзыдэнтам Сэната тэрыторыі Гаваі — калегіяльнай урадавай установы гэтай федэральнай тэрыторыі ЗША.

Пасьля выхаду ў адстаўку з пасады сэнатара Гавайскага парлямэнту Судзілоўскі пераехаў у Шанхай (Кітай). Хацеў атрымаць пасаду амэрыканскага амбасадара ў Японіі, але, не выйшла.

У 1912 годзе Судзілоўскі пасяліўся на Філіпінах. Там наш суайчыньнік акрамя мэдыцынскай практыкі займаўся, як заўсёды, грамадзкай і асьветніцкай дзейнасьцю.

У 1921 годзе пераехаў з сям'ёй у кітайскі горад Цяньцзынь, дзе працаваў доктарам. Памёр там 30 красавіка 1930 году.

Мікола Судзілоўскі сваю дзейнасьць на эміграцыі ніяк не зьвязваў з беларускай нацыянальнай ідэяй і больш адносіў сябе да расейскай эміграцыі, нават займеў сабе другое прозьвішча — Ніколай Руссель. Аднак, гэтая постаць таксама ёсьць важнаю для гісторыі беларускай эміграцыі ў Амэрыцы, бо ягонае паходжаньне беларускае.

Вядома, што Судзілоўскі вёў перапіску з БССР, аднак на сталае жыхарства на Радзіму не вярнуўся.

Пераважную частку прыезджых ў 19 ст. у Амэрыку эмігрантаў з беларускіх зямель складала эканамічная эміграцыя, гэтыя людзі надавалі больш увагі працы, заробкам і заснаваньню сваіх бізнэсаў. У 1872 годзе ў Нью-Ёрку было закладзена Расейскае Кола Узаемнай Дапамогі, да якога пераважна належалі беларусы.

У 1882 годзе беларускія габрэі ў Нью-Ёрку заснавалі Дабраахвотнае Таварыства Узаемнае Дапамогі «Ашмянскія браты», якое дапамагала і беларускім эмігрантам з Ашмянаў.

Варта падкрэсьліць такую важную адметнасьць эміграцыі з беларускіх земляў, як прысутнасьць сярод яе значнай колькасьці габрэйскага элементу. Як вядома, пад час зыходу габрэяў з Заходняй Эўропы з-за перасьледу інквізіцыі значная частка іх асялілася ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе яны маглі бесперашкодна ладзіць сваё новае жыцьцё. Пры згодзе, узаемадапамозе і добрасуседзве беларусы і габрэі жылі доўгія часы, гісторыя абодвух народаў засталася зьвязанаю назаўсёды. З Беларусі паходзяць многія з кіраўнікоў дзяржавы Ізраіль — тры прэзыдэнты й шэсьць прэм'ер-міністраў.

Суседзкія адносіны захаваліся паміж беларусамі і габрэямі і на эміграцыі. Некаторыя з габрэяў, паходжаньнем зьвязаныя з Беларусьсю, сталіся знакамітымі ў Амэрыцы, пра што будзе напісана далей.



# *Масавая імiграцыя (апошняя чвэрць 19 ст. - да Першай сусьветнай вайны)*

Больш масавая эміграцыя з беларускіх земляў пачалася ў апошнія дзесяцігоддзі 19 ст. і нарастала да Першай сусьветнай вайны. Галоўная прычына гэтай эміграцыі - эканамічныя, найперш, масавае беззямельле. Але былі і эмігранты палітычныя. Зьвесткі пра жыцьцё гэтай хвалі эміграцыі можна знайсьці ў расейскамоўных крыніцах.

У сэрыі артыкулаў пра гісторыю расейскіх пасяленьняў у Амэрыцы, падпісанай скарочаным імем И.В. (Иван Богема, як згадвае сп. Вітаўт Кіпель - гэта быў псэўданім згаданага вышэй Міколы Судзілоўскага), што была надрукаваная ў расейскай газэце «Новый мир» , можна знайсьці нямала розных падрабязнасьцяў з жыцьця раньняй беларускай эміграцыі ў Нью-Ёрку. Вось, напрыклад:

«Самы першы селянін з Менскае губерніі Паўночна-Заходняга краю прыбыў у Амэрыку на пачатку 1890-х гадоў. Ён высадзіўся на амэрыканскіх берагох, спадзяючыся ўбачыць «золата, якое валяецца на вуліцы», як ён чуў у апавяданьнях пра Амэрыку ад землякоў-яўрэяў на сваёй Радзіме. Праз яўрэйскіх сяброў ён знайшоў сабе першую працу ў швацкай прамысловасьці. Гэты селянін з Менскае губерніі адчыніў

сваё прадпрыемства і наймаў на працу сваіх землякоў да канца дзесяцігоддзя».

Расейскі журналіст Е. Матросаў, адзін з першых, хто апісаў Амэрыку ў расейскай публіцыстыцы, пісаў пра Нью-Ёрк у 1897 годзе:

«Русь расейская ўяўляе тут літаральна кроплю ў моры, бо складае маленечкую жменьку, каля 150 чалавек, у трохмільённым горадзе. Усё гэта пераважна праваслаўныя беларусы з Менскае і сумежных губерніяў, краўцы, кавалі ды шаўцы, сярод якіх краўцы, аднак складаюць пераважную бальшыню». Далей пасьля наведваньня рэстарану ў дзелавой частцы Нью-Ёрку, зазначыў, што ўласьнік гэтага рэстарану - «спалянізаваны беларус з Менскай губерніі».

Такім чынам, трэба падкрэсьліць, што да Першай сусьветнай вайны афіцыйна прызнаную расейскую іміграцыю ў Нью-Ёрку складалі менавіта выхадцы з беларускіх зямель, а не з уласна расейскіх. Беларусы былі больш набліжаныя да Эўропы і мелі больш шырокае ўяўленьне пра сьвет, не баяліся эміграцыі, бо гэта традыцыя ўжо існавала здаўна. Як вядома, у Вялікім Княстве Літоўскім жыхары маглі вольна выязджаць у іншыя краіны і вяртацца дамоў. Сотні студэнтаў з ВКЛ вучыліся ў Заходняй Эўропе. Да таго ж беларусаў, як бачым з прыведзенага прыкладу, заахвочвалі да выезду ў Амэрыку і беларускія габрэі, якія выязджалі актыўна і давалі інфармацыю пра лепшае жыцьцё за акіянам. А тыя, хто абжыліся на новым месцы, у сваю чаргу заахвочвалі іншых суродзічаў.

Пад канец 19 ст. у Амэрыцы існавалі 67 славянарускіх сельскагаспадарчых калёніяў, адна з іх называлася «Вільня» і дзейнічала ў Нью-Ёрку.

Іміграны 19 ст. не пакінулі пасьля сябе ніякай палітычнай і друкаванай спадчыны, не заснавалі трывалых арганізацый. Але, бясспрэчна, свой інтэлект і працу яны ўклалі ў станаўленьне Амэрыкі, што ёсьць наш беларускі ўклад у разьвіцьцё краіны.

Колькасьць імігрантаў—беларусаў стала павялічвацца ў 1910-1914 гадох. Патлумачыць гэта можна далейшым эканамічным заняпадам беларускіх зямель у Расейскай імпэрыі.

Беларусы расьсяляліся ў розных рэгіёнах Амэрыкі, але, найбольш асвойваліся на ўсходнім Атлянтыцкім узбярэжжы. Балтымор, Бостан, Філадэльфія і Нью-Ёрк былі асноўнымі портамі прыбыцьця беларускіх эмігрантаў.



*Абраз Міколы Цыкоўскага (родам з Беларусі)*

Тыя з імігрантаў, хто прыбываў у Нью-Ёрк , накіроўваліся да сваякоў ці знаёмых, калі мелі папярэднія дамоўленасьці з імі і адрасы. Прыезджыя, каму не было куды падацца, часта ішлі ў Расейскі Іміграцкі Дом, які існаваў у Мангэтэне на адрасе 347 East 14 Street. Ён быў адчынены 5 сьнежня 1908 году і ўтрымліваўся расейскімі царкоўнымі ўладамі. Дом вёў актыўную дзейнасьць у справе дапамогі расьсяленьню імігрантаў. Дакумэнты сьведчаць, што бальшыня з іх была з беларускіх земляў. Але, па-ранейшаму іх называлі і рэгістравалі як расейскую эміграцыю.

Імігранты пачатку 20 ст. часта засялялася на Мангэтане. Ад 1910 году да пачатку 20-х гадоў на Мангэтане ад 14 Street да Бэтэры-парку (Battery Park) беларуская была моваю так




*347 East 14 Street ў Мангэтэне*

званых «расейскіх» імігрантаў. Пра жыцьцё імігрантаў таго часу можна даведацца больш у музэі The Lower East Side Tenement Museum, на адрасе 97 Орчэрд (Orchard Street) і Дэлэнсы (Delancey Street).

Іміграанты асвойвалі і іншыя раёны цэнтру Нью-Ёрка. Расейская газэта: «Новый мир» 29 сакавіка 1912 зьмясьціла такую аб'яву:

«Увага, мянчане! Minsk Young Men's Commercial Ass. ладзіць 6 красавіка 1912 г. баль у Нью-Казіно. Уваход з 107 -й вул. і Лексынгтан эвэню». Цяпер вось так выглядае гэтае скрыжаваньне.




*Скрыжаваньне 107-й вул. і Лексынгтан эвэню*

Як паведамляла тая ж газэта «Новый мир» за 30 жніўня 1912 году, ў Нью-Ёрку існавалі тады рэстараны пад выразнымі

назвамі - «Беларусь» і «Кобрын» (праўда, не ўдакладнена, дзе яны знаходзіліся).

Беларускія імігранты, займеўшы працу, разам з іншымі работнікамі далучаліся да грамадзкага жыцьця. Пазбаўленыя на Бацькаўшчыне ўсялякіх правоў, яны адчулі ў Амэрыцы свабоду і магчымасьць выяўляць сябе ў грамадзкай актыўнасьці. Многія бралі ўдзел найперш у прафсаюзным руху. У некаторых галінах прамысловасьці мясцовыя аддзелы прафсаюзаў былі арганізаваны менавіта беларусамі - прафсаюзы работнікаў дамоў, мясцовыя аддзелы прафсаюзу швацкае прамысловасьці ў Брукліне (раён Браўнсвіл-Brownsville). Расейска-польскі 103 аддзел Абьяднаных адзежных работнікаў Амэрыкі ў Нью-Ёрку быў арганізаваны беларусамі ў 1913 годзе. Беларускія імігранты былі актывістамі ў Міжнародным Саюзе




*Нью-Ёрк, 1913 год*

вытворцаў жаночага адзеньня, у Саюзе вытворцаў ботаў і чаравікаў, у Саюзах аўтамабільнай індустрыі. Вядомы трагічны выпадак, калі беларус Уладзімір Татарчык, родам з Копылю, у Нью-Ёрку быў забіты за сваю актыўную прафсаюзную дзейнасьць, у пахаваньні яго ўдзельнічалі каля 10 тыс. чалавек.

Больш шчасьлівым аказаўся лёс другога вядомага прафсаюзнага дзеяча, паходжаньнем з Беларусі, Давіда Дубінскага. Нарадзіўся ён 2 лютага 1892 года ў сям'і Безалеля і Шаіны Дубінскіх у Брэсце, тады Брэст—Літоўску. У 1895 годзе сям'я пераехала ў Лодзь, тагачасны тэкстыльны цэнтр царскае Расіі.

Давід наведваў спачатку габрэйскую, а потым і сярэднюю познаньскую школу. Але, цалкам аддацца навучанню не атрымалася, адначасна ён падпрацоўваў у сямейнай пякарні. І тады ж




*Давід Дубінскі на вокладцы «Time»*

далучыўся да прафсаюза пекараў, які быў у афіляцыі з Бундам, а ўжо праз год, дзякуючы веданьню моваў, быў абраны сакратаром свайго прафсаюза.

На гэтай пасадзе Давід арганізоўваў чарговы страйк, што меў на мэце запатрабаваць падвышку. Страйк скончыўся перамогаю, але паліцыя арыштавала ўсіх кіраўнікоў, і яго ў тым ліку. Пазьбегнуць суду ўдалося з дапамогаю бацькавых грошай, але з умоваю, каб Давіда болей у Лодзі не бачылі.

Дубінскі скіраваўся ў горад свайго маленства, Брэст, адтуль пераехаў у Кобрын, але ціхамірнае жыццё ўжо было не па ім: вырабіўшы фальшывыя дакументы, вярнуўся ў Лодзь, дзе зноў далучыўся да прафсаюзнай дзейнасці.

8 студзеня 1908 года, незадоўга да свайго шаснаццацігоддзя, Давід быў зноў арыштаваны на адным з прафсаюзных паседжанняў. Гэтым разам бацька адмовіўся дапамагаць сыну-рэвалюцыянеру і той прасядзеў за кратамі 18 месяцаў, а затым, паводле судовага выраку, мусіў быць высланы ў Сібір.

Далей Давіда чакала доўгая дарога — Варшава, маскоўскія Бутыркі, Самара і нарэшце Чалябінск . За гэты час ён завёў шмат знаёмстваў як з крымінальнікамі, так і з палітычнымі арыштантамі, якія дапамаглі яму зьбегчы ў дарозе з-пад канвою, перачакаць у надзейных людзей паўгода ў Чалябінску, а пасля, вырабіўшы неабходныя паперы, вярнуцца зноў у Лодзь. Адтуль Давіда разам з ягоным братам нелегальна перапravілі праз мяжу ў Нямеччыну, затым у Бельгію, а адтуль 24 снежня 1910 г. на лайнеры «Лапландыя» выправілі ў Нью-Ёрк, дзе іх чакаў ужо старэйшы брат.

У Амэрыцы Давід уладкаваўся на працу краўцом і далучыўся да Міжнароднага прафсаюза шаўцоў жаночага

адзення (International Ladies' Garment Workers' Union — ILGWU). З гэтым прафсаюзам і было звязанае ўсё яго далейшае жыцьцё. У 1932 годзе Давід Дубінскі быў абраны прэзыдэнтам гэтага найвялікшага прафсаюза, які адыгрываў ключавую ролю ва ўсім прафсаюзным руху.

У жніўні 1949 года часопіс «Time» выйшаў з партрэтам Дубінскага на вокладцы, а ў студзені 1969 ён быў узнагароджаны Прэзідэнцкім медалём Свабоды — найвышэйшай узнагародай ЗША для грамадзянскіх асобаў. Вітаўт Кіпель згадвае, што Дубінскі некалькі разоў прыходзіў у Нью-ёркскую публічную бібліятэку, дзе сп. Вітаўт працаваў у той час. Хоць нарадзіўся Дубінскі за царскімі часамі і валодаў адно расейскай, польскай ды габрэйскай мовамі, разам з тым ён быў сьведамы, што Беларусь і Расея — не тое самае.

Давід Дубінскі памёр 17 верасня 1982 года, пакінуўшы кнігу пра сваё жыцьцё пад назвай «Жыцьцё ў працы».

На могільніках у Нью-Ёрку шмат беларускіх прозьвішчаў са старой іміграцыі, асабліва на могільніку ў Маспет (Maspeth) у Куінсе, тады імігранты паміралі ва ўзросьце 40-45 гадоў з-за цяжкай працы, клімату, эпідэмій, так што многім з іх не давялося пабачыць Бацькаўшчыну, хто меркаваў зарабіць грошы і вярнуцца дахаты.

Сп. Міхась Міцкевіч, родны брат Якуба Коласа, эмігрант пасьля Другой сусьветнай вайны, доўгі час працаваў у Нью-Ёрку на могільніку. Ён згадваў пра тое, што на адным з надмагільных помнікаў пабачыў надпіс «Беларус». Імігрант памятаў пра сваё паходжаньне і перад сьмерцю пажадаў, каб такі надпіс быў зроблены на ягонай магілцы на чужыне.

Беларускія імігранты першых дзесядзігоддзяў 20 ст. пераважна трымаліся левых поглядаў і далучаліся да арганізацый сацыялістычнай арыентацыі. Заснаваны ў Нью-Ёрку ў 1907 годзе Саюз расейскіх сацыял-дэмакратычных арганізацыяў меў мясцовыя структуры з беларускімі назвамі — Менскае, Пінскае, Барысаўскае, Дзьвінскае сацыял-дэмакратычныя таварыствы.

Левых поглядаў трымаўся і Аляксандр Сянкевіч, адметная асоба гэтага пакаленьня беларускіх імігрантаў. Аляксандр Сянкевіч нарадзіўся ў Коласавай Мікалаеўшчыне і прыходзіўся паэту раднёю. Скончыў у 1902 годзе Нясьвіжскую настаўніцкую гімназію. Разам з Якубам Коласам браў удзел у беларускім нацыянальным руху, быў адным з арганізатараў Беларускага Настаўніцкага Саюзу. Пад час нелегальнага сходу беларускіх настаўнікаў у 1906 годзе выконваў абавязкі сакратара. Царскія ўлады перасьледавалі Сянкевіча за ягоную беларускую дзейнасьць, ён вымушаны быў пакінуць Бацькаўшчыну і накіраваўся ў Амэрыку. Паступіў вучыцца ў Мэрылендзкі універсытэт у Балтыморы (Baltimore), які скончыў у 1913 годзе і стаў лекарам. Але, і ў Амэрыцы заняўся палітычнай дзейнасьцю, уключыўся ў сацыялістычна- анархісцкі рух. Каб пазьбегнуць арышту гэтым разам з боку амэрыканскай паліцыі, доктар Сянкевіч з Балтымору перабраўся ў Бостан, а потым у Нью-Ёрк. Аднак і тут пагроза арышту не зьменшылася і Сянкевіч накіраваўся ў Лос Анджэлес, адтуль выехаў ва Уладзівасток. Далучыўся да бальшавікоў і ваяваў у партызанскім руху вядомага чырвонага камандзіра Сяргея Лазо. У 20 -я гады вярнуўся ў савецкую Беларусь, займаў высокія дзяржаўныя пасады ў Менску і

пазьней працаваў у Маскве, дзе і быў арыштаваны і расстраляны пад час рэпрэсіяў у 1938 годзе, заплаціўшы жыцьцём за адданасьць утапічнай сацыялістычнай, а потым бальшавіцкай ідэялёгіі.

Адметнай зьяваю ў жыцьці іміграцыі пачатку 20 ст. было тое, што яна трымала не толькі прыватныя, радзінныя кантакты з Бацькаўшчынаю, але і эміграцыйныя справы сталі адлюстроўвацца на старонках першай беларускай газэты «Наша Ніва», якая выдавалася беларускімі адраджэнцамі ў Вільні ў 1906-1915 гадох. У Вільні ў 1912 годзе была выдрукаваная асобная кніжачка «Рады эмігрантам, каторые едуць у Амэрыку».



ТАВАРЫСТВО АПЕКІ НАД ЭМІГРАНТАМІ

АДРЭС ВАРШАВА, ЭРЫВАНСКАЯ ВУЛІЦА, № [illegible]

ВІЛЕНСКАЕ БЮРО ВІЛЬНЯ, КАЗАНСКАЯ, № [illegible]

РАДЫ

ДЛЯ ЭМІГРАНТОЎ, КАТОРЫЕ ЕДУЦЬ

У АМЭРЫКУ,

А ТАКЖЭ РАЗМОВЫ БЕЛАРУСКО-АНГЛІЦКІЕ

[illegible]

ВІЛЬНЯ 1912

КОШТАМ ТАВАРЫСТВА АПЕКІ НАД ЭМІГРАНТАМІ

*Першая старонка кніжачка «Рады эмігрантам, каторые едуць у Амэрыку»*

Самі эмігранты часам дасылалі ў рэдакцыю «Нашай Нівы» лісты, дзе распавядалі пра свае лёсы на чужыне, дзяліліся досьведам і давалі парады новым перасяленцам у іншыя краіны. У Нью-Ёрку ў раёне Маспет (Maspeth), Куінс, некалькі беларусаў падпісваліся, атрымоўвалі і чыталі «Нашу Ніву».

Перыяд эміграцыі

з Беларусі перад Першай сусьветнай вайною можа быць дасьледаваны больш грунтоўна з дапамогаю архіваў у Вільні, Магілёве, Віцебску і інш.



## Іміграцыя ў перыяд між Сусьветнымі войнамі

Пасьля Першай сусьветнай вайны ў Амэрыку прыехалі ўжо выразна сьведамыя імігранты - найперш, палітычныя дзеячы беларускага нацыянальнага руху Язэп Варонка, Антон і Іван Чарапукі, ксяндзы Віктар Шутовіч, Язэп Рэшаць, Андрэй Цікота. Іх дзейнасьць у Амэрыцы была пераважна зьвязаная з рэгіёнам Чыкага. Яны шмат зрабілі для таго, каб наладзіць беларускае жыцьцё ў Амэрыцы. Вестка пра сьмерць Язэпа Варонкі, былога першага прэмьер-міністра Рады БНР, была пададзена 7 чэрвеня 1952 і ў нью-ёркскай прэсе.

У Нью-Ёрк у 20-я гады мінулага стагоддзя прыбывала пераважна сялянская эміграцыя з Заходняй Беларусі і сярод яе было не шмат выразна нацыянальна арыентаваных асобаў. Беларусы па ранейшаму зьвязвалі сябе з расейцамі ці палякамі. Групаю беларускіх імігрантаў у Брукліне у 1915-16 годзе была заснавана Расейска-Славянскае Таварыства Самадапамогі, якое складалася



*Язэп Варонка*

цалкам з менчукоў і гарадзенцаў.

Пра гэта пісаў у сваім лісьце ад 23 сакавіка 1921 году Беларускаму Прэс-бюро ў Коўні лідэр гэтай групы Сьцяпан



*Нью-Ёрк, 1934 год*

Бубешка, які быў нацыянальна сьведамым беларусам і пашыраў беларускую сьведамасьць сярод сваіх сяброў. У лісьце ён пісаў, што ў Амэрыцы жыве шмат беларусаў, але яны абсалютна не арганізаваныя і што ён будзе спрабаваць стварыць беларускія арганізацыі. Сьцяпан Бубешка разумеў, што гэта будзе нелёгка: «Спачатку прыдзецца вельмі цяжка, але, думаецца, што і мы маем права на самастойнае існаваньне побач з іншымі народамі, а таму гляджу з надзеяю наперад і думаю, што рана ці позна адумаюцца тыя, хто паводзіць сябе падобна разбойнікам, бо нам, Беларусам, жыць без сваёй радзімы так жа страшна, як гэта было б чалавеку паміж дзікіх зьвяроў.. і толькі сьляпыя ці абсалютныя дурні гэтага не могуць бачыць»

(Архівы БНР, т.1,кн. 2, ст.1055-1056).

Сьцяпан Бубешка ўсё ж намовіў суродзічаў на стварэньне сваёй нацыянальнай арганізацыі. Першы масавы сход беларусаў Нью-Ёрку і ваколіцаў адбыўся 6 траўня 1921 году. Арганізацыя была фармальна заснаваная пад назваю Беларускі Нацыянальны Камітэт, мела свой адрас у ніжнім Мангэтэне - 63 Park Row, New York (вуліца знаходзіцца на Мангэтэне побач з City Hall , з тыльнага боку, але, будынак знайсьці не ўдалося , заканчваецца на 41 нумары, далей забудавана па



*Парк Роў і Сіці Холл Парк*

новаму). На гэтым жа адрасе была і другая арганізацыя , якая, відаць, была ўтвораная ў той жа час - Беларускае Прэсавае Бюро , яно пачало выдаваць бюлетэнь - «Bulletin of the White Russian Press Bureau. Прэсавае бюро сталася дзейным асяродкам беларускага слова, тут можна было набываць беларускія газэты і пазычыць кнігі.

Асобная беларуская арганізацыя ўзьнікла таксама ў бруклінскім раёне Браўнсвіл (Brownsville), дзякуючы актыўнай дзейнасьці сп. Міхася Зварыкі, яшчэ аднаго сьвядомага

беларускага дзеяча і паплечніка Сьцяпана Бубешкі. У сваім лісьце ў Коўна да вядомага беларускага палітычнага дзеяча Вацлава Ластоўскага ад 1 жніўня 1921 году с. Бубешка называе Зварыку актыўнейшым беларускім работнікам і раіць Ластоўскаму зьвяртацца менавіта да яго ў сувязі з тым, што сам Бубешка на паўгады выязджаў на працу на Далёкі усход. У лісьце быў пададзены адрас Міхася Восіпавіча Зварыкі: 528 Amboy Street, Brooklyn, New York. С. Бубешка запэўніваў Ластоўскага, што па вяртаньні дадому ізноў зоймецца грамадзкай дзейнасьцю (Архівы БНР,т.1, кн.2, ст.1163).

Сьцяпан Бубешка быў першым беларускім аўтарам з Амэрыкі, які апублікаваў нарыс пра беларускую іміграцыю пад назваю «Жыцьцё беларусаў у Амэрыцы», быў надрукаваны ў Вільні, у кніжцы «Родны край: Трэцяя і чацьвёртая пасьля лемантара кніжка для чытаньня», якую выдала ў 1921 годзе Леаніла Гарэцкая- жонка Максіма Гарэцкага. Аўтар так згадвае пра беларускую прысутнасьць у Нью-Ёрку: «Таму што жыды жывуць найчасьцей у вялікіх мястох, як Нью-Ёрк і Чыкага, дык і нашыя беларусы туляцца паміж жыдоў.. Апрача Нью-Ёрку, у якім жыве болей за 15 тысячаў, што працуюць найчасьцей у кравецкай індустрыі, шмат жыве ў Чыкага, працуючы ў ведамых чыкагскіх рэзьнях, значная лічба працуе на сталеліцейных заводах Пітсбургу, у Дэтройце на самаходных фабрыках і іншых заводах..»

Сам сп. Бубешка меў уласны бізнэс — у Брукліне дзейнічаў ягоны рэстаран «Свабода». Беларусы нават адчынілі ў Нью-Ёрку беларускую музычную краму ў Мангэттане на адрасе: 134 East 7 Street. Будынак не захаваўся, як цяпер выглядае гэтае месца можна пабачыць на фотаздымку на старонцы 44.

Беларус Хведар Зварыка меў уласнае адзежнае прадпрыемства ў Браўнсвіле(Brownsville), Бруклін.

Беларускія арганізацыі ў Нью-Ёрку дзейнічалі да канца 20-х гадоў. Ад'езд Сьцяпана Бубешкі на працу па-за межы Амэрыкі стаўся адной з прычынаў таго, што іх дзейнасьць пачала занепадаць. Праіснавалі яны не доўга, бо не мелі дастаткова падрыхтаваных лідэраў і сьвядомых сяброў. Але, яны сталіся прыкладам для стварэньня беларускіх арганізацыяў ў іншых месцах Амэрыкі напачатку 20-х , найперш у Нью-Джэрзі. Вядома, што невялікая група беларусаў у той час



*Сучасны выгляд таго месца, дзе была Беларуская музыкальная крама*

заснавала сваю арганізацыю ў Ньюарку, дзейнасьць якой была скіраваная пераважна на падтрымку суродзічаў у Заходняй

Беларусі, што знаходзілася тады ў складзе Польшчы.

Пасьля вяртаньня ў Нью-Ёрк Сьцяпан Бубешка ўжо не мог наладзіць дзейнасьць беларускіх арганізацый, бо лёс наканаваў яму самому не шмат гадоў жыцьця. Пра ягоную заўчасную сьмерць паведамлялася ў адмысловым некралёгу, які падала газэта «Русский голос» 29 студзеня 1928 году, назваўшы Сцяпана Бубешку расейскім эмігрантам:

«Сьцяпан Іванавіч Бубешка — адзін з найстарэйшых расейскіх эмігрантаў у Амэрыцы, памёр ад крупознага запаленьня лёгкіх у Джамэйкаўскім шпіталі 23 студзеня 1928 году. Было яму крыху болей за 54 гады. Пахаваны ў Флашынгу 26 студзеня 1928 г. Больш за сотню людзей прыйшло аддаць яму апошнюю падзяку і на магілу было пакладзена шмат вянкоў ад арганізацыяў, такіх як Жаночы гурток у Флашынгу, Польскае Брацтва і інш. Сп. Бубешка пакінуў удаву Ніну, сына Антона, 15 гадоў, дачку Алесю , 31 год.

Сьцяпан Іванавіч нарадзіўся ў мястэчку Лунна Гарадзенскага павету, Гарадзенскай губерні. Ён прыехаў у Злучаныя Штаты 38 гадоў таму..».

Беларуская іміграцыя міжваеннага часу, хаця яна па-ранейшаму афіцыйна ўлучалася у рубрыкі «расейцаў» і «палякаў», дзякуючы актыўнай грамадзкай дзейнасьці Сьцяпана Бубешкі і ягоных паплечнікаў, першай засыгналізавала беларускую нацыянальную адметнасьць і здольнасьць да самаарганізацыі. Аднак, будучы сапраўды пачынальнікамі беларушчыны ў ЗША і маючы дачыненьне з нацыянальна несьвядомымі масамі, яны не змаглі, не хапіла сілаў, зьяднацца да такога ўзроўню, каб пакінуць па сабе

арганізаванае беларускае жыцьцё ў Нью-Ёрку.

У некаторым сэнсе гэта ўдалося зрабіць у Чыкага, дзе была створаная «Нацыянальная рада», якая дзейнічала шмат гадоў.



# *Паваенная эміграцыя (канец 40- х — 90 гады 20 ст.)*

## Пачаткі новага жыцьця

Сітуацыя з беларускай эміграцыяй у ЗША кардынальна мяняецца пасьля Другой сусьветнай вайны. Прыбываюць новыя іміграпты — нацыянальна-сьведамыя беларусы.

Першыя з паваеннай хвалі беларускія імігранты пачалі прыязджаць у Амэрыку ў апошнія месяцы вайны ці хутка па вайне. Гэта былі лічаныя асобы – тыя, хто быў народжаны ў ЗША і чые бацькі — ранейшыя эмігранты, вярнуліся ў Беларусь, альбо хто меў у ЗША блізкіх родзічаў і сваякоў. Адным з іх быў Янка Ніхаёнак, які быў народжаны ў ЗША, малым дзіцём бацькамі прывезены ў Беларусь, там гадаваўся, пад час вайны апынуўся ў Францыі і адтуль ізноў вярнуўся ў Амэрыку. Затым, як выяўлена дасюль, дзякуючы перадваенным кантактам, прыехалі Іван Ермачэнка, Барыс Кіт, Янка Станкевіч з сямьёю. Людміла Колін прыехала ў Нью-Ёрк з маці, якая нарадзілася ў Нью-Ёрку і была амэрыканскай грамадзянкаю, але перад вайною з бацькамі вярнулася ў Беларусь. У хуткім часе прыехалі таксама Мікола Дарашэвіч, Міхась Тулейка, Мікола Гарошка. Новапрыбылыя дапамагалі многім

іншым беларускім эмігрантам з Эўропы пераехаць ў Амэрыку.

Большая частка паваеннай іміграцыі прыехала ў Амэрыку з Заходняй Нямеччыны, якая была пад управаю вайсковых ўладаў заходніх саюзьнікаў антыгітлераўскай кааліцыі. Пасьля капітуляцыі гітлераўскай Нямеччыны саюзьнікі падзялілі заходнюю частку Нямеччыны на тры акупацыйныя зоны — амэрыканскую, ангельскую, францускую. Усходняя Нямеччына, як вядома, была акупаваная савецкімі войскамі. Па вайне ў Заходняй Нямечыне апынуліся мільёны грамадзянаў розных краінаў, якіх туды занесьлі ваенныя падзеі — вайскоўцаў, вязьняў канлягераў, людзей, якіх гітлераўцы вывезлі з акупаваных тэрыторый працаваць на нямецкую гаспадарку, а таксама ўцекачоў ад савецкай улады. Гэтыя масы людзей апынуліся ў стане асобаў без месца жыхарства (Deplaced Persons — DP), без апекі і без ніякага ўяўленьня пра сваю будучыню.

Улады саюзьнікаў вымушаныя былі вырашаць праблему з ДП і заарганізавалі ў Заходняй Нямеччыне адмысловыя лягеры з дапамогаю створанай у 1943 годзе Міжнароднай арганізацыі дапамогі пацярпелым ад стыхійных бедстваў — ЮНРРА (UNRRA — United Nations Relief and Rehabilitation Administration). Пазьней дзейсную дапамогу стала аказваць і новастворная ў красавіку 1946 году Арганізацыя для дапамогі ўцекачам — IRO (International Refugee Organization).

У лягерах людзі атрымлівалі страху над галавою і мінімальнае забясьпячэньне жыцьцёвых патрэбаў. Сярод іх было шмат беларусаў, пераважна гэта былі ўдзельнікі беларускага нацыянальнага руху пад час акупацыі, якія адыйшлі на

Захад перад наступам савецкага войска. Беларусы ў бальшыні асталяваліся ў амэрыканскай зоне і хутка пачалі гуртавацца ў свае лягеры. Яны ладзілі там сваё нацыянальнае жыцьцё, заарганізавалі нават Беларускую гімназію Янкі Купалы, ладзілі мастацка — тэатральныя выступы.

Але, лягеры ДП давалі толькі часовы прытулак. ЮНРРА і акупацыйныя ўлады распачалі праграмы па расьсяленьню ДП у іншыя краіны на сталае жыхарства, бо паваенная Нямеччына не магла іх утрымліваць. Частка беларусаў паехалі ў Аўстралію, Новую Зэляндыю, Канаду. Бальшыня беларускіх ДП перабраліся ў ЗША.





Беларусы ў лягеры ДП Віндышбэргердорф

Тыя першыя імігранты, што прыехалі раней, адыгралі важную ролю, бо дапамаглі многім беларусам з лягераў ДП перабрацца ў Амэрыку. Яны дасылалі запросіны сваім знаёмым і сябрам ў Нямеччыне на прыезд у ЗША і выстаўлялі сябе гарантамі для іх перад амэрыканскімі ўладамі. Таксама аказвалі на першым часе неабходную дапамогу нова-прыбылым, якія прыбывалі ў Нью-Ёрк. Вядомы беларускі дзеяч Янка Станкевіч не толькі шмат каму дапамог пераехаць

у ЗША, але нават наняў танныя кватэры ў Гарлеме (Harlem) на 100 Street ў Мангэтэне, каб прыбылыя адразу маглі мець прытулак і пажыць некаторы час за невялікую аплату. Юля Андрусышын успамінала, што ейнай сям'і давялося скарыстацца гэтай дапамогаю. Як пісаў ва ўспамінах Леанід Галяк, яму таксама давялося напачатку прыпыніцца на 100 Street, а потым з сям'ёю яны нанялі кватэру непадалёку на 119 Street у доме 79, пасьля там жылі Антон Адамовіч і Антон Шукелойць.

Вядомы беларускі дзеяч у Кліўляндзе Міхась Белямук згадваў, што ён адзін паслаў 25 запросінаў у Нямеччыну для беларусаў у лягерох. Нюра Русак, жаночая актывістка ў Нью-Ёрку, успамінала, што яны яшчэ самі спалі на падлозе, а ўжо даслалі ў Эўропу запросіны 12 сем'ям.


Янка Станкевіч

20-22 верасьня 1946 году ў Нью-Ёрку праходзіў Трэйці зьезд Амэрыканскага Славянскага Кангрэсу. У ім бралі ўдзел і беларусы, якія на той час жылі ў ЗША. Ад імя беларусаў выступаў а. Ян Тарасэвіч, які прыехаў з Чыкага. З гэтай жа трыбуны прамаўляў і прадстаўнік савецкай Беларусі Цімафей Гарбуноў, які ўзначальваў дэлегацыю Савецкага Саюзу. Але прамовы іх былі рознымі, можна сказаць — супроцьлеглымі, Цімафей Гарбуноў, зразумела, усхваляў савецкі лад і гаварыў пра росквіт культуры у СССР.

Напрыканцы 1948 году пачаўся масавы пераезд беларусаў з лягераў ДП у Амэрыку. Бальшыня эмігрантаў прыплывала ў ЗША праз Нью-Ёркскі порт. Як згадваў сп. Мікола Гарошка, амаль кожны параплаў з Эўропы прывозіў у Нью-Ёрк новых беларускіх эмігрантаў. Мегаполіс паступова станавіўся цэнтрам новага беларускага пасяленьня і дзейнасьці.

Паваенную хвалю складала нацыянальна сьведамая, у бальшыні палітычная іміграцыя, адукаваная, якая цьвёрда дэкляравала сваю беларускасьць у адрозьненьне ад папярэдніх імігрантаў. Новыя імігранты ў бальшыні мелі досьвед нацыянальна — культурнай і палітычнай дзейнасьці, набыты на Бацькаўшчыне і ў Нямеччыне. Іхныя палітычныя погляды былі абсалютна несумяшчальнымі з настроямі старой іміграцыі, якая была далёкая ад нацыянальна-адраджэнскай дзейнасьці. Новыя імігранты былі цьвердымі прыхільнікамі ідэі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і дэмакратычнага ладу жыцьця, перакананымі антыкамуністамі. Узаемаразуменьня і супрацоўніцтва паміж «старымі» і «новымі», на жаль, не атрымалася.

Паказальны прыклад адносінаў новапрыбылых імігрантаў са структурамі прарасейскай арганізацыі — Расейскае Абьяднанае Таварыства Узаемадапамогі (Русское объединённое общество взаимопомощи), вядомае пад кароткаю назваю РООВА. Таварыства было заснавана ў Філадэльфіі ў 1926 годзе і ахоплівала дзейнасьцю ўсю краіну. Ад пачатку Таварыства стаяла на антыкамуністычнай плятформе, гэта была правая прарасейская арганізацыя. У склад Таварыства ўваходзіла шмат беларусаў і яны займалі ў арганізацыі высокія кіраўнічыя пасады. Таварыства было найбольш вядомае сваёй

гаспадаркаю пад назовам «Ферма РООВА» у мясцовасьці Джэксан, штат Нью Джэрзі. Падкрэсьлім, што асноўная група заснавальнікаў фермы складалася з беларускіх сялянаў, якія прыехалі перад Першай сусьветнай вайною. У Джэксане вырасла значнае славянскае паселішча, дзе пражывала шмат і беларусаў. Якраз тыя старэйшыя беларусы ў 50 — 60 гады часам запрашалі да сябе беларускія хоры з новай іміграцыі на канцэрты, бо хацелі паслухаць родныя мелёдыі, прыпомніць Радзіму.




*431 East 6 Street*

Таварыства мела таксама свой дом (Home of First Branch ROOVA) у Нью-Ёрку, на Мангэттане, 431 East 6 Street. Будынак захаваўся да нашых дзён і стаіць акурат насупроць дому, дзе жывець беларуская сямья Андрусышын. Ён

выдзяляецца сярод астатніх забудоваў сваім белым колерам.

Паваенным эмігрантам упраўца дому, беларус са старэйшай іміграцыі, дазволіў праводзіць беларускія зборкі. Але, яму вельмі не падабалася, што яны размаўляюць па — беларуску. Ён уважаў, што для беларусаў павінна быць роднаю расейская мова, а не сялянская гаворка. Нарэшце, відаць, раззлаваўшыся, адмовіў беларусам зьбірацца ў гэтым будынку.

І тым не меньш, былі асобы са старэйшых імігрантаў, якія ахвотна ішлі на кантакты, добразычліва ставіліся да новапрыбылых, уважалі іх за сваіх і давалі дапамогу ў вырашэньні некаторых юрыдычных пытаньняў. Найперш, тых, якія ўзьнікалі пры рэгістрацыі новымі імігрантамі сваіх грамадзкіх арганізацый, бо пры рэгістрацыі патрабавалася, каб у складзе закладнікаў былі грамадзяне ЗША, і старэйшыя пагаджаліся даць свае прозьвішчы. Так было пры рэгістрацыі БАЗА : дапамог стары эмігрант Павал Бунчук.

Аднак, трэба сьцьвердзіць, што вельмі мала старэйшых імігрантаў далучылася на новастораных арганізацыяў, хоць новыя эмігранты актыўна спрабавалі наладзіць супрацоўніцтва.

Новапрыбылыя адразу пачалі наладжваць беларускае грамадзкае жыцьцё, закладаць арганізацыйныя структуры, якія абьяднаюць імігрантаў, дапамогуць ім лягчэй адаптавацца на новым месцы. Патрэбна было неадкладна дапамагчы суродзічам, што яшчэ заставаліся ў лягерах ДП у Нямеччыне. Для перамяшчэньня беларусаў з Эўропы ў Амэрыку быў створаны і зарэгістраваны ў штаце Нью-Ёрк 8 лістапада 1948 году Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы камітэт, які ўзначаліў Іван Ермачэнка, вядомы палітычны дзеяч. У горадзе Нью-Ёрк быў заснаваны аддзел гэтага Камітэта.

Камітэт паступова стаў арганізоўваць сацыяльную, культурную і палітычную дзейнасьць — ладзіліся курсы ангельскай мовы, вечарыны, засноўваўся перыядычны друк — часапісы «Беларус у Амэрыцы», «Беларускае слова ў Амэрыцы», газэта «Беларуская трыбуна».

Потым, калі асобныя беларускія імігранты прыбывалі ў Нью-Ёрк, яны ўжо мелі рэальную дапамогу ад суродзічаў. Кастусь Мярляк прыехаў з сям'ёю ў Нью-Ёрк у 1954 годзе з Аргентыны, у сваіх успамінах ён згадваў, што іх сустрэў Аляксандр Орса і адвёз у кватэру на 33 Norfolk Street у Мангэттане. На тым адрасе была кватэра Галіны Ганчарэнкі і Барбары Вержбаловіч, якія выехалі на працу ў Мюнхен на Радыё Свабода. Гэтая кватэра выкарыстоўвалася для розных грамадзкіх патрэбаў, была прытулкам не толькі для прыезжых, але і для беларускіх арганізацый. Па суседзку там месьцілася беларуская сямья Паланевічаў.

Узаемная дапамога і падтрымка былі важным чыньнікам гуртаваньня паваеннай беларускай іміграцыі ў Амэрыцы, якая сталася арганізаванаю супольнасьцю і была здольная наладзіць у ЗША паўнавартаснае нацыянальнае і годнае асабістае жыцьцё.



## Грамадзкае жыцьцё, арганізацыі, перыёдыка, цэрквы.

Найпершым клопатам паваенных імігрантаў, як ужо адзначалася, была патрэба закласьці беларускія грамадзкія арганізацыі. Сілу і карысьць грамадзкіх абьяднаньняў выгнанцы з Беларусі адчулі яшчэ ў лягерох ДП у Нямеччыне. У Амэрыцы іх сустрэлі больш складаныя жыцьцёвыя праблемы. У лягерох пражываньне, харчаваньне, нават адукацыю для дзяцей і моладзі хоць нейкім чынам забясьпечвала ЮНРРА і лягерная адміністрацыя. У Новым Сьвеце трэба было самім пра ўсё клапаціцца, наладжваць сваё жыцьцё. Імігранты ведалі з уласнага папярэдняга досьведу, што рабіць гэта лепш абьяднанымі сіламі. Грамада, свая арганізацыя надавалі энэргію, аказвалі падтрымку і дапамогу.

У чэрвені 1949 году ў Брукліне адбыўся падрыхтоўчы сход беларускіх грамадзкіх актывістаў, дзе абмяркоўвалася ідэя стварыць арганізацыю. Была абраная арганізацыйная група, якая склікала шырэйшы сход актыву 31 ліпеня 1949 году на кватэры Янкі Станкевіча ў згадаваным вышэй доме 325 на 100 вуліцы (325 East 100 Street) паміж 1 і 2 Anenue у Гарлеме (Будынак не захаваўся). На сходзе прысутнічалі 7 асобаў — Янка Станкевіч, Мікола Гарошка, Пётра Кажура, Янка

Ніхаёнак, Аляксандр Орса, Мікола Дарашэвіч, Уладзімір Машанскі. Сход пастанавіў стварыць агульнаамэрыканскую арганізацыю пад назваю Беларускае Задзіночаньне ў ЗША, далей арганізацыя зьмяніла назву на Беларуска — Амэрыканскае Задзіночаньне — БАЗА (Belarusan — American Assotiation Inc), якую захавала да сёньняшняга дня. Гэты сход уважаецца за першы устаноўчы сход БАЗА.

БАЗА было зарэгістравана 26 ліпеня 1950 году ў горадзе Олбані, сталіцы штату Нью-Ёрк. Пад рэгістрацыйным дакумэнтам паставілі подпісы — Мікола Гарошка (Nicholas Horoshko), Янка Ніхаёнак (John Nichayonack), Павал Бунчук (Paul P. Bunchuk), Уільям Білый (William Beley) і доктар Аляксандр Орса (Alexander Orsa). Спадары Ніхаёнак, Бунчук і Білый былі амэрыканскімі грамадзянамі, бо пры закладаньні — чартараваньні новай арганізацыі амэрыканскім законам вымагалася наяўнасьць сярод закладнікаў асобаў з амэрыканскімі пашпартамі. Сп. Уільям Білы — карпатарос, які пагадзіўся дапамагчы беларусам.



*Сяброўская кніжка сябра БАЗА*

Неўзабаве пасьля ўстаноўчага сходу пачалася арганізацыя

мясцовых структураў БАЗА. У жніўні-верасьні 1949 году аддзелы БАЗА былі створаныя ў Брукліне, Саўт Рывэры, Кліўляндзе. Для кіраўніцтва аддзеламі была абраная Галоўная управа БАЗА тэрмінам на два гады.

Першым старшынём БАЗА стаў Мікола Гарошка (1949-1952), наступнымі былі: Францішак Кушаль (1952-1954), Міхась Тулейка (1954-1957), Мікола Кунцэвіч (1957-1959), Кастусь Мярляк (1959-1963), Станіслаў Станкевіч (1963-1965), Мікола Гарошка (1965-1967), Уладзімір Курыла (1967-1969), Вячаслаў Станкевіч (1969-1971), Расьціслаў Гарошка (1971-1975), Антон Шукелойць (1975-2007). Вячка Станкевіч (2007-2011), Ганна Сурмач (2011-2017), Наталля Федарэнка (2017-)

У адпаведнасьці са Статутам сядзіба Галоўнай управы БАЗА знаходзіцца ў горадзе Нью-Ёрку. Мець гэтую сядзібу для новапрыбылых эмігрантаў было даволі складанай справаю. Набыць памяшканьне ва ўласнасьць грамада не магла з-за недахопу сродкаў, давялося арандаваць.

БАЗА, закладзенае на Мангэтэне, напачатку сваю асноўную дзейнасьць праводзіла ва ўсходнім Брукліне, дзе жыла значная частка беларускіх імігрантаў. Першую «Беларускую хатку» БАЗА займела на вул. Лінвуд (Linwood Street) у раёне Cyprress Hills (на лініі трэйна J), там знаходзілася канцылярыя БАЗА, праводзіліся зборкі. Тут пачала гуртавацца і моладзь.

Бруклінскі аддзел БАЗА па ініцыятыве Задзіночаньня беларускіх жанчын потым заарганізаваў «Беларускую Хатку» на 461 Ashford Street у тым жа раёне, у нанятым памяшканьні невялікай крамы.

Набыцьцё свайго ўласнага памяшканьня было пільнай патрэбаю. 26 траўня 1952 адбыўся сход беларусаў Нью-Ёркскай метраполіі. Галоўным у парадку дня было абмерка-



*Месца, дзе была «Беларуская Хатка» на 461 Ashford Street*

ваньне пытаньня пра набыцьцё Беларускага Народнага Дому. Сход прыняў пастанову закласьці грашовы фонд для збору сродкаў на пакупку. Каб практычна рухаць справу, быў абраны адмысловы камітэт.

А тым часам для беларускага грамадзкага жыцьця трэба было ізноў знайсьці памяшканьне. Япіскап БАПЦ Уладыка Васіль у той час выпадкова пазнаёміўся са сьвятаром капрпатарускай парафіі пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскага патрыярхату а. Іванам Фядынам, які служыў у царкве на 345 East 4 Street у Мангэтане і быў уласнікам будынку. У выніку дасягнутай дамовы беларусам было дазволена наведваць багаслужбы ў гэтай царкве, дзе разам з а. Іванам служыў і япіскап Васіль. Беларусы таксама атрымалі магчымасьць зьбірацца ў залі гэтай царквы і на свае грамадзкія імпрэзы і




*Царква Сьв. Тройцы*

сьвяткаваньні. На некаторы час гэтая царква сталася цэнтрам беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку. У гэтым раёне на Іст Сайд (East Side) традыцыйна жылі шмат эмігрантаў з Эўропы, найбольш украінцы і беларусы. У залі пры царкве Сьв. Тройцы праходзілі некаторыя Кангрэсы БАЗА.

Улетку 1956 году пасьля раптоўнай хваробы памёр а. Іван Фядына і ягоная сям'я прадавала будынак царквы, але за кошт, які быў для беларусаў занадта вялікі. Беларусы ізноў засталіся без памяшканьня і вымушаныя былі некаторы час наймаць залю ў пратэстанцкай Labor Temple на Esat 14 Street ў Мангэтане.

Створаны ў 1952 годзе грамадзкі фонд, пра які згадвалася вышэй, выканаў ускладзены на яго абавязак — набыць уласны будынак. Пяць гадоў карпатлівай працы актывістаў па збору



*Першая Божая служба ў купленым будынку*

сродкаў, па пошуку адпаведнага аб'екту завяршыліся ўдалаю пакупкаю. Найбольш актыўную ролю ў справе пошуку будынку адыграў сп.Кастусь Мярляк.

Будынак у Брукліне на Атлантык Авэню 401 (Atlantic Avenue) быў куплены 15 кастрычніка 1957 году. Пасьля рамонту і ўпарадкаваньня адбылося афіцыйнае адкрыцьцё 3 лістапада 1957 году.



Год VIII. № 62 БЕЛАРУС — 30

**У Нью-Ерку куплены царкоуны будынак**

Беларускі царкоўны дом ў Нью-Ёрку (Брукліне) адразу пасьля набыцьця.

Камітэт Набыцьця Царквы й Беларускага Народнага Дому ў Нью-Ёрку 15 кастрычніка сёлета купіў за 25 тыс. даляраў царкоў-

сьпевака М. Конюха (солёвы сьпеў).

Пасьля багаслужбы духавенства, прыхаджане й госьці зьй-

*Будынак Сабору на Атлантык Авэню 401*

З таго часу найбольш важныя падзеі беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку адбываліся ў гэтым будынку на Атлантык Авэню 401.

Справа набыцьця будынку была зроблена пераважна

намаганьнямі сяброў БАЗА. Аднак, было вырашана з практычных меркаваньняў, каб фармальным уладальнікам будынку сталася Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Фактычна ж будынак на Атлантык Авэню 401 ёсьць маёмасьцю ўсіх тых беларусаў, хто ўклалі свае грошы ў куплю, гэта набытак цэлай беларускай грамады ў Нью-Ёрку.



сп. Кастусь Мярляк

31 траўня 1959 на Атлянтык Авэню 401 адбыўся 8 Кангрэс БАЗА, ён быў адметны тым, што ўпершыню сабраўся ва ўласным беларускім будынку.

БАЗА ладзіла ў Нью-Ёрку не толькі афіцыйныя мерапрыемствы, але і розныя гадавыя і сезонныя балі для сваіх сяброў. Пакуль не было свайго будынку, арандаваліся залі ў розных месцах. пераважна на Мангэтане, напрыклад, гадавы баль 15 лютага 1958 адбываўся ў Ленокс гол (Lenox Hall, 252 - 254 East 2 Street).

Прыярытэтным накірункам дзейнасьці структураў БАЗА была справа нацыянальнай адукацыі дзяцей і арганізацыя для гэтай мэты беларускіх школаў. Пра адкрыцьцё беларускай



*Беларуская грамада 60-х гадох*




*Беларуская грамада 60-х гадох ля будынку Метраполітан музея*

дапаўняльнай школы вялася дыскусія на згаданым вышэй сходзе беларусаў Нью-Ёркскай метраполіі, 26 траўня 1952

году. Другім пытаньнем на сходзе пасьля абмеркаваньня справы набыцьця Беларускага дому, было пытаньне пра беларускае школьніцтва. На той час ў новапрыбылых эмігрантаў не было дастаткова сродкаў для гэтай мэты, але, было цьвёрдае жаданьне даць дзецям нацыянальную адукацыю, каб яны пачуваліся беларусамі. Выкарыстоўваліся самыя розныя магчымасьці, каб дзеці маглі вучыцца. У газэце «Беларус» за 5 красавіка 1953 ёсьць паведамленьне пра тое, што на ніжнім Мангэттане адчынілася беларуская школа, заняткі праводзяцца ў прыватнай кватэры раз на тыдзень.

У 60-я гады ў Нью-Ёрку існавала Беларуская суботняя школа для дзяцей, газэта «Беларус» паведамляла, што 12 чэрвеня 1965 там скончыўся навучальны год. З беларускай перыёдыкі даведваемся таксама, што Беларуская нядзельная школа для дзяцей дзейнічала ў Нью-Ёрку і ў 1969 годзе.



*Школка ў Брукліне*

Школы звычайна працавалі ў тых самых памяшканьнях, дзе месьціліся беларускія арганізацыі. Пасьля набыцьця будынку на Атлянтык Авэню 401 школа мела ўжо больш адпаведнае месца для дзейнасьці.

Школы і БАЗАўскія структуры сумесна з цэрквамі ладзілі для дзяцей Калядныя Ялінкі і іншыя сьвяткаваньні.

Напачатку 50-х гадоў беларусамі Амэрыкі і Канады была закладзена плённая і вельмі важная для эмігрантаў традыцыя — правядзеньне Сустрэчаў беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Арганізатарамі іх былі і ёсьць да сёньняшняга дня БАЗА і ЗБК (Згуртаваньне беларусаў Канады). Першая такая Сустрэча адбылася ў ліпені 1952 году каля вадаспаду Ніягара, а наступная, 2-я Сустрэча — у 1956 годзе ў Таронта.

Пазьней было вырашана праводзіць форумы раз на два гады, па чарзе — у Канадзе і Амэрыцы. Некаторыя з гэтых Сустрэчаў адбываліся менавіта ў Нью-Ёрку:

3-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, 30 жніўня



*II Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Таронта, 1956 год*




*31-я сустрэча, 2014 год*

- 1 верасьня 1958, праходзіла на Атлантык Авэню 401, пад час яе быў высьвечаны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага, будынак якога быў куплены годам раней

9-я Сустрэча, 5-6 верасьня 1970 году, тэма «Беларусь у змаганьні». Багаслужба праходзіла ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага, а сьвяточная акадэмія ў гатэлі Білтмор на Мангэтэне

31-я Сустрэча, 30 жніўня - 1 верасьня 2014 году, адбылася ў будынку Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401.

Як адзначае ў сваёй кнізе «Беларусы ЗША» Вітаўт Кіпель, за часы сваёй дзейнасьці БАЗА не абмінулі канфлікты, непаразуменьні і расколы. Значныя негатыўныя насьледкі

меў раскол сярод сяброў БАЗА напачатку 1965 году. Частка сяброў (Кастусь Мярляк, Васіль Шчэцька, Уладзімір Пеляса і інш.) выйшлі з БАЗА і заснавалі 4 чэрвеня 1965 году асобную арганізацыю — Беларуска - Амэрыканскае Абьеднаньне ў Нью-Ёрку (БАА), старшынём быў абраны Кастусь Мярляк. Дзейнасьць гэтай арганізацыі адбывалася ў будынку царквы на Атлантык Авэню 401, адкуль з 1 лютага 1965 году былі выдалены Галоўная управа БАЗА, газэта «Беларус» і іншыя беларускія арганізацыі. Пазьней БАА перанесла сваю дзейнасьць у будынак новапабудаванай па ініцыятыве актывістаў арганізацыі начале са сп. Мярляком беларускай царквы ў Рычманд Гіл ва ўсходнім Брукліне таксама на той жа Атлантык Авэню.

Наступнай жыцьцёва неабходнаю справаю, якая стаяла на парадку дня ў дзейнасьці Беларуска — Амэрыканскага Задзіночаньня, было заснаваньне ўласнага перыядычнага друку.

Як згадвалася вышэй, першыя беларускія перыядычныя выданьні ў ЗША пасьля вайны былі ажыцьцёўлены Злучаным Беларуска — Амэрыканскім Дапамаговым Камітэтам — часопіс «Беларус у Амэрыцы», «Беларускае слова ў Амэрыцы», потым газэта «Беларуская трыбуна», першы нумар якой зьявіўся 27 жніўня 1950 году, галоўным рэдактарам быў Язэп Лешчанка (паэт Міхась Кавыль), рэдакцыя не мела сталага адрасу, была то ў Нью-Ёрку, то ў Саўт-Рывэры.

У хуткім часе пасьля арганізацыйнага перыяду БАЗА распачала выданьне газэты «Беларус». Менавіта гэтай газэце быў наканаваны працяглы жыцьцёвы шлях, паступова яна сталася

галоўным перыядычным выданьнем не толькі для беларусаў Амэрыкі, але і для ўсёй беларускай дыяспары на Захадзе, органам беларускага дэмакратычнага руху ў замежжы. Газэта адыграла важную ролю ў фармаваньні беларускай патрыятычнай грамады ў Амэрыцы і застаецца такою да сёньняшняга дня.

Першы нумар «Беларуса» выйшаў у Нью-Ёрку 20 верасьня 1950 году.



# БЕЛАРУС

ЦЭНТАЎ 10 CENTS

Выдае:
Беларуска - Амэрыканскае Задзіночаньне у З. Г. А.
Рэдагуе Рэд. Калегія
Падпіска на год: — 2 дал.
Цана паасобніка — 10 ц.

Editor-in-Chief
Mag. L. Halak
325 East 100 Str., Apt. 9,
NEW YORK 29, N. Y.
Subscription per year $ 2.00.
Per copy — 10 c.

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ У З. Г. А. BYELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE U.S.A.

Год I, № 1 20 верасьня, 1950 NEW YORK 29, N. Y. U. S. A. Sept. 20, 1950. Vol. I. № 1.

## Ад Рэдакцыі

Пачынаючы выдаваньне часапісу "Беларус", рэдакцыя хоча выказаць паважанаму чытачу тыя прычыны, што спанукнулі нас да гэтага; што сабою прадстаўляюць ініцыятары выдаваньня і якія яны сабе стаўляюць заданьні.

У сваім прадстаўленьні будзем шчырыя, бо зварочуемся да сваіх суродзічаў, як беларусы да беларусаў, як брат да брата.

Найперш хто мы такія? Вось жа выдаўцы гэтае газэты зьяўляюцца ў пераважнай бальшыні новымі эміграптамі, што па-

рысьць як самым сабе, так і сваім краём, ды Амэрыцы і агульна людзкой культуры.

Сярод гэных часапісаў розных народаў мы не знайшлі нажаль ніводнага беларускага часапісу! Чаму-ж гэта? Ці ў Амэрыцы зусім няма беларусаў? Ці мо іх тут замала? О не! У Амэрыцы ёсьць больш поўмільёну людзеў, у жылах якіх цячэць беларуская кроў, а людзёў, што гутараць яшчэ пабеларуску каля 200.000. Дзеля гэтага напрошуецца пытаньне, чаму беларусы ў Амэрыцы засталіся так далёка ззаду...

вось спэцыфічныя гістарычныя абставіны і прычыніліся да таго, што беларуская эміграцыя у З. Г. А. засталася у поўнай ізаляцыі ад беларускай культурна-творчай і палітычна-вызвольнай працы ў краі. Цяпер стварыліся зусім іншыя абставіны. Дарма што акупацыйны рэжым у Беларусі, беларускі народ у краі энэргічна размахнуўся у творчасьці свае нацыянальнае культуры, скрысталізаваў свае палітычныя пагляды і із стральбою зь лесу абараняе гэта ўсё ад сучаснага акупанта. [illegible]

## ДВА БЕЛАРУСКІЯ КАТЫНЫ

БАЛЬШАВІЦКІЯ ТЫРАНЫ РАСТРАЛЯЛІ ПАТАЕМНА 13.325 НЯВІННЫХ НІ У ЧЫМ БЕЛАРУСАЎ. САКРЭТНЫ ДАКУМЭНТ АБ ГЭТЫХ РАСТРЭЛАХ У РУКОХ УРАДУ БНР.

Толькішто вышла з друку кніжка ў ангельскай мове, аўтарам якой зьяўляецца прэз. М. Абрамчык, пад загалоўкам: АБВІНАВАЧЫВАЮ КРЭМЛЬ У ЗАБОЙСТВЕ МАЙГО НАРОДУ, дзе прыведзены сакрэтныя дакумэнты савецкай пракаратуры і НКВД, у якіх самі бальшавікі прызнаюцца што растрэлівалі ні ў чым невінаватых людзей. У гэтых сакрэтных бальшавіцкіх дакумэнтах пералічаюцца факты і прозьвішчы ахвяр катаў.

Прэз. Абрамчык у сваей прадмове горача заклікае увесь цывілізаваны сьвет да абароны беларускага народу.

А МЫ КЛІЧЫМ ВАС, ЭМІГРАНТЫ БЕЛАРУСЫ! ПРАВЕСЬЦІ ЭНЕРГІЧНА АКЦЫЮ ПРАТЭСТУ СУПРОЦЬ ДЗІКІХ ТЫРАНАЎ МАСКВЫ.

Арганізуйце пратэстацыйныя мітынгі, пішыце да А. З. Н., дамагайцеся суду для маскоўскіх катаў. Прасіце помачы і абароны Беларускага Народу!

Калі маскоўскія каты выкруціліся ад суду за замардаваньне

*Першы нумар «Беларуса»*

Галоўным рэдактарам быў Леанід Галяк (верасень 1950 — сакавік 1952), затым гэты абавязак пераняў Вітаўт Тумаш (1952 — ), далейшымі рэдактарамі газэты былі: Натальля Арсеньнева ( — 1954), Лявон Савёнак (чэрвень 1954 — ), Міхась Міцкевіч ( — прыкладна 1960), Станіслаў Станкевіч

(1960 — 1980), Янка Запруднік (1980 — 1995), Зора Кіпель (1995 — 2000), Марат Клакоцкі (2002 — 2010), Ганна Сурмач (2010 — ).




*Рэдактары газэты*

Газэта выдаецца на грамадзкія ахвяраваньні. Як частка беларускага грамадзкага жыцьця, Рэдакцыя газэты знаходзіла месца для працы ў тых жа самых месцах, дзе асталёўваліся беларускія грамадзкія арганізацыі, найперш структуры БАЗА. Разам з імі газэта мяняла свой адрас у Брукліне, на Мангэтэне, а часам мела толькі адрас паштовай скрынкі.

Месцы друку газэты таксама мяняліся. Амаль дваццаць першых гадоў «Беларус» друкаваўся ва украінскай друкарні Сьв. Сафіі ў Мангэтэне, якая належала украінскай праваслаўнай царкве. Дырэктарам быў сп. Ліповы, які спрыяў беларусам, у ягоным офісе беларусы часта сыходзіліся на розныя зборкі. Друкарня знаходзілася на 1 Avenue паміж 9

і 10 Streets (гэты будынак не захаваўся). У далейшым, калі прыйшла кампутарная тэхналёгія, газэта друкавалася і друкуецца ў розных амэрыканскіх друкарнях, дзе можна знайсьці таньнейшыя паслугі. Фармат газэты і папера мяняліся залежна ад фінансавага становішча выданьня.

Перыядычнасьць газэты была таксама розная, напачатку ўдавалася выдаваць газэту штотыднёва, потым «Беларус» стаўся штомесячнікам, а часам і выходзілі злучаныя нумары за некалькі месяцаў.

Арганізацыйныя клопаты, творчая атмасфэра ды напружаньне пад час працы над кожным нумарам газэты «Беларус» красамоўна апісваюцца на старонках кнігі з успамінамі і дзённікавымі запісамі Зоры Кіпель «Дні аднаго жыцьця», выдадзенай у Менску ў 2010 годзе (выдавецтва Зьміцера Коласа). Вось некаторыя вытрымкі з кнігі пра дзейнасьць Рэдакцыі ў 1992 годзе: (ст. 873 — 874, 903 — 904):

«16 студзеня. Схадзіла ў друкарню. Забрала ўвесь набраны матэрыял. На двары страшэнны холад. пазваніла Янку, што матэрыялу на нумар хопіць. «Ламаць» буду дома.

30 студзеня. Газэту зрабіла — матэрыялу хопіць. У міжчасьсе памыла аж 4 машыны бялізны! Матэрыял, які застаўся, пойдзе ў наступны выпуск.

25 чэрвеня. Вітаўт завёз увесь матэрыял у друкарню...Сп. Шукелойц ужо быў у друкарні. Сп. Запруднік затрымаўся на працы, але ён пазваніў ў друкарню, каб матэрыял набралі. Пасьля працы і я пайшла ў друкарню. О, шчасьце!!! Увесь матэрыял быў набраны».

Варта тут згадаць пра тое, што газэта «Беларус», якая выдавалася сіламі беларускай эміграцыі, не мела падтрымкі

з Бацькаўшчыны — Беларусі, дзе лічылася варожаю антысавецкаю прэсаю і толькі зрэдку асобныя нумары траплялі да дасьведчаных людзей. Аднак, з пачаткам новага беларускага Адраджэньня і надышоўшага распаду савецкай імпэрыі, «Беларус» вольна даходзіў да чытача на Бацькаўшчыне. І нават дайшло да таго, што ў 1993 — 1996 гадох пачаў друкавацца ў Менску ў выдавецтве Вацлава Багдановіача, куды перасылаліся клішэ з Нью-Ёрку. Але, як вядома, цягнулася гэта не доўга.

Цягам існаваньня газэты мяняліся рэдактары, тэхніка друку, кошты і інш., але рэдакцыйная гарачка — выпусьціць нумар, клопат пра недахоп матэр'ялаў ці, наадварот, што сабралася замнога на адзін выпуск, адчуваньне адказнасьці рэдактара — усё гэта застаецца нязьменным. З цягам часу і адказнасьці пабольшала, газэта выходзіць сёмы дзесятак гадоў, немагчыма дапусьціць, каб выданьне заняпала. А ягонае жыцьцё забясьпечваецца толькі грамадзкімі сіламі, якіх не заўсёды дастаткова.

У 2000 — 2002 гадох выданьне «Беларуса» перанялі новыя імігранты. Цягам васьмі гадоў рэдактрам газэты быў Марат Клакоцкі, якога ў 2010 годзе замяніла Ганна Сурмач. Жыцьцё газэты працягнулася новымі сіламі.

Дзейнасьць і ўплыў газэты «Беларус» даўно выйшлі за рамкі друкаванага органу БАЗА, падпарадкаванага Галоўнай управе. На 12 Кангрэсе БАЗА у 1967 годзе была прынята пастанова, якая надала газэце новы статус аўтаномнай адзінкі, рэдакцыя робіць справаздачы аб сваёй дзейнасьці толькі Кангрэсам БАЗА.

У верасьні 2015 году газэта «Беларус» урачыста адзначыла

свой 65 — гадовы юбілей у добрым аптымістычным настроі, з надзеяй, што жыцьцё газэты працягнецца ў будучыні, бо выданьне ёсьць патрэбным для усіх беларусаў на чужыне, а цяпер і ў самой Беларусі, куды дасылаюцца нумары газэты.




*Юбілей газэты «Беларус», 2015 год*

Нью-Ёркскі аддзел БАЗА для патрэбаў свае грамады з цягам часу пачаў выдаваць свой друкаваны Бюлетэнь «Весткі і паведамленьні», рэдактарам яго быў Аляксандр Міцкевіч. Цяпер бюлетэнь выдаецца суполкаю «Пагоня» і адлюстроўвае жыцьцё гэтай новастворанай ў Нью-Ёрку беларускай арганізацыі.

Некалькі гадоў беларусы ў Нью-Ёрку мелі і сваю больш — менш рэгулярную радыёперадачу на радыёстанцыі WPOW

(рэдакцыя была на 41 East 42 Street). Перадача зьявілася з ініцыятывы Міхася Казьлякоўскага, ён таксама быў вядучым праграмаў.



*Міхась Казьлякоўскі*

На Мангэтане ў будынку 30 на East 42 Street (цяпер нумерацыя дамоў зьмененая) знаходзілася Нью-Ёркская Рэдакцыя Радыё Вызваленьне, галоўная кватэра якога была ў Мюнхене, пазьней ягоная назва была заменена на Радыё Свабода/ Свабодная Эўропа і ўрэшце ў выніку палітычных пераменаў у Эўропе стала называцца Радыё Свабода. У 1957 годзе ў Нью-Ёркскай Рэдакцыі быў адчынены Беларускі карэспандэнцкі пункт, які дзейнічаў да 1994 году. Абавязкі кіраўніка — рэдактара выконваў цягам 37 гадоў бязьзьменны Янка Запруднік.



*Янка Запруднік*

Карэспандэнтамі-супрацоўнікамі Радыё былі Нью-Ёркскія беларусы — Антон Адамовіч,Станіслаў Станкевіч, Юрка Віцьбіч, Вітаўт Кіпель, Тамара

Наваградчанская,Ізыдар Плашчынскі (брат пісьменьніка Язэпа Пушчы), Браніслаў Міркоўскі, Андрэй Клёнаў, Аркадзь Рутман, Анатоль Цярэшка, Уладыка БАПЦ Васіль, Натальля Арсеньева, Яніна Каханоўская, пазьней Адам Акуліч і Сяржук Сокалаў — Воюш.

Акрамя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, якое выконвала функцыю агульнага абьяднаньня беларускай эміграцыі ў Амэрыцы, беларусы стварылі і іншыя грамадзкія арганізацыі.

Найбольшай з іх быў Беларускі Кангрэсавы Камітэт (БККА). БККА быў створаны на Першым Кангрэсе беларусаў Амэрыкі, які адбываўся 11 лютага 1951 году ў Саўт Рывэры. Пасаду старшыні Камітэта займалі: Мікола Шчорс (1951-1957 г.г.), Іван Касяк (1957-1989 г.г.), Расьціслаў Завістовіч (ад 1990 году). Пад эгідаю БККА дзейнічалі каля поўдзесятка меншых арганізацый. Важным дасягненьнем БККА стала выданьне часапіса «Беларуская думка», які выходзіць да сёньня, дзякуючы ахвярнай працы сп. Жоржа Навумчыка.

Сябры БАЗА і БККА стаялі на розных палітычных пазыцыях : БАЗА падтрымлівалі прыхільнікі БНР, БККА — прыхільнікі БЦР. Аднак, абедзьве арганізацыі стаялі на грунце змаганьня за незалежнасьць Беларусі і свабоду для беларускага народу. Калі трэба было прадстаўляць беларускую нацыю перад іншымі, яны цесна супрацоўнічалі, напрыклад, ў арганізацыі правядзеньня ў Нью-Ёрку Парадаў ляяльнасьці, Тыдняў паняволеных народаў і інш., дзе бралі ўдзел беларусы.

У Нью-Ёрку існаваў Аддзел Задзіночаньня беларускіх ветэранаў. 19 кастрычніка 1952 ў «Беларускай Хатцы» у

Брукліне прайшоў гадавы сход Аддзелу, потым гэтыя сходы праводзіліся ў будынку на Атлянтык Авэню 401.

Заснаванае ў 1947 годзе ў Нямеччыне Аб'яднаньне беларускіх лекараў на чужыне, працягнула сваю дзейнасьць у Амэрыцы пасьля таго, як з 50 ягоных чальцоў 20 асобаў пераехалі ў ЗША, існавала да 1952 году.

Па ініцыятыве БАЗА ў Нью-Ёрку была заснавана Беларуска-Амэрыканская Дапамога з мэтаю падтрымкі беларускіх эмігрантаў на Захадзе. Адбылося гэта 29 верасьня 1957 году на арганізацыйным сходзе прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў на 33 Norfolk Street. Раду дырэктараў узначаліў Міхась Тулейка, Управу — Антон Шукелойц. Амэрыканскія беларусы лічылі, што яны, жывучы ў адной з найбольш заможных краінаў сьвету, павінны дапамагчы сваім суродзічам — эмігрантам, якія мелі горшыя ўмовы жыцьця, застаўшыся ў паваеннай Эўропе.



*Міхась Тулейка*

У 1948 годзе ў Нью Джэрзі было заснаванае Беларускае Жаночае Згуртаваньне у Амэрыцы, ягоны аддзел быў створаны і ў Нью-Ёрку. Дзейнічала жаночая сэкцыя ў структуры самога БАЗА, ў 1957 годзе гэта сэкцыя стала сябрам Нацыянальнай Рады жанчынаў ЗША, як часткі міжнароднага жаночага руху. 13 красавіка 1976 году ў Нью-Ёрку ў гатэлі Білтмор адбыўся Кангрэс Згуртаваньня Амэрыканскіх жанчын, у ім ад беларусаў бралі ўдзел Зінаіда і Рая Станкевічы.

Пазьней беларускія жанчыны заснавалі Камітэт

матэрыяльнай дапамогі беларусам Беласточчыны, актывістамі былі Вера Бартуль, Ала Орса Рамана, Юля Андрусышын, Яніна Каханоўская і інш. Яны зьбіралі сродкі і даслалі на Беласточчыну шмат пасылак з рэчамі для беларускіх сем’яў.

Асобна патрэбна сказаць пра гісторыю асяродка Ароў Парк (Arrow Park), да якой маюць дачыненьне беларусы, але пераважна са старой іміграцыі, што прыехалі перад Першай сусьветнай вайною.

Ароў Парк — зямельная ўласнасьць, набытая ў канцы 40-х гадоў групамі імігрантаў, у тым ліку і беларусамі. Знаходзіцца ў акрузе Манроў (Monroe), штат Нью-Ёрк. На гэтым кавалку зямлі з цягам часу быў пабудаваны культурна-бізнэсовы цэнтр. Беларусаў было шмат сярод актывістаў гэтага асяродку, але, пераважна гэтыя людзі не былі нацыянальна сьведамыя, трымаліся левых прарасейскіх поглядаў, падтрымлівалі Савецкі Саюз.

Штогод ў Ароў Парку на пачатку жніўня ладзіўся Расейска-Беларускі Дзень Культуры, адбываліся беларускія сцэнічныя паказы. У 1973 годзе там быў пастаўлены помнік Янку Купалу побач з помнікамі Уолту Уітмэну, Тарасу Шаўчэнку і Аляксандру Пушкіну.



*Помнік Янку Купалу*

У савецкай Беларусі Ароў Парк лічыўся самым вядомым беларускім асяродкам у Амэрыцы. Ён стаўся месцам паломніцтва шматлікіх савецкіх дэлегацый, у тым ліку і з

БССР.

Прыбылыя па Другой сусьветнай вайне беларускія імігранты бывалі ў Ароў Парку наведвальнікамі, але актыўнага ўдзелу ў жыцьці гэтага асяродку не бралі.

Паваенныя імігранты таксама спрабавалі закласьці сваю гаспадарчую і бізнэсовую дзейнасьць.

На пачатку 1950-х гадоў у Нью-Ёрку беларускія імігранты заснавалі будаўнічую кампанію «Нёман», аднак яна праіснавала нядоўга.

У Брукліне дзейнічалі бізнэсовыя суполкі «Менск», «Пінск», «Слуцак», якія належалі беларусам.

З ініцыятывы Міколы Гарошкі ў Нью-Ёрку 10 сьнежня 1957 году была заснавана Беларуса-Амэрыканская Фэдэральная Каапэратыва, якая нават надрукавала свае акцыі, але суполка не была достаткова пасьпяховаю і не ўтрымалася ў гэтым бізнэсе.

У структуры Украінскага Рабочага Саюзу быў закладзены Беларускі Страхавы Аддзел імя Кастуся Каліноўскага, якім кіраваў Уладзімір Пляяса. Спыніў існаваньне ў 1970-х гадох. Тут варта ўзгадаць, што спроба залажыць сваю страхавую суполку беларускімі імігрантамі была зроблена яшчэ перад Першай сусьветнай вайною, тады нават была надрукаваная кніжачка «Устав Товарищества белоруссов и малороссов», Грэнд Рэпідс (Grand Rapids), Мічыган, 1914.

На Грын Пойнце (Green Point) ў Брукліне быў адчынены Беларускі бар-рэстаран. (1018 Manhattan Avenue, Brooklyn 22 (Green point). Будынак захаваўся.

Некаторыя з імігрантаў разьвівалі свой уласны бізнэс, атрымаўшы адпаведную ліцэнзію. Пасьпяховаю была цягам




*Будынак, дзе быў беларускі бар-рэстаран у Грын Пойнце*

многіх гадоў дзейнасьць у галіне дантыстыкі Францішка Бартуля, жыў спачатку у Нью-Ёрку, а потым перабраўся ў Мэнгасэт (Manhassaet) на Лонг Айлендзе (Long Island). Ён браў вельмі актыўны ўдзел ў беларускіх грамадзкіх справах разам з жонкаю Вераю і дзецьмі Ганнаю і Антонам.

Лекар — дантыст Іван Красоўскі з Наваградчыны меў свой офіс ў прэстыжным раёне на Мангэттане — 43 Street і 6 Avenue. Быў актыўным у беларускім жыцьці ў Нью-Ёрку. Пазьней пераехаў на Лонг Айленд і, на жаль, ў хуткім часе памёр.

Нельга абыйсьці ўвагаю бізнэсовы праект, які ўдалося ажыцьцявіць сіламі беларускай грамады, мэтаю яго было стварэньне ўласнага адпачынкавага селішча. У 50-я гады беларусы з Нью-Ёрку ездзілі адпачываць улетку на селішча «Бобрык» і

ферму «Кэры» на поўначы штату Нью-Ёрк, але гэта не была іх маёмасьць. На пачатку 60-х гадоў група актывістаў з Нью-Ёрку і ваколіцаў выступіла з прапановаю набыць уласнае адпачынкавае селішча для патрэбаў беларускай грамады, дзе можна было б не толькі адпачываць, але праводзіць культурныя і спартовыя мерапрыемствы. Было вырашана набыць калектыўную маёмасьць праз акцыянерны ўдзел. Ініцыятарамі праекту былі Васіль Юрцэвіч, Уладзімір Пеляса, Зора і Вітаўт Кіпелі, Юрка Станкевіч, Васіль Захаркевіч, Кастусь Мярляк, Пётра Мельяновіч, Даніла Клінцэвіч. Прыдатнае месца было знойдзена ў акрузе Салівэн, у штаце Нью-Ёрк. Беларускі адпачынкавы цэнтр там быў адчынены 4 ліпеня 1963 году, яму далі назву Белэйр (Bel-Air) — «Менск».

Селішча сталася папулярным месцам, дзе ад раньняе вясны да позьняй восені віравала беларускае жыцьцё — адбываліся розныя культурныя імпрэзы, спартовыя спаборніцтвы, сустрэчы з гасьцямі. Аднак, з-за фінансавых праблемаў селішча давялося прадаць, набыла яго група беларускіх праваслаўных парафіяў. Будучы вызваленымі ад падаткаў, яны здолелі палепшыць матэрыяльны стан селішча і захаваць яго на некаторы час дзеля патрэбаў беларускай грамады. Белэйр «Менск» праіснаваў каля 40 гадоў. Але, быў нарэшце канчаткова прададзены.



*Беларускі адпачынкавы цэнтр*

Дасягнуць больш значных посьпехаў у бізнэсовай дзейнасьці Нью-Ёркскім беларусам не ўдалося. Але, тэма вартая таго, каб дасьледаваць яе глыбей і, магчыма, знойдуцца новыя імёны пасьпяховых беларускіх бізнэсоўцаў таго часу.

Важную пазытыўную ролю ў грамадзкім жыцьці беларускай паваеннай іміграцыі ў Амэрыцы, як і ў іншых краінах, адыгрывала рэлігійнае жыцьцё, цэрквы, якія станавіліся цэнтрамі, што абьядноўвалі беларускую грамаду на чужыне. Паваенная хваля іміграцыі пераважна складалася з былых жыхароў Заходняй Беларусі, з Палесься і Віленшчыны, якія разумелі і шанавалі ролю царквы ў жыцьці чалавека. Савецкая ўлада на гэтых тэрыторыях яшчэ не пасьпела выкараніць веру сваёй агрэсіўнай атэістычнай прапагандаю і перасьледам. На чужыне, калі часам зусім не было на што спадзявацца, заставалася верыць толькі ў Боскую дапамогу. Рэлігійнае жыцьцё і царква мелі для выгнанцаў з Бацькаўшчыны асаблівую значнасьць. Разам з вырашэньнем іншых жыцьцёвых праблемаў эміграны наладжвалі духоўнае жыцьцё. Не маючы дастаткова грошай і нават самых неабходных рэчаў, яны ў першую чаргу стараліся мець свае цэрквы, наняць памяшканьні ці набыць будынкі для багаслужбаў.

Бальшыня новых імігрантаў вызнавала праваслаўе. Справа арганізацыі праваслаўных вернікаў — беларусаў мела не толькі значны духоўны сэнс, але і палітычны. Як вядома, пад час нямецкай акупацыі ў Беларусі была адноўлена заснаваная ў 1922 годзе ў Менску Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква (БАПЦ). Пасьля вайны яна не была прызнаная савецкай уладаю і праваслаўныя вернікі ў Беларусі былі аддадзеныя пад кіраўніцтва Маскоўскага патрыярхату.

Сярод паваеннай іміграцыі былі пераважна прыхільнікі БАПЦ, яны і частка духавенства падтрымлівалі ідэю незалежнай ад Масквы самастойнай — аўтакефальнай беларускай Царквы і гэтая Царква на іміграцыі аднавіла сваю дзейнасьць. Прыходы менавіта БАПЦ закладаліся гэтай хваляю эміграцыі за невялікім выключэньнем, калі па розных прычынах некаторыя беларускія цэрквы ў замежжы адыйшлі пад іншае апякунства — Усяленскага Патрыярхата ці інш. Ідэя Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы была і ёсьць сёньня цесна зьвязанай з ідэяй дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Праваслаўны прыход Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ быў заснаваны ў Нью-Ёрку ў верасьні 1950 году. Першая парафіяльная рада была абраная ў складзе: праф. Дарашэвіч — старшыня, д — р Аляксандр Орса — скарбнік, інж. Мікола Гарошка і Янка Ніхаёнак — сябры. Багаслужбы адбываліся ў згаданай вышэй «Беларускай хатцы» на 461 Эшфорд стрыт (Ashford Street) у Брукліне. Праводзіў іх а. Хведар Данілюк — сьвятар і былы слуцкі паўстанец.

«Беларускаю хаткаю» настальгічна называлі эмігранты нанятае памяшканьне невялікай крамы, збоку якога былі кухня і пакойчык, дзе жыў кампазытар Мікола Куліковіч. На той час ён кіраваў царкоўным і сьвецкім хорам, але, у хуткім часе адыйшоў ад гэтых абавязкаў і ягоную справу пераняла Галіна Ганчарэнка.


*Хведар Данілюк*

Улетку 1951 году у Нью-Ёрк прыехаў епіскап БАПЦ — Уладыка Васіль Тамашчык, ён

узначаліў прыход і часова вырашыў справу з памяшканьнем.

Уладыка Васіль дамовіўся з кіраўніцтвам прыходу карпатарускай праваслаўнай царквы на 345 East 4 Street, на Мангэттане, каб разам праводзіць у гэтай царкве багаслужбы для карпатаросаў і беларускіх вернікаў. Беларусы таксама мелі магчымасьць ладзіць свае імпрэзы ў царкоўнай залі.


*Уладыка Васіль Тамашчык*

11 красавіка 1954 году Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага была інкарпараваная (афіцыйна зарэгістраваная) паводле артыкулу VIII — правоў аб рэлігійных карпарацыях штату Нью-Ёрк, якія датычылі Украінскай праваслаўнай царквы, бо на той час яшчэ не існавала асобнага закону для беларускай царквы.

У тым жа 1954 годзе адбыліся выбары ўжо ў зарэгістраванай Парафіі яе кіруючага органа — парафіяльнай рады, якую ўзначаліў Мікола Гарошка. Парафія выдала першы насьценны царкоўны каляндар, было заарганізавана абыходжаньне дамоў парафіянаў з вадохрышчанскай вадою.

Як ужо гаварылася, у 1956 годзе сьвятар карпатарускага прыходу і ўладальнік будынку царквы а. Іван Фядына памёр. Будынак быў выстаўлены на продаж. Беларусы спрабавалі яго купіць, але не мелі дастаткова грошай і ён быў прададзены Расейскай зарубежнай царкве. У далейшым і расейцам давялося прадаць будынак, ён захаваўся да сёньняшняга дня і належыць каталіцкай царкве старога абраду — At the San Isidoro y San Leandro Western Orthodox Catholic Church of the Hispanic Mozarabic Rite

Беларусы пасьля гэтага на працягу амаль году наймалі залю для багаслужбаў у прэсвітэрыянскай царкве Labor Tample на East 14 Street ў Мангэтане.

У 1952 годзе ў Нью-Ёрку быў створаны адмысловы камітэт для пошуку і набыцьця ўласнага будынку для царквы і для патрэбаў грамадзкага жыцьця. Камітэт быў таксама ўпаўнаважаны зьбіраць грошы для будучай куплі. Быў знойдзены будынак у Брукліне на Атлантык Авэню 401, які належаў прэсвітэрыянскай царкве (пачатак ягонай будоўлі адносіцца да 1850 году). Будынак быў куплены 15 кастрычніка 1957 году за 25 тыс. дал., адразу заплацілі 11 тыс. дал. і ўзялі пазыку, якую потым сплочвалі недзе 15-20 гадоў. Будынак патрабаваў значнага рамонту, з-за недахопу сродкаў вернікі збольшага ўпарадкавалі памяшканьне ўласнымі сіламі і хутка, ўжо ў кастрычніку, пачаліся багаслужбы, але афіцыйнае адкрыцьцё адбылося 3 лістапада 1957 году.

Упарадкаваньне і рамонт будынку працягваліся далей. Іканастас паводле праекту Барыса Данілюка быў выкананы Іванам Чыгіровічам і Пётрам Мельяновічам і скончаны да Вялікадня 1959 году. На іканастасе ўсталяваныя абразы Хрыста-Збаўцы і Божай Маці, якія былі намаляваныя мастаком Зьміцерам Чайкоўскім яшчэ для беларускай царквы ў лягеры ДП у Розенгайме ў паваеннай Нямеччыне.

Парафія ад пачатку арганізавалася, як структура Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Патронам царквы быў абраны беларускі сьвяты Кірыла Тураўскі. Царква была ўзьведзена ў ранг Катэдральнай і зацьверджана ў якасьці Сабора і сядзібы кіруючага епіскапа.

У 1960 годзе ў Саборы адбыўся ўстаноўчы зьезд



*Унутраны выгляд Сабору*

Амэрыканскай Епархіі БАПЦ. У сувязі з наяўнасьцю структураў БАПЦ ў 1961 годзе Ассамблея штату Нью-Ёрк прыняла адмысловы закон для БАПЦ, артыкул XVIII закону аб рэлігійных карпарацыях у Нью-Ёрку, які ўрэгуляваў праўнае становішча БАПЦ ў ЗША і паводле якога Епархія была адразу інкарпараваная (зарэгістраваная). У 1964 годзе ў адпаведнасьці з гэтым новым законам была рэінкарпаваная (перарэгістраваная) Парафія Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага (раней была зарэгістраваная паводле закону аб украінскай царкве)

Будынак на Атлантык Авэню 401 адразу стаўся цэнтрам беларускага рэлігійнага і грамадзкага жыцьця ў Нью-Ёрку.

Архіепіскап Васіль выдаваў пры царкве часопіс «Голас Царквы».

Першы беларускі шлюб у новай царкве ўзялі Леанід і Элеанора Норыкі

Дзеля таго, каб Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага быў сапраўдным цэнтрам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы шмат працы ўкладалі як сьвятарства так і вернікі. Варта узгадаць імя сп. Барыса Данілюка, сына згаданага вышэй а. Хведара Данілюка — сьвятара і былога слуцкага паўстанца. Сп. Барыс шмат гадоў апекаваўся Саборам, даглядаў царкоўныя і гаспадарчыя справы, ягоная жонка сп. Марыя Данілюк і да сёньня належыць да гэтай Парафіі.


*Барыс Данілюк*

Час ад часу з перапынкамі дзейнічала ў будынку Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага беларуская нядзельная школа для дзяцей

Праводзіліся штогод Калядныя ялінкі для дзяцей і іншыя мерапрыемствы.

10 лістапада 1968 году на той жа Атлантык Авэню у выніку расколу ў беларускай грамадзе Нью-Ёрку была заснавана часткаю беларусаў пад лідэрствам Кастуся Мярляка новая праваслаўная беларуская парафія з той жа самай назваю — Сьв. Кірылы Тураўскага. Аднак, парафіяне вырашылі далучыцца не да БАПЦ, а пайшлі пад юрысдыкцыю Сусьветнага Патрыярхату. Парафія распачала будоўлю новага будынку царквы, якая была скончаная ў 1983 годзе, 30 кастрычніка царква была высьвячаная прадстаўнікам Усяленскага Патрыярхата. Пры Парафіі было арганізавана беларускае грамадзкае жыцьцё, у будынку царквы праводзіліся некаторы

час рэпетыцыі танцавальнага гурта «Васілёк», выступаў з канцэртам Данчык.

7 лютага 1993 году царкву ў Рычманд Гіл наведаў Мітрапаліт Беларускай Праваслаўнай Царквы пад Маскоўскім патрыярхатам Уладыка Філарэт з Менску.

Адрас царквы: 10401 Atlantic Avenue, Richmond Hill, Queens.



*Царква сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл*

Варта згадаць, што ў 60 — я гады нават арганізоўваўся Беларускі манастыр у акрузе Пасэік (Passaic county) ў Нью Джэрзі (40 міл. ад Нью-Ёрку), ужо былі набытыя будынкі і пачала будавацца царква. Назва манастыра — «Мір». Нават была пададзена абьява пра тое, што жадаючыя могуць замаўляць месцы, каб прыехаць на маленьні. 12 лістапада 1967 году Уладыка Васіль выканаў урачысты акт пасьвячэньня селішча «Мір». Паведамлялася. што пры манастыры будзе бібліятэка, якою будзе апякавацца Юрка Віцьбіч, мелася быць адчынена 1 чэрвеня 1968. Меркавалася заснаваць друкарню. Манастыр падаваў абьявы і запрашаў на працу розных адмыслоўцаў. Але, утрымаць манастыр. на жаль, не ўдалося.

Спрабавалі арганізавацца на чужыне і беларускія каталікі.

У траўні 1950 году ў Нью-Ёрку і ваколіцах было заснаванае Беларуска-Амэрыканскае Каталіцкае Таварыства, якое абьяднала каля 150 сем'яў. Аднак, пазьней беларусам так і не ўдалося атрымаць дазвол ад каталіцкай іерархіі ў ЗША на заснаваньне ў Нью-Ёрку беларускай рымска-каталіцкай парафіі.

Апекаваўся беларускімі рыма-каталікамі ў ЗША рэктар Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі айцец Чэслаў Сіповіч (будучы біскуп), які прыязджаў з Лёндану. 28 кастрычніка 1957 ён правёў імшу на беларускай мове ў Капліцы Божай Маці ў найвялікшай каталіцкай сьвятыні Нью-Ёрка — Катэдры Сьв. Патрыка. Скончыў імшу малітваю за Беларусь, прысутнічалі беларусы з Нью-Ёрку і ваколіцаў.

А. Сіповіч наведваў Нью-Ёрк і 28 чэрвеня 1961 разам з а.Пётрам Татарыновічам, быў з візітам таксама ў 1965 годзе.

Істотную дапамогу каталіцкім вернікам у Нью-Ёрку аказаў а. Уладзімір Тарасевіч з Чыкага. Ён дамовіўся з каталіцкімі ўладамі пра багаслужбы для беларускіх каталікоў у Нью-Ёрку у Карпатарускай каталіцкай царкве ўсходняга абраду на рагу 15 Street і 2 Avenue на Мангэттане і службы там адбываліся. (царква гэта сёньня існуе і дзейнічае).

У верасьні 1957 у Нью-Ёрк прыехаў з Бэльгіі а. Францішак Чарняўскі, каб распачаць душпастырскую працу сярод беларусаў-каталікоў.

У Нью-Ёрку быў створаны і дзейнічаў Аддзел Беларускага Каталіцкага Акадэмічнага Задзіночаньня «Рунь».

З-за адсутнасьці сваёй парафіі рэлігійнае жыцьцё беларусаў-каталікоў у Нью-Ёрку паволі стала занепадаць. Дзейныя беларусы-каталікі сталіся часткаю сям'і беларускіх вернікаў

пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ на Атлатык Авэню 401. Трэба падкрэсьліць, што шмат хто з беларускіх каталікоў важка фінансава падтрымаў куплю будынку Сабору.

Сумеснае рэлігійнае жыцьцё абьядноўвае беларускіх імігрантаў. Цэрквы сталіся не толькі рэлігійнымі, але і грамадзкімі цэнтрамі, дзе разьвіваецца нацыянальна-культурная дзейнасьць. Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Нью-Ёрку адпачатку і да сёньня застаецца цэнтрам беларускага жыцьця. Парафіяльная Рада Сабору, сьвятарства і вернікі лічаць сваім асноўным абавязкам падтрымліваць дзейнасьць Сабору і тым самым захоўваць ідэю Беларускай аўтакефаліі — самастойнай Праваслаўнай Беларускай царквы, незалежнай ад Маскоўскай патрыярхіі, а тым самым і ідэю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.



## Моладзевы рух

Значную колькасьць уцекачоў з Беларусі ўлетку 1944 году, якія пазьней апынуліся ў Амэрыцы, складала моладзь і дзеці. У эміграцыю часам накіроўваліся цэлымі семьямі. Сярод уцекачоў былі сябры Саюзу беларускай моладзі і маладыя людзі, вывезеныя немцамі пад час акупацыі на працу ў нямецкай гаспадарцы. За час скітаньня па лягерах ДП малалетнія дзеці ў беларускіх сем'ях падрасьлі і таксама папоўнілі шэрагі юнацтва. Такім чынам, сярод беларускіх імігрантаў, якія трапілі ў Нью-Ёрк, была даволі шматлікая і актыўная моладзевая плынь. Некаторыя з іх бралі ўдзел у беларускім нацыянальным жыцьці пад нямецкай акупацыяй, многія былі выхаваныя ў нацыянальна сьведамых беларускіх сем'ях.

Моладзь пачала гуртавацца ўжо ў 1950 годзе. Зборкі адбываліся ў першай «Беларускай хатцы» ва ўсходнім Брукліне на на вул. Лінвуд (Linwood Street), дзе была канцылярыя БАЗА. Напачатку 1951 году ў Нью-Ёрку паўстала моладзевая арганізацыя «Маладняк».

Узьнікла думка аб стварэньні агульнаамэрыканскай маладзёвай арганізацыі. 30 сьнежня 1950 году ў Кліўлендзе адбыўся агульны сход прадстаўнікоў моладзі і было заснаванае Згуртаваньне беларускай моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА). Кіраўніком абралі Міхася Тулейку, скарбнікам — Галіну

Ганчарэнка, абодва з Нью-Ёрку, яны потым былі абраны і на другі тэрмін. У далейшым прадстаўнікі моладзі з Нью-Ёрку таксама абіраліся на кіруючыя пасады ў галоўнае кіраўніцтва ЗБМА.

Першымі структурамі ЗБМА былі аддзелы ў Кліўлендзе і Нью-Ёрку, потым былі створаныя ў іншых месцах.

Другі зьезд ЗБМА адбыўся ў Нью-Ёрку 27 сьнежня 1952 году. Таксама ў Нью-Ёрку праходзілі :

5 зьезд — 20 кастрычніка 1956 году ў залі Украінскага Народнага дому ў Брукліне.

7 зьезд — 30 — 31 жніўня 1958 году, праграма яго была ўзбагачана цікавым конкурсам беларускай народнай вопраткі.



*Конкурс беларускай народнай вопраткі на зьездзе ЗБМА, 1958*

Штогод у Нью-Ёрку праводзіліся таксама гадавыя сходы Аддзелу ЗБМА. 31 кастрычніка 1955 такі сход, напрыклад, прайшоў на Грынпойнце ў «Тоні’с гол» (Toni’s hall). У гэтым раёне Брукліну жылі многія беларусы. У амэрыканскай газэце «Greenpoint Star» кожны тыдзень друкаваліся інфармацыі пра беларускую моладзь.

17 сакавіка 1951 году ў «Беларускай Хатцы» адбылася цырымонія заснаваньня Першай Беларускай Скаўцкай групы ў Нью-Ёрку, апеку над ёю узяло БАЗА, існавала да 1954

году. У Нью-Ёрку дзеіла таксама скаўцкая арганізацыя пад кіраўніцтвам Уладзімера Пелясы і Анатоля Плескачэўскага, асацыяваная з Беларускім Кангрэсавым Камітэтам. У Брукліне дзейнічала і дзявочая скаўцкая група.

Беларускі спартовы клюб у Нью-Ёрку быў арганізаваны Іванам Мухам на пачатку 1950-х гадоў.

Існаваў таксама спартовы клюб «Беларусь», які быў заарганізаваны двума групамі хлопцаў з бруклінскіх раёнаў Грын Пойнт (Green Point) начале з Міхасём Казьлякоўскім і з Іст Нью-Ёрку (East New York) начале з Анатолем Александровічам. Футбольная каманда клюбу ўваходзіла ў Метрапалітэнскую Лігу — спартовы амэрыканскі клюб Metropolitan Ligue, за уступ да яго трэба было заплаціць значную суму, якую сабралі грамадою. Каманда пачынала свае гульні ў МэкКэран Парку (McCarren Park), першым капітанам быў Міхась Ігнат. Займаліся таксама іншымі відамі спорту. 21 жніўня 1955 у залі Тоні'с Гол на Грынпойнце адбыўся гадавы сход Беларускага спартовага клюбу. Адзначалася, што футбольная дружына «Беларусь» здабыла чацьвёртае месца ў лігавых спаборніцтвах.

У 1967 годзе ЗБМА зьмяніла свой назоў на Арганізацыю Беларуска — Амэрыканскае моладзі (АБАМ).

9 ліпеня 1959 году была таксама створаная яшчэ адна моладзевая арганізацыя — Саюз Беларуска-Амэрыканскае моладзі (СБАМ), меў аддзел ў Нью-Ёрку. Галоўнымі дзялянкамі працы былі спорт і тэатральныя пастаноўкі.

Моладзевыя арганізацыі ладзілі розныя імпрэзы, праводзілі балі, якія карысталіся асаблівай папулярнасьцю сярод моладзі і былі шматлюднымі. У газэце «Беларус» ёсьць зьвесткі пра



*Футбольная дружына «Беларусь»*

некаторыя з іх:

— 30 траўня 1953 году Аддзел Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Нью-Ёрку браўся правесьці ўрачыстую акадэмію памяці Максіма Багдановіча ў памяшканьні Home of First Branch ROOVA (431 East 6 Street)

— ЗБМА запрашала беларускую моладзь узяць удзел 14 лютага 1953 году ў вялікім канцэрце-балі ў Ленокс гол (Lenox Hall, 252-254 East 2 Street., паміж B i C) у Мангэттане.

— наступны такі баль адбыўся ў той жа залі 6 лютага 1954 году. Напачатку была паказана невялікая тэатральная дзея, а потым былі танцы пад аркестру

— увосень 1954 году, 6 лістапада, Нью-Ёркскі аддзел ЗБМА арганізаваў канцэрт-баль, была тэатральная пастаноўка, сьпевы і танцы

— гадавы баль ЗБМА 1955 году адбыўся 28 лютага


Выступ у Ленакс Хол, 1954 г.

Моладзь навязала плённае супрацоўніцтва з вядомай амэрыканскай арганізацыяй — Асацыяцыя маладых хрысьціянскіх жанчын (Young Women's Christian Association (YWCA), якая месьцілася на 3 Авэню ва ўласным будынку пад нумарам 30 ў Брукліне. 18 лістапада 1953 у будынку YWCA гэта арганізацыя ладзіла вялікі баль, на які былі запрошаныя беларусы і выступілі там з мастацкай праграмаю. 11 лютага 1954 году сябры ЗБМА


Выступ танцавальнага гуртка ў YWCA, 1958 г. — «Юрачка»

бралі ўдзел ў вечарыне прапаганды YWCA, моладзь таксама выступіла з танцамі і сьпевамі. (гэты будынак захаваўся)

У будынку YWCA, які дарэчы знаходзіцца недалёка ад Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401, праводзілася шмат беларускіх імпрэзаў. Ладзілася Калядная ялінка для беларускіх дзяцей, працавалі курсы беларусаведы для моладзі, якія арганізавала БАЗА, заняткі пачаліся 19 лістапада 1954 году. У 1955 годзе моладзь праводзіла там штодругую пятніцу вечарыны спорту з рознымі гульнямі і плаваньнем.

Арганізацыя моладзі таксама ладзіла танцавальныя вечарыны на Мангэтане ва Украінскім доме на 2 Avenue ды заснавала свае танцавальна — мастацкія гурткі. Найбольш трывалым і пасьпяховым з іх быў танцавальны гурт «Васілёк».



*На сцэне — «Васілёк»*

«Васілёк» быў закладзены ў Нью-Ёрку ў 1956 годзе, як

самадзейны гурток пры Арганізацыі Беларуска — Амэрыканскае моладзі. Ягонаю заснавальніцаю была Ала Орса (пазьней Орса Рамана), дачка вядомых беларускіх дзеячаў Аляксандра і Натальлі Орсаў. У працы калектыву брала ўдзел малодшае пакаленьне паваеннай іміграцыі, пераважна гэта былі дзеці з вядомых сваёй грамадзкай актыўнасьцю беларускіх сем'яў, у тым ліку і абодва сыны сп. Алы — Коля і Павал. «Васілёк» пасьпяхова дзейнічаў шмат гадоў, выступаў на розных сцэнах не толькі для беларусаў, але і прадстаўляў беларускую культуру для амэрыканскага грамадзтва — на Сусьветным выставе ў Нью-Ёрку, на Беларускіх фэстывалях у Нью — Джэрзі, на сьвяткаваньні 100 — годдзя Статуі Свабода ў 1986 годзе, часта меў выступы у Лінкольн Цэнтры ў Нью-Ёрку (звычайна гэта было у час «Славянскіх тыдняў», калі ў Нью-Ёрку праходзілі вялікія канцэрты славянскіх народаў у Лінкольн Цэнтры), у Цэнтральным парку на



*Выступ у цетральным парку ў 1957 г. — «Крыжачок»*

сьвяткаваньні 300-х угодкаў заснаваньня Нью-Ёрку, у Калюмбійскім унівэрсытэце, у Бруклінскім музэі, удзельнічаў у шматлікіх выступах, якія арганізоўвала амэрыканская Рада Народных Мастацтваў, таксама ў Вашынгтоне, Балтыморы(на фэстывалях славянскіх народаў).



*Хор ЗБМА пад кіраўніцтвам Галіны Ганчарэнка, 1956 г.*

У 1990 годзе група арганізавала гастролі на Беласточчыне ды ў розных гарадох Беларусі — Менску, Полацку, Гародні, Вільні.

Удзел у беларускіх сьвятах і розных прадстаўнічых выступах для амэрыканскага грамадзтва ў Нью-Ёрку бралі таксама моладзевыя хоры — хор пад кіраўніцтвам Галіны Ганчарэнкі, хор пад кіраўніцтвам Міхася Тулейкі, які даваў у 1954 годзе самастойны канцэрт у Ленокс гол, хор Алеся Валюшкі.

Моладзь у Нью-Ёрку штогод арганізоўвала традыцыйнае Калядаваньне, хадзілі з Зоркаю ды Казою па беларускіх хатах



*Калядоўшчыкі ля беларускай царквы*

Да здабыткаў маладога пакаленьня можна залічыць і стварэньне 27 жніўня 1950 году ў Нью-Ёрку Беларускага Студэнцкага Таварыства ў Амэрыцы. Другі гадавы зьезд Таварыства адбыўся ў Нью-Ёрку 21 верасьня 1952 году ў залі Сьвята-Траецкай царквы. Старшынём быў абраны Пётра Манькоўскі, ён быў ізноў пераабраны на трэйцім зьездзе ў 1953 годзе. Таварыства праводзіла канфэрэнцыі, ладзіла ў Нью-Ёрку сустрэчы, вечарыны для моладзі. Так, газэта «Беларус» за 18 красавіка 1954 году зьмясьціла абвестку, што Беларускае Студэнцкае Таварыства запрашае на свой вялікі вясьняны баль 15 траўня 1954 у Lenox Hall.

Шосты гадавы сход Таварыства, які праходзіў у Нью-Ёрку 7 верасьня 1957 году, пастанавіў зьмяніць назву арганізацыі. Далей яна стала называцца — Беларуска-Амэрыканскае Акадэмічнае Таварыства. Старшынём быў абраны Юрка Станкевіч. Таварыства абьядноўвала на той час каля 200

студэнтаў прыкладна з 50 каледжаў і універсытэтаў, бальшыня з іх былі з Нью-Ёрку.

Справе адукацыі моладзі дапамагала старэйшае грамадзтва. Прыкладам, выкладчык Індыянскага штатнага унівэрсытэта Іван Любачка пакінуў у спадчыну пэўную суму грошай, каб выдаваць іх студэнтам на беларускія дасьледаваньні. Для адміністраваньня гэтай спадчынаю быў створаны ў 1977 годзе Фонд імя Любачкі, галоўным распараднікам якога прызначалася Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскай Моладзі (АБАМ). Гэтую функцыю выконвалі дзеячы АБАМ — Раіса Станкевіч, Юрка Азарка, Вітаўт Тумаш-малодшы і інш.


*Юрый Станкевіч*


*Раіса Станкевіч*

Маладое пакаленьне заснавала моладзевы перыядычны друк. Сумесна Згуртаваньне Беларускай Моладзі і Беларускае Студэнцкае Таварыства ў чэрвені 1952 году заснавалі ў Нью-Ёрку часапіс «Віці», які выходзіў некалькі гадоў, у 1959 годзе «Віці» замяніў часапіс «Беларуская моладзь». Выданьне часапіса перапынілася ў 1967 годзе, а потым ізноў было адноўленае ў 1972-80 гадох.

Маладыя беларусы бралі самы актыўны ўдзел ва ўсёй грамадзка — палітычнай дзейнасьці беларускай эміграцыі ў Нью-Ёрку, моладзевыя дэлегацыі прымаліся ў мэрыі Нью-Ёрка з





*Візыты дэлегацый беларускай моладзі ў мэрыю Нью-Ёрка з нагоды праклямацыі Беларускага дня (фоты не датаваныя)*

нагоды сьвяткаваньня 25 Сакавіка.

Моладзевая актыўнасьць у Нью-Ёрку доўжылася да пачатку 90-х гадоў, і пачала зьніжацца, калі маладыя людзі пасталелі, закончылі навукі, завялі ўласныя сем'і, адным словам, выйшлі з моладзевага ўзросту. Частка іх далучылася да дзейнасьці БАЗА — Ала Орса Рамана, Алеся Кіпель, Юрка Азарка, Раіса Станкевіч, Галіна Тумаш, Юрка Кіпель, Ларыса Клінцэвіч, Вячка Станкевіч, Аўген Кажан, Натальля і Люда Русак ды шмат іншых.



## *Нацыянальна — культурная дзейнасьць*

Нацыянальна — культурная дзейнасьць была адной з прыярытэтных дзялянак у грамадзкай працы беларускіх абьяднаньняў. Удалечыні ад Радзімы душа патрабавала нешта сваё: песьню ці верш у роднай мове, свае танцы, тэатральныя пастаноўкі. А людзям, хто быў надзелены творчым талентам, хацелася выявіць свае думкі і пачуцьці праз паэтычнае слова, празаічныя творы, праз мелёдыю, праз мастацкую творчасьць. Сярод іх былі вядомыя яшчэ з Беларусі культурныя дзеячы, якія пасяліліся ў Нью-Ёрку : літаратары Натальля Арсеньнева, Юрка Віцьбіч, Янка Юхнавец, Міхась Міцкевіч (Галіна), Уладзімір Сядура, Янка Золак, Рыгор Крушына, Уладзімір Глыбінны, Міхась Кавыль, Анатоль Бярозка, кампазытары Мікола Куліковіч — Шчаглоў, Алесь Каптуровіч, Эльза Зубковіч, Дзмітры Верасаў, Ксавэры Барысавец, Вячаслаў Селях-Качанскі, сьпявачкі НадзеяГрадэ і Барбара Вержбаловіч, мастак Пётра Міраловіч.

Створанае яшчэ ў Нямеччыне 5 студзеня 1945 году Беларускае Літаратурнае Згуртаваньне «Шыпшына» пасьля пераезду ў Амэрыку бальшыні сяброў начале са старшынём Юркам Віцьбічам, аднавіла тут сваю дзейнасьць ад 9 красавіка 1950 году, існавала да 1975 году, калі памёр Віцьбіч. У Амэрыцы Згуртаваньне далей выдавала свой літаратурны

часапіс «Шыпшына».

У Нью-Ёрку, пачынаючы ад 1951 году, ладзіліся літаратурныя вечары, выступалі беларускія паэты і пісьменьнікі, крытыкі, іншыя дзеячы культуры.

Як сьведчыць бібліяграфія, бальшыня твораў эміграцыйных літаратараў было надрукавана і выйшла да чытача менавіта ў Нью-Ёрку.

Беларускі хор у Нью-Ёрку быў заснаваны ў 1950 годзе кампазытарам Міколам Куліковічам-Шчагловым, праводзіў рэпетыцыіі ў Брукліне ў памяшканьні YWCA. Хор выступаў на розных канцэртах і дэманстраваў беларускую культуру.

19 траўня 1956 году ў Нью-Ёрку даваў канцэрт беларускі хор «Жалейка» з Монрэалю з Канады пад кіраўніцтвам сп. Чопчыца.

Напрыканцы 1956 году Нью-Ёрк наведаў вядомы беларускі сьпявак Пётра Конюх, які прыехаў з Італіі. Беларусам удалося саарганізаваць ягоны канцэрт 2 сьнежня ў знакамітай Карнэгі гол (Carnegie Hall). Праз год — 21 сьнежня 1957 году сьпявак ізноў прыехаў у Нью-Ёрк і выступіў з дабрачынным канцэртам у залі Ірвінг скул (Irving school) на Мангэтэне, збор ад канцэрту быў ахвяраваны на куплю царквы на Атлантык Авэню 401.


*Пётра Конюх*

З сольнымі канцэртамі выступала таксама оперная сьпявачка Надзея Градэ. Разам з з другой сьпявачкаю Барбараю Вержбаловіч яны выступалі на розных канцэртах, дзе

ўдзельнічалі беларусы, на канцэртах — балях, якія ладзіла беларуская грамада.

У Нью-Ёрку таксама дзейнічалі згаданыя ў папярэднім раздзеле маладзёвыя творчыя калектывы — танцавальная група «Васілёк», хоры Галіны Ганчарэнкі, Міхася Тулейкі, Алеся Валюшкі.

Вядома ж, хацелася імігрантам мець і дома запісы беларускіх мелёдыяў. Газэта «Беларус» за 30 чэрвеня 1955 паведамляла, што выйшлі грамафонныя беларускія кружэлкі і іх можна замаўляць на адрасе: Argee Music Corp. 21 Lexington Ave. (at 28th Str.), New York 16.

Газэта «Беларус» за 17 студзеня 1953 надрукавала абʼяву пра беларускую вечарыну, дзе будзе паказана падрыхтаваная самадзейнымі артыстамі камедыя Францішка Аляхновіча «Чорт і баба», абяцаліся пасьля гэтага і танцы. Вечарына мела адбывацца ў залі пры царкве на рагу Avenue A і 10 Street у Мангэттане (тады гэта была карпатаруская царква, цяпер у гэтым будынку — чэхаславацкая праваслаўная царква).

Кожны новы год на чужыне беларусы Нью-Ёрку намагаліся сустракаць у сваёй грамадзе і часткаю гэтых сьвятаў заўсёды была культурная праграма. Асноўным арганізатарам пераважна выступала БАЗА. Арандаваліся залі ў Брукліне, на Мангэтане, пакуль не займелі свае памяшканьні, вось некаторыя прыклады:

1952 і 1954 гады сустракалі ў Прэмьер Палас на Сатэр Авэню ў Брукліне (Premier Palace, 505 Sutter Avenue)

1955 і 1956 гады — у Ленокс гол (Lenox Hall, 252 East Second Street) на Мангэттане, быў вялікі баль.

1959 год упершыню сустракалі ўсе разам у грамадзкім

цэнтры на Атлянтык Авэню 401. Госьцем быў а. Робэрт ван Каўэлярт з Бэльгіі, шчыры прыхільнік беларусаў, які дапамагаў беларускім студэнтам у Лювэне. Там жа праходзілі навагоднія сьвяты ў 1962 і 1964 г.г., наступны 1965 год сустракалі ў памяшканьні Фундацыі Крэчэўскага ў Куінсе.

Ад пачатку 50-х гадоў ладзіліся штогод Калядныя Ялінкі для дзяцей, да якіх з вялікай радасьцю і адказнасьцю рыхтавалася з дапамогаю дарослых беларуская дзятва, спачатку гэта былі малыя, якія прыехалі з бацькамі ў Амэрыку, а потым і ўжо народжаныя тут маленькія амэрыканскія грамадзяне з беларускіх семьяў. Звычайна Ялінкі праходзілі ў залях пры цэрквах, спачатку нанятых, а потым і ў сваёй царкве на Атлянтык Авэню 401. Гэтая традыцыя працягваецца і да сёньня.

У 70-х гадох на Атлянтык Авэню 401 сьвяткаваліся «Дажынкі», чыталіся рэфэраты пра народныя традыцыі, была мастацкая праграма, гатаваліся смачныя стравы, праводзіліся лятарэі. Зьбіралася шмат людзей з Нью-Ёрку і ваколіцаў.

Мастацкія праграмы на беларускіх імпрэзах ладзіліся творчымі сіламі беларускіх грамадзкіх арганізацый. Яны клапаціліся пра тое, каб мець свае мастацкія калектывы-хоры, вакальныя і танцавальныя групы, драматычныя гурткі, салістаў. Усё гэта патрабавалася не толькі дзеля ўласных патрэбаў нацыянальнага культурнага разьвіцьця, але і дзеля прадстаўніцтва беларускай культуры навонкі — для амэрыканскага грамадзтва. Напачатку ў культурных праграмах удзельнічалі творчыя асобы, сфармаваныя на Бацькаўшчыне, а хутка зьявіліся і новыя таленты з пакаленьня ўжо народжаных у Амэрыцы. У танцавальнай групе «Васілёк», як зазначалася

вышэй, былі задзейнічаныя дзеці паваенных эмігрантаў.

Да гэтага пакаленьня належыць і вядомы сьпявак Данчык — Багдан Андрусышын, чые выступы ўзбагачалі беларускія імпрэзы.

Данчык прадстаўляў беларускую песьню на шматлюдных форумах, у тым ліку і на сцэне Карнэгі гол. Багдан нарадзіўся і вырас ў Нью-Ёрку ў сям'і Юлі і Паўла Андрусышын у Мангэттане на 6 Street. Маці ягоная паходзіць з роду лідэраў беларускага Адраджэньня Івана і Антона Луцкевічаў. Прабабуля Данчыка — Эмілія Шабуня прыходзілася братам Луцкевічам роднай сястрою, яна таксама жыла ў Нью-Ёрку на St. Mark's Place разам з дачкою Янінаю Каханоўскаю — маці сп. Юлі. З дзяцінства Багдан быў далучаны да беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку. Украінскае імя ён атрымаў праз бацьку — украінца, часта выступаў і на украінскіх канцэртах. Дасканала валодае як беларускаю, так і украінскаю мовамі. Скончыў Нью-Ёркскі універсытэт і шмат гадоў, як журналіст, працуе ў Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода у Празе. Пад час прыезду ў Нью-Ёрк саліста ансамбля «Песьняры» Лявона Барткевіча з жонкаю Вольгаю Корбут Данчык пасябраваў з імі і разам з Лявонам яны запісалі кружэлку «Мы адной табе належым».



*Багдан Андрусышын*




«Мы адны табе належым»

Данчык і і танцавальная група «Васілёк» былі першымі, хто пазнаёміў беларусаў на Беласточчыне і на Бацькаўшчыне з культурнымі набыткамі беларускай іміграцыі ў Амэрыцы. Данчык упершыню наведаў Беларусь увосень 1989 году і выступіў там з канцэртамі. Ягоныя песьні зрабілі на беларускую публіку надзвычайнае ўражаньне. Новае беларускае Адраджэньне немагчыма сёньня ўявіць без песьняў Данчыка, якія выклікалі захапленьне і наздвычайны патрыятычны ўздым. Дасканалая беларуская мова прыгожага нью-ёркскага хлопца вабіла многіх да таго, каб размаўляць па — беларуску. Данчык яшчэ некалькі разоў быў у Беларусі і ягоныя канцэрты праходзілі з вялізным посьпехам. Запісы ягоных песьняў імгненна разыходзіліся, найлепшымі ягонымі слухачамі былі маладыя людзі, для беларускай моладзі асоба Данчыка сталася добрым прыкладам патрыятычнага самаўсьведамленьня.

«Васілёк» пасьля выступаў на Беласточчынеі ў 1990 годзе

накіраваўся ў Беларусь. Танцавальная група мела выступы ў розных гарадох Беларусі — Менску, Полацку, Гародні, Вільні. Беларускія народныя танцы ў дасканалым выкананьні маладых і прыгожых юнакоў і дзяўчат у нацыянальных строях паўсюдна выклікалі ўсеагульнае захапленьне гледачоў. Моладзь дзівілася, як гэта ў Нью-Ёрку можна так добра навучыцца танцаваць «Польку» ці «Крыжачок».

Данчык і «Васілёк» шчасьліва вярнуліся дадому, а ў Беларусі яны пакінулі незабыўныя ўспаміны, прадстаўленая імі культурная праграма сталася важкім набыткам для беларускага грамадзтва на Бацькаўшчыне, стала часткаю таго бурнага працэсу Адраджэньня беларускай нацыі, якое прывяло да аднаўленьня дзяржаўнай незалежнасьці краіны. І да гэтага часу ў Беларусі глядзяць фільмы, відэа і аўдыязапісы з іхнымі выступамі. Нью-Ёркская моладзь з беларускімі каранямі перакінула трывалы масток паміж беларускай іміграцыяй у Амэрыцы і яе далёкай Бацькаўшчынаю.


*Мікола Цыкоўскі*

Асобна варта сказаць пра беларускіх мастакоў у Нью-Ёрку. Пачаць трэба з 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Лічыцца, што беларускія іміграны тых часоў не пакінулі творчых набыткаў, але, ёсьць выключэньне. У Нью-Ёрку засталіся творы, аўтарам

якіх быў мастак з беларускімі каранямі. У 20-я гады ягонае імя было вельмі папулярным сярод Нью-Ёркскай творчай багемы. Імя гэтага мастака — Мікалай Цыкоўскі (Nicolai Cikovsky). Зьвестак пра яго не знойдзецца сёньня ў беларускіх даведніках.

Адзіны артыкул пра Міколу Цыцкоўскага быў надрукаваны ў Беларусі ў газэце «Новы час» ад 9 красавіка 2010 году пад назваю «Амерыканскі мастак з Паўночна-Заходняга краю», напісаны паводле інфармацыі Арыны Вячоркі. Падаем тут больш падрабязныя зьвесткі пра мастака, сабраныя з розных крыніцаў у інтэрнэце.

У амэрыканскіх даведніках месцам нараджэньня Цыкоўскага пазначаецца Польшча ці Расея. У Амэрыцы яго пераважна лічылі расейскім мастаком. Аднак, ён нарадзіўся ў Пінску ў 1894 ці 1896 годзе ў шматдзетнай сям'і Вольгі Макарэвіч і сталяра Сцяпана Цыцкоўскага. У сям'і было чацьвёра дзяцей, Мікола сярод іх выдзяляўся здольнасьцямі да маляваньня, якія выявіліся вельмі рана. Мастацкі талент патрабаваў рэалізацыі і гэта прывяло Міколу ў адну з мастацкіх вучэльняў у Вільні. У ягонай амэрыканскай біяграфіі згадваецца, што ў 1913 годзе разам з Суціным, Крэменем і іншымі, на знак пратэсту супраць кансерватыўных метадаў навучання, Мікалай сышоў з вучэльні і паступіў у Пензенскую мастацкую вучэльню. Але, ёсьць меркаваньне, што хутчэй за ўсё юнак трапіў у Пензу ў Першую сусьветную вайну пад час эвакуацыі школы ў 1915 годзе, Пры саветах быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, дзе зьмяніў прозьвішча Цыцкоўскі на Цыкоўскі.

У 1921 годзе Мікалай працягнуў адукацыю ў знакамітых Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрнях, вядомых у

Савецкім Саюзе пад скарочанаю назваю ВХУТЕМАС(на расейскай мове — Высшие художественно-технические мастерские) адчыненыя ў Маскве ў 1920 годзе, статус якіх прыраўноўваўся да Акадэміі.

У пошуках заробкаў ў 1918 годзе выправіўся з дому бацька мастака і зьнік без сьледу, а потым шукаць лепшую долю паехаў у Амерыку брат Рыгор. Пасьля Рыжскай дамовы 1921 году Пінск адыйшоў да Польшчы, за мяжой апынуліся маці з сёстрамі.

Вольналюбівы мастак не змог прыжыцца ў пасьлярэвалюцыйнай Расеі і ў 1923 годзе таксама паехаў ў Амэрыку. Тут ён блізка сышоўся з «бацькам расейскага футурызму» і «амэрыканскім Ван Гогам» Давідам Бурлюком, які прыехаў у ЗША годам раней. Цыкоўскі быў нават хросным бацькам дзяцей Бурлюка. Да іхнай кампаніі далучыліся браты Рафаэль і Мозэс Сойеры з Тамбоўшчыны і інш.. Пад час свайго вымушанага адкрыцьця Амэрыкі выгнаньнікі трымаліся разам як у звычайным, так і творчым жыцьці. Але, кожны шукаў свой шлях і сваё месца ў культурнай сфэры Новага Сьвету.

Эмацыйныя ўспрыняцьці ад сустрэчы з Амэрыкаю адбіліся ў сэрыі краявідаў Мікалая Цыкоўскага, прысвечаных Нью-Ёрку. У 1931-1932 гадах ён выстаўляецца ў Нью-Ёрку ў галерэі Дэніэлса, затым у галерэях Чыкага, Філадэльфіі, Лос-Анджэлеса.

Сталы жыхар Нью-Ёрка, знаны ў прафэсійных колах мастак і выкладчык Мікалай Цыкоўскі толькі пасля вайны даведаўся, што пад акупацыяй, у 1942 годзе, памерла ягоная маці. Пазьней ён вёў перапіску з пляменьніцамі ў Беларусі.

Зямное жыццё Мікалая Цыкоўскака - доктара філязофіі

Гарвардскага універсітэта (1965), дырэктара Тэхаскага музея мастацтваў у Осьціне (1970), сябра Нацыянальнай Акадэміі мастацтваў, Нацыянальнага інстытута мастацтваў, літаратуры і супольнасці мастакоў, дойлідаў і гравёраў ЗША, удзельніка прэстыжных аўкцыёнаў і выставаў (толькі ў Амерыцы прайшло больш за 20 персанальных) завяршылася ў Вашынгтоне ў 1987 годзе.

У Вашынгтоне жыў і сын мастака, народжаны ў 1933 годзе, таксама Мікалай. Пасля заканчэння Гарвардзкага універсітэта ён атрымаў ступень доктара філязофіі і гісторыі мастацтваў, выкладаў гісторыю мастацтваў у каледжах і універсітэтах ЗША, быў галоўным куратарам амерыканскага жывапісу ў Нацыянальнай галерэі.

Творы Міколы Цыкоўскага знаходзяцца ў вядомых музэях Амэрыкі (the Museum of Fine Arts, Boston; the Brooklyn Museum, Brooklyn, New York; the Art Institute of Chicago; Los Angeles County Museum of Art; the Metropolitan Museum of Art, New York; the Museum of Modern Art, New York; the Whitney Museum of American Art, New York; the Carnegie Museum of Art, Pittsburgh; and the Phillips Collection, Washington, D.C.). Таксама ягоныя абразы прадаюцца на мастацкіх аукцыёнах. Імя Мікалая Цыкоўскага можна знайсьці ў Брытанскай энцыкляпедыі. Але, на жаль, не ў Беларускай.

У Нью-Ёрку жыў Мсьціслаў Дабужынскі — вядомы расейскі і амэрыканскі мастак, прыехаў у ЗША у 1939 годзе, памёр у 1957 годзе. Меў кантакты з беларускай іміграцыяй, бо з маладосьці быў зьвязаны з беларусамі. Ягоны бацька — расейскі артылерыйскі афіцэр быў нашчадкам абруселага старадаўняга літоўскага роду. Разам з бацькам Мсьціславу

давялося шмат разоў пераязджаць з месца на месца. Гімназічную адукацыю ён заканчваў ў Вільні. Быў першым дырэктарам Віцебскай мастацкай вучэльні ў 1919 годзе, афармляў спектаклі Беларускага драматычнага тэатра ў першыя гады дзейнасьці. Для беларусаў таксама цікавы факт, што менавіта Дабужынскі афармляў выданьне знакамітай «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага, якая выйшла ў Коўна (Літва) ў 1926 годзе.

Адносіны да Беларусі меў і яшчэ адзін сусьветна вядомы мастак Марк Ротка (Mark Rothko), які жыў у Нью-Ёрку.


*Марк Ротка*

Маркус Якаўлевіч Ратковіч (сапраўднае імя) нарадзіўся 25 верасня 1903 у Дзьвінску Віцебскай губерні ў габрэйскай сям'і. Цяпер гэта горад Даўгаўпілс у Латвіі, дзе яму пастаўлены помнік.

Напярэдадні Першай сусьветнай вайны сям'я выехала ў ЗША. Вучыўся ў Йельскім ўніверсітэце, але кінуў навучаньне і вярнуўся туды толькі праз 46 гадоў, каб атрымаць ганаровую ступень доктара прыгожых мастацтваў. Марк Ротка вядомы сваім абстрактным жывапісам каляровага поля, стварыў цыкл так званых мультыформ — палотнаў, якія складаліся з некалькіх колеравых плоскасцяў.

У 1929 стаў выкладаць выяўленчае мастацтва ў Цэнтральнай акадэміі, дзе працаваў да 1952 году.

Сябраваў з прадстаўнікамі позьняга абстрактнага

экспрэсіянізму (Джэксан Полак, Уільям дэ Кунінг, Аршыле Горкі).

Вядомы цыкл абразоў Роткі пад назваю «Нью-Ёркскія падземкі».

Апошнімі значнымі творамі Марка Ротка сталіся 14 абразоў, створаных для капэлы царквы ў Х'юстане (Houston).

Дэпрэсіўны стан на глебе алкаголю прывёў да таго, што напрыканцы 1969 мастак адасобіўся ў сваёй майстэрні на Мангэтэне, дзе скончыў жыццё самагубствам 25 лютага 1970 году.

Творы Марка Роткі на аукцыёнах зьяўляюцца аднымі з найбольш дарагіх у сьвеце.



*Адзін з абразоў Марка Роткі з цыкла «Нью-Ёркскія падземкі»*

Беларускае нацыянальнае выяўленчае мастацтва прадстаўлена ў творчасьці мастакоў паваеннага пакаленьня

эміграцыі. Іх творы ў адрозьненьне ад папярэднікаў бальшынёю зьвязаны з беларускай тэматыкаю. У хатах некаторых старэйшых беларусаў ёсьць абразы мастака Пётры Міpановіча. Мастак жыў у Брукліне, працаваў супервайзерам ў адным з бруклінскіх будынкаў, трымаўся за гэтую працу таму, што яна давала яму магчымасьць мець сваю мастацкую студыю для творчай працы. Студыя займала ў тым доме цэлы паўпадвал, дзе было дастаткова месца для маляваньня. Міpановіч маляваў шмат абразоў з куточкамі бруклінскага парку. Ён зьяўляецца аўтарам вядомага абраза «Беларускія імігранты». Ідэя абраза была падказаная мастаку сп. Зорай Кіпель. Пасьля завяршэньня працы спадарства Кіпеляў купілі гэты твор і захоўвалі ў сябе дома з мэтаю ўжываць яго дзеля грамадзкіх патрэбаў.

Абраз дэманстраваўся на мастацкіх выставах пад час вядомых этнічных фэстываляў ў Нью Джэрзі, дзе актыўны ўдзел брали беларусы і пра што сп. Янка Запруднік напісаў асобную кнігу « Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі» Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948 – 2011 гг., Нью-Ёрк, 2013)



*Беларускія імігранты. Абраз Пятра Міратовіча.*

Пад час аднаго з фестывааляў, дзе выступалі акрамя

аматараў і прафесійныя артысты, на абраз зьвярнуў пільную ўвагу знакаміты італьянскі тэнар Лючано Павароцьці, які быў запрошаны для ўдзелу ў праграме Цэнтру мастацтваў штату Нью Джэрзі. Сумныя постаці імігрантаў выклікалі настальгічныя асацыяцыі ў сьпевака і ён запытаў, ці мог бы набыць гэты абраз. Прадстаўнік адміністрацыі фестываля зьвязаўся з беларусамі і запытаў, ці яны згодныя на продаж. Але, такая згода не была дадзеная з тлумачэньнем, што для беларусаў гэта нацыянальная каштоўнасьць. Пасьля адыходу ў вечнасьць сп. Зоры, сямья Кіпеляў вырашыла перадаць абраз у Музэй эміграцыі на востраве Эліс.

У 70-х гадох у Нью-Ёрку былі арганізаваныя выставы мастакоў з беларускай дыяспары на Захадзе — з Амэрыкі і іншых краінаў,

9 сьнежня — 3 лютага 1974 ў залі пры царкве на Атлянтык Авэню 401 дэманстраваліся творы Уладзіміра Шыманца (Францыя), Івонкі Сурвіллы (Канада), Міхася Навумовіча (Францыя), Віктара Жаўняровіча (Францыя), мастакоў з беларускай іміграцыі ў ЗША — Ірэны Рагалевіч, Пётры Мірановіча, Надзі Кудасавай і інш..

Праз два гады, 28 лістапада — 31 сьнежня 1976, на Атлянтык Авэню 401 адбылася другая падобная выстава. Нью-Ёркскія беларусы маглі пабачыць новыя творы ранейшых удзельнікаў і новых мастакоў — Галіны Русак, Тамары Стагановіч, Людмілы Махнюк і інш.

Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва запрасіў з персанальнай выставаю ў Нью-Ёрк 20 траўня — 3 чэрвеня 1979 году вядомага беларускага мастака з Парыжу Міхася Навумовіча, ягоныя творы былі выстаўлены таксама на

Атлантык Авэню 401.

Адметнай падзеяю для беларусаў Нью-Ёрку сталася дэманстрацыя выставы беларускай мастачкі Галіны Русак з Нью Джэрзі ў лютым-сакавіку 1974 году на Мангэттане ў галярэі Нью-Ёрскскага мастацкага жаночага клюбу SOHO20 Gallery. Гэты раён Нью-Ёрку вядомы, як прэстыжны асяродак мастацкага жыцьця, і гэта быў гонар для беларускай мастачкі быць прадстаўленай нью-ёркскай творчай публіцы. У SOHO адбыліся яшчэ дзьве выставы Галіны Русак, апошняя праходзіла 6 лістапада — 1 сьнежня 1976 году.



# Выдавецкая, навуковая і асьветная дзейнасьць

Як выглядае, да Другой сусьветнай вайны беларусы ў Амэрыцы не выдалі ніводнай кнігі. Ранейшая іміграцыя складалася пераважна з працоўных людзей, якія выязджалі на заробкі, да таго ж яны слаба ўсьведамлялі сваю нацыянальную адметнасьць і таму не адчувалі моцнай патрэбы ва ўласным друкаваным слове. Беларуская выдавецкая дзейнасьць пачалося пасьля вайны ўжо новым пакаленьнем імігрантаў. І шмат чаго ў гэтай справе рабілася ў Нью-Ёрку.

20 лістапада 1949 быў закладзены Беларускі выдавецкі фонд дзеля фінансавай падтрымкі беларускай выдавецкай дзейнасьці, куды ўваходзілі Міхась Тулейка, Міхась Міцкевіч, Натальля Арсеньнева, Лявон Трусевіч. Пазьней гэты фонд злучыўся з газэтаю «Беларус».

Друкарска-Выдавецкая Суполка імя Францішка Скарыны была заснавана ў Нью-Ёрку ўлетку 1952 году, у 1954 годзе яна ператварылася ў Друкарска-Выдавецкую суполку «Пагоня». Мэта дзейнасьці — дапамога ў выданьні дапаможных матэрыялаў і падручнікаў для беларускіх нядзельных школ. Суполка выдала вялікую колькасьць падручнікаў, чытанак, картаў і інш. матэрыялаў. Старшынёю суполкі быў Юрка

Станкевіч.

Выдавецтва «Заранка» было заснаванаяя ў Нью-Ёрку Язэпам Гладкім на пачатку 1960-х гадоў, выдавала школьныя падручнікі і адукацыйна-дасьледчыя матэрыялы. Спыніла дзейнасьць у 1972 годзе з прычыны сьмерці сп. Гладкага.

Беларускае выдавецтва «Час» было заснаванае ў Нью-Ёрку ў 1975 годзе пад кіраўніцтвам Расьціслава Гарошкі, выдавала газэту «Byelorussian Times», існавала да сярэдзіны 1980-х гадоў. Адноўлена ў сярэдзіне 90-х.

Выдавецкая дзейнасьць задавальняла самыя першыя патрэбы імігрантаў, каб мець сваю літаратуру для навучаньня малодшага пакаленьня. З Бацькаўшчынаю не было сувязяў, да таго ж, тая літаратура, падручнікі, якія ўжываліся ў Беларусі, былі пранізаныя савецкай ідэалёгіяй і прапагандай, скажалі гісторыю краіны, ужывалі скалечаную рэформамі беларускую мову.

З цягам часу выдавецкая дзейнасьць пачала ўздымацца на больш высокі ўзровень, друкавалася навуковая, дасьледчая, публіцыстычная літаратура, створаная самімі эмігрантамі і перавыдавалася патрэбнае з іншых беларускіх інтэлектуальных набыткаў. Усяго ў Нью-Ёрку было выдадзена прыкладна 230 назваў беларускіх кніжак.

Паваенная іміграцыя мела дастатковы інтэлектуальны патэнцыял для разьвіцьця навуковай дзейнасьці, пераважна ў гуманітарнай галіне — гісторыі, культуры. Актыўнае ядро эміграцыі складалі людзі з вышэйшай адукацыяй, атрыманай на Бацькаўшчыне, у Вільні, Чэхіі ці ў Заходняй Эўропе.

Яшчэ ў Нямеччыне ў лягерах для ўцекачоў было закладзеная ў чэрвені 1946 году Крывіцкае (Беларускае) Навуковае

Таварыства Праньціша Скарыны, заснавальнік Янка Станкевіч. Бальшыня сяброў неўзабаве перабраліся ў ЗША, дзе Таварыства аднавіла дзейнасьць і існавала да 1976 году, калі памёр сп. Станкевіч. У 1951 годзе Таварыства пачало выдаваць навуковы часопіс «Веды».

Як паказаў час, найбольшым дасягненьнем у галіне навукі можна лічыць заснаваньне ў Нью-Ёрку Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва (БІНіМ) 16 сьнежня 1951. Першы гадавы справаздачны сход Інстытуту адбыўся 14 сьнежня 1952 году ў Беларускай Хатцы ў Брукліне. Асноўнаю мэтаю БІНІМ было дэкляравана абьяднаньне навукоўцаў-беларусаведаў ды іншых працаўнікоў на ніве беларускай культуры. Гэты тэрмін — беларусаведа можна лічыць удалым вынаходніцтвам беларускай эміграцыі. Ён вельмі ёмка абазначае самапавагу і высокае нацыянальнае ўсьведамленьне беларусаў, жаданьне паняволенага народу пазнаць сваю гісторыю і культуру. Вось гэтыя беларусаведныя дасьледаваньні і сталіся асноўнаю мэтаю БІНІМ. Інстытут заснаваў у 1952 годзе сваё ўласнае навуковае выданьне «Запісы БІНІМ» для публікацыі дасьледаваньняў і мае ўжо каля чатырох дзесяткаў тамоў, якія ёсьць багатаю крыніцаю аб'ектыўнай, незалежнай ад ідэялягічных уплываў інфармацыі пра гісторыю і культуру беларускай нацыі. Інстытут склікаў навуковыя паседжаньні, канфэрэнцыі. Напрыклад, 13 ліпеня 1952 году БІНІМ зладзіў акадэмію да 10-х угодкаў гібелі Янкі Купалы. Далей адбыліся акадэміі, прысьвечаныя 100-гадоваму юбілею Яўхіма Карскага ў 1961 годзе, 100-гадовым юбілеям Янкі Купалы І Якуба Коласа ў 1982 годзе і інш.

Інстытут разьвіў багатую выдавецкую дзейнасьць. Акрамя

«Запісаў» БІНІМ выдаваў бюлетэнь «Абежнік», літаратурны часопіс «Конадні», выдаў мноства кніг, сярод іх творы беларускіх літаратараў у замежжы. БІНІМ плённа супрацоўнічае з рознымі навуковымі ўстановамі і бібліятэкамі ў ЗША, Беларусі і інш. краінах. Старшынямі БІНІМ былі Уладыка Васіль Тамашчык, Янка Ліманоўскі, Вітаўт Тумаш і ад красавіка 1982 году Інстытут узначальвае доктар Вітаўт Кіпель.




*Вітаўт Кіпель*

З мэтаю захаваньня дакумэнтаў і матэрыялаў пра гісторыю беларускай эміграцыі, пра дзейнасьць Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на выгнаньні і фінансавай падтрымкі беларусаведных дасьледаваньняў 2 чэрвеня 1959 году ў Нью-Ёрку з ініцыятывы Рады БНР была заснаваная адмысловая арганізацыя — Фундацыя Крэчэўскага. Афіцыйнае

заснаваньне Фундацуыі адбылося ў памяшканьні рэстарана «Стакгольм « на Мангэттане. Была абраная Рада дырэктараў у складзе: Антон Адамовіч, Віталь Кажан, Натальня Арсеньнева, Кастусь Мярляк, Антон Шукелойц, Вітаўт Тумаш. У адпаведнасьці з амэрыканскімі законамі Фундацыя была зарэгістраваная, як самастойная, непрыбытковая, карпаратыўная арганізацыя, якая павінна мець не толькі кіраўніцтва, але і сяброў.

Першыя сродкі на заснаваньне беларускага культурнага цэнтру ў Амэрыцы, у якім будзе знаходзіцца архіў-музэй, былі атрыманыя ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.



*Антон Адамовіч*

Паміж Радаю БНР і Фундацыяй 1 ліпеня 1960 году была заключаная адпаведная дамова. У дамове напісана, што «пастановы, датычныя да распараджэньня маёмасьцю Фундацыі, падлягаюць зацьвярджэньню Прэзыдэнтам Рады БНР».

У 1960 годзе старшынём Рады дырэктараў Фундацыі быў абраны Мікола Гарошка. Рада дырэктараў занялася пошукам адпаведнага будынку для архіва-музэя. 14 сьнежня 1964 году Фундацыя афарміла куплю чатырох дамоў у Квінсе, у раёне Джамэйка(Jamaica), на вуліцы Gothic Drive. На першы ўзнос былі скарыстаны сродкі, перададзеныя Радаю БНР, астатні кошт быў пакрыты пазычкаю ў банку, якая

сплачвалася з прыбыткаў са здачы кватэраў у арэнду у будынках. Памяшканьні Фундацыі таксама пачалі выкарыстоўвацца для правядзеньня беларускіх імпрэзаў, канфэрэнцый і інш. грамадзкіх патрэбаў.

Пазьней з розных прычынаў утрымаць усе купленыя дамы не ўдалося, у 1979 годзе было вырашана прадаць два дамы, потым быў прададзены трэйці, ва ўласнасьці Фундацыі з 1983 году застаўся толькі адзін дом.

Прыбыткі Фундацыі не толькі пакрывалі пазычку, але і дазволілі стварыць фінансавыя запасы, які скарыстоўваліся на беларускія справы — выданьне кніг, выдачу грантаў на іншыя адпаведныя праекты.

Цягам сваёй дзейнасьці Фундацыя сабрала даволі багатыя архівы і бібліятэку, розныя экспанаты ды партрэты значных асобаў беларускай гісторыі. Вядзецца праца па іх упарадкаваньню.

Пасьля сп. Гарошкі старшынямі Рады дырэктараў Фундацыі былі : Вітаўт Тумаш (1979 - 1982 г.г.), Францішак Бартуль (1982 - 2005 г.г.), Сяржук Сокалаў-Воюш (2005 - 2009 г.г.), Вячка Станкевіч — працягвае ад 2009 году.



*Вітаўт Тумаш*

З мэтаю ўдасканаленьня дзейнасьці Фундацыі была зроблена яе юрыдычная перарэгістрацыя. 20 ліпеня 2015 году штатны універсытэт і

Аддзел адукацыі штату Нью-Ёрк зацьвердзіл Статут новай арганізацыі — Беларускай фундацыі Крэчэўскага (Belarusian Kreceuski Foundation). Пасьля атрыманьня дазволу для новай Фундацыі на звальненьне ад фэдэральных і некаторых штатных і гарадзкіх падаткаў, на сваім апошнім агульным сходзе 15 красавіка 2016 гістарычная Фундацыя самаліквідавалася і ўся яе маёмасьць была перададзена Беларускай фундацыі Крэчэўскага. Фундацыя знаходзіцца на тым жа адрасе — 166 -34 Ghotic Drive, Jamaica, NY 11432



*Будынак фундацыі Крэчэўскага*

Фундацыя фінансава дапамагала выдаваць многія беларускія кнігі, шмат гадоў падтрымлівала выданьне публікацый БІНІМу, найперш, гадавіка «Запісы». У залі Фундацыі дзесяткі гадоў адбываліся беларускія грамадзкія зборкі, сустрэчы, праходзілі пасяджэньні Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА. Таксама БІНІМ ладзіў там свае навуковыя

канфэрэнцыі. На адрасе Фундацыі лічыліся некаторы час Галоўная управа БАЗА і газэта «Беларус».

У 1965 годзе Нью-Ёркскі аддзел БАЗА ў памяшканьні Фундацыі ладзіў цэлы шэраг літаратурна-навуковых вечароў.

Для падтрымкі беларусаведных дасьледаваньняў 24 ліпеня 1974 году Янкам і Марыяю Станкевічамі была заснаваная прыватная дабрачынная Вялікалітоўская (Беларуская) Фундацыя імя Льва Сапегі. Мэтаю Фундацыі была і публікацыя працаў Янкі Станкевіча, у 1990 годзе быў выдадзены ягоны Вялікалітоўска(беларуска)-расейскі слоўнік.

Шмат увагі беларускія грамадзкія арганізацыі ў Нью-Ёрку надавалі асьветнай дзейнасьці, асабліва сярод моладзі. У 1970-х гадох для моладзі ладзіліся ў памяшканьні Freedom House у цэнтры Мангэтэна «Беларускія дыялёгі», якія працягваліся некалькі гадоў. Курсы мелі форму пытаньняў і адказаў на беларускую тэматыку, вялі іх Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік

Напрыканцы 1970-х гадоў пры Нью-Ёрскім гарадзкім універсытэце па ініцыятыве студэнткі-беларускі Галіны Тумаш і пры падтрымцы прафэсара Пятра Гоя чытаўся курс «Беларуская спадчына», лектарамі былі таксама Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель.

З ініцыятывы амэрыканскага прафэсара-беларусіста Томаса Бэрда і падтрымцы БІНіМа ў Куінсаўскім каледжы Нью-Ёркскага універсытэта (Queens College of the City University of New York, Flushing) у 1971-1973 гадох чыталася сэрыя лекцый для моладзі пра беларускую літаратуру і культуру. Лектарамі былі беларускія дзеячы. У гэтым жа каледжы была праведзена сэрыя літаратурных лекцыяў пад назваю

«Вечары з беларускімі пісьменьнікамі» для студэнтаў і для беларускай моладзі Нью-Ёрку. На іх пабывалі шмат вядомых пісьменьнікаў з Беларусі і дыяспары — Анатоль Вярцінскі, Алесь Адамовіч, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Вера Рыч, Аляксандр Надсан, Масей Сяднёў і інш.

У Нью-Ёрку выдаваліся беларускія музычныя кружэлкі, выраблялiся розныя сувеніры, вышыванкі. Сваім майстэрствам была шырока вядомая мастачка — вышывальшчыца Юля Андрусышын.




*Юля Андрусышын*

Асьветная дзейнасьць была скіравана не толькі на беларускую іміграцыю, але і на інфармацыю амэрыканскага грамадзтва пра Беларусь. У гэтай справе найбольш было зроблена праз Нью-Ёркскую публічную бібліятэку, адну з найбуйнейшых у Амэрыцы.

Нью-Ёркская публічная бібліятэка зьбірала беларускія матэрыялы задоўга да 1918 году, калі Беларусь яшчэ не абазначалася, як самастойная краіна. Але, асабліва гэты збор актывізаваўся з таго часу, калі ў Бібліятэку прыйшлі працаваць беларусы — Зора і Вітаўт Кіпелі. Абодва прыехалі ў Амэрыку ўжо з вышэйшай адукацыяй, атрыманай у Бэльгіі, у ЗША вывучалі бібліятэчную справу ў Ратгераўскім унівэрсытэце. Іх высокая адукацыя і набытая кваліфікацыя дазволіла ім атрымаць добрыя пасады ў

Бібліятэцы, і ў сваю чаргу гэта дапамагала рэалізаваць іхныя пляны напоўніць як найбольш літаратураю пра Беларусь фонды Бібліятэкі. І гэта ім удалося найлепшым чынам.



*Нью-Ёркская публічная бібліятэка*

Беларускі кнігазбор у Нью-Ёркскай бібліятэцы самы вялікі ў ЗША (беларускія зборы яшчэ маюць Гарвардзкі ўніверсытэт, Калюмбійскі, Стэнфардзкі, бібліятэка Кангрэсу). Ён налічвае некалькі тысячаў кніг і перыядычных выданьняў на беларускай мове, а таксама тысячы кніг і публікацый у іншых мовах, якія маюць дачыненьне да Беларусі. Калекцыі Бібліятэкі сталіся крыніцазнаўчаю базаю для разьвіцьця беларусаведных дасьледаваньняў на Захадзе. Бальшыня апублікаваных у ЗША навуковых працаў на беларускую тэматыку пісалася ў Нью-Ёркскай бібліятэцы. Наведвалі Бібліятэку і дасьледчыкі

з Беларусі. Шмат часу правёў у Бібліятэцы пісьменьнік Пятро Глебка. Алег Пашкевіч, першы сакратар Прадстаўніцтва Беларусі пры ААН, зьбіраў тут матэрыялы для магістарскай працы. З беларускімі зборамі ў Бібліятэцы працавала Натальля Звонак — дацэнт Беларускага ўніверсытэта замежных моваў з Менску (прыёмная дачка пісьменьніка Алеся Звонака), тэма яе навуковай працы была «Беларускасьць другога пакаленьня эміграцыі», на жаль яна не была апублікаваная з-за хуткай пасьля побыту ў Нью-Ёрку заўчаснай сьмерці дасьледчыцы.

У Бібліятэцы захоўваюцца не толькі кніжныя зборы, але, як вядома з публікацыі Людмілы Шпылёвай у 23 выпуску «Запісаў» БІНІМа (ст.59 - 65), у сховішчы Бібліятэкі некалі трапілі акварэлі беларускага мастака Эраста Сукоўскага. Пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расеі бальшавікі распрадавалі на Захад мастацкія творы, кнігі, гістарычныя рэліквіі. Так, у 1934 годзе ў Славянскі аддзел Нью-Ёркскай бібліятэкі трапіла тэчка з надпісам «Виды Полесья», дзе былі фотаздымкі і літаграфіі з выявамі балотаў Палесься. Арыгіналы, з якіх былі зробленыя літаграфіі, трапілі у Бібліятэку значна пазьней — у 1998 годзе. Нашчадкі вядомага амэрыканскага калекцыянера Пола М. Фікулы (Paul M. Fekula) перадалі ў Бібліятэку разам з іншымі зборамі і сем аквrэляў з відамі Палесься. Пяць з іх аказаліся прыналежнымі аднаму аўтару і менавіта з іх былі зробленыя згаданыя вышэй літаграфіі. Аўтарам акварэляў, як выявілася пад час дасьледаваньня, быў беларускі мастак Эраст Сукоўскі, які жыў у Менску напачатку 20 ст. і Імя ягонае ёсьць у Беларускай энцыкляпедыі.

Нью-Ёркская публічная бібліятэка заўсёды была добрым

прапагандыстам беларускае кніжнае спадчыны, дзякуючы, найперш, таму, што ў ёй доўгія гады працавалі шчырыя беларускія патрыёты, інтэлектуалы і і руплiўцы на беларускай ніве Зора і Вітаўт Кіпелі. Беларуская тэматыка шырока прапагандавалася імі праз выставы.

16 ліпеня — 16 жніўня 1957 году Нью-Ёркская публічная бібліятэка ладзіла ў Славянскім аддзеле выставу беларускага друку пад назваю «Вехі беларускага пісьменства». Плякаты пра выставу памерам 100х60 см былі выстаўленыя бліз паўгоду на 5 Авэню.

З нагоды 90-х угодкаў Купалы і Коласа з 1 сакавіка да 15 траўня 1973 году Бібліятэка дэманстравала выставу ў файе Славянскага аддзелу пад назваю «Янка Купала і Якуб Колас — барды беларускай літаратуры»

У лютым 1983 году у Бібліятэцы была выстава, прысьвечаная 100-годдзю ад нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа.


*Зора і Вітаўт Кіпелі*

Беларуская прысутнасьць у Нью-Ёркскай бібліяты працягнулася і пасьля адыходу на пенсыю спадарства Кіпеляў. Беларсускую тэматыку ў Бібліятэцы прадаўжае падтрымліваць дасьледчык — беларусіст Лявон Юрэвіч з новай эміграцыі з Беларусі.

Нью-Ёркская публічная

бібліятэка была папулярным месцам для беларусаў не толькі для дасьледчай працы, але і месцам сустрэчаў. Сп. Вітаўт Кіпель згадвае, што пад час ягонай працы ў Бібліятэцы да яго часта наведваліся многія нью-ёркскія беларусы, каб пабачыцца, нешта абмеркаваць, даведацца пра навіны. Натальля Арсеньнева таксама любіла гэты інтэлектуальны асяродак.

Паэтка часта адпачывала ў перапынках на працы каля Бібліятэкі, сядзела на ступенях і глядзела на каменных ільвоў, якія ляжаць паабапал асноўнага ўваходу ў Бібліятэку. Сп. Кіпель згадвае, што паэтка казала яму пра тое, якое «ільвы» робяць на яе моцнае ўражаньне: «Уплываюць нечым магутным. Добры сымбаль для Бібліятэкі». Каменным ільвам каля Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі Натальля Арсеньнева прысьвяціла адмысловы верш «Ільвы», падаем урывак:



*Натальля Арсеньнева, 1973 г.*

*Дзень залаты, як мёд пчаліны. Яму б — васковая вуза*
*Палёў асеньніх, дзераза дарог і вогнішчы асінаў,*
*А ня муры, граніт сівы, што сочаць ночна і надзенна*
*Два львы на цокалях каменных і з німбам грыў ля галавы.*

Стылізаваная выява ільвінай галавы ёсьць афіцыйным сымбалям Бібліятэкі.



## Грамадзка — палітычная дзейнасьць

Паваенную беларускую іміграцыю пераважна складалі ўдзельнікі нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі пад Польшчаю і ў Беларусі пад нямецкай акупацыяй. Гэта былі палітычна і грамадзка сьведамыя актыўныя людзі, якія пры ўсіх неспрыяльных абставінах шукалі і знаходзілі магчымасьці змагацца за свой нацыянальны інтарэс. Вяртаньне савецкай улады ў Беларусь пасьля вайны вымусіла іх падацца на Захад, у эміграцыю, ратуючыся ад перасьледу і немінучай расправы з боку савецкіх карных органаў. Але і на чужыне яны працягвалі сваю актыўную палітычную дзейнасьць, бо іхная Бацькаўшчына не была свабоднаю і незалежнаю дзяржаваю і іміграны лічылі сваім абавязкам па меры іх магчымасьцяў дапамагаць і спрыяць таму, каб Беларусь не была выкінутая з гісторыі сьвету. Для іх ідэя дзяржаўнай незалежнасьці, гістарычная сымболіка, нацыянальна культура і мова былі прыярытэтнымі. На чужыне іміграны захавалі асноўны сымбаль дзяржаўнасьці — Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня», забароненыя ў Беларусі. Штогод беларуская іміграцыя ў Амэрыцы і ў Нью-Ёрку адзначала найвялікшыя нацыянальныя сьвяты — Дзень абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году і ўшаноўвала гераічныя

ўчынкі змагароў за Беларусь у Слуцкім паўстаньні 1920 году.

Першыя сьвяточныя імпрэзы ладзіліся паваеннымі імігрантамі ў сьціплых умовах. У 1951 годзе 25 Сакавіка адзначалі ў Брукліне — у Беларускай хатцы адбылася багаслужба, а ўрачыстая акадэмія і канцэрт у спецыяльна арандаванай залі.

Але, праз год, у 1952 годзе, Нью-Ёркскія беларусы адзначалі Сакавік ужо на Мангэттане. Багаслужба прайшла ў Царкве Сьв. Тройцы, акадэмія — ў залі Бэтховэн Голл (Beethoven Hall, 210 East 14 Str. і 5 Авэню). Сабралася каля паўтысячы чалавек з Нью-Ёрку і ваколіцаў. Адчыніў сьвята старшыня БАЗА Францішак Кушаль, прысутнічаў і прамаўляў прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык, які прыехаў з Парыжу.

30 лістапада 1952 году сьвяткаваліся ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну: служба ў царкве сьв. Тройцы, акадэмія ў Бетховэн Гол

У наступным 1953 годзе ўгодкі БНР адзначаліся на тых жа самых адрасах. Аднак, акадэмія ў памяць слуцкіх паўстанцаў праходзіла ў прэстыжнай залі Карнэгі Гол.

25 Сакавіка 1954 году адзначалася акадэміяй ў залі Вашынгтон Ірвінг Скул (Washington Irving School, 40 Irving Place), налічвалася да 600 прысутных. У 1955 годзе акадэмія праводзілася ў залі The Traubenmuller Textile High School, 351 West 18 Street (паміж 8 і 9 Avenue).

У 1956, 1957 гадох сакавіковыя акадэміі праводзіліся ў гатэлі Білтмор (Biltmore Hotel Music Room, Madison Ave at 43rd Street), багаслужбы ў царкве Сьв. Тройцы

У наступным 1958 годзе беларусы мелі ўжо сваю ўласную

царкву на Атлантык Авэню 401, дзе і прайшла багаслужба, а ўрачыстая частка і канцэрт ізноў былі ў гатэлі Білтмор.



*Сьвяткаванне з нагоды 40-х угодкаў абвешчаньня незалежнасці БНР у гатэлі Балтмор, 1958*

Сакавіковыя сьвяты 1959 году таксама пачыналіся ў беларускай царкве, а прадоўжыліся ў Стайвэсант гайскул (Stuyvesant High School, 345 Chambers Str.)

Вядома, што ўгодкі БНР ў 1962 годзе сьвяткаваліся ізноў у гатэлі Білтмор, гэтая традыцыя была працягнута ў 1971-78 гадох.

Беларускі Кангрэсавы Камітэт часам ладзіў сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Нью-Ёрку ў гатэлі Астор (Astor) на Таймс сквэр. Звычайна публіку давозілі аўтобусамі з Саўт Рывэру і Пасэйку.

Беларусам Нью-Ёрку ўдалося наладзіць добрыя стасункі з мэрыяй гораду. Пад час сьвяткаваньняў 25 Сакавіка адбываўся ўрачысты прыём у мэрыі беларускай дэлегацыі і вывешваўся

бел-чырвона-белы сьцяг. Дэлегатам уручалася спецыяльная грамата з віншаваньнем з угодкамі БНР.

Мэры Нью-Ёрку Робэрт Вагнэр і Эдвард Кач




*Беларуская дэклярацыя ў мэрыі Нью-Ёрку з нагоды Праклямацыі да 25 Сакавіка (першая праклямацыя, фота не датавана)*

падтрымлівалі ідэю беларускай дзяржаўнасьці. Мэр Кач, як кангрэсмэн і мэр, адведваў беларускія ўрачыстасьці.

Імпрэзы да 25 Сакавіка ладзіліся асобна і ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага у Рычманд Гіл. Бывалі там і прадстаўнікі БАЗА. Арганізоўвала сьвяткаваньні Беларуска-Амэрыканскае Абьяднаньне ў Нью-Ёрку пад старшынствам Кастуся Мярляка.

У Нью-Ёрку праводзіліся таксама Сэсіі Рады БНР і пасяджэньні Прэзыдыюму.

6-я Сэсія Рады БНР адбылася 28 кастрычніка 1951, 7-я — кастрычнік-лістапад 1953, 8-я — верасень-сьнежань 1956

(пад час гэтай сэсіі 23 верасьня была зладжаная прэс -канфэрэнцыя прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў гатэлі Камадор), 10-я сэсія — красавік 1968.

Пасьля сьмерці Абрамчыка 20 чэрвеня 1970 у Нью-Ёрку было праведзена пашыранае пасяджэньне Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады БНР пра далейшую дзейнасьць Рады. У Нью-Ёрку адбываліся: 11-я сэсія — 29 траўня 1971,14-я сэсія — 27 лістапада 1976, 15-я сэсія — 25 лістапада 1978, 17-я сэсія — 27 лістапада 1982, прэзыдыюм Рады БНР адбыўся — 4 чэрвеня 2005.

Далей Рада БНР таксама пераважна свае асноўныя паседжаньні праводзіла ў Нью-Ёрку.



*Прэзыдыюьм і сакратарыят Рады БНР з прэзыдэнтам Міколам Абрамчыкам (сядзіць трэці злева)*

Нью-Ёрк стаў прызнаным цэнтрам грамадзка-палітычнага жыцьця беларускай дыяспары ў Амэрыцыі і ў цэлым заходнім сьвеце.



# Удзел у грамадзкім жыцьці Амэрыкі

Як ужо адзначалася ў папярэднім раздзеле, паваенная плынь беларускай іміграцыі складалася ў бальшыні з людзей, якія былі дзейнымі ў палітычным і грамадзкім жыцьці на Бацькаўшчыне. Апынуўшся ў дэмакратычным амэрыканскім грамадзтве, яны адчувалі патрэбу выявіць сваю актыўнасьць, бо тут можна было не баяцца перасьледу і вольна займацца грамадзкай і палітычнай дзейнасьцю.




*Парад лаяльнасці на 5-й авэню ў Нью-Ёрку, 27 красавіка 1957 г.*

Акрамя сваёй нацыянальнай працы, імігранты пачалі цікавіцца і амэрыканскім грамадзкім жыцьцём ды паступова

браць у ім дзейсны ўдзел.

Пачынаючы ад 1951 году беларусы ўдзельнічалі ў







*Беларусы на парадзе лаяльнасці на 5-й авэню ў Нью-Ёрку, 30 красавіка 1960*

штогадовым амэрыканскім Парадзе лаяльнасьці. Гэтая шырокая патрыятычная акцыя праводзілася ў ЗША ад канца 40-х гадоў 20 ст.. Амэрыканскія вэтэраны сусьветных войнаў арганізоўвалі парад, каб прадэманстраваць сваю адданасьць Амэрыцы і вернасьць ідэалам свабоды, за якія заўсёды змагаліся ЗША, праліваючы кроў сваіх сыноў. Парады праходзілі па 5-й авэню ў накірунку на поўнач ад 42 вуліцы, доўжыліся 4 - 5 гадзінаў.

У Парадах бралі ўдзел сваімі шэрагамі і са сваімі сьцягамі прадстаўнікі іншых народаў, каб падкрэсьліць уласную лаяльнасьць да краіны, якая іх прыняла. Беларусы заўсёды актыўна ўдзельнічалі, ішлі вялікай калёнаю са сьцягамі і транспарантамі. Арганізатарамі выступалі амаль усе дзейсныя беларускія абьяднаньні.

На Парадзе лаяльнасьці 6 траўня 1972 беларускія дзяўчаты Рая Станкевіч і Галіна Тумаш несьлі вялікі плякат і трапілі ў рэпартаж пра Парад, які назаўтра з іхным вялікім і адзіным там фотаздымкам быў надрукаваны ў штодзённай і вельмі папулярнай газэце Dally News. Гэты кадр нават быў паказаны на тэлебачаньні.

Вядомая амэрыканская арганізацыя Labor Temple у 1953 -54 гадох ладзіла «Фэстываль вакол сьвету», кожны чацьвер увечары выступалі розныя нацыянальныя групы са сваімі праграмамі. 22 кастрычніка 1953 ў залі на 242 East 14 Street выступала беларуская моладзевая група з Нью-Ёрку, былі хор, песьні, танцы. Традыцыя працягвалася і далей, хоць і не рэгулярна.

Важным накірункам грамадзкай актыўнасьці беларусаў быў удзел у руху за вызваленьне паняволеных народаў, які




*Girls of the Belarussian American Association carry banner in Loyalty Day Parade on Fifth Ave «Daily News», 1972 (Раіса Сташкевіч (злева) і Галіна Тумаш)*

распачаўся ў Эўропе напрыканцы Другой сусьветнай вайны. 18 лістапада 1944 адбылося паседжаньне прадстаўнікоў паняволеных Расеяй народаў, ў ім прынялі ўдзел 9 асобаў, якія прадстаўлялі гэтыя народы, у тым ліку і беларусаў. Прысутныя падпісалі пагадненьне, паводле якога забавязаліся сумесна працаваць ў пытаньнях вызваленьня сваіх народаў і ўзаемна падтрымліваць адзін аднаго.

У 1953 годзе ў Парыжы была падпісаная дамова паміж Прадстаўніцтвам Парыжскага блёку (так называлася Ліга за вызваленньне народаў СССР (League for the Liberation of the

Peoples of the USSR, Paris Bloc) і прадстаўнікамі паняволеных Масквою народаў.

З нагоды першай гадавіны падпісаньня Парыжскай дамовы 14 сакавіка 1954 году ў Нью-Ёрку меў адбыцца Вялікі Міжнацыянальны Канцэрт у залі TOWN HALL (123 West 43 Street). Запрашаліся выступіць і беларусы. Пра гэта паведамляла газэта «Беларус» у нумары ад 6 сакавіка 1954.

У 1959 годзе Кангрэс ЗША прыняў рэзалюцыю аб «Паняволеных народах». Ініцыятарам яе быў украінскі дзеяч прафесар Леў Дабранскі, беларусы таксама бралі ўдзел у падрыхтоўцы праекта дакумэнта. Сэнс рэзалюцыі быў ў тым, што Амэрыка разумее, памятае і прызнае, што камунізм паняволіў колішнія незалежныя дзяржавы — армянскага, беларускага і інш. народаў. Рэзалюцыя абавязвала, каб прэзыдэнт ЗША штогод абвяшчаў трэйці тыдзень ліпеня Тыднем Паняволеных Народаў (Captive Nations Week). Прэзыдэнт ЗША у адпаведнасьці з прынятым у 1959 годзе Публічным законам 86 — 90 абвяшчаў адмысловаю праклямацыяй тыдзень (вызначаліся даты) — Тыднем Паняволеных Народаў. Арганізатарам у Нью-Ёрку была Асамблея Эўрапейскіх Паняволеных Народаў, куды ўваходзілі і беларусы, потым быў створаны Фэдэральны Камітэт Тыдня Паняволеных Народаў. Адзначаць яго павінны былі і мясцовыя ўлады, асабліва там, дзе жыло шмат прадстаўнікоў гэтых народаў. У цэрквах і касьцёлах чыталіся адмысловыя малітвы, адбываліся парады і выставы.

Цягам Тыдня ў Нью-Ёрку і інш. гарадох Амэрыкі адбываліся антыкамуністычныя маніфэстацыі прадстаўнікоў паняволеных народаў і падтрымліваючых іх амэрыканцаў.

У мэрыі Нью-Ёрка мэр прымаў на ўрачыстай аўдыенцыі прадстаўнікоў паняволеных народаў і ў іх прысутнасьці падпісваў праклямацыю пра абвяшчэньне Тыдня ў Нью-Ёрку, прысутнічалі і беларусы.




*Беларусы на антыкамуністычнай маніфэстацыі ў Нью-Ёрку*

Беларускія арганізацыі ва ўсе гады былі актыўнымі ўдзельнікамі Тыдня паняволеных народаў, у поўнай згодзе рыхтаваліся да гэтай важнай штогадовай падзеі Беларуска — Амэрыканскае Задзіночаньне і Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі.

У Катэдры Сьв. Патрыка ў прысутнасьці прадстаўнікоў народаў са сьцягамі адбывалася багаслужба за вызваленьне паняволеных народаў, дзе пералічаліся усе гэтыя народы, у тым ліку і беларусы.

Пасьля багаслужбы адбываўся маніфэстацыйны паход ад Катэдры Сьв. Патрыка, па 5 Авэню, вуліцамі Нью-Ёрку.

Маршруты мяняліся, але заўсёды абавязковымі былі — паход да будынку ААН і ў Цэнтральны парк, дзе праходзілі мітынгі. Беларусы ішлі пад сваімі бел — чырвона — белымі сьцягамі.

Тыдні шмат разоў таксама заканчваліся мітынгам каля Статуі Свабоды, а часам яны пачыналіся каля Статуі. Напачатку адбывалася багаслужба ў царкве Сьв. Тройцы (Уол Стрыт і Бродвэй). Потым усе нацыянальныя дэлегацыі са сьцягамі накіроўваліся да прыстані, адкуль паромамі ехалі на Востраў Свабода, там ладзіўся мітынг і ўскладаньне кветак да падножжа манумэнту.



*Captive Nations Week in New York. July 1966 at statue of Liberty*

Газэта «Беларус» у нумары за ліпень-жнівень 1966 году паведамляла, што 24 ліпеня каля Статуі Свабода адбыўся мітынг, які зачыніў праграму Тыдня Паняволеных Народаў, у ім бралі ўдзел і прадстаўнікі беларускай грамадзкасьці. Восеньню 1972 году каля Статуі Свабоды адбылася сустрэча




*Прадстаўнікі Беларуска-Амерыканскага Задзіночання сярод дэманстрантаў на Тыдні Паняволенных Народаў у 1967 годзе.*

нацыянальных арганізацыяў Нью-Ёрку з прэзыдэнтам ЗША Рычардам Ніксанам.

11 чэрвеня 1972 ў Нью-Ёрку ў вялікай залі гатэлю «Комадор» адбыўся Сыпозіўм, які ладзіла арганізацыя «Амэрыканцы за вызваленьне паняволеных народаў», на ім выступала ад беларусаў Раіса Станкевіч — старшыня управы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, яна распавядала пра нацыянальны генацыд у Беларусі.

«Тыдзень паняволеных народаў» праводзіўся яшчэ доўгі час, але пасьля развалу Савецкага Саюза гэты рух пачаў траціць сваю актуальнасьць. Маршы яшчэ адбываліся ў 2007, 2008, 2009 гадох, далей праходзілі меншыя акцыі з удзелам прадстаўнікоў тых народаў, хто яшчэ працягваў змагацца за сваю сапраўдную незалежнасьць, у тым ліку і беларусаў.

Беларусы Нью-Ёрку супрацоўнічалі з сусьветнай

арганізацыяй «Антыбальшавіцкі Блёк Народаў» (АБН). АБН была закладзена ў лістападзе 1943 году ў Ровенскай вобл. ва Украіне па ініцыятыве АУН (Арганізацыі украінскіх нацыяналістаў). Афіцыйнае заснаваньн АБН адбылося 16 красавіка 1946 году з удзелам прадстаўнікоў паняволеных Расеяй народаў, калі была прынята Дэкларацыя пра мэты і задачы арганізацыі. Гэта была палітычная арганізацыя, дзейнасьць якой была накіравана на каардынацыю антысавецкага змаганьня ва Ўсходняй Эўропе і Азіі. У Нью-Ёрку дзейнічаў Беларускі сэктар амэрыканскіх прыяцеляў Антыбальшэвіцкага Блёку.

Прадстаўнікі ад беларускай іміграцыі былі таксама ў Нацыянальнай Канфэдэрацыі Амэрыканскіх Этнічных Групаў, якая мела з сядзібу ў Вашынгтоне. Часам пасяджэньні Нью-Ёркскага аддзелу гэтай арганізацыі адбываліся ў «Эстонскім доме» на 34 вуліцы ў Мангэтэне, пісалася шмат мемарандумаў. У склад кіраўніцтва Аддзелу ўваходзілі Кастусь Мярляк, Вітаўт Кіпель, Васіль Меляновіч.

Вядомая амэрыканская арганізацыя, якая падтрымоўвала захаваньне культураў усіх народаў, што насяляюць ЗША (Фолк Фэстывал Каўнсыл — Рада Народных Фэстываляў) ладзіла ў Нью-Ёрку Міжнацыянальныя фэстывалі. Прадстаўніком ад беларусаў у Раду ўваходзіў Аўген Несьцяровіч. У канцэртнай праграме Фэстывалю 1957 году выступалі 7 лістапада і беларусы — народны хор з Саўт Рывэру пад кіраўніцтвам В. Селях-Качанскага і танцавальная група Нью-Ёркскага аддзелу ЗБМА пад кіраўніцтвам Алы Орсы. У наступным 1958 годзе танцавальная група ЗБМА выступала ў праграме Фэстывалю на канцэрце, які адбываўся

ва Украінскім доме на 2 Авэню у Мангэтэне. Беларускія танцоры ў 1958 годзе выступілі і на Міжнародным Летнім Фэстывалі ў Цэнтральным парку, дзе занялі першае месца.

Танцавальная група ЗБМА брала ўдзел у Вясеньнім Народным фэстывалі ў Нью-Ёрку 17 траўня 1964 году.

Сталае супрацоўніцтва з Радаю Народных Фэстываляў і беларускія выступы доўжыліся да канца 1970-х гадоў і час ад часу працягваліся і надалей.

Магчымасьць дэманстраваць сваю культуру для амэрыканскага грамадзтва беларусы Нью-Ёрку займелі праз удзел у культурных праграмах Сусьветнай выставы. Сусьветныя выставы (Сусьветная выстава (Expo), сымбаль індустрыялізацыі, месца для дэманстрацыі тэхнічных дасягненьняў), праводзяцца ў розных краінах сьвету. Ідэя такіх выставаў нарадзілася ў Францыі, аднак першая Сусьветная выстава адбылася ў Лёндане ў 1851 годзе. За ўсю гісторыю Сусьветных выставаў Нью-Ёрк тройчы меў гонар быць месцам іх правядзеньня.

Першы раз Нью-Ёрк прымаў гасьцей у 1853 годзе.

Другая выстава (1939-1940 New York World's Fair) адбывалася ў Нью-Ёрку з 30 красавіка 1939 году да 27 кастрычніка 1940 году ў Flushing Meadows Corona Park, яе наведалі 44 млн. чалавек. Менавіта на гэту выставу была прывезена з Польшчы дзеля аздобы польскага павільёну статуя караля Ягайлы. Плянавалася, што помнік будзе пасьля дэманстрацыі адпраўлены назад у Польшчу. Але, акупацыя краіны гітлераўскімі войскамі не дазволіла гэта зрабіць і помнік застаўся ў Нью-Ёрку. Ужо пасьля вайны польскія ўлады з дапамогаю польскай дыяспары ў Амэрыцы дамовіліся з

гарадзкімі ўладамі Нью-Ёрку аб тым, каб пакінуць скульптуру ў горадзе і выдзеліць для яе адпаведнае месца. Скульптура Ягайлы на кані была ўстаноўлена на тэрыторыі Цэнтральнага парку. У надпісе Ягайла названы Каралём Польскім і Вялікім Князем Літоўскім. Так што беларусы могуць лічыць гэты факт наяўнасьці помніка Ягайлу ў Нью-Ёрку ўшанаваньнем гісторыі і сваёй краіны. Беларусы Нью-Ёрку памятаюць пра гэта і нават часам праводзяць каля помніка свае сустрэчы.

Адносна Сусьветнай выставы 1939 году сп. Кіпель нагадаў такі факт. У праграме выставы плянавалася экспазіцыя музычных інструмэнтаў. Арганізатары зьвярнуліся да вядомага ў Нью-Ёрку майстра, які вырабляў народныя музычныя інструмэнты, беларуса па паходжаньні Усьціна Смаленскага з прапановаю падаць на выставу зробленую ім балалайку. Высьветлілася, што ў подпісе пад экспанатам імя майстра было пазначана, што ён па нацыянальнасьці паляк. Сп. Смаленскі патрабаваў, каб напісалі беларус, а калі не атрымаў згоды, увогуле не дазволіў выстаўляць свой інструмэнт.

Трэйці раз Нью-Ёрк прымаў чарговую Сусьветную выставу ў 1964 годзе (New York World's Fair — 1964/1965). Выстава дзейнічала цягам году ў два перыяды: 22 красавіка - 18 кастрычніка 1964, працяг: 21 красавіка - 17 кастрычніка 1965) і знаходзілася таксама ў Флашынгу. Па дзеючых правілах выставы маглі доўжыцца не больш 6 месяцаў, такое парушэньне выклікала пратэст Міжнароднага Бюро Выставаў, у выніку Бюро афіцыйна не прызнала гэту выставу і мы не знойдзем яе ў афіцыйным сьпісе праведзеных выставаў. Больш таго, Бюро заклікала краіны не браць удзел у выставе, што некаторыя і зрабілі. Канфлікт вакол гэтай выставы стварыўся

не толькі па гэтай фармальнай прычыне, але свой уплыў мела і складаная міжнародная сытуацыя, выкліканая нядаўнім «кубінскім крызісам».

Аднак, па свайму ўзроўню гэта была адна з самых грандыёзных выставаў, займала плошчу ў 260 га, мела 50 млн. наведвальнікаў. Нью-Ёрку яна каштавала вялікіх выдаткаў і таму быў працягнуты тэрмін, каб пакрыць затраты. У багатай культурнай праграме гэтай выставы бралі ўдзел амэрыканскія беларусы.

23 траўня 1964 году моладзевая танцавальная група пад кіраўніцтвам Алы Орсы ўдзельнічала ў канцэрце на тэрыторыі Сусьветнай выставы з нагоды Дня ветэранаў.

21 чэрвеня 1964 году ў адным з павільёнаў Сусьветнай выставы ладзіўся адмысловы Беларускі Народны Фэстываль,



*64 New York World's Fair*

які рыхтавала БАЗА і Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі. Выступалі хоры і танцавальныя групы, беларускі паказ доўжыўся тры гадзіны. 12 ліпеня 1964 году танцавальная група пад кіраўніцтвам Алы Орсы выступала на выставе пяць разоў з гадзіннаю праграмаю ў павільёне штата Нью-Ёрк.

Другі Беларускі фестываль на Сусьветнай выставе адбыўся праз год — 30 траўня 1965 году. Беларусам было прапанавана яго правесьці ізноў, бо мінулы першы фэстываль быў вельмі пасьпяховым.

Для арганізацыі гэтых фэстываляў ствараліся адмысловыя камітэты, які рыхтавалі канцэрт разам з адміністрацыяй выставы.



*Карагодны танец «Вяночкі» ў выкананні ньюёрскай танцавальнай групы ЗБМА на беларускім фестывалі Сусьветнай выстаўкі ў Нью-Ёрку.*

У 1976 годзе Злучаныя Штаты Амэрыкі ўрачыста адзначалі 200 — гадовы юбілей краіны. Праграма сьвяткаваньня цягнулася дзесяць гадоў. Гэта быў вялікі патрыятычны ўздым і жыхары ЗША па магчымасьці так ці інакш былі задзейнічаныя ва ўрачыстасьцях. Беларусы бралі ўдзел у

адзначэньні юбілею ў 13 штатах і буйных гарадох, у тым ліку і ў Нью-Ёрку. Выступалі з мастацкімі праграмамі, удзельнічалі ў канфэрэнцыях.

У 1976 годзе прадстаўнікі беларускай дыяспары, у тым ліку з Нью-Ёрка, прысутнічалі на Сусьветным Эўхарыстычным Кангрэсе ў Філадэльфіі.

Амэрыканскія беларусы ў 1987 — 88 гадох ладзілі вялікія адзначэньні 1000 — гадовага юбілею Хрысьціянства ў Беларусі, было выдадзена шмат сувеніраў, як канвэрты, маркі, паштоўкі. У сувязі з пачаткам сьвяткаваньня юбілею беларускай дыяспарай вясной 1987 году Прывітаньне Беларускаму Народу на Чужыне і на Бацькаўшчыне з нагоды 1000 — годдзя Хрысьціянства ў Беларусі (988 — 1988 г.г.) накіраваў 19 траўня 1987 году прэзыдэнт ЗША Рональд Рэйган.



*Статуя Свабоды*

У Нью-Ёрку таксама ў 1973 годзе адзначаліся 800 — я ўгодкі з дня адыходу ў вечнасьць Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

Калі ў 1986 годзе амэрыканцы адзначалі 100-годдзе Статуі Свабоды, беларусы былі сярод удзельнікаў урачыстасьцяў.

Сымбаль Свабоды — гэта тое, што найбольш шануюць беларускія эмігранты ў Амэрыцы, бо ведаюць з гісторыі сваёй

Бацькаўшчыны і з уласнага вопыту, як разбуральна дзейнічае адсутнасьць свабоды на лёс краінаў і асобнае чалавечае жыцьцё.

Беларусы ўваходзілі ў самую глыбінку амэрыканскага жыцьця — адзначалі Дзень незалежнасьці ЗША 4 ліпеня, Дзень Калюмба, Дажынкі, Дзень удзячнасьці. Асабліва да спадобы імігрантам прыйшоўся Дзень удзячнасьці (Thanksgiving Day), які традыцыйна лічыцца сямейным сьвятам. Беларусы у гэты дзень часта бывалі ў кампаніі з амэрыканцамі на сямейных пікніках, выездах на прыроду, вячэрах. У такіх прыватных абставінах яны мелі магчымасьць распавядаць пра Беларусь, пра сваю культуру і гэтым шмат дасягалася для беларускай справы.

Папулярызацыя беларушчыны адбывалася і на афіцыйных мерапрыемствах. 28 - 29 красавіка 1956 ў Нью-Ёрку прайшла навуковая канфэрэнцыя Інстытуту вывучэньня СССР у будынку Карнэгі голл, бралі ўдзел і беларусы.

Гарвардзкі універсытэт запачаткаваў у 1951 годзе праект вывучэньня савецкай рэальнасьці шляхам апытаньня былых савецкіх грамадзянаў. Дзеля гэтага быў адчынены спецыяльны Аддзел у Нью-Ёрку, запрашалі імігрантаў да ўдзелу, была абвестка ў газэце «Беларус» за 21 красавіка 1951. Беларусы не адмаўляліся ад гэтай прапановы, бо мелі што сказаць, у праграме ўзялі ўдзел дзесяткі беларускіх імігрантаў.

Варта тут згадаць і пра важкую працу беларусаў, якая была праведзена пад час штогадовых «Тыдняў Славянскіх культур», што ладзіліся у Нью-Ёрку Славянскім камітэтам. Ад беларусаў у ягоны склад уваходзілі Раіса Станкевіч і Вітаўт Тумаш (малодшы), яны бралі самы актыўны ўдзел у

праграмах.

Першы «Тыдзень Славянскіх культур» праходзіў 4-10 сьнежня 1978 году. Наступны адбываўся 15-21 кастрычніка 1979 году. Тыдзень урачыста адчыняўся ў мэрыі, прысутнічалі і беларусы. Заключны баль быў у гатэлі Білтмор. Беларусы бралі ўдзел у выставах і канцэртах,

Трэйці Славянскі тыдзень праходзіў 9-16 лістапада 1980 году і таксама быў з удзелам беларусаў, як і наступныя — чацьвёрты — 9-15 лістапада 1981 году, пяты 12-21 лістапада 1982 году быў адметны вялікім канцэртам у Карнэгі голл, дзе выступаў Данчык. Апошні сёмы прайшоў 30 кастрычніка - 7 лістапада 1983 году.

18 сакавіка 2007 у Нью-Ёрку адбываўся чарговы штогадовы Эўрапейскі фальклёрны фэстываль у Інстытуце моды на Мангэттане, ад беларусаў выступаў акардыяніст Алесь Себасьцьян з Канады.

Беларуская іміграцыя, будучы актыўна задзейнічанай у амэрыканскім грамадзкім жыцьці, усталёўвала і падтрымлівала кантакты з прадстаўнікамі іншых народаў Амэрыкі, якія былі поплеч у гэтых справах. Безумоўна, што найбольш цеснымі былі сувязі з суседнімі да Беларусі народамі, ці тымі, хто меў падобны гістарычны лёс. Беларусы запрашалі на свае сьвяты украінцаў, палякаў, грузінаў, армянаў, славакаў, літоўцаў, латышоў, эстонцаў і інш., самі таксама бралі ўдзел у іхных імпрэзах. 24 кастрычніка 1971 адбываўся Фестываль народаў у гонар 15 — х угодкаў Вугорскага паўстаньня 1956 у гатэлі Roosevelt на Мэдысон Авэню (Madison Avenue) і 45 Street, бралі ўдзел і беларусы.

Беларускія прадстаўнікі былі гасьцямі на нацыянальных

сьвятах у харватаў, гішпанцаў, ірляндцаў, немцаў, габрэяў, сэрбаў, грэкаў. Супрацоўніцтва з нацыянальнымі арганізацыямі ажыцьцяўлялася залежна ад узаемных інтарэсаў: з аднымі беларусы мелі палітычныя кантакты, з іншымі — рэлігійныя ці культурныя. На жаль, з адыходам у вечнасьць старэйшага пакаленьня паваеннай іміграцыі гэтыя кантакты значна звузіліся. У 2014 годзе было адноўлена актыўнае супрацоўніцтва з украінцамі, палякамі, крымскімі татарамі ў сувязі з расейска — украінскім канфліктам і расейскай акупацыяй Крыму.

У Амэрыцы, як краіне імігрантаў, надзяляецца вялікая ўвага захаваньню гісторыі іміграцыі. У 50-я гады Музэй іміграцыі ствараўся на востраве Свабоды (Liberty Island), у падножжы Статуі Свабоды.

Беларуская эміграцыя неадкладна далучылася да гэтай справы. Газэта «Беларус» ад 10 сакавіка 1957 паведамляла, што БАЗА будзе весьці працу па арганізацыі ўдзелу беларусаў у пабудове Музэя. На 7 кангрэсе БАЗА была створана для гэтага адмысловая камісія. 30 верасьня 1957 газэта інфармавала чытачоў, што БАЗА бярэ актыўны ўдзел у зборы ахвяраваньняў на пабудову Музэю Іміграцыі на Востраве Свабоды. Былі разасланыя лісты сябрам для зьбіраньня ахвяраў і ўжо пачалі паступаць першыя ўзносы. Газэта таксама зьвярнулася з заклікам не толькі падаваць ахвяраваньні на Музэй, але і распачаць збор дакумэнтаў і матэрыялаў пра беларускую іміграцыю ў Амэрыцы, каб гэта было адлюстравана ў Музэі.

Музэй іміграцыі на Востраве Свабоды ладзіў ў сьнежні 1979 году сэрыю калядных канцэртаў каля Статуі Свабоды,

беларускія калядоўшчыкі таксама бралі ўдзел, мелі канцэртныя выступы, усё гэта запісвала амэрыканская тэлевізія (Channel 13).

Музэй на Востраве Свабоды сёньня прымае шматлікіх наведвальнікаў з усяго сьвету. Статуя Свабоды і Музэй пры ёй — гэта адзін з найпапулярнейшых абьектаў для наведваньня турыстамі ў Нью-Ёрку.

Калі Злучаныя Штаты рыхтаваліся да сьвяткаваньня свайго 200-гадовага юбілею, узьнікла ідэя адчыніць яшчэ адзін музэй іміграцыйнай гісторыі, як агульнанацыянальны помнік, на Востраве Эліс (Ellis Island), які ляжыць недалёка ад Вострава Свабоды. Доўгі час гэты востраў выконваў ролю варотаў у Амэрыку для прыбываючых з цэлага сьвету імігрантаў.



*Востраў Эліс у 1905 годзе.*

Сюды прыходзілі параплавы з эмігрантамі, тут іх прымалі іміграцыйныя службы і рабіліся ўсе патрэбныя працэдуры для выдачы дазволу на ўезд у ЗША. Такі дазвол атрымлівалі не

ўсе жадаючыя, былі пэўныя абмежаваньні, напрыклад, стан здароўя і інш. Тыя, хто не прымаўся, вымушаныя былі ізноў загружацца на параплавы і вяртацца дамоў. Гэта былі драматычныя моманты і таму Востраў Эліс празвалі Востравам сьлёз. Статыстыка падцьвярджае, што каля 12 мільёнаў будучых амэрыканскіх грамадзянаў прайшлі праз востраў перад тым, як распачаць новае жыцьцё ў Амэрыцы.

Пасьля закрыцьця пункту прыёму іммігрантаў на востраве ў 1952 годзе запоўненыя раней гулам людзкіх галасоў будынкі стаялі пустымі, востраў выглядаў запусьцелым і забруджаным. Яго хацелі купіць бізнэсоўцы пад будаўніцтва камерцыйных абьектаў. Востраў ляжыць бліжэй да берагоў штату Нью Джэрзі і як лічылася, што справа ягонага лёсу павінна была вырашацца адміністрацыяй гэтага штату.

Пад час сьвяткаваньня 200-годдзя па ўсёй Амэрыцы ствараліся адмысловыя камісіі па адзначэньні юбілею. Такая камісія была створаная і ў штаце Нью Джэрзі. У яе складзе арганізавалі інтэрнацыянальны камітэт з прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў штату. Увайсьці сябрам ад беларусаў у гэты камітэт было прапанавана сп. Вітаўту Кіпелю. У камітэце было 14 асобаў, узначальваў яго доктар Самартына, рэктар унівэрсытэту Фарлей Дзікенсон (Fairleigh Dickinson university). Гэтаму камітэту была пастаўлена задача агледзець Востраў Эліс і зрабіць справаздачу — наколькі там магчыма адчыніць Музэй іміграцыі і што патрабуецца зрабіць дзеля гэтага ў агульных рысах. Дэлегацыя камітэту выехала на востраў і агледзела будынкі. Сп. Кіпель быў у складзе гэтай дэлегацыі. Так сталася, што прадстаўнік беларусаў непасрэдна спрычыніўся да вырашэньня пытаньня аб арганізацыі Музэя

іміграцыі на востраве Эліс.

У сваёй кнізе ўспамінаў «Жыць і дзеіць» сп. Кіпель згадвае, як ён быў страшэнна ўзрушаны, калі ўбачыў сярод рознамоўных надпісаў на сьценах, зробленых эмігрантамі, паўсьцёрты надпіс хімічным алоўкам : «Жыве Беларусь!».

Потым быў створаны Камітэт аднаўленьня вострава. Ён ладзіў на востраве гадавыя ўрачыстасьці з удзелам прадстаўнікоў народаў. Такая ўрачыстасьць адбылася 29 красавіка 1978, уручаліся ўзнагароды. Узнагародаю Вострава Эліс быў адзначаны старшыня БІНІМ Вітаўт Тумаш, такім чынам прагучала імя беларусаў, якія прыязджалі ў Амэрыку праз гэты востраў. Сем далейшых узнагародаў былі ўручаныя прадстаўнікам іншых народаў.

Трэба згадаць, што адмысловаю ўзнагародаю «Ганаровы мэдаль Эліс Айленд» быў узнагароджаны знакаміты амэрыканскі кінаактор Кёрк Даглас, як прадстаўнік іммігрантаў з Беларусі, бо ягоныя бацькі былі выхадцамі з Беларусі.

Паступова на Востраве Эліс быў створаны паўнавартасны Музэй іммігрцыі, дзе захоўваюцца каштоўныя калекцыі па гісторыі іміграцыі ў Амэрыку, якія толькі часткова выстаўлены ў дзеючай экспазыцыі Музэю.

У 2005 годзе Юрка Кіпель (Dr. George Kipel), сын спадарства Кіпеляў, перадаў у гэты Музэй абраз Пётры Мірановіча «Беларускія іміграны». Як стала вядома з атрыманага допісу на імя сп. Кіпеля адміністрацыі Музэя ад 13 траўня 2005 (D6227 (STLI), абраз зарэгістраваны ў калекцыях Музэю пад назваю «Painting Belarusan Immigrants by artist Piotra Miranovich».

Востраў Эліс зьмяніў статус, цяпер гэта фэдэральная маёмасьць. Афіцыйны паштовы адрас Музэю: National Park Service, Ellis Island Reseiving Office, New Jersey, NJ 07305

Музэй іміграцыі на востраве Эліс зьяўляецца адной са слаўных мясьцінаў Нью-Ёрка, якую масава наведваюць турысты як з самой Амэрыкі так і з розных краінаў сьвету. Ізноў на востраве Эліс стаіць гул людзкіх галасоў, але сьлёзы на вачах зьяўляюцца хіба толькі з-за хвалюючых успамінаў і ўражаньняў ад пабачанага ў Музэі.

Існуе ў Нью-Ёрку і яшчэ адзін Музэй іммігpацыі — The Lower East Side Tenement Museum на адрасе 97 Орчэрд (Orchard Street) і Дэлансы (Dalancey Street).




*Tenement Museum*

Музей быў заснаваны ў 1988 годзе прыватнымі асобамі Рут Абрам (Ruth J. Abram) і Анітаю Джэкабсан (Anita Jacobson), утрымліваецца за кошт грантаў. Гэта своеасаблівая будыніна ў выглядзе шматкватэрнага дому, які дэманструе, як жылі іміграанты, тагачасныя побытавыя ўмовы, чым займаліся.

Месца для музэя выбрана не выпадкова. Менавіта гэты раён Мангэттана — Ніжні Іст Сайд быў заселены імігрантамі-габрэямі і іншымі выхадцамі з Эўропы, у тым ліку і беларусамі. Блізка ад Музэю знаходзіцца нават вуліца — Avenue of Immigrants. У гэтым раёне на 33 Норфолк Стрыт (Norfolk Street) месьцілася ў 50-я гады канцылярыя БАЗА і рэдакцыя газэты «Беларус».

Дзякуючы намаганьням і беларускіх арганізацый Нью-Ёрку беларуская мова ў ЗША ўнесена ў «Лінгвістычны банк Злучаных Штатаў». Рубрыка «Беларуская мова» фігуруе ў дзяржаўных апытальніках розных ведамстваў, у анкетах уліковых арганізацый (USA Census Bureou і інш.), а таксама ў іміграцыйных дакумэнтах. Важна падкрэсьліць і тое, што беларусы Амэрыкі задоўга да развалу СССР дамагліся, каб у іхных амэрыканскіх пашпартах у рубрыцы «ранейшая краіна, радзіма» пазначалася Belarus, а не USSR.

Беларусы Нью-Ёрка бралі ўдзел у палітычным жыцьці Амэрыкі. Пераважна беларусы падтрымлівалі рэспубліканскую партыю. Былі і прыхільнікі дэмакратычнай партыі. Праводзіліся дэбаты паміж прыхільнікамі абодвух партый, дыскусіі адлюстроўваліся ў газэце «Беларус».

8 лютага 1970 ў Нью-Ёрку праходзіў сход сяброў — заснавальнікаў Беларуска-Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу. У 1970, 1972 гадох у Нью-Ёрку адбываліся нарады беларусаў — рэспубліканцаў з цэлай краіны.

Беларусы Нью-Ёрку шмат працавалі на карысьць Нью-Ёрку ў самых розных галінах, ад самай простай працы да высокаінтэлектуальнай.

Рукамі ў тым ліку і беларусаў узводзіліся будынкі гораду,

ствараласся ягоная аблічча, як адметнага, непаўторнага мегаполіса. Шмат хто з імігрантаў пачынаў сваю працоўную дзейнасьць з будоўляў у Нью-Ёрку.

Новы імігрант з Беларусі Алесь Сапун можа зрабіць цэлую экскурсію па Мангэтэну і распавесьці пра стрэхі на хмарачосах, дзе яму напачатку давялося працаваць першым сьпякотным летам 1999 году Нью-Ёрку, паказаць тыя крамы, рэстарацыі, якія ён рамантаваў і аздабляў сваімі рукамі.



*Славамір Адамовіч, Алесь Сапун з нью-ёрскім старажылам — Антонам Шукелойцам, 2001*

Алесь можа нагадаць і пра тое, як яны з паэтам Славамірам Адамовічам працавалі на высотным будынку і як гэта было небясьпечна.

Для беларускіх будаўнікоў, не прывучаных на Радзіме да працы на высотных будынках, гэтая праца была сапраўды вельмі небясьпечнай. На будоўлі ў Нью-Ёрку 18 лютага 1957

трагічна загінуў 49-гадовы беларус Янка Падгайскі, радны БНР, сябра БАЗА і Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў. Пры разборцы старых дамоў ён упаў з 9 паверха. Родам быў з Віленшчыны.

Нью-Ёрскі сабвэй будавалі таксама і беларусы. Зьвесткі пра гэта знайшоў Вітаўт Кіпель у гарадзкіх архівах, калі ў 1970 годзе адзначалася 100-годдзе сабвэю. Былі інжынеры і звычайныя будаўнікі. Вядома прозьвішча інжынера — беларуса Яўгена Ярашэвіча, які адпрацаваў у Нью-Ёркскай падземцы недзе 30 гадоў, ад канца 50-х да канца 80-х гадоў. Займаў высокую пасаду, меў офіс, быў ўзнагароджаны за ягоныя працоўныя посьпехі. І сёньня беларусы працуюць у Нью-Ёркскім сабвэі — Сяргей Пятровіч, Васіль Кузьменка.



*Тэракты ў Нью-Ёрку ў 2001 годзе*

Уладзімір Цяліца водзіць цягнікі на чыгунцы з Нью-Ёрку на Лонг Айленд.

Беларусы працавалі і працуюць зараз у бібліятэках, банках, шпіталях, у дзяржаўных установах.

Беларусы Нью-Ёрку таксама служылі ў амэрыканскім войску, бралі ўдзел ў вайсковых аперацыях і ваенных дзеяньнях. Некаторыя служылі ў гарадзкой паліцыі.

Пад час тэракту ў Нью-Ёрку, калі былі зьнішчаны будынкі Сусьветнага гандлёвага цэнтру (World Trade Center) загінула грамадзянка Беларусі Ірына Бусло, чыё імя ёсьць сярод пералічаных ахвяраў на помніку. Беларус Алесь Сапун быў побач з гэтым месцам і зрабіў фота ў той момант, калі гарэлі і падалі будынкі Гандлёвага цэнтру.



*Тэракты ў Нью-Ёрку ў 2001 годзе (фота Алеся Сапуна)*

З поўным правам беларуская іміграцыя ў Амэрыцы можа быць залічаная ў склад будаўнікоў магутнейшай дзяржавы ў сьвеце — Злучаных Штатаў Амэрыкі.



# Выбітныя асобы беларускай іміграцыі ў Нью-Ёрку

З Нью-Ёркам, як цэнтрам беларускай іміграцыі ў Амэрыцы, было зьвязана жыцьцё многіх выбітных асобаў, чые імёны застануцца ў гісторыі. Пра некаторых вядомых людзей з ранняй іміграцыі мы згадвалі вышэй — гэта Тадэвуш Касьцюшка, Мікола Судзілоўскі, Сьцяпан Бубешка. Але, безумоўна, найбольшую колькасьць вядомых асобаў дала паваенная іміграцыя, якая запачаткавала актыўнае беларускае жыцьцё ў Амэрыцы і тым самым стварыліся ўмовы для самавыяўленьня людзей, разьвіцьця рознага накірунку здольнасьцяў і творчага патэнцыялу імігрантаў.

Згадаем грамадзкіх і палітычных дзеячаў той хвалі іміграцыі, на чыёй ахвярнай працы трымалася ўся беларуская актыўнасьць у Нью-Ёрку, многія з іх удзельнічалі ў грамадзкім жыцьці цэлымі семьямі:

Антон Адамовіч, Леў Акіншэвіч, Станіслаў Станкевіч, ягоная жонка Зінаіда і дачка Раіса; Янка Станкевіч і ягоная сям'я — жона Марыя, сыны Юрка, Вячка і Богуш; Вітаўт Тумаш, жонка Ксеня і і ягоныя дочкі Яра і Галіна; сям'я Орсаў — Аляксандр, жонка Натальля і дочкі Ала і Галіна, унукі Коля і Павал; сям'я Міколы Гарошкі — жонка Зінаіда

і сыны Расьціслаў і Валянцін; Антон Шукелойц, Яніна Кахано̆ўская, яе маці Эмілія Шабуня і дочкі Юля і Элеанора, унукі Данчык і Юрка; Янка Запруднік, ягоная жонка Вольга і дочкі Вера і Ніна; сям'я Вітаўта і Зоры Кіпеляў, іх дзеці Алеся і Юрка; Кастусь і Ганна Мярлякі; сям'я Францішка і Натальлі Кушаляў ; сям'я Васіля Рагулі, ягоны сын Міхась з жонкаю Нінаю ; сям'я Францішa і Веры Бартуляў і іх дзеці Ганна і Антон; сям'я Хведара, Барыса і Марыі Данілюкоў, Алесь Міцкевіч, Галіна Руднік і Барбара Вержбаловіч, Лявон і Ганна Галякі, Алесь Валюшка, Мікола Шчорс, Уладзімір Набагез, Пётра Манькоўскі, Іван і Клава Муха, Алесь Каптуровіч, Міхась Казьлякоўскі, Даніла Клінцэвіч, МІкола і Вера Заморскія, Васіль Юрцэвіч, Васіль Захаркевіч, Пётра і Васіль Мельяновічы, Янка Ніхаёнак, Пётра Зыбайла, Васіль Місюль, Уладзімір Машанскі, Пётра Кажура, Мікола Дарашэвіч, Уладзімір Пляса, Мікола Панькоў, Віктар Чабатарэвіч, Шчэцька Васіль, Людміла Колін, Мікола Кунцэвіч, Міхась Міцкевіч, Алесь Міцкевіч, Уладыка Васіль (Тамашчык), Іван Касяк, Уладзімір і Нюра Русакі, Анатоль Занковіч, Лявон і Апалёнія Савёнкі, Удадзімір Сядура, Ізыдар Плашчынскі, Янка Юхнавец, Янка Шакун, Мікола Целеш. Магчыма, што гэты сьпіс яшэ можа папоўніцца новымі імёнамі.

Як зазначае ў сваіх успамінах Лявон Галяк, на Мангэттане ў раёне 60-й вуліцы ў 1956 годзе жыў Юры Сабалеўскі — дзеяч Беларускай Цэнтральнай Рады, але ў грамадзкім жыцьці гораду Нью-Ёрку браў вельмі абмежаваны ўдзел.

З паваеннай іміграцыі вырасла плеяда дзеячаў, што разьвівалі на чужыне беларускую культуру і папоўнілі сваімі

творчымі здабыткамі культуру нацыі.

У Нью-Ёрку жылі і творча працавалі ў галіне літаратуры — Натальля Арсеньнева, Юрка Віцьбіч, Антон Адамовіч, Антось Галіна (МІхась Міцкевіч), Янка Юхнавец, Уладзімір Сядура (Уладзімір Глыбінны), Янка Золак, Рыгор Крушына, Міхась Кавыль, Ізыдар Плашчынскі, Іна Рытар, Янка Шакун, Янка Ліманоўскі, Масей Сяднёў, Лявон Савёнак, Мікола Целеш, Уладзімі Дудзіцкі (Гуцька), Станіслаў Станкевіч, Сяргей Ясень (Янка Запруднік).

У музычным мастацтве выявілі сябе кампазытары — Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Эльза Зубковіч, сьпевакі — Пётра Конюх, Надзея Куліковіч-Градэ, Барбара Вержбаловіч, харавыя дырыжоры Вячаслаў Селях-Качанскі, Зьміцер Верасаў, Алесь Каптуровіч, Алесь Валюшка. Вячаслаў Селях-Качанскі быў таксама заснавальнікам беларускага тэатра на чужыне.

З нашчадкаў паваеннага пакаленьня іміграцыі шырокую вядомасьць у галіне музычнага мастацтва атрымаў Багдан Андрусышын — «Данчык», які часта выступаў на беларускіх імпрэзах і канцэртах. У Нью-Ёрку пэўны час час жылі і прадстаўнікі новай іміграцыі — вядомы беларускі бард і літаратар Сяржук Сокалаў-Воюш, кампазітары Зьміцер Яўтуховіч і Яўген Магаліф, сьпевакі Валянціна Пархоменка, Алесь Казак і іх дачка Вольга.

Мастацтва беларускага танца разьвівала Ала Орса Рамана, кіраўнічка танцавальнага калектыву «Васілёк».

Сярод мастакоў згадаем Міколу Цыкоўскага, Мсьціслава Дабужынскага, Пётру Мірановіча, Міколу Казака, Тамару Стагановіч, Юзіка Казьлякоўскага.

Мастачка-вышывальшчыца Юля Андрусышын ўзбагаціла

сваёй карпатлівай працаю гісторыю беларускай вышыванкі на эміграцыі.

Беларускія імігранты ў Нью-Ёрку адметна выявілі свае здольнасьці ў іншых галінах.

Доктар Аўген Вярбіцкі быў шырока вядомым амэрыканскім біяхімікам, дасьледчыкам ірадыяцыі, часта выступаў на навуковых канфэрэнцыях у Нью-Ёрку. Ягонае імя ёсьць у амэрыканскім даведніку дзеячаў навукі «American Men of Science». Актыўна ўдзельнічаў у беларускім грамадзкім жыцьці. Напачатку 70-х гадоў разам з іншымі навукоўцамі Аўген Вярбіцкі быў пакліканы на прыём у Белы дом, дзе прэзыдэнт Ніксан уручыў яму часьцінку пароды Месяца, якую здабыў амэрыканскі астранаўт. Ежа, якую мелі з сабою астранаўты, асабліва мясныя прадукты, праходзіла праз кантроль доктара Вярбіцкага. Усім навукоўцам, хто спрычыніўся да высадкі амэрыканскага міжплянэтнага карабля ў 1969 годзе на Месяц, была ўручаная такая памятная рэліквія.

Доктар Мікола Шчорс — вядомы хірург, меў свой медычны кабінет у Куінсе, ён быў абраны віцэ — прэзыдэнтам Амэрыканскай Асацыяцыі хірургаў. Пазьней выехаў ў Апстэйт.

У Нью-Ёрку таксама жыў доктар Уладзімір Набагез і жыве доктар-хірург Анатоль Занковіч.

Шмат гадоў выкладала ў Нью-Ёркскім гарадзкім унівэрсытэце доктар хіміі Ала Орса Рамана.

З Нью-Ёркам зьвязаны жыцьцёвы шлях некаторых вядомых амэрыканцаў, продкі якіх ці яны самі, паходзілі з Беларусі. Аўтар знакамітага амэрыканскага неафіцыйнага гімну «Божа, дабраславі Амэрыку» («God Bless America») Ірвінг Берлін

(Irving Berlin) нарадзіўся ў 1888 годзе ў габрэйскай сямы ў Магілёве, па некаторых зьвестках ён нарадзіўся у Сібіры, куды часова выязджалі ягоныя бацькі — абодва жыхары горада Талачына Магілёўскай губерні. Сямья вярнулася назад у Талачын і адтуль ў 1893 годзе выехала ў Амэрыку. Ірвінг вырастаў сярод імігрантаў у Ніжнім Іст-Сайд на Мангэтане. Усё жыцьцё Берліна было зьвязана з Нью-Ёркам, тут ён і памёр ва ўзросьце 101 году.

Лазар Меір (Louis Burt Mayer) — амэрыканскі кінапрадусар і сузаснавальнік знакамітай галівудзкай кінастудыі Metro-Goldwyn-Mayer нарадзіўся ў Менску ў габрэйскай сям'і, якая ў 1887 годзе выехала у Амэрыку. Лазар Меір таксама быў сузаснавальнікам Амэрыканскай акадэміі кінематаграфічных мастацтваў і навук, якая штогод уручае прэмію «Оскар», ідэя якой таксама належыць Меіру. Сваю надзвычай пасьпяховую карьеру ў галіне кінаіндустрыі ён пачынаў менавіта ў Нью-Ёрку. У 1916 годзе Меір разам з мільянерам Рычардам Роландам (Richard A. Rowland) адкрыў у Нью-Ёрку карпарацыю «Metro Pictures« з уласнай кінастудыяй. У тым жа годзе на экраны выйшаў першы фільм прадусара «Вялікі сакрэт». Пазьней перабраўся у Каліфорнію.

*Выпіска з Вікіпедыі:*

*Born Lazar Meir*
*July 12, 1884*
*Minsk, Russian Empire (now present — day Belarus)*
*Died October 29, 1957 (aged 73)*
*Los Angeles, California, USA*

Кірк Даглас (Kirk Douglas) — знакаміты амэрыканскі кінаактор «залатой эры» Галлівуду паходзіць з сям'і габрэйскіх імігрантаў з Беларусі. Ягоныя бацькі па прозьвішчу Даніеловічы выехалі ў Амэрыку ў 1908 годзе з горада Чавусы Магілёўскай губерні. Кірк нарадзіўся ў 1916 годзе ў горадзе Амстэрдам, штат Нью-Ёрк, і пры нараджэньні меў імя — Issur Danielovitch. Пазьней бацькі зьмянілі прозьвішча на Дэмскія, пад якім і пачынаў сваю карьеру будучы знакаміты актор (Izzy Demsky). Ён вучыўся ў St. Lawrence University, штат Нью-Ёрк. Першы раз дэбютаваў у Нью-Ёрку ў тэатры на Бродвэі ў 1941 годзе. Пачаў ужываць новае імя — Кірк Даглас і афіцыйна зарэгістраваўся пад гэтым імём перад паступленьнем на службу ў амэрыканскі флёт пад час Другой сусьветнай вайны. Пасьля вайны вярнуўся ў Нью-Ёрк, працаваў на радыё і ў 1945 годзе стаў ізноў іграць у спектаклях на Бродвэі. Пазьней пераехаў у Галівуд. У 1996 годзе атрымаў «Оскара» за пасьпяховую карьеру ў кіно.



*Кірк Даглас*

Кёрк Даглас, як прадстаўнік іммігрантаў з Беларусі, быў узнагароджаны адмысловаю ўзнагародаю «Ганаровы мэдаль Эліс Айленд», якая давалася прадстаўніку ад кожнага народу.

Майкл Даглас (Michael Douglas) — вядомы амэрыканскі кінаактор, старэйшы сын Кёрка Дагласа, двойчы уладальнік прэміі «Оскар» (1975, 1987). Нарадзіўся ў 1944 годзе ў Нью

Брансуіку, штат Нью Джэрзі. Вучыўся у «The American Place Theatre» ў Нью — Йорку, дзе атрымаў прафесійную адукацыю.



*Майкл Даглас*

Майкл Мьюкейзі (Michael Mukasey) — галоўны фэдэральны суддзя Паўднёвай акругі Нью-Ёрка, займаў гэтую пасаду цягам 18 гадоў (1987 — 2006). Ён прыводзіў да прысягі мэра Рудольфа Джуліяні ў студзені 1998 году. Джордж Буш — малодшы, будучы прэзыдэнтам ЗША, прапанаваў яму пасаду міністра юстыцы, якую ён займаў у 2007 — 2009 гадох.

Нарадзіўся ў Бронксе ў 1941 годзе ў габрэйскай сям'і з — пад Баранавічаў, якая эміґравала ў Амэрыку ў 1921 годзе. Прозьвішча па — беларуску — Мукасей.

Майкл Блумберг (Michael Bloomberg) — мэр Нью-Ёрка у 2002 — 2013 гадоў, ягоны дзед па маці Макс Рубенс (Max Rubens) — габрэй — іміґрант з Беларусі

Джарэд Кушнер — муж дачкі прэзыдэнта ЗША, абранага ў 2016 годзе, Дональда Трампа, ягоныя продкі паходзяць з беларускага Наваградка

Скарлет Ёхансан (Scarlett Johansson) — зорка Галлівуду, паходзіць з іміґрантаў з Беларусі па мацярынскай лініі. Яе прадзед Іцхак Ходаш з Нясьвіжу разам з жонкаю Ханнаю прыехалі ў Нью-Ёрк і жылі ў Брукліне, дзе нарадзілася іх дачка Дораці — бабуля будучай артысткі. У Мелані, дачкі

Дораці, нарадзілася ў 1984 годзе дачка Скарлет, бацька яе датчанін Карстэн Ёхансан. Скарлет добра ведае пра тое, што яе карані ёсьць у Беларусі.

Лідэр культавай амэрыканскай рок — групы Aerosmit Стывэн Тайлэр і ягоная дачка, галлівудзкая зорка Лів Тайлэр — нашчадкі вядомага пісьменьніка Фларыяна Чарнышэвіча, які зьяўляецца аўтарам рамана «Надбярэзінцы», што нядаўна выйшаў у сьвет на беларускай мове. Родны брат пісьменьніка — Фелікс, нарадзіўся ў Клічаве ў 1892 годзе і ва ўзросьце 22 гадоў выехаў у Амэрыку. Менавіта ён — дзед Стывэна Тайлэра і прадзед Лів Тайлэр.

Рыгор Арансон — расейскі меньшавік, публіцыст і грамадзкі дзеяч, жыў у Нью-Ёрку і меў кантакты з беларускай эміграцыяй таму, што некалі пэўны час жыў у Менску і Віцебску.

Андрэй Клёнаў — расейскамоўны і беларускамоўны пісьменьнік у Нью-Ёрку, які паходзіў з Беларусі і трымаў кантакты з беларускім грамадзтвам.

Міхаіл Грабоўскі — знакаміты беларускі хакеіст, з ліпеня 2014 году жыў у Нью-Ёрку, пасьля таго як падпісаў кантракт з амэрыканскім хакейным клюбам «Нью-Ёрк Айлэндэрз« у якасьці цэнтральнага нападніку клюбу, гуляў у НХЛ.

Частым госьцем у Нью-Ёрку бываў знакаміты канадыйскі хакеіст Уэйн Грэцкі (Wayne Douglas Gretzky), дзед якога быў родам з Гарадзеншчыны.

Вельмі папулярным сярод амэрыканцаў было імя легендарнага беларускага хакеіста Руслана Салея, імя якога ёсьць у Залі славы Міжнароднай федэрацыі хакея ў Таронта, ён

трагічна загінуў у 2011 годзе ў авіякатастрофе ў Яраслаўлі разам з беларускай хакейнай камандаю.



## Сувязі з Бацькаўшчынаю

Усе пакаленьні імігрантаў з Беларусі да паваеннай хвалі іміграцыі мелі сувязі з Бацькаўшчынаю. Вольна мог прыязджаць у Амэрыку і вяртацца дадому Тадэвуш Касьцюшка. Прадстаўнікі эканамічнай эміграцыі, якія выязджалі на заробкі ў Амэрыку перад Першай сусьветнай вайною, падтрымлівалі з Бацькаўшчынаю пераважна прыватныя, сямейныя кантакты — перапіска з родзічамі, дасылка грошай і пасылак у дапамогу блізкім. Грамадзкія сувязі мела з суродзічамі ў сьвеце, таксама і ў Амэрыцы, першая беларуская газэта «Наша Ніва», якая выдавалася ў Вільні беларускімі адраджэнцамі ў 1906 — 1915 гадох. На старонках газэты час ад часу друкаваліся інфармацыі, абвесткі пра замежных беларусаў. Таксама варта адзначыць і грамадзка-палітычную дзейнасьць беларускага асяродку ў Чыкага, які арганізаваўся з прыездам туды ў 1923 годзе прадстаўніка Рады БНР Язэпа Варонкі. Чыкагскія беларусы таксама вялі пэўнае супрацоўніцтва, але рабіць гэта з суродзічамі ў захопленай Масквою савецкай Беларусі было ўжо амаль немагчыма.

Беларуская іміграцыя пасьля Другой сусьветнай вайны, як ужо не раз тут падкрэсьлівалася, была пераважна палітычнаю. Іміграцыя выступала супроць камуністычнага рэжыму, за дэмакратычную незалежную Беларусь. Зразумела, што ў

савецкай Беларусі беларуская дыяспара ў Амэрыцы і ва ўсім заходнім сьвеце лічылася ворагам. «Халодная вайна» ў 50 — я гады паміж СССР і Заходнім сьветам прывяла да поўнай ізаляцыі, «жалезная заслона» паўстала паміж беларускімі эмігрантамі і іх Бацькаўшчынаю. Пад жорсткай забаронаю для грамадзянаў Беларусі былі ўсялякія кантакты з замежнікамі, нават, калі гэта была блізкая радня.

Калі нейкія сувязі з замежжам і існавалі, то яны былі санкцыяваныя ўладамі і ажыцьцяўляліся, як правіла, праз заснаванае яшчэ ў 1926 годзе афіцыйнае Таварыства культурных сувязяў з замежнымі краінамі, якое не мела самастойнасьці, а лічылася структураю адпаведнага Усесаюзнага Таварыства. У савецкай Беларусі таксама існавала Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой "Радзіма", якое ад 1955 году выдавала адмысловую газэту «Голас Радзімы» для замежных беларусаў. Абедзьве арганізацыі былі прапагандыстамі камуністычнай ідэалёгіі і савецкага ладу жыцьця. Газэта друкавала паклёпніцкія артыкула пра амэрыканскіх беларусаў з паваеннай іміграцыі, называла іх здраднікамі. Зразумела, што з такімі прасавецкімі структурамі нацыянальна сьведамая іміграцыя ў Амэрыцы не супрацоўнічала.

Толькі ў 60-я гады пад час хрушчоўскай «адлігі» больш шырокія сувязі з замежнымі суайчыньнікамі пачалі паступова наладжвацца. Савецкія ўлады нават пачалі заклікаць эмігрантаў вяртацца дамоў і некаторыя сапраўды вярнуліся. Прыкладам, сям'я вядомага беларускага кампазытара Сяргея Картэса, па нацыянальнасьці расейская, прыехала з Паўдзённай Амэрыкі і асела ў Беларусі. Вярнуліся і некаторыя беларускія сем'і, хаця пасьля шкадавалі. Прадстаўнік адной

такой сям'і з Баранавічаў недзе у 1994 годзе наведаў сядзібу Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» у Менску і распавёў сваю драматычную гісторыю, як яны былі падманутыя савецкімі агітатарамі з амбасады ў Аргентыне і вярнуліся на Радзіму, дзе ім давялося потым перажыць шмат пакутаў.

Савецкія дэлегацыі, сярод якіх былі і прадстаўнікі Беларусі, час ад часу наведвалі Нью-Ёрк для ўдзелу ў Ассамблеях ААН. У склад дэлегацый уваходзілі чыноўнікі і выбраныя прадстаўнікі культуры. Амэрыку наведалі беларускія літаратары — Максім Танк, Пятро Глебка, Барыс Сачанка, Іван Чыгрынаў і інш. У сваіх успамінах Вітаўт Кіпель распавядае, што сустракаўся з прадстаўнікамі гэтых дэлегацыйі, бо працаваў у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, куды яны рэгулярна заходзілі.

У 70-я брэжнеўскія часы актыўнасьць кантактаў пастунова ўзрастала, асабліва ў галінах спорту і культуры. 15 лістапада 1974 ў Нью-Ёрку выступала савецкая гімнастычная каманда, ў яе складзе была гімнастка-беларуска Вольга Корбут, толькі яе амэрыканскія медыі назвалі беларускай, а



*Вольга Корбут*

астатніх беларускіх гімнастак — савецкімі. 19-ці тысячная спартовая арэна у Мэдысан Сквэр Гардэн (Madison Square Garden) вітала Вольгу Корбут, заля скандавала: «Вольга, Вольга!». Посьпех Вольгі Корбут вельмі моцна паспрыяў іміджу Беларусі ў Амэрыцы, успрыняцьцю беларусаў, як асобнай нацыі. Пра яе шырока пісалася ў амэрыканскім друку, улучна з газэтаю Нью-Ёрк Таймс (New York Times).

Цікава, што цяперашні амэрыканскі прэзыдэнт, у той час яшчэ толькі пасьпяховы бізнэсмэн, Дональд Трамп таксама быў вельмі захоплены посьпехамі беларускай гімнасткі і нават запрасіў яе з мужам Леанідам Барткевічам пад час іх побыту ў Амэрыцы да сябе ў госьці ў ягоную рэзыдэнцыю ў Палм Біч.

Як згадваў Леанід Барткевіч у адным інтэрвю пад час амэрыканскай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі 2016 году: «Трамп — вельмі вялікі прыхільнік Вольгі Корбут. Ён падарыў ёй пярсцёнак з 6 — каратным дыяментам. Мы гасьцявалі ў яго блізу трох тыдняў».

У 70 — я гады першы раз прыехаў ў Амэрыку знакаміты ансамбль «Песьняры». Выступы калектыву праходзілі 30 лістапада — 14 сьнежня 1976 году. Але, ягоныя канцэрты былі не там, дзе жывуць беларусы, выступалі толькі ва ўсходня-паўдзённых штатах. Амэрыканскія газэты шмат пісалі пра іх, але называлі іх савецкімі музыкантамі. Адна газэта так пераклала назоў іх песьні «Ой рана на Івана», на ангельскую як «Зраненьне Івана».

Другі раз «Песьняры» прыехалі ўвосень 1977 году ў складзе савецкага калектыву «Эстрада»(калектыў складаўся з прадстаўнікоў народаў СССР) і выконвалі толькі некалькі песьняў. Плянаваліся канцэрты цягам двух тыдняў у

Нью-Ёрку і па Амэрыцы. Але, пасьля першых выступаў атрымалі крытыку, кантракт быў перапынены і ўсе павінны былі вярнуцца дахаты. Прэса пісала крытычна пра выступы калектыву «Эстрада», але пры гэтым станоўча адзначала «Песьняроў». Некаторым амэрыканскім беларусам удалося трапіць на канцэрты.

20 лістапада 1978 у будынку Нью-Ёркскага гарадзкога унівэрсытэта на 42 Street каля 5 Avenue адбылася сустрэча з беларускім пісьменьнікам Іванам Чыгрынавым. Прыйшлі беларусы, а таксама студэнты і выкладчыкі. Чыгрынаў прачытаў даклад пра сучасны стан беларускай літаратуры, ацэньваў яго, як безумоўна станоўчы. Размаўляў па — беларуску. Пісьменьнік прыязджаў на пасяджэньне Ассамблеі ААН. У гэтым будынку таксама адбыліся сустрэчы з іншымі беларускімі пісьменьнікамі, якія прыязджалі ў Нью-Ёрк. У 70 — 80 — я гады прыязджалі таксама іншыя вядомыя дзеячы беларускай культуры — Пятро Глебка, Анатоль Вярцінскі, Алесь Адамовіч, Рыгор Барадулін, Вячаслаў Адамчык, Алесь Баршчэўскі, Адам Мальдзіс, Валянцін Грыцкевіч, Васіль Якавенка, Джым Дзінглі, Аркадзь Тоўсьцік, Віктар Казько, Віктар Дашук, мастак Кішчанка, які падараваў ААН свой габелен, Генадзь Бураўкін — пазьней узначальваў у 1991-1994 гадох Прадстаўніцтва Беларусі пры ААН і цэлы гэты перыяд жыў у Нью-Ёрку.

Гарбачоўская «перабудова» дала больш шырокія магчымасьці для кантактаў. У другой палове 80-х гадоў распачаўся працэс новага беларускага Адраджэньня. Абуджэньне ў беларусаў на Бацькаўшчыне нацыянальнага пачуцьця выклікала цікавасьць да шырокага сьвету і адкрыла інфармацыю, што

беларусы жывуць не толькі ў межах Беларусі, але і па цэлым сьвеце. Пачаліся першыя прыватныя візіты беларусаў з Бацькаўшчыны ў Амэрыку, дзе ў некаторых жылі блізкія сваякі, таксама і ў Нью-Ёрк.

Амэрыканскія беларусы свае першыя сталыя кантакты з суродзічамі ў Эўропе ладзілі найперш з беларусамі на Беласточчыне, куды можна было вальней паехаць. Таксама і беластоцкія беларусы пачалі прыязджаць у Нью-Ёрку, гасьцямі былі пісьменьнікі Алесь Баршчэўскі (Барскі), Сакрат Яновіч з жонкаю Таццянаю, Барташэвіч Альберт, з канцэртам выступіў вядомы на Беласточчыне ансамбль «Дубіны», прыязджалі Зінаіда Туронак, Бася Пякарская (дапамагала ў рэдагаваньні «Запісаў БІНІМ» і кніжак), Юрка Каліна, Ганна Красько, Янка Максімюк (напісаў кнігу пра Беларускую гімназію Янкі Купалы).

З беларусамі ў Эўропе пазнаёміўся сьпявак Данчык, ён таксама пабываў на Беласточчыне. У 1989 годзе з маці Юляю Андрусышын упершыню наведаў Беларусь, дзе выступіў з канцэртамі і пасьля гэтага пачаліся ўжо больш шырокія кантакты. Пазьней Данчык яшчэ некалькі разоў выступаў у Беларусі. Данчык разам з салістам «Песьняроў» Леанідам Барткевічам, які з жонкаю Вольгаю Корбут некаторы час жыў у Амэрыцы, запісалі некалькі сумесных кружэлак з беларускімі песьнямі і разам часам выступалі на канцэртах. У 1990 годзе ў Беларусі пабываў танцавальны гурт «Васілёк», які перад гэтым таксама выступаў і на Беласточчыне.

Восеньню 1990 годзе ў Нью-Ёрку ў клюбе на тэрыторыі штаб — кватэры ААН прайшла вечарына, якая завяршала пяцігадовую праграму сьвяткаваньня 500 — гадовага юбілея

асьветніка Францішка Скарыны (1985 — 1990 г.г.). Вялікі партрэт Скарыны (алей) быў падараваны Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы.

Прадстаўніцтвам Беларусі ў ААН, якое вясною 1990 году ўзначаліў вядомы паэт Генадзь Бураўкін, былі праведзены і многія іншыя імпрэзы. У 1991 годзе, калі ў Беларусі шырока адзначалася 100 — годдзе ад нараджэньня Максіма Багдановіча, Прадстаўніцтва арганізавала ў штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку ўрачыстую імпрэзу, прысьвечаную юбілею, з удзелам шматлікіх гасьцей ў тым ліку і нью-ёркскіх беларусаў. Канцэртную праграму прадстаўляў знакаміты ансамбль «Песьняры» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Мулявіна, яны дзеля гэтага падрыхтавалі музычны цыкл на вершы паэта, які потым стаў адным з лепшых у іх творчасьці.

У тыя часы Прадстаўніцтва Беларусі актыўна працавала не толькі ў галіне прапаганды беларускай культуры, але і ў надзвычай патрэбным у той час для насельніцтва краіны накірунку пошукаў дапамогі ў перадоленьні наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Беларускім дыпляматам удалося дамагчыся падтрымкі ААН, дасягнуць гэтай мэты было надзвычай складана. 4 сьнежня 1990 году Генеральная Ассамблея ААН у Нью-Ёрку прыняла адмысловую рэзалюцыю «Міжнароднае супрацоўніцтва ў справе зьмякчэньня наступстваў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі», праэкт яе быў падрыхтаваны працоўнаю групаю начале з міністрам замежнах справаў Беларусі Пятром Краўчанкам. Сп. Краўчанка на Сэсіі выступаў па-беларуску і тады ўпершыню у галоўнай ассамблейнай залі ААН гучала беларуская мова.

Беларуская грамада Нью-Ёрку ад самага пачатку аказвала

рэальную дапамогу пацярпелым ад Чарнобылю суродзічам у Беларусі. Зьбіралі грошы, куплялі лекі, дасылалі пасылкі, супрацоўнічалі з беларускімі арганізацыямі, якія займаліся чарнобыльскімі праблемамі. Амэрыканскі сьвятар а. Пол Мор з Нью-Ёрку арганізаваў збор дапамогі сярод вернікаў сваёй царквы і вазіў лекі і іншыя патрэбныя рэчы ў Беларусь, да ягоных намаганьняў далучыліся і беларусы. Амэрыканскія беларусы таксама дапамагалі прыцягнуць да справы дапамогі ахвярам Чарнобылю і шмат іншых амэрыканцаў. Штогод у Нью-Ёрку ладзіліся іпрэзы па ўшанаваньні памяці ахвяраў катастрофы, мітынгі з заклікам дапамагчы Беларусі і пратэстам супроць палітыкі савецкіх уладаў, якія замоўчвалі праўду пра Чарнобыль і не імкнуліся аказаць больш шырокую дапамогу насельніцтву краіны.

Безумоўна, самым дзейным штуршком для сувязяў паміж эміграцыяй і метраполіяй сталася ўтварэньне ў Менску ў 1990 годзе грамадзкай арганізацыі — Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», якое распачало актыўнае супрацоўніцтва з дыяспараю.

Першы зьезд беларусаў сьвету 8-10 ліпеня 1993 году абьяднаў беларусаў замежжа і на Радзіме, сабраўшы актыўных дзеячаў ў адной залі менскага опернага тэатра. Прысутнічалі на ім і беларусы з Нью-Ёрку.

Пасьля зьезду пачалося гуртаваньне беларускай эміграцыі ў сьвеце з удзелам суродзічаў у Беларусі. Працэс працягваецца і сёньня.

Шмат удзельнікаў беларускага адраджэнскага руху ў 90-х гадох пабывалі ў гасьцях у нью-ёркскіх беларусаў, некаторыя нават засталіся ў Амэрыцы на сталае жыхарства. Напрыклад,




*Удзельнікі Першага зьезду беларусаў сьвету, 1993 год*

сямья сьпевакоў Валянціны Пархоменкі і Алеся Казака з дачкою Вольгаю пакінулі Беларусь з-за чарнобыльскай радыяцыі, напачатку яны жылі ў Нью-Ёрку. Вольга Казак у Нью-Ёрку выбрала музычную кар'еру: стала сьпявачкаю, выдала свае альбомы і давала сольныя канцэрты.

Эміґравалі таксама кампазытары Яўген Магаліф і Зьміцер Еўтуховіч, паэт і бард Сяргей Сокалаў-Воюш, баяніст Хведар Паўлавец, навукоўцы Алена і Лявон Юрэвічы. Перасялілася ў ЗША яшчэ ў 1968 годзе і знакамітая беларуская спартоўка-фехтавальшчыца Тацьцяна Адамовіч (Барэйка), потым у 1996 году знакаміты гімнаст, сямікратны алімпійскі чэмпіён Віталь Шчэрба.

Нью-Ёрк наведалі ў 90-х таксама іншыя вядомыя асобы — Вольга Іпатава, Віктар Скарабагатаў, Лідзія Савік, Леанід

Казыра, Антон Сабалеўскі, Віктар Дашук, Барыс Платонаў, Анатоль Кляшчук, Васіль Якавенка і інш.

Не гледзячы на нэгатыўныя палітычныя зьмены ў Беларусі пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі ў 1994 г., супрацоўніцтва амэрыканскіх беларусаў з Бацькаўшчынаю ўжо немагчыма было стрымаць. З пачаткам 21 стагоддзя кантакты ідуць далей, новыя электронныя сродкі інфармацыі і сувязі пашырылі істотна магчымасьці для іх актывізацыі. Нью-Ёркскія беларусы імкнуліся як мага больш запрашаць у Амэрыку падстаўнікоў нацыянальнага адраджэньня, каб дзеячы маглі азнаёміцца з беларускай дыяспараю і з амэрыканскім жыцьцём.

У 2005 годзе у Нью-Ёрку пабываў Віцебскі драматычны тэатр, калектыў выступаў 14-15 кастрычніка на сцэне вядомай Бруклінскай акадэміі музыкі.

Вясною 2005 году ў ЗША гасьцяваў папулярны сьпявак Лявон Вольскі, у ягоны наступны прыезд у Амэрыку канцэрт адбыўся 9 красавіка 2007 году ў Нью-Ёрку на Атлантык Авэню 401.

Некалькі разоў ў Нью-Ёрку адбыліся канцэрты вядомай выканаўцы беларускіх народных і патрыятычных песьняў Тацьцяны Матафонавай — у 2011, 2015, 2016 гадох.

У 2016 годзе пасьпяхова ў Амэрыцы гастраляваў ансамбль сярэдневечнай музыкі «Стары Ольса».

Сьпеўныя сходы ў Нью-Ёрку ў 2017 годзе праводзіў сьпявак з Беларусі Сяргей Доўгушаў.

Стала пэўнай традыцыяй запрашаць у Нью-Ёрк з выставамі беларускіх мастакоў, сустрэчы з творцамі і іх персанальныя выставы звычайна адбываліся ў грамадзкай залі на Атлантык




*Канцерт Тацьцяны Матафонавай*

Авэню 401:

*Міколы Купавы — 3 чэрвеня 2007*
*Генадзя Драздова — 25 лістапада 2007*
*Аляксандра Грыгор'ева — 10 лютага 2008*
*Яўгена Шатохіна — лістапад 2008*
*Алеся Шатэрніка — студзень 2009*
*Аляксея Марачкіна — 15 лютага 2009*
*Алега Аблажэя — красавік 2011*

У грамадзкай залі на Атлантык Авэню 401 адбыліся сустрэчы, у 2013, 2015, 2016 гадох, з журналістам Радыё Свабода з Прагі Франакам Вячоркам, якія далі шмат інфармацыі пра жыцьцё беларускай моладзі на Бацькаўшчыне. З Нью-Ёркскімі беларусамі таксама сустракаліся кіраўнік Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода з Прагі Аляксандр

Лукашук, журналісты Сяргей Навумчык і Сяргей Шупа.

У 2011 годзе ў Нью-Ёрку гастраляваў «Беларускі Вольны тэатр», трупа выступала ў Мангэтэне на сцэне вядомага Публічнага тэатра (Public Theatr) на Лафайет і ў папулярным сярод нью-ёрскага культурнага авангарада экперыментальным тэатры-клюбе La MaMa на 4 East Street. Тэатр гастраляваў у Нью-Ёрку і восеньню 2015 году. Ягоны спектакль прайшоў 2 лістапада ў будынку Гантэр Каледжа (Hunter College), 47-49 East 65 Street.

Вольны тэатр атрымаў прэстыжную амэрыканскую ўзнагароду — OBIE Award. Пра тэатр некалькі разоў пісала газэта Нью-Ёрк Таймс. 18 кастрычніка 2015 году газэта апублікавала на трох старонках вялікі артыкул пра гэты тэатр пад аўтарствам найбольш вядомага ў Нью-Ёрку тэатральнага крытыка Бэна Брэнтлі (Ben Brantley), як пабываў у Беларусі і меў магчымасьць пабачыць у якіх неспрыяльных умовах мусіць там працаваць гэты апазыцыйны, авангардны і цяпер добра вядомы беларускі тэатр у заходнім сьвеце.

13 жніўня 2012 тэатральную дзею па матывах жыцьця беларускага жыхарства на Беласточчыне паказваў на Атлантык Авэню 401 гурт моладзі з Беластоку, прыезд якога арганізавала грамадзкае аб'яднаньне бацькоў, чые дзеці вывучаюць беларускую мову.

У красавіку 2016 году ў сьвяткаваньні ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР у Нью-Ёрку браў удзел вядомы паэт і грамадзка — палітычны дзеяч з Беларусі Уладзімір Някляеў.

У чэрвені 2016 году Нью-Ёрк наведала ляўрэатка Нобелеўскай прэміі 2015 году беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч. На сустрэчы з ёю у Бруклінскай



*Уладзімір Някляеў*

публічнай бібліятэцы прысутнічалі і беларусы. Аднак, яна не выказала жаданьня на нашу просьбу сустрэцца з беларускай грамадою ў Нью-Ёрку.

Нью-Ёркскія беларусы ўвесь час аказвалі самую розную дапамогу ў справе захаваньня беларускай мовы і культуры на Бацькаўшчыне, падтрымлівалі беларускіх пісьменьнікаў, артыстаў, навукоўцаў, падтрымлівалі выданьні іх кнігаў. Зора і Вітаўт Кіпелі дапамаглі камплектаваньню дзяржаўных бібліятэкаў у Беларусі эміграцыйнымі выданьнямі. Падрыхтавалі і выдалі Бібліяграфічны даведнік эміграцыйных выданьняў, якім таксама забясьпечылі бібліятэкі і архівы на Бацькаўшчыне. Сп. Кіпель таксама напісаў кнігу «Беларусы ў ЗША», якая была выдадзена ў Беларусі ў 1993 годзе і таксама стала добрым падарункам для Бацькаўшчыны ад Нью-Ёркскіх беларусаў. У 2017 годзе ў Менску выйшла ў свет дапоўненнае другое выданне гэтай кнігі. З таго часу шмат хто

з эмігрантаў выдаў у Беларусі свае кнігі ўспамінаў з дапамогаю БІНІМу і Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», якое заснавала адмысловую кніжную сэрыю «Бібліятэка Бацькаўшчыны».

Беларусы Нью-Ёрку дзейсна падтрымлівалі новае нацыянальнае Адраджэньне, дэмакратычныя рухі ў Беларусі, істотную дапамогу аказвалі Беларускаму Народнаму Фронту, віталі аднаўленьне дзяржаўнай незалежнасьці Бацькаўшчыны ў 1991 годзе. Аказвалі дапамогу і падтрымку нацыянальным палітычным і грамадзкім дзеячам, выступалі за дэмакратычную, незалежную Беларусь, здабывалі падтрымку амэрыканскіх уладаў для апазыцыйнага руху ў Беларусі. Праводзілі акцыі пратэсту і падтрымкі на карысьць беларускай нацыянальнай ідэі, удзельнічалі ў розных сустрэчах, канфэрэнцыях, якія ладзіліся ў Беларусі і інш. краінах на беларускую тэматыку. Як успамінае ў сваёй кнізе «Жыць і дзеіць» (ст.364) Вітаўт Кіпель, калі ён удзельнічаў у выбарчай кампаніі прэзыдэнта Ніксана ў 1972 годзе, яму ўдалося пад час нейкага прыёму ў Белым доме падаць ідэю пра тое, каб новы прэзыдэнт пасьля свайго візыту ў Маскву завітаў і ў Менск. Нарэшце так і сталася, Ніксан прыязджаў у Беларусь у ліпені 1974 году. А ў студзені 1994 году ў Менску пабываў і прэзыдэнт Біл Клінтан.

Нью-Ёркцы наведваюць Беларусь, трымаюць сталую сувязь з Радаю Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына і ўдзельнічаюць у зьездах беларусаў сьвету, кантактуюць з іншымі беларускімі нацыянальна — адраджэнскімі

арганізацыямі, з беларускай дыяспарай у розных краінах сьвету.



## *Новая імігрnative і сучаснае жыцьцё беларусаў Нью-Ёрку*

На час, калі пішацца гэтая кніга, беларускае жыцьцё ў Нью-Ёрку вядуць новыя сілы. Старэйшае пакаленьне з паваеннай іміграцыі амаль цалкам саступіла дарогу маладзейшым. Сучасную беларускую амэрыканскую дыяспару складаюць розныя імігранты, яе нельга назваць аднароднаю. Гэта ў невялікай колькасьці нашчадкі імігрантаў паваеннага пакаленьня; людзі, якія выйгралі амэрыканскую Грын кард (Green card) у штогадовай лятарэі; тыя, хто атрымаў працоўную візу, як спецыяліст, а потым застаўся працаваць настала; нелегальныя працоўныя імігранты, якія ехалі ў Амэрыку на заробкі і пазьней рознымі шляхамі атрымалі права на жыхарства; жыхары Беларусі, якія заключылі шлюбы з амэрыканскімі грамадзянамі; дзяўчаты і хлопцы, якія прыехалі на вучобу — яшчэ вучацца, ці ўжо атрымалі працу ў ЗША.

У асобную катэгорыю варта залічыць новых імігрантаў, якія маюць статус палітычнага ўцекача. За час панаваньня дыктатуры Лукашэнкі ў Беларусі шмат хто з палітычных дзеячаў і актывістаў палітычнага апазыцыйнага руху, грамадзкіх актывістаў з патрыятычных арганізацый, шэраговых удзельнікаў пратэстных акцый вымушаныя былі не па сваёй

волі пакінуць Бацькаўшчыну і падацца ў эміграцыю.

Такім чынам, новую іміграцыю ў Нью-Ёрку складаюць вельмі align рознародныя групы людзей, кожная з гэтых групаў абьяднаная тут ўмоўна, бо ў рэальнасьці яны не ствараюць ніякіх супольнасьцяў. Усё гэта індывідуальныя асобы, якія ў бальшыні не былі знаёмыя між сабою ў Беларусі, за выключэньнем хіба часткі палітычнай эміграцыі. У гэтым сучасная іміграцыя істотна адрозьніваецца ад паваеннай, якую складалі людзі, абьяднаныя падобным лёсам і злучаныя беларускай нацыянальнай ідэяй. Гэтая рознасьць ёсьць сёньня значнай праблемаю ў справе арганізацыі беларускага грамадзкага жыцьця, бо ў гэтай рознасьці кораняцца і розныя адносіны да беларускай нацыянальнай справы. Шмат хто з прыбылых не цікавіцца беларускім грамадзкім жыцьцём, усе сілы выкладае на ўладкаваньне прыватнага дабрабыту і дасягненьне «амэрыканскай мары».

Некаторыя без развагаў далучаюцца да «расейскага жыцьця» на Брайтан Біч, там ім цікавей, бо можна гаварыць па-расейску, а сваю беларускую мову яны не ведалі ў Беларусі і не хочуць навучыцца і тут. Шмат хто з моладзі яшчэ з дому нядрэнна валодае ангельскай моваю і тут імкнецца як мага хутчэй уліцца ў амэрыканскае жыцьцё і забыцца на сваё паходжаньне, каб хутчэй стаць амэрыканцам. Тысячы беларусаў прыязджаюць у Амэрыку і толькі невялікая частка з іх цікавіцца, ці ёсьць ў Амэрыцы арганізаваная беларуская грамада.

Нью-Ёрк па-ранейшаму застаецца асноўным цэнтрам беларускага іміграцыйнага жыцьця ў Амэрыцы. Кароткі, але прадуктыўны час новага беларускага Адраджэньня,



**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**



**КАТЭДРАЛЬНЫ САБОР СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА**

401 ATLANTIC AVENUE
(РОГ BOND STREET)
BROOKLYN, N.Y. 11217-1702

Духавенства й Парахвіяльная Рада запрашаюць Вас прыходзіць памаліцца

**НА СЬВЯТОЙ ЛІТУРГІІ**

ў нашай сьвятыні, што пачынаецца

**КОЖНУЮ НЯДЗЕЛЮ А 10-Й Г.Р.**

Божыя Службы ў сьвяты, што выпадаюць у тыдні, абвяшчаюцца загадзя.

Перад Сьв. Літургіяй можна паспавядацца й падаць успомныя лісткі за здароўе жывых, і супакой памерлых, ды замовіць малебен або паніхіду.

Пасьля Божых Службаў у нядзелю ў царкоўнай залі можна выпіць кубак кавы зь печывам і паразмаўляць зь землякамі, ды знаёмымі, а на сьвяты сястрынства запрашае ўсіх на пачастункі.

Парахвіяльную залю можна таксама наймаць на сямейныя ўрачыстасьці.

якое ў Беларусі перапыніў прарасейскі аўтарытарны рэжым, а таксама існаваньне незалежнай беларускай дзяржавы спрыялі таму, што ў краіне высьпела і нацыянальна сьведамая частка насельніцтва, якая ганарыцца сваёй беларускасьцю, якая захоўвае сваю нацыянальную ідэнтычнасьць. Вось менавіта яны, апынуўшыся на чужыне незалежна ад прычынаў, найперш шукаюць у Нью-Ёрку суродзічаў, даведваюцца ці ёсьць тут беларускія арганізацыі і далучаюцца да іх дзейнасьці. Гэтыя людзі розных узростаў і заняткаў складаюць сёньня аснову беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку. Прыходзяць і тыя, хто сьвядомым беларусам стаў ужо на эміграцыі, зразумеўшы каштоўнасьць

сваіх нацыянальных каранёў і адчуўшы настальгію па Радзіме і сваёй грамадзе, а таксама пабачыўшы, як тут гуртуюцца іншыя нацыянальнасьці.

Цэнтрам беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку працягвае заставацца будынак Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага з царквою і грамадзкай заляю на Атлантык Авэню 401. Цяпер яго часта называюць «Беларускім домам» у Нью-Ёрку, на ім заўсёды



*Беларуская грамада каля Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага*

лунаюць два сьцягі — амэрыканскі і бел-чырвона-белы — беларускі.

Як і раней, у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага кожную нядзелю і на на рэлігійныя сьвяты адбываюцца Багаслужбы.

На час, калі пішацца гэтая кніга, кіраўніком Парафіі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага зьяўляецца Уладыка Сьвятаслаў — епіскап БАПЦ, кіраўнік дзейнай на эміграцыі Беларускай

Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ), адноўленай пасьля выгнаньня з Беларусі ў паваеннай Нямеччыне беларускімі нацыянальнымі і рэлігійнымі дзеячамі.


Уладыка Сьвятаслаў кіраўнік БАПЦ

У будынку на Атлантык Авэню 401 адбываліся раней і праходзяць да сёньняшнягя часу Саборы БАПЦ

На Каляды і Вялікдзень царква выглядае асабліва прыгожа, адзначаць разам вялікія


Служба



*Андрусь Падлескі з сынам Данілкам выступаюць на Каляднай ялінцы*



*Вялікдзень у Саборы*

царкоўныя сьвяты застаецца непарушнай традыцыяй.

Стараньнямі беларускай грамады пры Саборы сабраная багатая бібліятэка як беларускіх выданьняў, так і розных іншых, што маюць дачыненьне да Беларусі. У склад бібліятэкі асобнай часткаю уваходзіць Бібліятэка беларускай дыяспары, дзе сабраная бальшыня выданьняў, падрыхтаваных і выдадзеных у беларускім замежжы. Таксама пры царкве існуе невялікая музейная экспазіцыя, дзе можна пабачыць экспанаты, якія адлюстроўваюць беларускую прысутнасьць у Нью-Ёрку і цэлай Амэрыцы.

У грамадзкай залі Сабору праводзяцца розныя беларускія сьвяточныя і грамадзкія імпрэзы.

Кожны год урачыста адзначаюцца галоўныя нацыянальныя сьвяты — Дзень абвяшчэньня незалежнасьці БНР 25 сакавіка 1918, 25 жніўня — Дзень аднаўленьня незалежнасьці, угодкі Слуцкага Збройнага Чыну, Дзяды

Моладзь далучаецца да грамадзкага жыцьця і бярэ на сябе частку грамадзкіх абавязкаў, найперш, у падрыхтоўцы культурных праграмаў сьвяткаваньняў і імпрэзаў.

На імпрэзах у грамадзкай залі праходзяць прэзентацыі выдадзеных кнігаў, тут чытачы пабачылі новыя кнігі Вітаўта Кіпеля, Янкі Запрудніка, Зянона Пазьняка, Джоан Станкевіч, Ганны Сурмач, Юлі Андрусышын, Вінцука Вячоркі і інш.

У «Беларускім доме» арганізуюцца сяброўскія сустрэчы з вядомымі дзеячамі, з гасьцямі з Беларусі і іншых краінаў, канцэрты бардаў і танцавальныя вечарыны.

У будынку Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага працуе нядзельная школка для дзяцей.

(глядзі фота на наступных старонках)



*Вялікдзень у Саборы*



*Святочная багаслужба пад час святкавання 25 Сакавіка, 2016*



*Адкрыцьцё сьвяткавання 25 Сакавіка*




*Прамаўляе Івонка Сурвіла — старшыня Рады БНР*



Імпрэза у грамадскай залі, 2016




Прамаўляе Зянон Пазняк, 2016



*Прамаўляе Ганна Сурмач — старшыня Галоўнай управы БАЗА*



*Імпрэза у грамадскай залі*



Прамаўляе Янка Запруднік



Удзельнікі сьвяточнай мастацкай праграммы




*Удзельнікі імпрэзы у грамадскай залі, 2015*




*Удзельнікі імпрэзы у грамадскай залі, 2015*



*Юрка Азаранка прамаўляе на Кангрэсу БАЗА, 2013*




*Прэзентацыя кнігі Вітаўта Кіпеля «Жыць і дзеіць: Успаміны», 2015*




*Прэзентацыя кнігі Юлі Андрусышын «Забыццю не аддадзеннае», 2015*



*Сустрэча з госьцем з Беларусі Вінцуком Вячоркам, 2017*



*Заняткі ў беларускай нядзельнай школе, 2017*

У прэстыжнай бруклінскай эрыі будынак «Беларускага дому «на Атлантык 401 ёсьць вельмі адметным тым, што яго з 1957 году пасьпяхова і беспраблемна для навакольля ўтрымлівае адзін і той жа ўласьнік — Парафія Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, якую ўжо працяглы час узначальвае прадстаўнік паваеннай эміграцыі Расьціслаў Гарошка — сын вядомага беларускага дзеяча Міколы Гарошкі.



*Расціслаў Гарошка*

Навокал ужо амаль усе будынкі шмат разоў мянялі сваіх гаспадароў. За гэтую стабільнасьць Парафія атрымала нават адмысловую

ўзнагароду ад мясцовай бруклінскай гарадзкой адміністрацыі. Беларусы зьяўляюцца пятымі ўласьнікамі гэтага гістарычнага будынку і ёсьць грамадою, якая адрамантавала і перахавала гістарычную рэліквію Брукліна. Клопат пра гэты адметны будынак ёсьць таксама пазытыўным укладам беларусаў у гісторыю Нью-Ёрка.

Кожны год Парафія Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага бярэ самы актыўны ўдзел у папулярным па цэлым Нью-Ёрку традыцыйным фэстывалі «Атлантык Антык», які адбываецца якраз на Атлантык Авэню, насупраць нашага будынку. Беларусы заўсёды выстаўляюць на продаж беларускія нацыянальныя стравы, якія ахвотна раскупляюцца, а таксама ладзяць у сваім будынку і навонку выставы, якія папулярызуюць Беларусь, транслююць беларускія мелёдыі і відэа.



*Удзельнікі рыхтуюцца пячы дранікі на продаж*






*Продаж беларускіх страваў на фестывалі «Атлантык Антык»*

Не страціла сваіх пазыцый і Беларуска -Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА), у 2009 годзе БАЗА урачыста адзначыла сваё 60-годдзе.

Задзіночаньне дзейнічае сёмы дзесятак гадоў, абьядноўвае беларусаў цэлай Амэрыкі. Сядзіба Галоўнай управы БАЗА знаходзіцца на Атлантык Авэню 401. У гэтым «Беларускім доме» адбываюцца пасяджэньні Галоўнай управы і таксама праходзілі два сучасныя Кангрэсы БАЗА — 8 чэрвеня 2013 і



20 чэрвеня 2015 гадоў.

Разам са Згуртаваньнем беларусаў Канады БАЗА працягвае ладзіць раз на два гады традыцыйныя Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Беларусы Нью-Ёрку былі прысутныя на 30-й Сустрэчы ў Таронта 1-3 верасьня 2012 году. А пад час наступнай 31-й Сустрэчы 30 жніўня — 1 верасьня 2014 году сустракалі гасьцей з Канады ў Нью-Ёрку на Атлантык Авэню 401. 32-я Сустрэча ў 2016 годзе адбывалася ў сталіцы



*Сустрэча ў Атаве*




*Ганна Сурмач і Антон Шукелойц, 2016*



*На святкаванні 100-гадовага юбілея Антона Шукелойца, 2016*




*Сяржук Сокалаў — Выш, 2016*



*Даўнія сябры — Антон Шукелойц і Юрка Андрусішын, 2016*

Канады — Атаве, у ёй брала ўдзел прадстаўнічая дэлегацыя БАЗА.

У «Беларускім доме» у Нью-Ёрку час ад часу адбываюцца пасяджэньні Рады БНР і яе Прэзыдыюму.



*Пасяджэнне Рады БНР*

На Атлантык Авэню 401 знаходзіцца таксама сядзіба Бруклінскага аддзелу БАЗА. Апошні арганізаваўся 6 чэрвеня 2010 году часткаю сяброў былога Нью-Ёркскага аддзелу




*Таццяна Красоўская, старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА*

БАЗА, які адыйшоў ад БАЗА Першым старшынёю Аддзела была абраная прадстаўніца новай хвалі эміграцыі Таццяна Красоўская, якая потым некалькі разоў пераабіралася на гэтую пасаду.




Астатняя частка былога Нью-Ёркскага аддзела стварыла ў сьнежні 2011 году новую арганізацыю — Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне «Пагоня», якое ўзначаліў былы старшыня управы ранейшага Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА Віталь Зайка.

Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне «Пагоня» працягвае выдаваць бюлетэнь «Весткі і паведамленьні», які доўгі час друкаваў Алесь Міцкевіч.

«Пагоня» амаль штогод арганізоўвае сьвяткаваньне Купальля з шырокім удзелам усёй беларускай моладзі Нью-Ёрку і навакольля.

Выходзіць і надалей галоўнае перыядычнае выданьне беларусаў Амэрыкі — газэта «Беларус», ад 2010 году галоўным рэдактарам газэты зьяўляецца Ганна Сурмач.

У Нью-Ёрку ад 2007 году выходзіць у сьвет заснаваны і рэдагаваны Маратам Клакоцкім штогадовы літаратурны альманах «Беларус», дзе друкуюцца творы беларускіх замежных

пісьменьнікаў і паэтаў.

Дзейнічае і надалей Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (БІНІМ) на адрасе Фундацыі Крэчэўскага. Выходзіць у сьвет ягоны зборнік беларусаведных працаў «Запісы», надрукаваны ужо 38 выпуск. БІНІМ выдае таксама і новыя беларускія кнігі, якія рыхтуюцца з удзелам дасьледчыкаў з Беларусі і з іншых асяродкаў дыяспары. Інстытут пасьпяхова ўзначальвае яго нязьменны старшыня Вітаўт Кіпель.

Працягваецца дзейнасьць Фундацыі Крэчэўскага (ад 2016 году — Беларускай фундацыя Крэчэўскага) на Джамэйцы (Jamaica) ў Куінсе на ранейшым адрасе :166-34 Gothic Drive. Фундацыя выконвае сваю асноўную функцыю — займаецца зборам і захаваньнем беларускіх архіваў і друкаваных выданьняў. Ягоную Раду дырэктараў узначальвае прадстаўнік паваеннага пакаленьня эміграцыі — Вячка Станкевіч.

Беларускія арганізацыі ў Нью-Ёрку маюць свае элетронныя



сайты ў інтэрнэце і з іх дапамогаю інфармуюць пра сваю дзейнасьць і ажыцьцяўляюць праз іх кантакты з грамадзкасьцю.

Беларусы Нью-Ёрку па магчымасьці аказваюць падтрымку дэмакратычнаму руху ў Беларусі, ладзяць у Нью-Ёрку і Вашынгтоне акцыі пратэсту супроць рэжыма Аляксандра Лукашэнкі, супроць агрэсыўнай палітыкі Расеі каля будынку ААН, каля беларускага консуляту, каля Прадстаўніцтваў Беларусі і Расеі пры ААН.

Беларусы актыўна далучыліся да аказаньня падтрымкі суседняй Украіне ў яе змаганьні з расейскай агрэсіяй, распачатай у 2014 годзе. Сябры БАЗА увайшлі ў створаны з гэтай нагоды ў 2015 годзе ў Нью-Ёрку Амэрыканска-Эўрапейскі камітэт салідарнасьці побач з іншымі прадстаўнікамі былых савецкіх рэспублікаў, якія асуджаюць расейскую агрэсію і абьядналіся, каб дапамагчы украінцам.




*Акцыя пратэсту каля ААН, 2015*







*Акцыі пратэсту каля ААН, 2015*

Галоўная задача беларусаў Нью-Ёрку на цяперашні час — ўтрымаць тое, што стварылі папярэднікі, захаваць беларускія арганізацыі, перыядычныя выданьні, беларускую царкву, беларускую маёмасьць. І гэта не так лёгка, бо новая іміграцыя яшчэ не пасьпела ўладкаваць сваё жыцьцё на чужыне, стаць на неабходную матэрыяльную апору і дарасьці да ўсьведамленьня таго, што ва ўсялякіх умовах патрэбна найперш трымаць нацыянальную справу і на яе ахвяравацца. Па-ранейшаму эміграцыя ў Амэрыцы і па цэлым сьвеце не мае належнай падтрымкі з боку краіны — маці, больш таго, адчуваецца арыентацыя палітыкі дыктатарскаг рэжыму на тое, каб ствараць перашкоды дзейнасьці незалежных дэмакратычных беларускіх грамадзкіх арганізацый у замежжы.

Праблемаў багата і яны павінны быць вырашаныя сучаснай беларускай дыяспараю ў Амэрыцы, каб не страціць набытае папярэднімі і новымі пакаленьнямі беларускіх імігрантаў — годную прысутнасьць у самай магутнай і разьвітай краіне сьвету, наша месца сярод народаў — будаўнікоў Амэрыкі, нашу прысутнасьць у самым вялікім амэрыканскім горадзе — мегаполісе, «сталіцы сьвету», як называюць цяпер Нью-Ёрк.

Канец першай часткі



# ЧАСТКА **II**

## Спадарожнік па беларускіх мясцінах Нью-Ёрку

Беларуская прысутнасьць у Нью-Ёрку, гісторыя якой налічвае некалькі сотняў гадоў, пакінула па сабе адметныя сьляды ў гэтым мегаполісе. Аглядаючы сусьветна знакамітыя мясьціны Нью-Ёрку, можна спадзявацца, што там знойдзецца і беларуская памятка. Гэты спадарожнік дапаможа не абыйсьці ўвагаю важныя для беларуса дэталі, а таксама знайсьці і пабачыць месцы, з якімі зьвязаная прысутнасьць у Нью-Ёрку беларускай іміграцыі розных пакаленьняў.

Спадарожнік, як пуцяводная нітка, павядзе вас па раёнах і вуліцах горада і дапаможа паглядзець на «сталіцу сьвету» з беларускага погляду. У выніку, вы адчуеце, што пазнаёміліся не з чужым горадам, што вашыя суайчыньнікі ўжо даўно абжылі мегаполіс і пакінулі для вас памяткі, каб вы адчуваліся

тут прадстаўнікамі адной з многіх нацыяў сьвету, што стваралі цяперашнюю Амэрыку, і маеце права ганарыцца тут беларускай спадчынай.



*Панарама гораду*

Нью-Ёрк зьяўляецца самым вялікім горадам ЗША і адным з буйнейшых мегаполісаў сьвету. Сярод апошніх Нью-Ёрк адметны тым, што гэта параўнальна малады горад, карані якога не сягаюць у вельмі далёкую старажытнасьць.

Гісторыя горада пачалася ў 17 стагоддзі. 3 верасьня 1609 году ангельскі мараплаўца Гэнры Гудзон (Henry Hudson) прыплыў на караблі «Паўмесяц» да зямлі, якая цяпер называецца Нью-Ёркам.

Імя Гудзона засталося ўвекавечаным у назве ракі Гудзон (Hudson), якая абмывае з захаду Мангэтэн. Ён працаваў на



*Генры Гудзон*

галандзкую кампанію і таму адкрытыя новыя землі абвясьціў уласнасьцю галандцаў. На гэтых землях жылі індзейскія плямёны, з якім галандзцы хутка наладзілі ўзаемавыгадны гандаль, скуплялі пушніну за патрэбныя індзейцам прылады цывілізацыі.

Першые галандзкае пасяленьне было закладзена ў 1624 годзе трыма дзесяткамі сем'яў перасяленцаў з Амстэрдама, яны заснавалі тут галандзкую правінцыю — Новыя Нідэрланды. Праз год у паўднёвай частцы вострава Мангэтэн быў закладзены горад Новы Амстэрдам з крэпасьцю. У 1626 годзе галандзкая адміністрацыя выкупіла ў індзейцаў увесь востраў Мангэтэн за тавары, вартасьць якіх на той час складала 60 галандзкіх гульдэнаў.




*(фота-3, гістарычнае)*

У 1674 годзе правінцыя Новыя Нідэрланды і горад

Новы Амстэрдам у выніку канфліктаў паміж краінамі сталі ўласнасьцю Англіі. Новы Амстэрдам быў перайменаваны ў Нью-Ёрк у гонар ангельскага герцага Ёркскага, першага ўладальніка далучаных тэрыторый. Пад новаю ўладаю горад працягваў разьвівацца і набываць усё большую важкасьць у гісторыі Амэрыкі. На ягонай тэрыторыі адбываліся многія падзеі Вайны за незалежнасьць. Пасьля завяршэньня барацьбы за незалежнасьць росквіт гораду набыў новы імпульс. Нью-Ёрк стаў адным з буйных гарадоў новай дзяржавы - Злучаных Штатаў Амэрыкі і нават ад 11 студзеня 1785 году да 12 жніўня 1790 году ён быў сталіцаю краіны.

Сучасны Нью-Ёрк - прыцягальнае месца для эмігрантаў з розных краінаў і для турыстаў-наведвальнікаў. Роля гораду ў сусьветнай гісторыі адлюстроўваецца ў нефармальнай назве, якая часта ўжываецца адносна Нью-Ёрка - «сталіца сьвету». Разнастайнасьць насельніцтва, адкрытасьць, дружалюбнасьць - усё гэта прыкметы цяперашняга мегаполісу, якія і сталіся падставаю для такой неафіцыйнай назвы.


*Вялікае яблыка як сымбаль гораду*

Нью-Ёрк вядомы таксама і пад іншай нефармальнай назваю — «Вялікае яблыка» (The Big Apple), папулярная садавіна сталася сапраўдным сымбалем гораду. Такую арыгінальную назву мегаполіс атрымаў недзе ў 20-х гадох мінулага стагоддзя.

Па адной вэрсіі гэтую назву ўпершыню ўжыў спартовы журналіст Джон Фітц Джэральд у артыкуле для газэты The New York Morning Telegraph. Па іншай вэрсіі назву вынайшлі джазавыя музыкі для свайго раёну Гарлему на Мангэтане, як цэнтру джазу на той час. Потым назва была надоўга забытая. Аднавілі яе ў 1971 годзе, як рэклямны брэнд гарадзкога бюро па турызму і экскурсіях. Назва прыжылася і сёньня ўспрымаецца, як арганічная частка гісторыі гораду.

Часам у Нью-Ёрку на рэклямах, на вывесках можна пабачыць слова Gotham.




*Gotham Pizza*

Пытаньне пра тое, што яно азначае, цікавіла мяне доўгі час, пакуль не трапілася ў рукі кніга Вашынгтона Ірвінга, амэрыканскага журналіста і пісьменьніка першай паловы 19 ст. Першае выданьне пабачыла сьвет у 1809 годзе, а потым кніга яшчэ доўга дапрацоўвалася аўтарам. Папулярны журналіст

Ірвінг напісаў цэлую сэрыю арыгінальных і вельмі цікавых эссэ пра Нью-Ёрк. Кніга напісана з вялікай павагаю і любоўю да гораду, але ў гумарыстычным, а часам саркастычным, крытычным тоне. Менавіта Ірвінг даў Нью-Ёрку «мянушку» -Gotham - горад дзівакоў. Такую геаграфічную назву мела вёска ў Англіі, жыхары якой пагардліва адкінулі прапанову пабудаваць на іхных земляк каралеўскі палац. Такая пабудова, зразумела, узьняла б прэстыж гэтага заняпалага селішча і адкрыла б лепшыя магчымасьці для ягоных жыхароў. Аднак, глупства і пыха ўзялі верх над разумнай разважлівасью. З таго часу назва вёскі такіх дзівакоў стала сымбалічнаю. Але, вядома, што Ірвінг без злой думкі ўжыў гэтую назву, а ў гумарыстычным сэнсе, падкрэсьліваючы такую рысу некаторых жыхароў гораду, як непрактычнасьць. Пра сёньняшніх жыхароў Нью-Ёрку гэтага не скажаш, бо менавіта іх здольнасьць арганізаваць сваё ўласнае жыцьцё і жыцьцё свайго гораду і робяць Нью-Ёрк адметным і прывабным месцам у сьвеце.

Горад Нью-Ёрк («Вялікі Нью-Ёрк» - Large City) адміністрацыйна складаецца з 5 раёнаў, якія называюцца боро (Borough) - Мангэтэн (Manhattan), Бруклін(Brooklyn), Куінс (Queens), Бронкс (Bronx), Статэн Айлэнд (Staten Island). У адзіны горад гэтыя тэрыторыі былі абьяднаныя ў 1898 годзе. Горад Нью-Ёрк афіцыйна ўваходзіць у склад аднайменнага штату Нью-Ёрк (New York State).

У кожным з нью-ёркскіх боро ёсьць «беларускія сьляды».




*Мапа Нью-Ёрку*



Панарама Мангэтэна

## Мангэтэн (Manhattan)

Мангэтэн зьяўляецца гістарычным і сёньняшнім цэнтрам гораду Нью-Ёрку. Ён размяшчаецца на аднайменным востраве, які аддзелены ад мацерыка і астатняга гораду буйнымі воднымі артэрыямі - ракою Гудзон (Hudson River) з захаду, рэчкаю Гарлем Рывэр (Harlem River) з поўначы, Іст Рывэр (East River) з усходу. Назва вострава, як лічыцца, паходзіць ад слова манна-хата, што азначае «гарысты ці малы востраў». «Маннахата» - такую назву мела таксама індзейскае племя, якое жыло ў вусьці Гудзона. Плошча боро складае 58,8 км$^2$,

21 км. у даўжыню і 3.7 км у шырыню ў найбольш шырокім месцы. Насельніцтва - каля 2 млн. У раньняй гісторыі гораду паняцьце Нью-Ёрк азначала Мангэтэн, на гэтым лапіку сушы зараджаўся і адбудоўваўся будучы мегаполіс.

Востраў належыць да адміністрацыйнай акругі Нью-Ёрк (County of New York), якая па тэрыторыі супадае з гэтым боро. Паштовыя адрасы тут пішуцца - New York, New York (горад і штат), а для Брукліна, напрыклад, трэба пісаць - Brooklyn,New York. І да сёньня яшчэ старажылы гораду пад словамі «Нью-Ёрк» і «Сіці» маюць на ўвазе толькі Мангэтэн, а «Вялікі Нью-Ёрк» называюць Large City.

Аднак, у склад боро Мангэтэн, акрамя вострава Мангэтэн, уваходзяць таксама - востраў Рузвэльта (Roosevelt Island) і востраў Рэндала (Randalls Island) на Іст Рывэр, Губернатарскі востраў (Governors Island), яшчэ два малых астраўкі і невялікі кавалак тэрыторыі на мацерыку побач з Бронксам.

Мангэтэн мае арыгінальную сістэму забудовы, якая забясьпечвае магчымасьць зручнай арыентацыі. Пераважная частка вострава забудавана па прамавугольнаму пляну, акрамя гістарычнай часткі Грынвіч Вілідж (Greenwich Village) у паўднёвай частцы Ніжняга Мангэтэна. Уздоўж вострава ідуць праспэкты - Авэню (Avenue), а ўпоперак вуліцы - Стрыты (Street). Бальшыня праспэктаў і вуліц маюць парадкавыя нумары, па якіх лёгка арыентавацца. Некаторыя Авэню маюць не нумары, а ўласныя назвы - Лексінгстон (Lexington), Мэдзісан (Madison), Парк Авэню(Park Avenue), Каламбус (Columbus Avenue), Амстэрдам (Amsterdam Avenue) і інш. меншыя магістралі. Нумарацыя Авэню ідзе з усходу на захад, а нумарацыя вуліц з поўдня на поўдзень.

Варта ўзгадаць пра гісторыю стварэньня Генеральнага пляна Мангэтэна. Дакумэнт быў быў прыняты ў 1811 годзе. Ініцыятарам ягонай распрацоўкі была легістратура штата Нью-Ёрк, мэтаю праекта было ўпарадкаваньне забудовы вострава, стварэньне зручнай гарадзкой планіроўкі, забесьпячэньне свабоднай цыркуляцыі паветра. Прамавугольная забудова была выбраная таксама з эканамічных довадаў, бо абыходзілася значна таньней.



План Мангэтэна)

Згодна з плянам, на Мангэтэне павінны былі быць разьбітыя 12 Avenue, пракладзеных з поўначы на поўдзень паралельна берагавой лініі. Avenue нумераваліся ад першай (на ўсходзе) па дванаццатую (на захадзе). Выключэньне было зроблена для раёну, які атрымаў назву Альфабэт Сіты (Alphabet City), што знаходзіцца на паўночнай частцы астраўнога выступу ў бок Іст Рывэр, з-за гэтай геаграфічнай прычыны давялося там запраектаваць чатыры дадатковыя карацейшыя Avenue, якія атрымалі асобную літарную нумэрацыю - A, B, C, D. (Альфабэт Сіты знаходзіцца ў раёне East Village, паміж Houston Street і 14 Street). Такім чынам, усяго напачатку было заплянавана 16 Авэню, пазьней іх колькасьць павялічылася і новыя Avenue атрымалі ўласныя назвы (напрыклад- Park Avenue). Плян прадугледжваў

стварэньне 155 вуліцаў, якія пад прамымі вугламі перасякалі б прасьпекты і ішлі б з усходу на захад. 1 Street пралягла ад Avenue B і Houston Street да перасячэньня Bowery і Bleecker Street. У далейшым нумарацыя вуліц была працягнутая на поўнач ад 155 Street і нават часткова перайшла ў Бронкс.

Напачатку плян забудовы Мангэтэна востра крытыкаваўся за ягоную быццам бы залішнюю практычнасьць, за тое, што адрозьніваўся ад традыцыйных гарадзкіх плянаў таго часу. Але, у будучыні ён поўнасьцю апраўдаў сябе і сёньня Мангэтэн зьяўляецца амаль што ўзорам зручнасьці планіроўкі вялікага гораду, бо дазваляе лёгка арыентавацца ў гарадзкой прасторы не толькі ягоным жыхарам, але і прыезджым. Таксама забясьпечвае больш зручную арыентацыю для транспарту.

Нумарацыя вуліц таксама ўжываецца і ў іншых боро Нью-Ёрка.

Прыкладна ў 60-70 гадох мінулага стагоддзя ў Нью-Ёрку на вуліцах і прасьпектах быў уведзены аднабаковы парадак аўтамабільнага руху: па адной дарозе - у адзін бок, па наступнай - у супроцьлеглы. Зроблена было дзеля большай дынамічнасьці руху транспарту, але, часам выклікае і нараканьні кіроўцаў з-за абьездаў.

Дзеля зручнасьці арыентацыі Мангэтэн таксама падзяляецца на тры часткі, якія дзеляць востраў у даўжыню - ніжнюю (паўднёвую), сярэднюю і верхнюю (паўночную).

Ніжні Мангэтэн называецца Lower Manhattan, альбо Downtown (ніжні горад), цягнецца да 14 Street. Сярэдні - Midtown (сярэдні горад) - займае наступную частку Мангэтэна ўключна па 59 Street. Midtown часам дзеляць на дзьве часткі - верхнюю і ніжнюю, ніжняя мае межы ад 14 Street да 31 Street,

далей ідзе верхняя.

Пасьля 59 Street, якая абрамляе паўднёвую мяжу Цэнтральнага парку, пачынаецца Верхні Мангэтэн - Upper Manhattan, ў сваю чаргу ён мае заходнюю і ўсходнюю часткі паабапал Цэнтральнага парку - West Upper і East Upper.

Гэтае умоўнае дзяленьне дазваляе лепш арыентавацца на Мангэтане асабліва пры карыстаньні сабвэем. Для цягнікоў, якія ідуць на поўдзень вострава ў арыентыровачных надпісах пазначаецца - Downtown, для цягнікоў паўночнага накірунку - Uptown.



*Раёны Мангэтана*

Галоўным праспэктам Мангэтэна зьяўляецца 5 Avenue (Fifth Avenue), яна дзеліць востраў на дзьве часткі - усходнюю (East) і заходнюю (West). Гэты падзел уплывае на нумарацыю будынкаў. Ад 5 Avenue на вуліцах пачынаецца нумарацыя дамоў на усход і захад. Першы будынак на любой вуліцы ад 5

Avenue на ўсход, напрыклад, на 14 Street, будзе мець адрас - 1 East 14 Street і далей нумарацыя працягваецца да ўсходняй мяжы вострава. Такі самы прынцып нумарацыі стасуецца і на захад ад 5 Avenue, толькі замест East (E) ставіцца West (W), у нашым прыкладзе адрас будзе выглядаць такім чынам: 1 West 14 Street.




*Прыклад адрасу*

Другой важнай магістраллю Мангэтэна зьяўляецца знакаміты Брадвэй (Broadway), гэта самая доўгая магістраль гораду ў 25 км., ён цягнецца ўздоўж усяго вострава ад Бэтэры парку (Battery Park) на паўднёвым ускрайку Мангэтэна да канца гарадзкой мяжы ў Броноксе, а потым пераходзіць у шашу № 95, якая вядзе да сталіцы штату Нью-Ёрк - гораду Олбані.

Бальшыня знакамітых адметнасьцяў Нью-Ёрку знаходзіцца на Мангэтэне. Менавіта гэты востраў паўставаў перад вачыма многіх новапрыбылых імігрантаў у ранейшыя часы, калі



дабрацца да Амэрыкі можна было толькі параплавамі. З цягам часу Мангэтэн стаў сымбалем Нью- Ёрку і, можна сказаць, усёй Амэрыкі. Мангэтэнаўскія «хмарачосы» пазнавальныя сёньня ў цэлым сьвеце.

Мангэтэн займае асаблівае месца і ў гісторыі беларускай іміграцыі ў Амэрыцы. Менавіта з першых крокаў па Мангэтэну пачынаўся шлях у новае жыцьцё за акіянам для бальшыні ранейшых пакаленьняў імігрантаў.

Але, перад тым, як атрымаць дазвол ступіць на зямлю



Хмарачосы Мангэтана)

Мангэтана, новапрыбылыя іміграноты знаёміліся з тымі сымбалічнымі месцамі, якія паўставалі перад вачыма, калі іхныя параплавы падыходзілі да амэрыканскіх берагоў ва ўсьці ракі Гудзон. Гэта два блізкіх да Мангэтэну невялікіх, але вядомых па цэлым сьвеце астраўкі - Востраў Свабоды (Liberty Island) са Статуяй Свабоды і востраў Эліс (Ellis Island) з будынкамі іміграцыйнага цэнтру, дзе адбываўся некалі агляд-прыём новых іміграантаў. Гэтыя астравы не належаць адміністрацыйна да Мангэтэну і не да гораду Нью-Ёрку, гэта

сёньня федэральная маёмасьць з увагі на гістарычную значнасьць гэтых аб'ектаў, яны знаходзяцца пад юрысдыкцыяй Службы нацыянальных паркаў ЗША (National Park Service).

Служба нацыянальных паркаў ЗША — фэдэральнае агенства, якое кіруе усімі нацыянальнымі паркамі, многімі нацыянальнымі помнікамі і іншымі гістарычнымі аб'ектамі. Створана ў 1916 годзе і належыць да Міністэрства ўнутраных справаў ЗША)

Менавіта з Мангэтэну можна трапіць паромам на гэтыя астравы, калі ўзяць адмысловы турыстычны маршрут. Многія турысты пачынаюць знаёмства з горадам з наведваньня гэтых знакамітых мясьцінаў і яны арганічна ўспрымаюцца, як частка гораду. Не варта і нам аддзяляць іх у нашай вандроўцы, бо для беларускіх імігрантаў у Амэрыцы гэтыя два астравы маюць таксама асаблівую значнасьць.



*Статуя Свабоды*

Востраў Свабоды, знаходзіцца прыкладна 3 км на паўднёвы захад ад паўднёвай канечнасьці Мангэтэна. Да 1956 году называўся



*Востраў Свабоды*

«востраў Бэдлоу».

Галоўная прыкмета вострава - велічная Статуя Свабоды, найбольш вядомы ў сьвеце сымбаль Амэрыкі.

Менавіта Статую бачылі найперш, падплываючы да Нью-Ёрку, эмігранты з розных краінаў сьвету, якія шукалі лепшага жыцьця за акіянам. Цяжка без хваляваньня глядзець на фотаздымкі ў музэі, дзе адлюстраваны як раз тыя хвіліны, калі людзі на параплаве з захапленьнем глядзяць на Статую Свабоды, паўсталую за бортам перад іх вачыма ва ўсёй велічы.

Для змучаных доўгаю дарогаю эмігрантаў гэта азначала заканчэньне цяжкага падарожжа праз вялікія воды, а таксама пачаткі новага жыцьця, надзею на лепшую будучыню для сябе і сваіх сем'яў. Яны марылі пра гэтыя хвіліны сустрэчы з Амэрыкай і ўсе беглі на палубу, каб паглядзець на Статую.

Ста́туя Свабо́ды (Statue of Liberty, поўная назва— Свабо́да,

асьвятляючая сьвет (Liberty Enlightening the World) — одна з самых знакамітых скульптураў у ЗША і цэлым сьвеце, сымбаль галоўных амэрыканскіх каштоўнасьцяў — свабоды і дэмакратыі.



Вышыня Статуі 93 м, яна ўяўляе сабою масыўны пьедэстал і саму 46-метровую статую рымскай багіні Лібертас (Свабода). У правай руцэ багіня трымае вялізны факел, а ў левай скрыжаль з надпісам «JULY IV MDCCLXXVI» - гэтае спалучэньне ангельскай мовы з рымскімі лічбамі азначае - 4 ліпеня 1776 году - дата прыняцьця Дэкляарацыі аб незалежнасьці ЗША. Менавіта з нагоды 100-й гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці ЗША Статуя была падараваная амэрыканскаму народу ад імя народа Францыі. Адной нагою статуя багіні стаіць на разьбітых кайданах, якія сымбалізуюць пераможаную несвабоду.

Па розных уважлівых прычынах Статуя была ўстаноўленая дзесяць гадоў пазьней пасьля юбілею - толькі ў 1886 годзе.

Ідэя ўстанавіць у Амэрыцы манумэнт, сымбалізуючы перамогу свабоды, узьнікла ў французскога прафэсара Эдуарда

Рене Лефеўр де Лабулэ ў 1865 годзе — хутка пасьля заканчэньня Грамадзянскай вайны ў ЗША. Кіравацьпабудовай будучага манумэнта ўзяўся скульптар Фрэдэрык Агюст Бартольдзі, ён прыехаў у Нью-Ёрк і выбраў месца на востраве Бэдлоў. Пазьней да справы далучыўся знакаміты інжынер Густаў Эйфэль (Gustave Eiffel), з чыім імем зьвязана будаўніцтва Эйфэлевай вежы ў Парыжы.

Асноўныя працы адбываліся ў Францыі. Выраблялася Статуя з медных лістоў, медзь для якіх была прывезена з расейскіх уральскіх заводаў. Потым медныя лісты ўмацоўваліся на стальны каркас. Агульная вага медзі складае - 31 тону, а стальной канструкцыі -125 тон.

Было дамоўлена, што французкі бок бярэ на сябе выдаткі па стварэньню Статуі, а самі амэрыканцы будуць фінансаваць пабудову пьедэстала. У ЗША была праведзена кампанія па збору сродкаў, якую падтрымалі прыкладна 120 тыс. чалавек. Было сабрана 102 тыс. даляраў, гэтая лічба сьведчыць пра тое, што бальшыня людзей ахвяравалі па аднаму даляру. На гэтым прыкладзе выразна бачна, як можна нават адным далярам падтрымаць вялікую справу.

Афіцыйнае адкрыцьцё Статуі адбылося 28 кастрычніка 1886 году, прысутнічалі каля мільёна чалавек, сярод іх прэзыдэнт ЗША - Грувэр Клінтан, які ўзначаліў сьвяточны парад ў Нью-Ёрку.

До кароны Статуи Свабоды вядуць 356 ступеняў. У кароне 25 вокнаў, якія сымбалізуюць зямныя каштоўныя камяні і нябесныя промні, якія асьвятляюць Зямлю. Семь промняў на кароне сымбалізуюць сем мораў і сем кантынентаў зямной кулі.

З 1901 па 1924 год адказным за абслугоўваньне Статуі быў Ваенны дэпартамэнт (Статуя выконвала таксама функцыю маяка). У 1924 годзе Статуя была абвешчана Нацыянальным помнікам разам з фортам Вуд, на тэрыторыі якога яна знаходзіцца. Ад 1933 году востраў з манумэнтам знаходзіцца ў ведамстве Службы нацыянальных паркаў. Адмысловым актам Кангрэсу ЗША у 1956 годзе востраў Бэдлоў афіцыйна перайменаваны ў Востраў Свабоды.

Старэйшыя беларускія імігранты ў Нью-Ёрку зьбіралі і перадавалі грошы на рэстаўрацыю Статуі Свабоды. Разам з іншымі нацыянальнымі суполкамі ўдзельнічалі ў грамадзкіх імпрэзах, якія ладзіліся ў падножжа помніка, калі імі пачыналіся ці заканчваліся праграмы Тыдняў паняволеных народаў. Напачатку адбывалася Багаслужба ў царкве Сьв. Тройцы на Уол Стрыт. Потым усе нацыянальныя дэлегацы, у тым ліку і беларуская, са сьцягамі накіроўваліся да прыстані, адкуль параплавам ехалі да Статуі Свабода, там ладзіўся мітынг і ўскладаньне кветак да падножжа манумэнта.

У 50-я гады на Востраве Свабоды, у пьедэстале Статуі, ствараўся Музэй іміграцыі. Беларуская іміграцыя далучылася да гэтай справы. Газэта «Беларус» ад 10 сакавіка 1957 паведамляла, што БАЗА будзе весьці працу па арганізацыі ўдзелу беларусаў у пабудове Музэя, на 7 кангрэсе БАЗА была створана дзеля гэтага адмысловая камісія. 30 верасьня 1957 газэта інфармавала чытачоў, што БАЗА бярэ актыўны ўдзел у зборы ахвяраваньняў на пабудову Музэю Іміграцыі ля Статуі Свабоды. Былі разасланыя лісты сябрам для зьбіраньня ахвяраў і пачалі паступаць першыя ўнёскі. Газэта таксама зьвярнулася з заклікам не толькі падаваць ахвяраваньні на

Музэй, але і распачаць збор дакумэнтаў і матэрыялаў пра беларускую іміграцыю ў Амэрыцы, каб гэта было адлюстравана ў Музэі.

Музэй іміграцыі на Востраве Свабоды ладзіў ў сьнежні 1979 году сэрыю калядных канцэртаў каля Статуі Свабоды, беларускія калядоўшчыкі таксама бралі ўдзел, мелі канцэртныя выступы, усё гэта запісвала і паказвала амэрыканская тэлевізія.

Музэй іміграцыі на Востраве Свабоды дзейнічаў да пачатку 90-х гадоў. Потым ягоныя функцыі пераняў Музэй іміграцыі, адчынены на Востраве Эліс.

У падножжы Статуі Свабоды ёсьць музэйная экспазыцыя, прысьвечаная гісторыі стварэньня гэтага ўнікальнага помніка.

У 1883 годзе амэрыканская паэтка Эмма Лазарус напісала санэт «Новы Колос» (The New Colossus), прымеркаваны да кампаніі збору грошай на пабудову пьедэстала да Статуі Свабоды. Праз 20 гадоў, у 1903 годзе, тэкст быў выгравіраваны на бронзавай пласьціне і замацаваны на сьцяне ў музэі, які знаходзіцца ў пьедэстале Статуі. Вось ягоныя апошнія радкі, якія так выразна акрэсьліваюць гуманную місійную сутнасьць Амэрыкі:

*«Keep, ancient lands, your storied pomp!» cries she*
*With silent lips. «Give me your tired, your poor,*
*Your huddled masses yearning to breathe free,*
*The wretched refuse of your teeming shore.*
*Send these, the homeless, tempest-tossed to me,*
*I lift my lamp beside the golden door!»*

Пераклад верша на беларускую мову па просьбе Багдана Андрусышына (Данчыка) зрабіла паэтка Натальля Арсеньева. Верш захоўваецца ў асабістым архіве Данчыка і з ягонага дазволу падаем гэты тэкст дзеля таго, каб ведаць, што знакаміты верш Эммы Лазарус, перакладзены на многія мовы сьвету, таксама мае і беларускі пераклад.




Апошнія выдзеленыя радкі - гэта якраз той тэкст, які разьмешчаны ў Музэі.

*Новы волат*
*Не як мядзяны волат грэцкай даўніны,*
*Што ўстаўшы над вадой быў вартаю краіны,*
*На захад сонца, у нас над акіянам сінім*
*Устала волат-жонка. У ейнай далані*
*Паходня, ўся ў маланкавым агні.*
*«Выгнаных Маці» ёй імя - ня зьгіне*
*Ніхто, каго яна ўзялася бараніць.*
*І сочыць ейны зрок сьцяг берагоў няспынна,*
*Дзе сьняць двайняты-месты, што паабапал, сны.*
**«Захоўвай, Сьвет Стары, лад пыхі і маны»,**
**Яна, як быццам кажа. «Мне ж аддай бяздольных,**

**Галодных, скрыўджаных, прыгнобленых бядой,**
**І дай ім уздыхнуць, нарэшце, вольна**
**Тут, дзе гарыць мой зьніч над Брамай Залатой».**

Магчыма, будзе цяжка знайсьці сярод нью-ёркскіх беларусаў таго, хто не наведаў бы гэта знакамітае месца. Беларусы лічаць абавязковым наведаць Востраў Свабоды з кожным госьцем, хто прыязджае у Нью-Ёрк з Беларусі, сярод гасьцей было шмат знакамітых і вядомых асобаў.

Востару Эліс (Ellis Island) - востраў плошчаю 11 га, знаходзіцца на адлегласьці прыкладна 1 км. ад Мангэтэна,



*Востраў Эліс*

Востраў атрымаў сваю назву ад імя ягонага ранейшага ўладальніка Самюэла Эліса, які купіў гэтую маёмасьць пад час Вайны за незалежнасьць і адчыніў там таварну. У 1808 годзе ён прадаў востраў штату Нью-Ёрк, а той у сваю чаргу перапрадаў Эліс фэдэральнаму ўраду для будаўніцтва казармы і батарэі на выпадак абароны. Цягам 80 гадоў на востраве знаходзілася ваеннае ўмацаваньне - Форт Гібсан.

Але, у будучыні Востраву Эліс была наканаваная зусім іншая роля ў амэрыканскай гісторыі. У сувязі з вялізным прытокам эмігрантаў 1 студзеня 1892 годзе фэдэральны ўрад адчыніў на востраве новы іміграцыйны цэнтр - транзітны




пункт для афармленьня ўезда эмігрантаў у ЗША. Ранейшы цэнтр дзейнічаў у Замку Клінтан на тэрыторыі Бэтэры Парку на ніжнім Мангэтэне.

Параплавы з эмігрантамі станавіліся на якар каля ўваходу ў нью-ёркскую гавань. Пасажыраў з каютаў 1 і 2 клясаў адразу

прапускалі праз кантроль і адвозілі на Мангэтэн. Астатніх эмігрантаў адвозілі на Вастраў Эліс, дзе правяралі іх здароўе, біяграфіі і пасьля інтэрвю прымалі рашэньне пра дазвол ці адмову пасяліцца ў ЗША.

Першы будынак цэнтру не захаваўся, ён згарэў пад час пажару ў 1897 годзе. Былі пабудаваныя новыя будынкі, дзе размяшчаліся залі з двухяруснымі ложкамі, сталоўка на 1 тыс. месц, шпіталь і галоўная заля, дзе адбывалася рэгістрацыя



*Галоўная заля*

прыбылых. Эмігранты падымаліся ў гэтую залю на другі паверх па сходах, зьверху стаялі дактары і адразу ставілі папярэдні дыягназ пра стан здароўя - гэта было відаць па тым, як чалавек ішоў па крутых прыступках. Прыезжых было так шмат, што ўлады былі вымушаныя павялічыць плошчу вострава і яго

дарасьцілі грунтам, вынутым пры будоўлі нью-ёркскага сабвэю. Пра маштаб іміграцыйнага буму ў той час сведчыць такі своеасаблівы рэкорд, які быў устаноўлены 17 красавіка 1907 году, ў гэты дзень было зарэгістравана 11.747 новапрыбылых эмігрантаў.

Аднак, далёка не ўсе прыбылыя атрымлівалі права на жыхарства ў Амэрыцы. 20 адсоткаў эмігрантаў вымушаны былі вяртацца назад, іх заганялі ў карантынны будынак і хутка адпраўлялі назад у Эўропу. ЗША не прымалі хворых асобаў, самотных жанчын, людзей з псіхічнымі адхіленьнямі і інш. Востраў Эліс вобразна назвалі Востравам сьлёз, бо заліваючыся сьлязьмі многія павінны былі вяртацца дадому, разьвітвацца са сваімі блізкімі, якія заставаліся, а для некаторых цяжкае падарожжа за акіян канчалася трагічна - 3500 эмігрантаў памерлі ў мясцовым шпіталі, сярод іх было 1400 дзяцей.

Праз Востраў Эліс прайшоў у 1893 годзе яшчэ хлопчыкам будучы аўтар гімна «God Bless America» Ірвінг Берлін з бацькамі, эмігрантамі з беларускіх зямель.

Цэнтр працаваў да 1954 году і быў 12 лістапада зачынены. Праз яго прайшлі больш 12 млн. імігрантаў. Выглядае, што прыкладна для 40 адсоткаў жыхароў Амэрыкі востраў Эліс - «сьвятое» месца, дзе іх продкі ўпершыню ступілі на амэрыканскую зямлю і адкуль пачынаўся іх амэрыканскі радавод. Сярод іх было нямала беларусаў і беларускіх габрэяў, якія выязджалі з тагачаснай Расейскай імпэрыі ў пошуках лепшага жыцьця.

Некаторы час востраў стаяў абязлюдзелым і запусьцелым. У часе падрыхтоўкі да сьвяткаваньня 200-годдзя Амэрыкі ў 1976 годзе па ўсёй краіне ствараліся адмысловыя

камісіі па адзначэньні юбілею. Такая камісія была створаная ў 1973 годзе ў штаце Нью Джэрзі ў. У яе складзе арганізавалі інтэрнацыянальны камітэт з прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў штату. Увайсьці сябрам ад беларусаў у гэты камітэт было прапанавана сп. Вітаўту Кіпелю. Камітэту была пастаўлена задача агледзець Востраў Эліс і зрабіць справаздачу - наколькі там магчыма адчыніць Музэй іміграцыі. Так сталася, што прадстаўнік беларусаў быў адным з тых, хто непасрэдна спрычыніўся да вырашэньня пытаньня аб адкрыцьці Музэя іміграцыі на востраве. Там сп. Кіпель пад час наведваньня будынкаў убачыў надпіс на сьцяне: «Жыве Беларусь!».

Пазьней была створана фэдэральная камісія аднаўленьня вострава. Паступова на Востраве Эліс быў арганізаваны паўнавартасны Музэй іммігацыі, прысьвечаны не толькі таму, што адбывалася на гэтым востраве, але і гісторыі іміграцыі ў ЗША у цэлым. У будынку плошчаю 9300 кв.м. сабраны экспанаты, фотаздымкі, дакумэнты, гуказапісы ўспамінаў сьведкаў таго часу. Тут ёсьць бібліятэка, дзьве кіназалі, ў будучыні плянуецца стварыць геніялягічны цэнтр, дзе наведвальнікі змогуць даведацца пра свой іміграцыйны радавод.

Музей іміграцыі на Востраве Эліс стаў адным з буйнейшых гістарычных музеяў Амэрыкі.

У 2005 годзе Юрка Кіпель (George Kipel) - сын спадарства Зоры і Вітаўта Кіпеляў перадаў у гэты Музэй абраз Пётры Мірановіча «Беларускія эмігранты». Як стала вядома з атрыманага допісу на імя сп. Юркі Кіпеля адміністрацыі Музэя ад 13 траўня 2005 (D6227 (STLI), абраз зарэгістраваны ў







*Сучасны выгляд галоўнай залі*

калекцыях Музэю пад назваю «Painting Belarusan Immigrants by artist Piotra Miranovich»

Наведваньне Музэя на Востраве Эліс уключана ў адзіны турыстычны маршрут на пароме (Ferry) з Востравам Свабоды. Паромы штодзённа ходзяць паміж Мангэтэнам і абодвума астравамі. Прыстань знаходзіцца на паўднёвым беразе Мангэтэна, у Бэтэры Парку або другая ў Лібэрты Стэйт Парк у Джерзі-Сіці. Паром спачатку прычальвае на Востраве Эліс, а потым плыве на Востраў Свабоды і вяртаецца ў Мангэтэн. Можна выходзіць на астравах, быць там патрэбны вам час і вяртацца любым рэйсам парома. Уваход на абодва вострвы і Музэй іміграцыі бясплатны, аплачваецца толькі праезд паромам. Наведваньне гэтых знаных гістарычных месцаў неабходнае для пазнаньня гісторыі беларускай іміграцыі ў Амэрыцы.



*«Беларускія імігранты», абраз Пятра Міравовіча*

Падарожжа на Востраў Свабоды і Востраў Эліс пачынаецца і заканчваецца на самым паўднёвым ускрайку Мангэтэна, дзе размяшчаецца вядомы ў Нью-Ёрку Бэтэры Парк.

Бэтэры Парк (Battery Park) - самая старая гістарычная мясьціна Нью-Ёрку, менавіта адсюль пачыналася засяленьне

ўсяго усходняга ўзьбярэжжа Амэрыкі. Тут высадзіліся ў 17 ст.



*Бэтэры парк*

галандзкія каланісты і пабудавалі форт Амстэрдам, у 1625 годзе купілі ў індзейцаў увесь востраў Мангэтэн. Пра лёса-вызначальную для Нью-Ёрка падзею нагадвае помнік у Парку - флагшток над гранітнаю тумбаю, на якой высечаныя выявы індзейца і эўрапейца, якія заключаюць дамову аб продажы.

Праз некаторы час галяндзцы заснавалі пасяленьне Новы Амстэрдам, якое вырасла ў горад, што даў пачатак Нью-Ёрку.

У часы першых пасяленьняў на гэтым месцы знаходзілася галандзкая артылерыйская батарэя (Battery), якая павінна была абараняць горад ад небясьпекі з мора, ад яе і пайшла назва цяперашняй паркавай зоны ў ніжнім Мангэтэне, якая сфармавалася ў сярэдзіне 19 стагоддзя.

На тэрыторыі Бэтэры Парку генерал Джордж Вашынгтон

адзначыў перамогу ў Вайне за незалежнасьць і стварэньне Злучаных Штатаў. Адсюль адплывалі ў Эўропу пераможаныя ў гэтай вайне апошнія ангельскія войскі.

У цэнтры Бэтэры Парку знаходзіцца знакамітая гістарычная пабудова.

Першапачаткова гэта быў вайсковы форт, пабудаваны ў 1808 -1811 гадох пад назваю Southwest Battery. Гэта




*Помнік, які ушаноўвае гісторыю пакупкі Мангэтэна ў індэйцаў*




*Замак Клінтан (у цэнтры)*

быў адзін з чатырох фортаў, якія павінны былі абараняць Нью-Ёрк на выпадак вайны (тры іншыя знаходзіліся - на Губернатарскім востраве, на востраве Брэдлаў і на востраве Эліс). Але, форту так і не давялося выканаць сваю асноўную функцыю і пасьля завяршэньня Вайны за незалежнасьць войска пакінула форт, ён стаў грамадзянскім аб'ектам. У 1917 годзе форту было нададзена новае імя - Замак Клінтан (Castle Clinton) ў гонар DeWitt Clinton, які цягам 1803-1815 гадоў тры разы абіраўся мэрам Нью-Ёрка. У 1823 годзе Замак быў




*Castle Garden*

перададзены гораду Нью-Ёрку, была праведзена перабудова аб'екту, які стаў месцам адпачынку і забаваў для жыхароў гораду. На ягонай тэрыторыі былі адчынены оперная і тэатральная пляцоўкі, канцэртная заля, выставачная галярэя і

піўны бар. З новай функцыяй Замак атрымаў і новую назву - Castle Garden.

У сувязі з наплывам эмігрантаў у Амэрыку было вырашана адчыніць там іміграцыйны цэнтр. Пасьля адпаведнай рэканструкцыі ў жніўні 1855 году ў Замку стаў дзейнічаць першы ў ЗША афіцыйны іміграцыйны цэнтр пад назваю Castle Garden Immigration Station. (In 1855, Castle Garden was established as New York's principal point of entry. It was the country's first immigration depot).

Праз Castle Garden прайшлі прыкладна 8 млн. імігрантаў, сярод іх былі такія вядомыя асобы, як Нікола Тэсла, знакаміты фізік і вынаходца ў галіне электратэхнікі, які прыбыў у Амэрыку 6 ліпеня 1884 году. Цэнтр дзейнічаў да 1890 году, калі быў перанесены на Востраў Эліс. У гэтым Замку можна адшукаць сьляды і перасяленцаў з беларускіх земляў.

Улады Нью-Ёрку ізноў вырашылі скарыстаць Замак дзеля патрэбаў жыхароў гораду. Пасьля чарговай перабудовы там быў адчынены акварыюм - New York City Aquarium.

У 1941 годзе Акварыюм перанесьлі ў больш адпаведнае месца на Коні Айленд (Coney Island), дзе ён знаходзіцца і да сёньня.

Castle Garden быў адноўлены і адчынены ў сваім першапачатковым выглядзе ў 1975 годзе, яму была нададзеная і новая назва, больш адпаведная ягонай гістарычнай ролі - Castle Clinton National Monument. Сёньня на тэрыторыі Замку знаходзяцца касы продажу квіткоў на паром да Вострава Свабоды і Вострава Эліс, агледзець гістарычную будову можна бясплатна.

У Бэтэры Парку сыходзілі з парома на амэрыканскі бераг




*New York City Aquarium*

тыя эмігранты, якія атрымалі дазвол на жыхарства ў ЗША на Востраве Эліс, сюды прыязджалі і паваенныя беларускія эмігранты з лягераў у Нямеччыне. Гэта ім усім, хто шукаў лепшай долі на амэрыканскіх берагох, прысьвечана скульптур-




*Касы продажу квіткоў на паром да Вострава Свабоды*

ная кампазыцыя «Імігранты», устаноўленая у Парку.




*Скульптурная кампазіцыя «Імігранты»*

Бэтэры Парк вядомы значнай колькасьцю помнікаў і манумэнтаў. Сярод іх надзвычай уражвае помнік ахвярам тэрарыстычнага акту 11 верасьня 2001 году, калі былі разбураныя будынкі Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру. Гэта бронзавая скульптура «Сфэра» нямецкага скульптара Фрыца Кёніга, якая стаяла каля зьнішчаных будынкаў, была пашкоджаная выбухамі, яе знайшлі на месцы трагедыі і зьнявечаная скульптура была пастаўлена ў Парку, як напамін пра тую катастрафічную падзею.

Варта нагадаць, што ва ўсходняй частцы Бэтэры Парку знаходзіцца South Ferry Terminal, адкуль ходзяць паромы на Статэн Айленд.



*Скульптура «Сфэра»*

Даехаць да Бэтэры Парку найлепш сабвэем, трэйны 4,5, да станцыі Bowling Green. Гэта станцыя мае назву ад невялічкага парку, які прылягае да Бэтэры Парку. Менавіта ад Bowling Green бярэ пачатак знакаміты Broadway.

Па Брадвэі рухаемся далей на поўнач. Па левым боку неўзабаве пабачым прыгожую царкву, будынак нумар 75 Broadway, гэта Царква Сьв. Тройцы (Trinity Church) - храм у стылі нэаготыкі, належыць Нью-Ёркскай епархіі Епіскапальнай царквы ЗША.

Першы будынак царквы быў пабудаваны ў 1698 годзе, у 1776 годзе ён быў зьнішчаны пад час вялікага пажару. Другі, які захаваўся да сёньня, быў закладзены ў 1788 годзе і канчаткова завершаны ў 1846 годзе. На час пабудовы царква была самым высокім будынкам у горадзе, занесена у сьпіс



*Царква Сьв. Тройцы*

гістарычных помнікаў. Гэта адна з найстарэйшых цэркваў Нью-Ёрку. Яна вядомая і тым, што пры царкве ёсьць мемарыяльны могільнік, дзе пахаваныя знакамітыя ў амэрыканскай гісторыі асобы, сярод іх Аляксандр Гамільтан (Alexander Hamilton, 1755–1804г.г.), удзельнік Вайны за незалежнасьць і першы міністр фінансаў ЗША, таксама ягоныя жонка і сын. У тэатрах Нью-Ёрка вялікай папулярнасьцю карыстаецца мюзыкл «Гамільтон» пра гэтага выбітнага амэрыканскага дзеяча.

На могільніку ёсьць лаўкі, дзе некалі зьбіраліся беларусы з розных нагодаў, пад час адной такой зборкі абмяркоўваўся пераклад кнігі Язэпа




*Магілка Аляксандра Гамільтана*

Найдзюка «Беларусь учора і сёньня». У гэтых нефармальных сустрэчах бралі ўдзел - Вітаўт Кіпель, Леанід Галяк, Іван Касяк (працаваў у будынку насупроць царквы), Анатоль Плескачэўскі, Мікола Панькоў, Аляксандр Жогла.

У Царкве Сьв. Тройцы бывалі беларускія дэлегацыі, якія ўдзельнічалі ў праграмах Тыдняў паняволеных народаў. Часам завяршальнаю часткаю гэтых праграмаў была багаслужба ў Царкве Сьв. Тройцы, а пасьля нацыянальныя дэлегацыі ішлі да парома ў Бэтэры Парку і перапраўляліся на Востраў Свабоды, дзе адбываўся мітынг і ўскладаньне кветак да Статуі Свабоды.

Царква Сьв. Тройцы стаіць у адметным месцы, дакладна насупраць яе пачынаецца знакамітая ў цэлым сьвеце — Уолл-Стрыт (Wall Street).

Вуліца пачынаецца ад Брадвэя і цягнецца да ўзбярэжжа Іст



*Нью-Ёркская фондавая біржа*

Рывэр. Назва вуліцы паходзіць ад гарадзкой сьцяны, якая ў 17 ст. была паўночнай мяжою гораду Новы Амстэрдам (першая назва Нью-Ёрку).

Вуліца Уолл Стрыт лічыцца гістарычным цэнтрам Фінансавага кварталу горада (Financial District), які таксама часам называюць проста Уолл Стрыт. Фінансавы раён Мангэтэна зьяўляецца адным з буйнейшых дзелавых цэнтраў не толькі ў ЗША, але і ў сьвеце.

Галоўная будова Уолл Стрыт — Нью-Ёркская фондавая біржа (New York Stock Exchange-NYSE), якая размяшчаецца ў будынку пад нумарам 11. Пачаткам яе дзейнасьці лічыцца 17 траўня 1792 году, калі 24 нью-ёркскія брокеры, якія гандлявалі каштоўнымі паперамі каля гарадзкой сьцяны (Wall), падпісалі дамову, якая ўстанаўлівала правілы пакупкі і продажу



*«Дом Моргана»*

каштоўных папераў. Але, афіцыйнаю датай заснаваньня лічыцца 8 сакавіка 1817 году, калі была прынята канстытуцыя ўстановы.

Нью-ёркская фондавая біржа — буйнейшая ў сьвеце па фінансаваму звароту, галоўная сусьветная гандлёвая пляцоўка, зарэгістраваныя на біржы кампаніі зьяўляюцца лідэрамі сусьветнага рынку.

Буйныя кампаніі адкрывалі на Уолл Стрыт свае офісы. Напрыклад, будынак пад нумарам 23, пабудаваны у 1914 годзе, вядомы пад назваю «Дом Моргана», доўгі час быў галоўным офісам банка J.P.Morgan і цэнтрам фінансавай справы ЗША.

З адкрыцьцём у 1973 годзе непадалёку Усясьветнага Гандлёвага Цэнтра шмат якія буйнейшыя кампаніі з Уолл Стрыт пераехалі ў ягоныя будынкі. Аднак, пасьля тэракту 11 верасьня 2001 году кампаніі з Фінансавага раёну сталі пераязджаць у іншыя раёны гораду. Бальшыня значных нью-ёркскіх фінансавых інстытутаў больш не маюць на Уолл Стрыт сваіх галоўных офісаў.

На Уолл Стрыт знаходзіцца гістарычны будынак Фе́дэрал гол (Federal Hall), Заля Фэдэрацыі, пабудаваны ў 1700 годзе для гарадзкой управы. Ад 1785 году цягам чатырох гадоў ў будынку адбываліся пасяджэньні Кангрэса Канфэдэрацыі. У 1789 годзе прайшла інаўгурацыя першага прэзыдэнта ЗША Джорджа Вашынгтона і быў прыняты Біль аб правах. Пасьля пераносу сталіцы ў Філадэльфію, састарэлы будынак у 1812 годзе быў разбураны і на ягоным месцы у 1842 годзе пабудавалі новы ў стылі класіцызму. У 1939 годзе ў гэтым будынку быў адчынены музэй, які пазьней быў залічаны




*Заля Фэдэрацыі*

у сьпіс нацыянальных помнікаў. Пазнаць Фэдэрал гол можна па скульптуры першага прэзыдэнта ЗША Джорджа Вашынгтона ля ўваходу ў будынак.

У двух кварталах на поўдзень ад нью-ёркскай фондавай біржы знойдзем яшчэ адну, але сучасную, прыкметнасьць Фінансавага раёну - скульптуру «Атакуючы бык» (Charging Bull) ці «Бык з Уолл Стрыта». Скульптура створана амэрыканскім скульптарам італьянскага паходжаньня Артуро Дзі Модзіка (Arturo Di Modica). Бронзавая статуя важыць 3200 кг., 3.4 м. у вышыню і 4.9 м. у даўжыню. Яна сымбалізуе агрэсіўны фінансавы аптымізм і працьвітаньне. Скульптура пакуль зьяўляецца ўласнасьцю мастака, ён вырабіў твор па ўласнай ініцыятыве і за свае сродкі, 15 сьнежня 1989 году ён прывёз статую і ўстанавіў каля навагодняй ялінкі

перад будынкам нью-ёркскай фондавай біржы, як калядны падарунак жыхарам гораду пасьля краху фондавага рынку у 1987 годзе, такім чынам імкнучыся падтрымаць аптымістычны настрой сярод гаражанаў. Паліцыя канфіскавала пастаўленую без дазволу статую і прыбрала яе з вуліцы. Дзякуючы пратэстам нью-ёркцаў Дэпартамэнт паркаў і месц адпачынку ўстанавіў статую на плошчы Боулінг-Грын, перадам да Брадвэю. Напэўна, пасьля такіх прыгодаў скульптар не спадзяваўся, што ягоны твор стане такім папулярным і своеасаблівым сымбалям не толькі Уолл Стрыта, але і цэлага Нью-Ёрку.


*Бык з Уолл Стрыта*

Тысячы турыстаў прыходзяць кожны дзень дакрануцца да статуі ў надзеі на спрыяньне іх уласным фінансавым посьпехам, альбо проста паглядзець на бронзавага быка, як твор мастацтва. Напэўна, нямала беларусаў, эмігрантаў і турыстаў, пакінулі свае сьляды на выцертых да бляску баках жалезнай жывёліны.

У Фінансавым раёне Нью-Ёрка таксама ёсьць беларуская прысутнасьць. Мільярдамі на Уол Стрыт запраўляе былы менчук Ігар Тульчынскі, ён зьяўляецца зоркаю аданаго з самых буйных хедж-фондаў Уол Стрыт — Millennium Management

LLC.

Millennium Management LLC, з якім зьвязана дзейнасьць Ігара - гэта фонд, што мае пад сваім кіраўніцтвам актывы інвестараў на 34 млрд. даляраў. З гэтай колькасьці актываў партфэлем у 4,5 млрд. кіруе кампанія WorldQuant, якую ўзначальвае Ігар Тульчынскі

Згадаем таксама, што ў вядомых галлівудзкіх фільмах пра Уолл стрыт - «Wall Street» (1987) і «Wall Street: Money never sleeps» («Уол Стрыт: грошы не сьпяць» (2010), ролю адной з «акулаў» фінансавага рынку сыграў Майкл Даглас (Michael Duglas), продкі якога паходзілі з Беларусі

Прайшоўшы трохі вышэй па Брадвэю на тым жа левым баку, што і Царква Сьв. Троіцы, пабачым яшчэ адзін знакаміты нью-ёркскі храм - Царква Св. Паўла (St. Paul's Chapel) - 209 Broadway.




*Майкл Даглас у фільме «Wall street»*

Гэта самы стары царкоўны будынак ў горадзе, пабудаваная ў 1766 годзе. Менавіта сюды Джордж Вашынгтон прыходзіў маліцца 30 красавіка 1789 году пасьля таго, як быў абвешчаны першым прэзыдэнтам Злучаных Штатаў.

Царква Сьв. Паўла была самым блізкім храмам да будынкаў Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру, у часе трагедыі 11 верасьня 2001 яна стала месцам псіхалягічнай дапамогі тым, хто працаваў на прыборцы руінаў, а потым і асноўным месцам памінаньня ахвяраў. З тыльнага боку храму можна пабачыць

мемарыяльны знак-напамінак пра тыя трагічныя падзеі. Гэта мэталёвы звон на пьедэстале з надпісам «Звон надзеі» (Bell Hope), падараваны мэрыяй Лёндана. Каля Царквы Сьв. Паўла таксама ёсьць могільнік, які варта агледзець.

Пасьля царквы Сьв. Паўла трэба павярнуць налева і прайсьці ўніз па Vesey Street, да месца, якое не можа не наведаць кожны, хто жыве ці прыязджае ў Нью-Ёрк - National September 11 Memorial & Museum на 180 Greenwich St., створаны на месцы разбуранага Сусьветнага Гандлёвага Цэнтра, а таксама ўвесь новаадбудаваны комлекс. Гэта самае трагічнае месца мегаполіса, дзе адбылася незабыўная падзея не толькі амэрыканскай, але і сусьветнай гісторыі.

Жыхары Нью-Ёрку ганарыліся двума 110-павярховымі



*Нью-ёркскія «Блізняты»*

вежамі - блізнятамі, якія былі пабудаваныя ў адчыненымм ў красавіку 1973 году комплексе Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру (World Trade Center -WTC). Яны сталі мадэрным сымбалем гораду, іх выявы былі на розных сувэнірах.

І раптам 11 верасьня 2001 году іх не стала, вялізныя пабудовыператварыліся ў груды попелу разам з усімі канструкцыямі і жывымі людзьмі, якія пасьпелі прыйсьці на працу ў шматлікія офісы. Два пасажырскія авіалайнеры, кіраваныя тэрарыстамі, разам з людзьмі ўрэзаліся ў будынкі, распачаўся страшэнны пажар, высокая тэмпература расплавіла мэтал, апора гмаху «самлела», вежы пачалі асядаць і зьнікаць у клубах пылу. Людзі вакол з жахам глядзелі на страшэннае відовішча, было бачна, як з вокнаў сотых паверхаў кідаюцца ўніз чалавечыя постаці. Гэтую жудасную сцэну назіраў і мой сын Аляксандр, які ў гэты час ехаў на працу ў Мангэтэне, заўважыў пажар на вежах, пачаў фатаграфаваць і намагаўся пад'ехаць на аўта бліжэй. Добра, што не пасьпеў зусім блізка, але зрабіў фота тых момантаў, калі вежы сталі падаць.

У гэты трагічны час на Мангэтэне была і мая цяжарная нявестка Ганна, 2001 год — год нараджэньня маёй унучкі Трыніці-Ганны назаўсёды стаўся зьвязаным з тымі падзеямі. Падобнае здарылася і яшчэ ў адной беларускай сям'і ў Нью-Ёрку - Галіны і Сяргея Навумчыкаў, іх дачка Ганна таксама нарадзілася неўзабаве пасьля гэтай запамінальнай падзеі.

Без сумневу можна сьцьвярджаць, што і ўсе нашы суродзічы-беларусы ў Амэрыцы і па цэлым сьвеце перажылі ў дзень тэракту шок і страх, многія не ведалі пра лёс сваіх блізкіх, бо тэлефонная сувязь была парушаная, не працаваў сабвэй, людзі ішлі дамоў пешкі. Зора і Вітаўт Кіпелі, якія працавалі




*Немаўляты — Ганна Навумчык (з бабуляй) злева і Трыніці-Ганна з маці Ганнаю*

ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, не маглі вярнуцца дамоў у Нью Джэрзі і начавалі ў бацькоў Лявона Юрэвіча, якія жылі на Мангэтэне. У той час я працавала ў Празе на Радыё Свабода, хвалявалася за лёс сваіх дзяцей у ахопленым трывогаю Нью-Ёрку, не ведала, што яны ў той час былі так блізка ад бяды. Потым я зрабіла адмысловую радыёперадачу, пазваніла нашым людзям і сабрала сьведчаньні пра тое, як была ўспрынятая трагедыя, як яна абьяднала амэрыканцаў, як узьняла патрыятычны дух, як людзі стаялі ў чэргах, каб здаць кроў для параненых. Транспарт гораду працаваў бясплатна, былі адчыненыя тунэлі для пешаходаў.

Пад час тэракту загінулі 2751 чалавек. Іх памяць ушанаваная мемарыялам, які паўстаў на месцы знаходжаньня былых вежаў, там пералічаны імёны ўсіх загіблых, вядома, што сярод іх была і грамадзянка Беларусі Ірына Бусло.

Многія страцілі сваіх блізкіх і знаёмых. У мясцовасцях вакол Нью-Ёрка, асабліва ў суседнім Нью-Джэрзі, можна бачыць устаноўленыя помнікі з імёнамі загіблых іхных жыхароў.

Нью-Ёрк здолеў годна перажыць трагедыю. Дзякуючы ахвярнай працы ўсіх гарадзкіх службаў пад кіраўніцтвам мэра Рудольфа Джуліані, з дапамогаю ўсяго насельніцтва, мегаполісу ўдалося ў рэкордна кароткія тэрміны адбудавацца, хаця залячыць глыбокія раны не лёгка. Руіны прыбралі і



*Мемарыял на месцы будынкаў WTC*

падрыхтавалі мейсца для новай будоўлі.

Неўзабаве быў абвешчаны конкурс на праект новай забудовы. Добра памятаю той час, трагедыя пакінула ў памяці незабыўны сьлед. Я цікавілася, што будзе адбывацца далей, чытала газэты і добра запомніла імя архітэктра Дэніэла Лібескінда (Daniel Libeskind), дарэчы, родам з польскай Лодзі, які выйграў конкурс са сваім праектам разбудовы помніка-мемарыяла з «Вежаю Свабоды». Але, тады здавалася, што ажыцьцявіцца гэтая грандыёзная задума толькі ў далёкай будучыні.



*Вежа Свабоды*



*Станцыя сабвэю PATH*



*Уваход на станцыю сабвэю PATH*

Пераехаўшы на жыхарства ў Нью-Ёрк у 2007 годзе, ад самага пачатку будаўніцтва я назірала, як вежа паступова ўздымалася

ў неба паверх за паверхам. Аднак, неяк і цяпер не веру сваім вачам, гледзячы на вялізны срэбны гмах, не магу успрыняць рэальнасьць таго, што ўсё адбудавана, што сёньня там стаіць чарга людзей, якія хочуць пабачыць Нью-Ёрк з самай высокай будовы гораду - «Вежы Свабоды»(Feedom Tower).



*Вадаспады*

На месцы трагедыі пабудаваны новы, казачна прыгожы архітэктурны ансамбль. Усё зроблена ў аптымістычных срэбных і белых колерах, адчынілася адноўленая станцыя метро, самая дарагая па затратах у сьвеце і надзвычай прыгожая, як на маё ўражаньне.

Новыя будынкі запоўненыя людзьмі, якія там працуюць, тысячы турыстаў наведваюць комплекс штодня, аглядаюць музэйную экспазіцыю, якая ўвекавечыла ў дэталях гісторыю трагедыі.

Жыцьцё працягваецца насуперак ваяўнічаму злу, якое тут панавала 11 верасьня 2001 году.

National September 11 Memorial & Museum можна наведаць бясплатна, замовіўшы візыт праз інтэрнэт.

Вольна можна агледзець мемарыялізаваныя месцы, дзе некалі стаялі вежы- блізьняты, моўчкі пастаяць у глыбокім смутку, гледзячы, як спадае ў нябыт вадзяная плынь, што сымбалізуе незваротныя страты, якія прынесла тая трагедыя.

Таксама можна ўзняцца на «Вежу Свабоды» і пабачыць з вышыні Нью-Ёрк, гэтая экскурсія платная.

Працягнем падарожжа на поўнач па Брадвэю.



*Сіты Гол*

Наступны аб'ект нашай увагі - будынак мэрыі Нью-Ёрка - Сіты Гол (New York City Hall) на правым баку Брадвэя ў Сіты

Гол Парку (City Hall Park), абмежаваны Брадвэем (Broadway), Парк Роў (Park Row) і Чэмберс Стрыт (Chambers Street). Адрас: City Hall Park, New York, NY 10007.

Будынак мэрыі быў пабудаваны ў 1810-1812 гадох і зьяўляецца найстарэйшым у ЗША будынкам сярод гарадзкіх мэрый краіны, яму нададзены статус нацыянальнага гістарычнага помніка.

Сіты Гол - працоўнае месца дзеючых мэраў Нью-Ёрка. Мэр горада зьяўляецца кіраўніком выканаўчай галіны ўлады гораду, ён загадвае ўсімі гарадзкімі службамі, муніцыпальнай уласнасьцю, паліцыяй, пажарнай службай, бальшынёю грамадзкіх абьяднаньняў і кантралюе выкананьне гарадзкіх і штатных законаў. Мэрыі падпарадкаваны прыкладна 250 тыс. супрацоўнікаў гарадзкіх службаў.

Гарадзкія службы (муніцыпальныя агенствы) размяшчаюцца непадалёку ў асобным будынку - Municipal Building на 1 Centre Street.



*Муніцыпальны білдынг*

Гэты 40-павярховы гмах быў пабудаваны ў 1909-1912 гадох. Пад ім знаходзіцца станцыя сабвэю.

Бюджэт Нью-Ёрка складае прыкладна 70 мільярдаў у год, гэта найбольшы паказьнік сярод усіх амэрыканскіх гарадоў. Мэр абіраецца на пасаду шляхам выбараў жыхарамі горада, ён прызначае бальшыню афіцыйных асобаў у горадзе, у тым ліку кіраўнікоў гарадзкіх «міністэрстваў». У адпаведнасьці з існуючым законам мэр можа быць на ягонай пасадзе не больш двух чатырохгадовых тэрмінаў. Аднак, мела месца і выключэньне, калі мэр Майкл Блумберг выконваў свае абавязкі цягам трох тэрмінаў.

Ад 50-х гадоў у Сіты Гол кожны год у дзень абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі прымалася беларуская дэлегацыя, выдавалася адмысловая пракламацыя пра абвяшчэньне 25 сакавіка Беларускім днём гораду і вывешваўся бел-чырвона-белы сьцяг. Гэтага дамаглася пасваенная беларуская іміграцыя, добрыя стасункі былі наладжаны з гарадзкой адміністрацыяй у часы кіраваньня мэраў Робэрта Вагнэра (Robert F. Wagner, 1954-1965 г.г.) і Эдварда Кача (Edvard Koch, 1978-1989 г.г.), якія заўсёды падтрымлівалі ідэю беларускай дзяржаўнасьці.

На жаль, гэтая традыцыя перарывалася ў час, калі мэрам быў лібэрал-рэспубліканец Джон Ліндсы (John Lindsay), які займаў пасаду з 1966 па 1973 год і не вызначаўся прыхільнасьцю да беларускіх праблемаў, хаця на выбарах беларусы Нью-Ёрка пераважна галасавалі за ягоную кандыдатуру.

У будынку Сіты Гол таксама некаторыя з беларусаў бралі цывільны шлюб.

Даехаць да Сіты Гол можна трэйнамі 4,5,6 да прыпынку - City Hall.

Ідучы па Брадвэі ад Сіці Гол на поўнач, хутка выйдзем на плошчу Federal Plaza, тут справа ўзвышаецца вялізны «хмарачос» - Фэдэральны будынак, які мае поўную назву - The Jacob K. Javits Federal Office Building, адрас: 26 Federal Plaza. Будова носіць імя кангрэсмэна Джэйкаба К. Джэвітса, які прадстаўляў Нью-Ёрк у Кангрэсе ад 1957 па 1981 год. Пабудаваны ў 1963-69 гадох. У будынку знаходзяцца дзяржаўныя службы - Department of Homeland Security, the Federal Bureau of Investigation New York City field office, the Social Security Administration, the General Services Administration, and the New York City district field office of U.S. Citizenship and Immigration Services (USCIS). Як бачна з гэтага сьпісу, тут месьцяцца вельмі важныя для імігранта дзяржаўныя структуры, праз якія даводзіцца праходзіць кожнаму нью-ёрскаму беларусу, хто на стала пасяляецца ў ЗША.



*Federal Building*

З тыльнага боку Сіты

Гол, калі ісьці на поўнач па Centre Street праз нейкіх пяць хвілін выйдзем на плошчу Foley Square, там з правага боку пабачым манумэнтальны будынак з калёнамі і шырокай лесьвіцаю - гэта будынак Вярхоўнага суда штату Нью-Ёрк (The Supreme Court of the State of New York), адрас: 60 Centre Street. Многім нью-ёркскім беларусам даводзілася пабываць у гэтай адметнай будове, каб вырашаць нейкія юрыдычныя праблемы, былі выпадкі, калі беларусы судзіліся паміж сабою.




*Будынак Вярхоўнага суду штату Нью-Ёрк*

Побач з Сіты Гол ёсьць вуліца Park Row, гэта надзвычай важнае месца для гісторыі беларускай прысутнасьці ў Нью -Ёрку. Менавіта на Park Row адбыўся 6 траўня 1921 году першы масавы сход беларусаў Нью-Ёрку і ваколіцаў, які арганізаваў вядомы беларускі дзеяч таго часу Сьцяпан Бубешка. Гэта быў

першы крок да гуртаваньня тут беларускай грамады. У выніку беларусы стварылі сваю першую арганізацыю пад назваю Беларускі Нацыянальны Камітэт, меў



*Выезд з Мангэтэну на Бруклінскі мост*

свой адрас - 63 Park Row. На гэтым жа адрасе была і другая арганізацыя, якая, відаць, была ўтвораная ў той жа час - Беларускае Прэсавае Бюро, яно пачало выдаваць бюлетэнь — «Bulletin of the White Russian Press Bureau». Прэсавае бюро сталася дзейным асяродкам беларускага слова, тут можна было даставаць беларускія газэты і кнігі. На жаль, знайсьці будынак не ўдалося, вуліца заканчваецца на 41 нумары і далей забудавана па новаму.

Як раз у гэтым месцы, дзе канчаецца вуліца Park Row, з тыльнага боку City Hall Park, пачынаецца выезд з Мангэтэну на знакаміты Бруклінскі мост.

Мост зьвязвае Мангэтэн праз Іст Рывэр з Бруклінам,



*Бруклінскі мост*

дзе таксама ёсьць шмат сьлядоў беларускай прысутнасьці ў мінулым і ў сучаснасьці. Многія сёньняшнія імігранты жывуць у гэтым боро і Бруклінскі мост ў іх жыцьці таксама займае важнае месца. Мала хто ўтрымаўся ад спакусы пешкі прайсьці мост, каб напоўніцу адчуць усю ягоную веліч і асаблівую атмасфэру. Гэта магчыма, бо акрамя шасьці аўтамабільных палосаў, пасярэдзіне на ўзвышэньні зробленая адмысловая дарожкі для пешаходаў і раварыстаў. Напачатку па Бруклінскім мосьце была пракладзена трамвайная лінія, але пазьней была зьнятая, зараз рэйкавага транспарта там няма.

Бруклінскі мост (Brooklyn Bridge) — адзін са старэйшых вісячых мастоў у Амэрыцы, яго даўжыня складае 1825 м., шырыня 26 м., вышыня над вадою ў самым высокім месцы - 41м. На час завяршэньня будаўніцтва ён быў самым вялікім вісячым мастом ў сьвеце і першым, у канструкцыі якога былі выкарыстаныя стальныя тросы, якія трымаюць мост. Акрамя сталі, у будаўніцтве маста былі ўжытыя вапняк, граніт і цэмэнт.

Напачатку меў назву - Мост Нью-Ёрка і Брукліна (New York and Brooklyn Bridge), бо мост злучаў між сабою два самастойныя гарады. Пасьля таго, як Бруклін ў 1898 годзе ўвайшоў у склад вялікага Нью-Ёрка, вырашылі зьмяніць неадпаведную новай сытуацыі назву, ад 1915 году пачала ўжывацца назва - Бруклінскі мост.

Мост занесены ў 1964 годзе ў сьпіс нацыянальных гістарычных помнікаў. Гэта адзін з самых вядомых сымбаляў Нью-Ёрка.

Бруклінскі мост мае сваю адметную гісторыю. У 1869 годзе інжынер-наватар Джон Рёблінг (Jonh Roebling), імігрант нямецкага паходжаньня, які атрымаў інжынерную адукацыю ў

Бэрлінскім палітэхнічным універсытэце, прапанааў свой арыгінальны праект маста праз Іст Рывэр. Мост гэты быў надзвычай патрэбным для камунікацыі, бо Мангэтэн з Бруклінам зьвязвала толькі паромная пераправа. Праект быў прыняты пасьля доўгага абмеркаваньня. Ідэя Рёблінга падвесіць канструкцыю вялізнага маста на сталёвых тросах(канатах) спачатку была ўспрынятая крытычна. Аднак, аўтару пректа ўдалося даказаць яго магчымую рэалізацыю. Да гэтага часу Джон Рёблінг разам са сваім старэйшым сынам Вашынгтонам ужо пабудаваў чатыры, але меншыя, вісячыя масты, выкарыстаўшы сталёвыя канаты. Ён распрацаваў тэхналёгію зьвіваньня тонкіх сталёвых дратоў у канаты-тросы і адчыніў у горадзе Трэнтане ўласную фабрыку, якая вырабляла правады і мэталёвыя канаты.

Будаўніцтва Бруклінскага маста пад кіраўніцтвам Джона Рёблінга распачалося 3 студзеня 1870 году і цягнулася 13 гадоў. Ідэя аўтара праекта была бліскуча ажыцьцёўленая, да сёньня Бруклінскі мост лічыцца адным з галоўных дасягненьняў амэрыканскай інжынерыі. Аднак, самому Рёблінгу не было наканавана пабачыць рэалізаваным свой сьмелы праект. Пад час агляду будаўнічых працаў ягоная лодка сутыкнулася з паромам, ён атрымаў цяжкую траўму, яму



*Джон Рёблінг*

ампутавалі раструшчаную нагу, але ён хутка памёр ад стаўбняка ва ўзросьце 63 гадоў. Справу бацькі пераняў яго бліжэйшы памочнік на гэтай будоўлі - сын Вашынгтон Рёблінг (Washington Roebling), але таксама не на доўга. Пад час падводных працаў ён захварэў на кесонную хваробу і быў спаралізаваны. Ягоная жонка Эмілі (Emily Warren Roebling) ўзялася кіраваць далей будаўнічымі справамі з кансультацыйнаю дапамогаю мужа-інваліда. На будоўлі былі і іншыя ахвяры, ў крыніцах называецца лічба 27 загіблых асобаў. Верагодна, што сярод іх былі і два беларусы. Вітаўт Кіпель у 1964 годзе рыхтаваў у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы з нагоды адкрыцьця маста Верразана выставу пра масты Нью-Ёрку, ён згадвае, што тады натыкнуўся на паведамленьне ў расейскай газэце пра тое, што на будоўлі маста ў Бруклін загінулі двое расейскіх іміграньтаў з Віленскай губерніі. Зразумела, што размова ішла менавіта пра выхадцаў з беларускіх зямель, якія на той час знаходзіліся ў складзе Расеі і таму іх назвалі расейцамі.

Будаўніцтва маста было завершана 24 траўня 1883 году. Эмілі Рёблінг была першым пешаходам на адчыненым мосьце.

Імёны людзей з сям'і Рёмблінгаў, якой Бруклінскі мост абавязаны сваім існаваньнем, вытраўленыя на канструкцыі, як імёны стваральнікаў маста. Эмілі



*Эмілі Рёблінг*



Рёблінг памерла ў Трэнтане ў 1903 годзе. Трагічная і ўзьнёслая гісторыя гэтай сям'і заслугоўвае доўгай і ўдзячнай памяці грамадзтва і нас - беларусаў. Аказалася, што з далейшым лёсам нашчадкаў Джона Рёблінга зьвязана і гісторыя беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы.

У 1905 годзе другі сын Джона Рёблінга - Карл (Charles Roebling), магчыма, што ён тады ўжо кіраваў бацькоўскаю кампаніяй John Roebling & Sons, заснаваў карпарацыйны горад пад назваю Рёблінг (Roebling) у Нью Джэрзі каля Трэнтана ў Burlington County. І вось у будоўлі аб'ектаў гораду Рёблінг былі задзейнічаныя і беларусы. Пра гэта распавяла ў сваёй сэмінарскай працы ў Ратгераўскім унівэрсытэце амэрыканка Эдыт Калтовіч. Яе імя называе Вітаўт Кіпель у сваёй кнізе «Беларусы ў ЗША». Сп. Кіпель пазнаёміўся са сп. Калтовіч і яна паведаміла, што ейная маці была беларуска, таму яна і ўзялася за гэтую тэму. Дасьледаваньне мае назву «Этналёгія

гораду Рёблінгу на прыкладзе дзьвюх меншасьцяў: беларусаў і русінаў» (Kaltovich E. Roebling's Ethnology of Two Minority Groups, 1977 July 20).

Там гаворыцца наступнае: «Калі ў 1905 годзе засноўваўся Рёблінг, беларусы і карпатаросы дапамагалі будаваць млын... Будучы расейска-праваслаўнымі, беларусы наведвалі Царкву Сьвятога Уладзіміра... Некаторыя беларусы наведвалі каталіцкі касьцёл Сьвятога Усьпеньня... Дзеля сваёй малой колькасьці беларусы заставаліся ізаляваныя і не збудавалі свае царквы, не набылі могілкі... Пасяленцы з Беларусі звычайна будавалі свае дамы вакол гарадзкое зоны. Новая зямля была гасьцінная, а новыя гаспадары працавітыя і ўпартыя. Тым часам, як першае пакаленьне імігрантаў засталося галоўна рабочымі і рамесьнікамі, іх нашчадкі далі грамадзтву выдатных спецыялістаў і прафесіяналаў ва ўсіх галінах дзейнасьці...

Першымі беларускімі пасяленцамі былі Сьцяпан Жытнік, Ядзьвіга Сьпірыда, Юльян Аўдзік, Гары Варвара, Ян Захаркоў і інш.» Сп. Калтовіч распавядала, што сямья Рёблінг вельмі добра ставіліся да беларусаў, бралі іх на працу і нават стараліся даць нейкі платны занятак беларускім падлеткам - пільнаваць дошкі ды нешта падобнае. Дасьледчыца таксама згадвала, што гэтыя імігранты лічылі сябе не расейцамі, а падкрэсьлівалі, што яны беларусы.

Хочацца тут згадаць, што сярод беларусаў у Амэрыцы ёсьць тыя, хто, як і Рёблінгі, прафесійна займаецца будоўляю мастоў, гэта інжынер Юрка Азарка з Нью Брансуіка, шматгадовы старшыня Аддзела БАЗА ў Нью Джэрзі.

Вернемся да Бруклінскага моста. Ён вядомы не толькі сваёю даўжынёю і арыгінальнасьцю канструкцый, але і двума

неагатычнымі вежамі вышынёй па 83 м., якія ўпрыгожваюць гэта грандыёзнае збудаваньне, па іх мост пазнаецца здалёку. На момант адкрыцьця маста і некаторы час пасьля гэтага вежы былі самымі высокімі будовамі заходняга зямнога паўшар'я.

Пра Бруклінскі мост створана шмат розных твораў мастацтва. Сярод іх ёсьць і беларускія творцы, каго натхніў на творчы набытак велічны і непаўторны Бруклінскі мост. Гэта ёсьць не толькі твор інжынернай думкі, але сама канструкцыя маста ўражвае сваёй мастацкай вартасьцю і сапраўды ўпрыгожвае Нью-Ёрк. Вядомая беларуская мастачка ў ЗША Тамара Кольба стварыла адмысловы трыпціх «Бруклінскі мост». І у маім пакоі вісіць абраз невядомага мне мастака з сымбалічнаю выяваю маста, контуры якога пазнавальныя па цэлым сьвеце.

Працягваючы далей падарожжа па Мангэтэне, можна заглянуць у сёньняшні вельмі прэстыжны раён Трайбека (Tribeka) у паўднёва-заходняй частцы вострава. У 1959 годзе беларусы сьвяткавалі тут 25 Сакавіка ў залі Стайвэсант гайскул (Stuyvesant High School) на 345 Chambers Street (Manhattan).



*Stuyvesant High School*

Найбольш вядомыя раёны Мангэтэна,

асвоеныя некалі беларускаю іміграцыяй разам з іншымі перасяленцамі - гэта Lower East Side і East Village. Менавіта тут існуе яшчэ адзін музэй гсторыі іміграцыі, які варта наведаць. Называецца ён - The Lower East Side Tenement Museum, на адрасе 97 Орчэрд (Orchard Street) і Дэлэнсы (Delancey Street).




Музей быў заснаваны ў 1988 годзе прыватнымі асобамі Рут Абрам (Ruth J. Abram) і Анітаю Джэкабсан (Anita Jacobson), утрымліваецца за кошт грантаў. Гэта своеасаблівы музей у выглядзе шматкватэрнага дому, які дэманструе, як жылі эмігранты, якія мелі побытавыя ўмовы, чым займаліся. Там можна знайсьці і беларускія сьляды.

Для мяне асабіста гэта вельмі памятнае месца, менавіта у гэтым Музэі я атрымлівала у верасні 2017 году пасведчанне пра набыцьцё амэрыканскага грамадзянства пад час урачыстай цырымоніі, якая была арганізавана для новых грамадзянаў

ЗША.

Сп. Вітаўт Кіпель згадаў, што некалі ён з жонкаю Зорай у Беларусі наведалі Веткаўскі музэй, дзе пазнаёміліся з супрацоўнікамі лябараторыі па рэстаўрацыі бісерных іконаў, якія скардзіліся, што ім для працы не хапае нейкага тыпу бісера. Сп. Зора ўзяла з сабою некалькі бісерынак для ўзору, каб пашукаць недзе ў Амэрыцы. І вось у гэтым Музэі на Дэлансы знайшоўся менавіта такі бісер, сп. Зора купіла ў іхнай краме шмат фунтаў і даслала падарунак у Ветку.

Ніжні Іст Сайд быў заселены імігрантамі-габрэямі, украінцамі і іншымі выхадцамі з Усходняй Эўропы, у тым ліку і беларусамі ранейшых хваляў іміграцыі. Блізка ад Музэю нават ёсьць вуліца - Avenue of Immigrants. У гэтым раёне жыў імігрант з Беларусі Ірвінг Берлін (Irving Berlin), аўтар гімна «Божа, дабраславі Амэрыку» (God Bless America).

Даехаць да Музэя можна трэйнамі F, J, M, Z да прыпынку Delansey St., Essex St.


*Ірвінг Берлін*

Прыбылыя па вайне некаторыя беларускія імігранты таксама асталёўваліся ў гэтай частцы Мангэтэну. На 33 Норфолк Стрыт (Norfolk Street) месьцілася ў 50-я гады канцылярыя БАЗА і рэдакцыя газэты «Беларус», адбываліся зборкі БІНІМу (будынак не захаваўся). Дзеля грамадзкіх патрэбаў была скарыстаная




*Царква Сьв. Тройцы*

кватэра беларусак Галіны Ганчарэнкі і Барбары Вержбаловіч, якія выехалі на працу ў Мюнхен на Радыё Свабода.

Ідучы далей на поўнач, абавязкова трэба наведаць 4 Street паміж C і D Avenue. Тут знаходзіцца адметны для беларусаў будынак былой карпатарускай Царквы Сьв. Тройцы (345 East 4 Street).

Працяглы час у 50-я гады беларусы тут мелі магчымасьць ладзіць сваё грамадзкае жыцьцё. Беларускім грамадзкім актывістам удалося наладзіць добрыя адносіны з парафіяй. У гэтай царкве адбываліся беларускія багаслужбы, якія вёў Уладыка Васіль, у царкоўнай залі праходзілі шмат якія беларускія мерапрыемствы і сьвяткаваньні. У залі пры царкве Сьв. Тройцы праходзіў 20-21 лютага 1954 году Пяты Кангрэс БАЗА. Другі гадавы зьезд Беларускага Студэнцкага

Таварыства ў Амэрыцы праходзіў у гэтым памяшканьні 21 верасьня 1952 году.

Будынак Царквы Сьв. Тройцы быў пабудаваны ў 1895 годзе. Калі будынак быў выстаўлены карпатаросамі на продаж, беларусы спрабавалі купіць, але не здолелі і ён быў прададзены Расейскай зарубежнай царкве. У далейшым і расейцам давялося прадаць будынак, ён захаваўся да сёньняшняга дня і належыць амерыканскай каталіцкай царкве старога абраду.

У царкве Сьв. Тройцы беларускія багаслужбы і імпрэзы адбываліся да восені 1957 году, калі быў куплены ўласны будынак на 401 Atlantic Avenue у Брукліне.

Пад час сьвяткаваньня 25 Сакавіка ў Царкве Сьв. Тройцы адбываліся ўрачыстыя багаслужбы, а сьвяточныя акадэміі ладзіліся ў нанятых залях. Адной з іх была заля ў Ленокс Гол (Lenox Hall), будынак якога знаходзіцца непадалёку на адрасе, 252-254 East 2 Street, паміж B і C Avenue. У гэтай залі адбываліся і многія іншыя беларускія мерапрыемствы - сезонныя балі, хор Міхася Тулейкі тут даваў свой канцэрт у 1954 годзе, таксама выступаў беларускі хор Валюшкі, ладзіліся сустрэчы Новага году. Будынак Ленокс Гол захаваўся да гэтага часу, але цяпер гэта ўжо жылы дом.



*Сучасны выгляд Ленокс Гол*

У 1952 годзе адзначалі Сакавік таксама напачатку

багаслужбаю ў Царкве Сьв. Тройцы, а потым акадэмія - ў залі Бэтховэн Голл (Beethoven Hall), 210 East 5 Street. Сабралася каля паўтысячы чалавек з Нью-Ёрку і ваколіцаў. Адчыніў сьвята старшыня БАЗА Францішак Кушаль, прысутнічаў і прамаўляў прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык, які прыехаў з Парыжу.



*Бетговен гол*

У гэтым раёне East Villige на 3 Street (паміж 1 і 2 Avenue) у будынку пад нумарам 70 доўгія гады жыў Антон Шукелойц, грамадзкі дзеяч і шматгадовы старшыня Галоўнай управы БАЗА.

Непадалёку, на 6 Street (паміж 1 Avenue і Avenue A) у будынку пад нумарам 430 жыла вядомая беларуска-украінская сямья Юлі і Паўла Андрусышын, у якой гадаваўся знакаміты




Дом дзе жыў Антон Шукелойц

сьпявак Данчык, а ягоная маці належыць да роду беларускіх дзеячаў Івана і Антона Луцкевічаў.

У гасьцiннай кватэры спадарства Андрусышыных часта зьбіралася беларуская грамада.

Акурат насупроць дома Андрусышыных знаходзіцца белы дамок пад наступным 431 нумарам. Будынак раней належаў Расейскаму



Дом, дзе жыла сямья Андрусышын

Абьяднанаму Таварыству Узаемадапамогі (Русское объединённое общество взаимопомощи), вядомае пад кароткаю назваю ROOVA, сярод заснавальнікаў якога было вельмі шмат беларусаў з перадваеннай эміграцыі. У гэтым будынку знаходзіўся Амэрыканска-Расейскі народны дом (Home of First Branch ROOVA). Напачатку 50-х гадоў старэйшыя беларусы дазвалялі новапрыбылым павенным эмігрантам праводзіць тут свае



*Белы Дамок*


*Калядныя сьвяты у кватэры Андрусышыных*

імпрэзы, але, пазьней адмовілі з-за таго, што ім не падабалася беларуская мова, на якой гаварылі новыя імігранты.

Калі вернемся троху назад на 4 Street, то варта прыпыніцца каля будынку папулярнага сярод нью-ёрскага культурнага авангарада экперыментальнага тэатра-клюба La MaMa на 74A East 4 Street (паміж Bowery & 2 Avenue). Тэатр быў закладзены ў 1961 годзе Ellen Stewart. Тут у 2011 годзе выступаў са спектаклем Беларускі вольны тэатр.

Пойдзем далей уверх. На адрасе: 134 East 7 Street ў 20-х гадох беларусы мелі беларускую музычную краму, на жаль гэты будынак не захаваўся.



*Тэатр La MaMa*

Наступная вуліца мае падвойную назву 8 Street/ St. Mark's Place. Справа ў тым, што яна месцамі мяняе назву. Пачынаецца вуліца ад Avenue D і да Avenue B яна называецца 8 Street. Далей перарываецца скверам (Tompkins Square Park), аднаўляецца ад Avenue A і цягнецца да 3 Avenue, на гэтым адрэзку носіць назву St. Mark's Place. Потым перарываецца плошчаю Astor place, пасьля плошчы вуліца аднаўляецца і ідзе да 6 Avenue пад ранейшаю назваю - 8 Street. Часта мясцовыя жыхары называюць гэтую дзіўную вуліцу проста - 8 вуліца. На St. Mark's Place ў доме пад нумарам 8 жыла напачатку сям'я Андрусышыных, пакуль не перабралася на 6 Street. У гэтым доме большую частку свайго




*Месца, дзе магла быць беларуская музычная крама на рогу 1 Avenue і 7 Street*

амэрыканскага жыцьця пражыла Яніна Каханоўская, з ёю была і ейная маці Эмілія Шабуня, родная сястра знакамітых беларускіх дзеячаў Івана і Антона Луцкевічаў.

Па St. Mark's Place хадзіў штодня на заняткі ў Нью-Ёркскі унівэрсытэт Багдан Андрусышын (Данчык).

Сёньня St. Mark's Place — папулярнае месца забаваў



*Дом, дзе жылі Эмілія Шабуня і Яніна Каханоўская*



Эмілія Шабуня

для моладзі, пераважна студэнцкай, з-за блізкасьці ньюёркскага ўніверсытэта.




Яніна Каханоўская

Прайшоўшы па St. Mark's Place з 1 Avenue на 2 Avenue, мы апынемся ў самым сэрцы ўкраінскага раёну Нью-Ёрка. Тут ад 6 Street і прыкладна да 12 Street знаходзяцца самыя вядомыя ўкраінскія ўстановы і грамадзкія цэнтры. На 6 Street - Украінскі музэй, на 7 Street - Сабор Сьв. Юры ўкраінскай грэка-

каталіцкай царквы, на 2 Avenue - Украінскі дом, украінскі банк, будынак Украінскага кангрэсавага камітэта і інш. Ва ўсіх гэтых месцах бывалі з розных нагодаў беларусы паваеннай хвалі эміграцыі, бо яны падтрымлівалі з украінцамі даволі цесныя адносіны і аказвалі ўзаемную дапамогу. Некаторыя беларускія сьвяткаваньні адбываліся ва Украінскім доме.




Амаль дваццаць першых гадоў газэта «Беларус» друкавалася ва украінскай друкарні Сьв. Сафіі, якая належала украінскай праваслаўнай царкве. Друкарня знаходзілася на 1 Avenue паміж 9 і 10 Street (гэты будынак не захаваўся).

На рагу 10 Street і Avenue A знаходзіцца прыгожая гістарычная царкоўная будова з чырвонай цэглы, ў 50-я гады яе займала карпатаруская царква і там у залі 17 студзеня 1953

году ладзілася беларуская вечарына, дзе паказвалася пьеса «Чорт і баба». Цяпер у гэтым будынку знаходзіцца чэхаславацкая праваслаўная царква.



*Чэхаславацкая праваслаўная царква*

Вернемся на 2 Avenue і пройдзем па St. Mark's Place наверх у бок Брадвэю, выйдзем на Астар плэйс (Astor Place). Першапачатковая назва гэтага месца была Art Street. У 1848 годзе была пераіменавана ў гонар Джона Астара (John Jacob Astor), прадстаўніка адной з найбагацейшых у той час сем'яў Амэрыкі і аднаго з заснавальнікаў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі.

На Astor Place з левага боку пабачым гістарычную будову з калёнамі, якая стаіць паміж двума плошчамі Astor Place і Cooper Square. Гэта будынак Купэр Юніан (Cooper Union), які належыць да гістарычных помнікаў, пабудаваны ў 1858-59

гадох адмыслова для прыватнага каледжа.




*Cooper Union*

Cooper Union (The Cooper Union the Advancement of Science and Art - The Cooper Union) — заснаваны ў 1859 годзе амэрыканскім прадпрыймальнікам і вынаходцам Пітэрам Куперам (Peter Cooper) Каледж дзеліцца на тры школы — Irwin S. Chanin School of Architecture, School of Art, Albert Nerken School of Engineering. Тут навучаюцца будучыя архітэктары, мастакі, інжынеры. Помнік Пітэру Купэру можна пабачыць у скверы за будынкам Купэр Юніон. У Купэр Юніон выступалі з лекцыямі сусьветна знакамітыя асобы. 27 лютага 1860 году там прамаўляў Абраам Лінкальн, а 22 красавіка 2010 году - прэзыдэнт Барак Абама.

З нью-ёркскіх беларусаў у гэтым каледжы вучылася Галіна Тумаш, дачка вядомага беларускага дзеяча Вітаўта Тумаша.

Недалёка, на рагу 3 Avenue і Cooper Squere зьвяртае на сябе ўвагу новы ў мадэрным стылю будынак, які таксама належыць каледжу Купер Юніан, адчынены ў 2009 годзе.

Непадалёку ад Astor Place на 425 Lafayette Street знаходзіцца Нью-ёркскі Публічны тэатр (The Public Theater), быў адчынены ў 1967 годзе. У 2011 годзе на адной з ягоных сцэнаў выступала трупа Беларускага вольнага тэатра.

Ідучы ад Astor Place па 8 Street, праз квартал выйдзем на Брадвэй, на гэтым скрыжаваньні знаходзіцца станцыя саб-вэя - 8 Street - NYU. NYU - скарочаная назва Нью-Ёрскага




*Нью-ёркскі Публічны тэатр*

універсытэта, які разьмяшчаецца паблізу.

Нью-Ёркскі універсытэт (New York University, NYU) - прэстыжны універсытэт, зьяўляецца буйным навукова-дасьледчым прыватным універсытэтам ЗША. Навучаюцца каля 54 тыс. студэнтаў. Складаецца з 16 школ, інстытутаў і каледжаў. Галоўны корпус знаходзіцца ў раёне Грынвіч Вілідж (Greenwich Villige), на плошчы Вашынгтона (Washington Square).

Колькасьць выпускнікоў - больш за 400 тыс. чалавек. Сярод іх ёсьць і беларусы, да прыкладу, журналістыку тут вывучаў Багдан Андрусышын (Данчык).



*(фота- 66 ню універ.)*

Пабываўшы каля Нью-Ёркскага універсытэту варта не абыйсьці ўвагаю вядомы Ва́шынгтон-Сквер-парк (Washington Square Park) — грамадзкі парк, закладзены ў 20-х гадох 19 ст. Менавіта ад гэтага парку бярэ пачатак знакамітая 5 Avenue.

Галоўнай адметнасьцю парку зьяўляецца Трыумфальная арка, устаноўленная ў 1889 годзе да стагоддзя інаўгурацыі першага прэзыдэнта ЗША Джорджа Вашынгтона (Washington Square Arch). Спачатку гэта было часовае збудаваньне, а ў 1895 годзе яно было заменена пастаяннай аркаю, вышынёй 23 м. Пазьней у парку быў устаноўлены і помнік

Вашынгтону. Таксама у 1888 годзе у парку была пастаўлена статуя Джузэппэ Гарыбальдзі. Парк карыстаецца папулярнасьцю сярод жыхароў гораду, гэта месца адпачынку і культурных імпрэзаў.

Калі праехаць сабвэем з 8 Street да прыпынку Spring Street, трапляем у раён SOHO, дзе пераважна сустракаецца мастацкая творчая публіка горада. Тут на пачатку 70-х гадоў была заснаваная творчая суполка - мастацкі жаночы клюб SOHO20 Gallery. Адной з закладальніцаў клюбу была



*Washington Square Park*

вядомая беларуская мастачка Галіна Русак (Halina Rusak). У 1974 і 1976 годох у галярэі жаночага клюбу, якая тады знаходзілася на адрасе - 99 Spring Street, прайшлі некалькі выставаў Галіны Русак. Гэта быў вялікі гонар для беларускай мастачкі быць прадстаўленай нью-ёркскай творчай публіцы і быць дзейснай у мастацкіх колах гораду. Пазьней галерэя пераехала у Бруклін.

Далей наш вандроўка будзе ісьці ў накірунку да 14 Street. На гэтай вуліцы на адрасе 347 East 14 Street (між 1 і 2 Avenue) дзейнічаў на пачатку 20 ст. Расейскі імігранцкі Дом. Ён быў адчынены 5 сьнежня 1908 году і ўтрымліваўся расейскімі царкоўнымі ўладамі. Дом вёў актыўную дзейнасьць у справе дапамогі расьсяленьню імігрантаў. Прыезджыя, каму не было куды падацца, часта ішлі за дапамогаю ў гэтую ўстанову.




*Расейскі імігранцкі Дом)*

Дакумэнты сьведчаць, што бальшыня з іх была з беларускіх земляў. Будынак захаваўся да сёньня.

Кіруючыся па 14 Street да 2 Avenue, павернем направа і пройдзем адзін квартал да 15 Street. На рогу 2 Avenue і 15 Street стаіць мадэрны будынак карпатарускай каталіцкай царквы ўсходняга абраду, дзе ад 1950-х да пачатку 1980-х гадоў адбываліся багаслужбы для беларускіх каталікоў. Беларускі сьвятар а. Уладзімір Тарасевіч з Чыкага заключыў з гэтай царквою адмысловае пагадненьне, якое давала магчымасьць і беларускім вернікам тут маліцца. Царква захавалася дзейнаю да сёньня.




*Карпатаруская каталіцкая царква*

Па 15 Street пойдзем у накірунку да Брадвэя і выйдзем на плошчу - Юніан Сквэр(Union Square) — гэта адна з галоўных плошчаў Мангэтэна, якая ўзьнікла ў пачатку 1830 гадоў.

Размяшчаецца паміж Брадвэем і 4 Avenue (так цяпер называецца частка Бауэры (Bowery) паміж Астор Плэйс і Юніон Сквэр), 14 і 17 Street.



*Unioun Square*

Назва плошчы (Плошча абьяднаньня) тлумачыцца ў адным варыянце тым, што тут абьядналіся дзве вялікія магістралі Брадвэй і Бауэры, ці ў другім варыянце, як плошча палітычных дэманстрацый і пратэстаў, якія часта ладзілі тут сярод іншых амэрыканскія прафсаюзы — Union.

Значную частку плошчы займае сквэр, у якім стаяць помнікі Аўрааму Лінкальну, маркізу дэ Лафайету, архітэктару



*Гістарычнае фота Юніан сквэр*

Фрэдэрыку Бартольдзі. Найбольш адметна глядзіцца бронзавая конная статуя Джорджа Вашынгтона, гэта быў першы помнік, устаноўлены ў Нью-Ёрку пасьля абвяшчэньня незалежнасьці ЗША. Пазьней у маленькім скверыку, прылеглым да Брадвэя, была пастаўлена статуя Махатмы Гандзі. Стары фантан у сквэры быў устаноўлены некалі па замове таварыства змагароў за цьвярозасьць.

Для беларусаў Нью-Ёрку, як і для ўсіх ягоных жыхароў, Юніан Сквэр — гэта месца сустрэчаў, адпачынку, шопінгу, тут знаходзіцца буйная станцыя сабвэя. Як і раней, на гэтай плошчы праводзяцца мітынгі, пікеты, дэманстрацыі, у тым ліку і беларусамі.

Вакол Юніан Сквэра ёсьць мясьціны, зьвязаныя з беларускім грамадзкім жыцьцём.

25 Сакавіка ў 1954 годзе адзначалася непадалёку (на поўнач ад Юніан Сквэра) ў залі Washington Irving School на

адрасе - 40 Irving Place, гэта ў раёне Gramercy Park паміж 16 і 17 Street. Школа названая ў гонар Вашынгтона Ірвінга - пісьменьніка і журналіста, аўтара папулярнай кнігі «Гісторыя Нью-Ёрка».




*Washington Irving School*

Будынак школы пабудаваны ў 1913 годзе, каля яго стаіць бюст пісьменьніку. У гэтай жа залі 21 сьнежня 1957 году выступаў з дабрачынным канцэртам вядомы беларускі сьпявак Пётра Конюх, зборы ад канцэрту пайшлі на куплю Царквы на 401 Atlantic Avenue.

Недалёка ад Юніан Сквэр ў будынку Дома Маракоў (Seafarers and International House) — 123 East 15th Street праводзіць свае сходы Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньня «Пагоня».

На 17 Street (бліжэй да 5 Avenue) была некалі майстэрня Pioneer rubber engravings Генрыха Архацкага. Гэты чалавек, як ён казаў, польскага паходжаньня, быў народжаны ў Амэрыцы, але продкі ягоныя паходзілі з Віленшчыны. Архацкі быў прыхільнікам беларусаў і даволі добра гаварыў па беларуску. Ягоная фірма выпускала значкі, маркі, рабіла розныя геральдычныя працы. У 50-60-я гады ён рабіў матрыцы для газэты «Беларус».

Падзякі ад беларусаў Архацкі заслужыў і тым, што выпусьціў марку, прысьвечаную гадавіне Слуцкага паўстаньня, верагодна, у 1960 годзе, на якой была выява маладога чалавека з бел-чырвона-белым сьцягам і надпісам «Пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына». Гэта была нават ягоная ўласная ініцыятыва, падтрыманая беларусамі. Маркі высокай якасьці былі надрукаваныя ў чатырох колерах, недзе па 500 штук кожнага варыянта. Гэта была дарагая праца і ён даў вялікія зьніжкі.




Маркі часткова захаваліся і ёсьць у бібліятэцы Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Атлантык Авэню.

На 18 Street паміж 8 і 9 Avenue ў залі The Traubenmuller Textile High School, (351 West 18 Street) беларуская грамада ў 1955 годзе сьвяткавала 25 Сакавіка.

У Gramercy Park (55 Lexington Avenue, каля 24 Street) знаходзіцца вядомы Baruch Colledge of the City University of New York. Заснаваны ў 1919 годзе, носіць імя Бернарда Баруха (Bernard Baruch) і, як сьведчыць поўная назва, належыць да



*Baruch Colledge*

Універсытэта горада Нью-Ёрка. У гэтым каледжы чыталіся лекцыі пра Беларусь, вучылася беларуская моладзь, скончыла каледж актыўная ўдзельніца беларускага моладзевага руху Вера Запруднік.

У Інстытуце моды (Fashion Institute of Technology, FIT,), 227 West 27 Street, і 7 Avenue, праводзіўся штогадовы Эўрапейскі фальклёрны фэстываль, дзе бралі ўдзел і беларусы. Там выступаў танцавальны гурт «Васілёк», хор «Каліна», Данчык, у 2007 годзе беларусаў прадстаўляў акардыяніст Алесь Себасьцьян з Канады.

Непадалёку, на адрасе 210 West 29 Street, знаходзілася выдавецтва «Any phototypes, Inc», дзе ў 1985-1999 гадох друкавалася газэта «Беларус».

Вернемся на Юніон Сквэр і пойдзем па Брадвэю да 33 Street, тут пабачым Herald Square і вялізны, даўжынёю з




*Fashion Institute of Technology*

квартал, гандлёвы дом Мэйсіс (Macy's). Павернем налева на 33 Street і пойдзем па ёй да 7 Avenue. На скрыжаваньні зьлева пабачым будынак з надпісам Madison Square Garden.




*Madison Square Garden*

Гэта знакамітая многафункцыянальная арэна, якая была адчынена 11 лютага 1968 году. Уладальнікам яе ёсьць Madison Square Garden Company, што дзейнічае з другой паловы 19 ст. Першыя два будынкі кампанія мела на Madison Square і таму гэтая назва захавалася да сёньняшняга часу. Трэйці будынак Madison Square Garden, з якога яна пераехала на 33 Street, размяшчаўся на 8 Avenue і 50 Street. У тым будынку 20-22 верасьня 1946 году праходзіў Трэйці зьезд Амэрыканскага Славянскага Канргэсу, на якім ад СССР і ад Беларусі выступаў Цімафей Гарбуноў, а потым з гэтай жа трыбуны ад Беларуска-Амэрыканскае Нацыянальнае Рады з выступаў а. Ян Тарасэвіч з Чыкага. Магчыма, што гэта быў першы і адзіны на той час выпадак, калі прадстаўнік савецкай Беларусі і прадстаўнік беларускай дыяспары, якая была варожа настроеная супроць савецкай улады, прамаўлялі з адной трыбуны.



Арэна

У сучасным будынку Madison Square Garden (4 Pensylvenia Plaza) праводзяцца спартовыя спаборніцтвы - хакейныя, баскетбольныя, баксёрскія паедынкі, выступы гімнастаў. Таксама на арэне адбываюцца канцэрты, тэатральныя пастаноўкі і інш. публічныя мерапрыемствы. Даволі часта ў складзе хакейных камандаў там гулялі і беларусы, пра што часам абьяўлялася перад гульнёю.

15 лістапада 1974 году ў Madison Square Garden выступала

савецкая гімнастычная каманда, ў яе складзе была знакамітая беларуская гімнастка Вольга Корбут, 19-тысячная арэна горача вітала спартоўку, заля скандавала: «Вольга, Вольга!».

Посьпех Вольгі Корбут вельмі моцна паспрыяў іміджу Беларусі ў Амэрыцы, успрыняцьцю беларусаў, як асобнай нацыі. Пра яе пісалася шмат у амэрыканскім друку, таксама ў газэце Нью-Ёрк Таймс (New York Times). Па ўспамінах Лявона Барткевіча, вялікім прыхільнікам таленту Вольгі Корбут быў Дональд Трамп - будучы прэзыдэнт ЗША. Пад час аднаго прыезду ў Амэрыку Вольга і Лявон былі запрошаныя ў госьці ў рэзыдэнцыю Трампа ў Палм-Біч на Флорыдзе.



*Вольга Корбут*

«Трамп вельмі вялікі прыхільнік Вольгі Корбут. Ён падарыў ёй пярсцёнак з 6-каратным дыяментам. Мы гасцявалі ў яго блізу трох тыдняў, ён расказваў пра сябе, як ён пачынаў бізнэс, - распавёў Леанід Барткевіч.

Літаральна пад будынкам Madison Square Garden знаходзіцца буйны чыгуначны вакзал — Пэнсільванскі вакзал (Pennsylvania Station), скарочаная назва Пэн стейшн (Penn Station). Вакзал разьмешчаны ў падзямельлі на ўчастку, абмежаваным 7 і 8 Avenue, 31 і 33 Street.

Penn Station не заўсёды знаходзіўся пад зямлёю. Першы



*Ранейшы, разбураны будынак вакзалу*

будынак вакзалу быў пабудаваны ў 1905-1910 гадох Пэнсільванскаю чыгункаю. Гэта быў буйнейшы архітэктурны комплекс у стылі «бозар». Вялізныя калоны з ружовага граніту акружалі галоўную пачакальную залю. У будынак вялі некалькі варотаў, падобных на Брандэнбургскія вароты ў Бэрліне. Комплекс упрыгожваў сярэдні Мангэтэн.

Аднак, у 1963 годзе без усялякага грамадзкага абмеркаваньня ён быў цалкам разбураны і на ягоным фундаменце пабудаваны звычайны шэры гмах, архітэктура якога крытыкуецца знаўцамі, а сам вакзал апынуўся пад зямлёю.

Разбурэньне гістарычнага будынку Penn Station выклікала вялікі скандал у грамадзтве гораду. У выніку арганізаваліся групы змагароў за захаваньне архітэктурных помнікаў гораду і дзякуючы іх актыўнасьці ўдалося пазьней захаваць гістарычны будынак другога вакзала — Grand Central.

Да ўсёй гэтай сумнай справы разбурэньня будынку Пэнсільванскага вакзалу ўскосным чынам спрычыніліся і беларусы. Адзін з беларусаў, Васіль Юрцэвіч, які працаваў у транспартным офісе і браў удзел у арганізацыі зносу будынку,




*Сучасны уваход у Penn Station, спуск у падзямелле*

падзяліўся з беларускай грамадою думкаю, каб купіць адну з тых прыгожых калёнаў з ружовага граніту і ўстанавіць яе ў беларускім адпачынкавым цэнтры Белэр. Меркавалася, што яна можа стаць выдатным пьедэсталам для скульптуры «Пагоня». Калёну прадавалі ўсяго за 100 даляраў і было вырашана яе набыць. Даўжынёю калёна была 10м, дыяметрам

- 80 см. Улічваючы вагу каменя, гэта быў даволь цяжкі груз, звычайным аўтам не давязеш. Давялося наймаць адмысловы транспарт і паліцэйскае суправаджаньне, бо лічылася як нестандартная перавозка. Да таго ж і везьці трэба было не па вялікіх магістралях, а па малых дарогах ў аб'езд і на даволі вялікую адлегласьць ад гораду. За ўсю гэту «працэсію» заплацілі 520 даляраў. Калёна пасьля доўга ляжала ў Белэры і не ведалі, як ад яе пазбавіцца. Урэшце, на дзіва, удалося яе прадаць. Актывісты грамадзкага руху ў абарону гістарычных помнікаў зацікавіліся тым, што яшчэ засталося ад вакзала не зьнішчаным і можа разглядацца і захоўвацца, як гістарычная рэліквія. Так вось беларусы паспрыялі захаваньню парэшткаў бяздумна зьнішчанага помніка архітэктуры, які ўпрыгожваў бы горад да сёньня.

Penn Station — адзін з самых буйных вакзалаў Амэрыкі, кожны дзень праз яго праходзяць прыкладна 300 тыс. пасажыраў, гэта ў два разы больш, чым праз Цэнтральны вакзал (Grand Central). Пасажырскія плыні з гэтага вакзала кіруюцца на Лонг Айленд і на кантынент на Захад праз Нью Джэрзі. Уладальнікам вакзала зьяўляецца буйная чыгуначная кампанія Amtrak. Сотні беларусаў карыстаюцца штодня сэрвісам Penn Station.

Побач з Penn Station (441 8 Avenue) знаходзіцца адметны будынак з калёнамі і шырокай лесьвіцаю — гэта Цэнтральная пошта (General Post Office Building), паслугамі якой карыстаюцца і беларусы Нью-Ёрку. Сэрвісныя службы працуюць кожны дзень 24 гадзіны ў суткі. Тут нават у позьнія вечаровыя, ці начныя часы можна адправіць паштовую дасылку, калі ўсе астатнія паштовыя аддзяленьні ў горадзе зачыненыя.



*Цэнтральная пошта*

На шырокай прыгожай лесвіцы заўсёды сядзяць шмат людзей, асабліва турыстаў, стомленых вандроўкамі па горадзе. Будынак быў пабудаваны ў 1912 годзе адчынены для паштовага сэрвісу ў 1914 годзе, належыць да катэгорыі гістарычных помнікаў.

На заходнім ускрайку 34 Street каля 12 Avenue есьць уваход ва ўнікальны парк — High Line, які падарожніку па Мангэтану варта паглядзець. Парк цягнецца ў раёне Чэлсі, паміж 9 і 12 Avenue, да 14 Street. Ягоная унікальнасьць заключаецца ў тым, што ён увесь цалкам знаходзіцца на вышыні 10 м над зямлёю, даўжыня — 2.33 км. Парк уяўляе сабою алею з прагулачнымі дарожкамі, лаўкамі, столікамі, месцамі адпачынку з выглядам на раку Гудзон. Алею абрамляюць з двух бакоў прыгожыя расьліны і кветкі. Праўда, вялікіх дрэваў, як у Цэнтрал Парку, тут няма. І не можа быць, бо ён рукатворна створаны на эстакадзе ранейшай чыгункі, якая была пабудаваная яшчэ ў 30-х

гадох мінулага стагоддзя. У той час ў раёне Чэлсі знаходзіліся шматлікія склады, чыгунка зьвязвала фабрыкі ў Нью-Ёрку са складзкімі будынкамі, па ёй хадзілі таварныя цягнікі. Калі чыгуначныя перавозкі о горадзе паступова пачалі замяняцца аўтамабільнымі, дарогу зачынілі ў 1980 годзе. Чыгуначная эстакада была закінутая і гарадзкія ўлады вырашылі яе разбурыць.

Аднак, супроць такога рашэньня выступілі мясцовыя жыхары. На той час у Нью-Ёрку ўжо існаваў актыўны грамадзкі рух супроць разбурэньня гістарычных аб'ектаў, які узьнік пасьля бяздумнага разбурэньня старога прыгожага будынка вакзала Penn Station.

Судовая справа цягнулася некалькі гадоў і ўрэшце было вырашана эстакаду пакінуць і закласьці на яе плошчы адмысловы парк. Распрацоўкаю ідэі парку займаўся створаны групаю актывістаў некамерцыйны фонд «Сябры Хай Лайн» (Friends of the High Line). Канцэпцыя была прадстаўленая гарадзкім уладам і атрымала падтрымку мэра Майкла Блумбэрга.




*High Line*



*High Line*

Фонду было выдзелена 50 млн. дал. на рэалізацыю праекту і ў красавіку 2006 году адбылася ўрачыстая закладка будаўніцтва.

Першая частка парку была адчынена ў 2009 годзе, наступная — у 2011 і трэйцяя — 21 верасьня 2014 году.

Унікальны парк стаў у хуткім часе вядомым турыстычным аб'ектам і прымае мільёны турыстаў штогод. Абслугоўвае парк New York City Department of Parks and Recreation.

На High Line ёсьць шмат пад'ёмаў уздоўж усяго парка. Парк даступны для людзей на інвалідных вазках. У парку забаронена курыць і выгульваць сабак, а таксама езьдзіць на роліках, скейтах, скутэрах і роварах.

Сьпіс вуліц, дзе можна падняцца на High Line:

*— Gansevoort и Washington Street (ёсьць ліфт)*

*— 14th Street (ёсьць ліфт)*
*— 16th Street (ёсьць ліфт)*
*— 18th Street*
*— 20th Street*
*— 23rd Street (ёсьць ліфт)*
*— 26th Street*
*—28th Street*
*— 30th Street (есть лифт)*
*— 30th Street и 11th Avenue*
*— 34th Street и 12th Avenue (ёсьць зьезд для вазкоў)*

Дабрацца да парка High Line:

— зручная дарога — 7 трэйн да станцыі 34t Street—Hudson Yards;

— таксама можна даехаць трэйнамі - A,C,E, L.

На 5 Avenue паміж West 33 і 34 Street, знаходзіцца знакамітая нью-ёркская вежа — Эмпайр-стэйт-білдынг (Empire State Building).



*Empire State Building*

Цяжка пакуль сказаць, ці ёсьць нейкія беларускія сьляды ў гісторыі гэтага будынку, магчыма яны знойдуцца ў будучыні, аднак абыйсьці ўвагаю гэтую знакамітасьць у нашым

падарожжы па Мангэтэну немагчыма.

103-павярховы «хмарачос» — сымбаль Нью-Ёрка. Пра гэта сьведчыць сама назва будынку, зьвязаная з тым, што штат Нью-Ёрк называюць імперскім штатам і назва гучыць прыкладна як «Дом імперскага штату». Да 1970 году Эмпайр-стэйт-білдынг насіў тытул самага высокага будынку ў сьвеце. І сёньня ён, хоць і страціў першынства перад новымі «хмарачосамі», належыць да шэрагу найбольш набліжаных да неба збудаваньняў. Гэта таксама першы будынак ў сьвеце, які мае больш за 100 паверхаў. Вышыня самой будовы 381.3 м., з улікам дабудаванага ў 50-я гады шпілю цалкам вышыня складае 443.2 м. Цікава, што гэты шпіль першапачаткова прызначаюся для паркоўкі дырыжабляў. Унутры будынку ягоная заля мае даўжыню 30 м і вышыню ў тры паверхі.

Будаўніцтва гмаха пачалося 22 студзеня 1930 году з земляных працаў, а ўзьвядзеньне самога будынку пачалі ў Дзень Сьв. Патрыка — 17 сакавіка.

Праект фінансаваўся Джонам Раскобам (John Raskob) і Пьерам Дзюпонам (Pierre S. du Pont), прэзыдэнтам кампаніі DuPont. Галоўным архітэктарам быў Уільям Ф. Лэмб (William Frederick Lamb), будынак выкананы ў стылі арт-дэко.

На будаўніцтве працавалі 3400 працаўнікоў, пераважна імігранты з Эўропы. Магчыма, што сярод іх былі і беларусы. «Хмарачос» пабудавалі ўсяго за 410 дзён, будаўніцтва ішло імклівымі тэмпамі, аднак, суправаджалася чалавечымі ахвярамі - 6 працаўнікоў загінулі.

Афіцыйнае адкрыцьцё адбылося 1 траўня 1931 году.

У вежы размяшчаюцца каля 1 тыс. офісаў, дзе працуюць каля 20 тыс. чалавек (гэта другі па колькасьці працуючых

людзей офісны будынак у ЗША пасьля Пентагона). Будынак мае больш 70 ліфтаў.

Эмпайр-стэйт-білдынг знакаміты сваімі аглядальнымі пляцоўкі для турыстаў на 86 і на 102 паверхах, за ўвесь час іх наведала больш 110 млн. чалавек.

Уладальнікам і адміністратарам «хмарачоса» зьяўляецца кампанія W&H Properties.

У 1986 годзе будынак быў унесены у сьпіс нацыянальных гістарычных помнікаў.

Далей варта накіравацца на 225 Madison Avenue і 36 Street. Беларусам на гэтым адрасе можа быць цікавым будынак Morgan Library and Museum (Бібліятэка і Музэй Моргана). Тут у 1990 годзе Пётр Краўчанка, на той час міністр замежных спраў Беларусі, і прафесар Адам Мальдзіс з Менску беспасьпяхова шукалі страчаны арыгінальны Крыж Эўфрасіньні



*Morgan Library*

Полацкай. Музей афіцыйна паведаміў, што не мае рэліквію.

Наступнае месца на Мангэтэне, з якім беларусам важна азнаёміцца — 42 Street. Па ўсёй гэтай вуліцы, насычанай памятнымі беларускімі мясьцінамі, прапануем асобную экскурсію

**Падарожжа па 42 Street**

42 вуліца — адна з галоўных папярэчных магістраляў на Мангэтэне. Яна ўмоўна падзяляе Мангэтэн на паўднёвую і паўночную часткі.

Дзеля найбольш хуткага і зручнага перамяшчэньня ўздоўж Мангэтэна пабудаваныя дзьве хуткасныя магістралі на заходнім і ўсходнім баках вострава. Усходняя праходзіць па беразе Іст Рывэр і мае назву - Franklin D. Roosevelt East River Drive, у скароце FDR Drive, заходняя праходзіць па беразе Гудзона і мае назву - West Side Highway.

Пачнем праходку па 42 Street з захаду на ўсход, ад заходняй магістралі да ўсходняй. Пры заходняй West Side Highway ёсьць роварная дарожка. На скрыжаваньні 42 street і аўтастрады раней зьбіраліся беларускія раварысты з бел-чырвона-белымі сьцяжкамі на роварах і адтуль пачыналі свой прабег, едучы уздоўж Гудзона, адкуль відаць маляўнічыя берагі штату Нью Джэрзі.

Яшчэ да таго, як роварная дарожка была заасфальтаваная, у 50-х гадох, на прыстані на суседняй 41 Street адзначаўся на караблі Дзень Нацыянальнасьцяў, дзе і беларусы бралі ўдзел. Гэты карабель ёсьць таксама адметнасьцю Мангэтана, якую варта наведаць.

Спушчаны на воду ў 1943 годзе баявы карабель-авіяносец пад назваю «Intrepid» адразу ж прыняў удзел у вайсковых аперацыях Другой сусьветнай вайны. Ён таксама быў задзейнічаны ў Карэйскай і Вьетнамскай войнах. Шмат разоў быў пашкоджаны. Пазьней браў удзел у ажыцьцяўленьні амэрыканскіх касьмічных праграмаў. У 1974 годзе вайсковая служба карабля была завершана і ён павінен быў быць разабраны. Аднак, па прапанове мільянера Закарыя Фішэра (Zachary Fisher) карабель з такой багатай гісторыяй ператварылі ў карабель-музэй. «Intrepid» прышвартаваны да пірса 86 на Гудзоне, насупроць 41 Street. Ад 1986 году зьяўляецца ваенна-марскім і паветрана- касьмічным музэем,




*Intrepid*

які наведваюць сотні тысяч турыстаў у год. Карабель аднесены да шэрагу гістарычных помнікаў ЗША.

Варта ўзгадаць, што непадалёку ў гэтым раёне можна таксама агледзець на 11 Avenue, паміж 34 і 40 Street, вядомы канфэрэнц-цэнтр імя Джэкаба К. Джэвітса (Jacob K. Javits Convention Center, скарочаная назва- Javits Center), адчынены ў 1986 годзе. Там праходзяць розныя канфэрэнцыі, сустрэчы і буйныя выставы, напрыклад, аўтамабільныя, якія наведвалі і беларусы. Гэта важны аб'ект у бізнэсова-эканамічным жыцьці Нью-Ёрка, які наведваюць і беларусы.




*Javits Center*

Перасячэм крайнюю на Мангэтэне 12 Avenue, потым 11 і 10 Avenue. З правага боку 42 Street пасьля 9-й Avenue знаходзіцца будынак былога выдавецтва. Гэта найбольш буйное выдавецтва тэхнічнай літаратуры McGraw- Hill. Там працаваў беларус Сьцяпан Стаськевіч, сябра Рады БНР, быў кіраўніком групы перакладчыкаў. Перакладаў тэхнічную літаратуру з Савецкага Саюзу, у тым ліку з БССР.

Далей паміж 9 і 8 Avenue і 40-42 Streets цэлы абсяг займае Цэнтральны аўтобусны вакзал - Port Authority Bus Terminal.




*Port Authority Bus Terminal*

Мноства аўтобусных кампаній працуюць у тэрмінале, штодзённа сотні аўтобусаў выязджаюць з гэтага вакзала ў розныя куткі краіны і ў замежжа. Да тэрмінала можна дабрацца на сабвэі з любога раёна горада. Непасрэдна пад вакзалам знаходзіцца станцыя цягнікоў A,C,E, а побач, калі выйсьці на 42 Street - станцыі іншых маршрутаў сабвэю.

Беларускія імігранты карыстацца паслугамі Нью-Ёрскага аўтавакзала. Найперш, аўтобусамі часта карыстаюцца тыя, чыё пражываньне ці праца зьвязаныя з Нью-Ёркам і Нью Джэрзі, таксама беларусы ездзяць у госьці да суродзічаў у Нью Брансуіку і Саўт Рывэры, дзе знаходзяцца вядомыя беларускія цэнтры.

Вакзал мае чатыры ўваходы, каля паўднёва - ўсходняга ўваходу стаіць бронзавая статуя Ральфа Крамдэна (Ralph Kramden), асобы з тэлевізійных фільмаў, якія былі папулярнымі ў 50-60 гады. Звычайны кіроўца аўтобуса, ён стаўся сымбалям «сярэдняга амэрыканца» і як бы прадстаўляў усю працоўную Амэрыку. Беларусы заўсёды прызначалі сустрэчы пры гэтай статуі, калі зьбіраліся разам некуды выехаць праз аўтавакзал.



*Статуя Ральфа Крамдэна*

Насупроць гэтага ўваходу да аўтавакзалу высіцца новы, пабудаваны ў 2003-2007 гадох, будынак найстарэйшай і аўтарытэтнай газэты «The New York Times». Гэты адзін з вядомых нью-ёркскіх «хмарачосаў» размяшчаецца на 8 Avenue паміж 40 і 41 Streets.

Першы нумар «The New York Times» выйшаў 18 верасьня 1851 году. газэта шмат разоў публікавала матэрыялы пра Беларусь і на беларускую тэму, давала інфармацыі пра сьвяткаваньне 25 Сакавіка. Былі надрукаваны некралёгі па старшыні Рады БНР Міколу Абрамчыку і па былому беларускаму сэнатару ў польскім сэйме Васілю Рагулю. Падаваліся таксама і публікацыі беларускіх аўтараў, нарыклад, Янкі




*Сучасны будынак «The New York Times»*

Запрудніка. 16 ліпеня 2012 году была надрукавана палітычная перадавіца Андрэя Дынько - рэдактара газэты «Наша Ніва» з Менску, гэта была першая такая публікацыя аўтара з Беларусі. Некалькі разоў друкаваліся рэцэнзіі на спектаклі беларускага «Вольнага тэатра», які выступаў у Нью-Ёрку.

Трэба дадаць, што многа хто з беларусаў, асабліва старэйшага пакаленьня, былі і ёсьць чытачамі газэты «The New York Times».

Ідучы далей на ўсход па 42 Street, па абодва бакі бачым дзесяткі тэатраў, кінатэатраў, крамаў з сувэнірамі, дзе часам можна пабачыць і беларускія сувэнірныя вырабы.

Паміж 42 і 47 Streets, Брадвэем і 7 Avenue, размяшчаецца знакаміты Таймс сквер (Times Square), гэта цэнтр Тэатральнага квартала, папулярнае турыстычнае месца горада, адметнае сотнямі асьвечаных рухлівых рэклямаў, якія ствараюць атмасфэру мадэрнага дынамічнага сьвету.

Плошча раней называлася Лонгакр-сквер (Longacre square).




*Таймс сквэр, пасярэдзіне «Times Building»*

Сучасную назву яна атрымала ў красавіку 1904 году, калі газэта «The New York Times» перанесла сваю штаб-кватэру ў новапабудаваны тады будынак «Times Building» на 46 Street і Брадвэі. Будынак захаваўся да сёньня, сама газэта, як сказана вышэй, пераехала ў новы «хмарачос» каля аўтобуснага вакзалу. Аднак, «Times Building» застаўся дамінантам плошчы. У 1907 годзе на ягонай страсе была ўстаноўленая «Куля часу», з таго часу кожны год мільёны людзей на самой плошчы і каля тэлевізараў па цэлым сьвеце назіраюць спуск бліскучай шкляной кулі, які адлічвае апошнія імгненьні адыходзячага году і сымбалізуе сваім апошнім рухам уніз надыход новага году. У 50-70-х гадох пару дзесяткаў беларусаў прыходзілі на плошчу

ў навагоднюю ноч, на галовы надзявалі высокія «шапкі» з надпісам «Belarus».

Таймс сквэр, як было адзначана вышэй, называюць цэнтрам Тэатральнага кварталу, вакол яго на розных вуліцах знаходзяцца шмат тэатраў. Гэта таксама значная адметнасьць Нью-Ёрка. На розных тэатральных сцэнах ставяцца драматычныя і музычныя спектаклі, у якіх задзейнічаюцца найбольш вядомыя акторы, музыкі, харэографы, танцоры, бяруць удзел і знакамітасьці з Галівуду. Тэатральнае жыцьцё Нью-Ёрка асабліва вядомае ў сьвеце сваімі мюзыкламі (Musical). Гэта спектаклі музычна-тэатральнага жанру, спачатку былі музычныя камэдыі, але пазьней сталі зьяўляцца мюзыклы, як трагедыя, фарс ці драма. Некаторыя з мюзыклаў ідуць на сцэнах дзесяткі гадоў, іх наведалі мільёны гледачоў з розных краінаў сьвету. Найбольш папулярнымі з іх зьяўляюцца - «Каты» (Cats), «Прывід Опэры» (The Phantom of the Opera), «Скрыпач на страсе» (Fiddler on the Roof»), «Ісус Хрыстос Суперзорка»(Jesus Christ Superstar), «Эвіта» (Evita),» Карол Леў» (The Lion King), «Гамільтон» (Hamilton).

Амаль кожны з беларускіх імігрантаў, хто цікавіцца культураю, хаця б адзін раз паглядзеў нейкі мюзыкл.

На Таймс сквэры бываюць каля 50 млн. наведвальнікаў штогод, гэта адно з самых папулярных турыстычных месцаў у сьвеце. Многія беларусы, хто трапляе ў Нью-Ёрк, таксама імкнуцца пабываць на Таймс сквэры, так што і нашы сьляды там ёсьць. А тыя, хто жыве ў Нью-Ёрку, наведваюць Таймс сквэр па розных патрэбах,часьцей за ўсё з гасьцямі, якім хочуць паказаць гэта знакамітае месца.

Сп. Вітаўт Кіпель згадвае і пра такі «беларускі элемент»,

зьвязаны з плошчаю. Яму самому пашчасьціла назіраць рухомую стужку навінаў на будынку «Times Building», на якой вялізнымі літарамі паведамлялася, што ЗША юрыдычна прызналі новую дзяржаву — Рэспубліку Беларусь. У 60-х пачатку 70-х гадоў пад час рамонту гэтага будынку там працавала брыгада пад кіраўніцтвам беларуса Васіля Юрцэвіча, у яе складзе было блізу 10 ягоных суродзічаў.

На разьвілцы Брадвэя і 7 Авэню стаяла раней і ёсьць цяпер адметная будова, якая належыць ваеннаму ведамству - USA Armed Forces Recruiting Station. У ёй праводзіцца рэкрутаваньне дабраахвотнікаў у амэрыканскае войска, там некалі запісаўся ў войска вядомы беларускі дзеяч Васіль Мельяновіч, які пазьней пераехаў у Кліўлянд, а таксама, па некаторых зьвестках Ігар Казак, магчыма, што і іншыя беларусы.

Паміж 43 і 44 Streets на плошчы стаяў некалі вялікі прыгожы гатэль «Астар» (Astor), разбураны ў 70-х гадох. У гэтым гатэлі адбываліся сьвяткаваньні 25 Сакавіка, іншыя беларускія імпрэзы.

Ад Таймс сквэра, ідучы на усход, даходзім да Брайант Парку (Bryant Park). Гэта сапраўдны зялёны аазіс сярод шумнага гораду. Парк абмяжоўваецца 6 Avenue 42 і 40 Streets, а на ўсходзе будынкам Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі. Парк перaразае 41 Street, яна працягваецца далей ужо пасьля 5 Avenue.

Брайант Парк — адно з адметных месцаў у гэтай частцы Мангэтэна. Восеньню амаль штогод тут адбываюцца паказы моды, у якіх час ад часу бяруць удзел і мадэлі з Беларусі. Пад самім паркам знаходзяцца кніжныя сховішчы Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі.



*Bryant Park*

У зімовы час у Парку адчыняецца каток для жадаючых пасьлізгацца на каньках.

Брайант Парк папулярнае месца сустрэчаў і кароткага адпачынку для тых, хто адчувае сябе стомленым ад гарадзкой мітусьні, тут можна папіць кавы, пасядзець і пачытаць, ці пазваніць сябрам. Старэйшыя беларускія імігранты аблюбавалі гэтае месца для сваіх зборак. У 69-70-я гады Мікола Кунцэвіч, будучы старшынём Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА, зьбіраў у Парку беларускіх актывістаў, каб абгаварыць нейкія пільныя грамадзкія справы. У гэтых зборках удзельнічалі Натальля Арсеньева, Вера Бартуль, Алесь Міцкевіч, Яніна

Кахаnоўская, Міхась Казьлякоўскі і інш.

Насупраць Брайант Парку, на 33 West 42 Street, знаходзіцца адзін з будынкаў універсытэту штатн Нью-Ёрк — The State University of New York (SUNY). Раней тут ладзіліся сустрэчы з пісьменнікамі, якія прыязджалі з Беларусі, а таксама з дасьледчыкамі-беларусістамі — Джымам Дзінглі (James Dingley) з Лёндану, Майклам Урбанам (Michael Urban) з Арызоны, Патрыцыяй Грымстэд- Кенэдзі (Patricia Grimsted-Kennedy). Арганізоўвалі сустрэчы пераважна БІНІМ і амэрыканскі-беларусіст дасьледчык Томас Бэрд (Thomas Berd). У гэтым будынку Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель у 1990-91 гадох давалі першыя інтэрв'ю маскоўскім газэтам пра беларусаў Амэрыкі.




*SUNY*

За Брайант Паркам на тым жа баку 42 Street, на скрыжаваньні з 5 Avenue, зьвяртае на сябе ўвагу




манументальны будынак Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі. Цэнтральны ўваход са скульптурамі ляжачых ільвоў знаходзіцца на 5 Avenue, будынак займае два кварталы ад 42 да 40 Street.

Нью-Ёркская публічная бібліятэка (The New York Public Library) — адна з буйнейшых бібліятэкаў сьвету, гэта не проста бібліятэка, а буйнейшая ў сьвеце навуковая бібліятэчная сістэма - NYPL. Бібліятэка зьяўляецца прыватнай некамерцыйнай арганізацыяй з публічнай місіяй і карыстаецца як прыватным, так і дзяржаўным фінансаваньнем. Першы крок у арганізацыі Бібліятэкі быў зроблены 23 траўня 1895 году, калі быў закладзены адмысловы фонд для стварэньня ўстановы — The New York Public Library, Astor, Lenox and



*Нью-Ёркская публічная бібліятэка*

Tilden. Як бачна з назвы, першапачаткова Бібліятэка заклада-лася з унёскаў вядомых асобаў - бібліяфіла і філантропа лорда Джэймса Ленакса (James Lenox), знакамітай сям'і Астар (Astor) і былога мэра Нью-Ёрка — Самуэля Тілдэна (Samuel J. Tilden).

Першапачатковы праект будынку Бібліятэкі распрацаваў яе першы дырэктар доктор Джон Шоу Биллингс (John Show Billings). Будаўніцтва было распачата ў траўні 1902 году. Афіцыйная цырымонія адкрыцьця новага будынку адбылася 23 траўня 1911 году, кіраваў ёю прэзыдэнт ЗША Уільям Говард Тафт (William Howard Taft). На той час у Бібліятэцы было больш за 1 млн. кніг.

Два знакамітых каменных ільвы па абодвух баках галоўнага

ўваходу, якія сталі афіцыйным сымбалям Бібліятэкі, былі створаны скульптарам Эдвардам Кларкам Поттэрам (Edward Clark Potter). Напачатку статуі называлі «Ледзі Астар» і «Лорд Ленакс», але гэта не прыжылося, бо абедзьве скульптуры - ільвы, а не леў і львіца. У 1930 годзе мэр Нью-Ёрку Ла Гуардзіа даў статуям іншыя назовы, адпаведна часу - «Цярпеньне» і «Стойкасьць». На ягоную думку гэтыя дзьве якасьці патрэбныя былі жыхарам гораду, каб пераадолець Вялікую дэпрэсію.

Галоўная чытальная заля Бібліятэкі (памяшканьне № 315) ўяўляе сабою вялізную прастору 23.8 м. ў шырыню і 90.5 м. у даўжыню, вышыня столі - 15.8 м. Ніжні ўзровень залі і балкон займаюць паліцы з тысячамі розных даведнікаў.

Фонды гэтай бібліятэчнай сістэмы налічваюць больш за 50 млн. пазіцый, з якіх больш за 20 млн. складаюць кнігі. Па памерах фондаў Нью-Ёркская публічная бібліятэка уступае толькі Бібліятэцы Кангрэса ЗША і Брытанскай бібліятэцы.

У 1980-х гадох Бібліятэка значна пашырыла плошчу сваіх сховішчаў, калі пад Брайант Паркам былі пабудаваны дадатковыя 12 тыс. кв.м. плошчаў для захаваньня фондаў.

У 1965 годзе галоўнаму будынку Бібліятэкі на Мангэтэне быў нададзены статут гістарычнага помніка.

Філіялы Бібліятэкі знаходзяцца ў трох гарадзкіх боро - Мангэтэне, Бронксе і Статэн Айлендзе. Бруклін і Куінс абслугоўваюць адпаведна — Бруклінская публічная бібліятэка і Бібліятэка Куінса, абедзьве яны былі створаныя яшчэ да абьяднаньня Нью-Ёрка ў 1998 годзе.

Сёньня Нью-Ёркская публічная бібліятэка мае 87 падраздзяленьняў, чатыры навуковых бібліятэкі без выдачы

кніг на вынас з будынку, чатыры галоўных бібліятэкі з абанементнай выдачаю, бібліятэку для людзей з абмежаванымі магчымасьцямі і 77 раённых філіялаў.

У 2010 годзе Бібліятэка перанесла некаторыя офісныя аперацыі ў новы будынак Цэнтра бібліятэчных паслугаў у Лонг Айленд Сіці.

Нью-Ёркская публічная бібліятэка — галоўная адкрытая бібліятэка гораду. Карыстаньне ўсімі бібліятэкамі гэтай сістэмы бясплатнае. Для таго, каб атрымаць доступ да фондаў, трэба мець чытацкае пасведчанне. Атрымаць яго можа кожны, хто жыве, працуе ці вучыцца ў Нью-Ёрку. Аднак, такі дакумент не патрабуецца тым, хто захоча трапіць на бясплатныя экскурсіі па Бібліятэцы, якія праводзяцца два разы на дзень.

У Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы захоўваецца багаты збор беларускіх кніг, які складае прыкладна 10 тыс. беларускамоўных выданьняў і ў дадатак да гэтага беларусіка на іншых мовах. Гэта найбольшы збор беларускай літаратуры ў Амэрыцы. Утварыўся ён дзякуючы, найперш, беларусам Зоры і Вітаўту Кіпелям, якія доўгія гады працавалі ў Бібліятэцы, а цяпер там працуе беларускі дасьледчык Лявон Юрэвіч.

У Бібліятэцы бывалі амаль усе дзеячы беларускай культуры, якія прыязджалі ў Нью-Ёрк у розныя часы. З выкарыстаньням беларускіх збораў напісаныя дзесяткі кніжак. Тут праводзіліся выставы на беларускую тэматыку і тым самым папулярызавалася беларуская культура. Для беларусаў гэтая Бібліятэка - важны інтэлектуальны цэнтр, а таксама і месца спатканьняў для нью-ёрскіх беларусаў, якія жартам называліся сустрэчамі «паміж ільвамі» - скульптурамі ільвоў каля галоўнага ўваходу.

Далей на правым баку вуліцы ў будынку 30 East 42 Street

(цяпер нумарацыя зьмянілася) дзесяткі гадоў месьцілася Нью-Ёркская рэдакцыя Радыё Свабода (Radio Liberty). Беларускі карэспандэнцкі пункт быў арганізаваны ў 1957 годзе і існаваў да 1994 году, увесь гэты час яго ўзначальваў Янка Запруднік. Карэспандэнтамі-супрацоўнікамі былі Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч, Юрка Віцьбіч, Вітаўт Кіпель, Тамара Наваградчанская, Ізыдар Плашчынскі (брат пісьменьніка Язэпа Пушчы), Браніслаў Міркоўскі, Андрэй Клёнаў, Аркадзь Рутман, Анатоль Цярэшка, Натальля Арсеньева, Яніна Каханоўская, пазьней Адам Акуліч і Сяржук Сокалаў-Воюш.

У гэтым раёне Мангэтэна, дзе былі такія значныя для беларускага інтэлектуальнага жыцьця будынкі, беларускія актывісты сустракаліся разам даволі часта. Некаторыя працавалі ў гэтых установах ці паблізу, а іншыя ахвотна прыязджалі, бо побач



*Grand Central*

ёсьць станцыя сабвэю — Bryant Park. Звычайна на гэтых сустрэчах былі Антон Шукелойц, Вітаўт Тумаш, Зора і Вітаўт Кіпелі, Янка Запруднік, Алесь Міцкевіч, Томас Бэрд, Антон Адамовіч. Калі зборкі былі з абедам, ці на іх прысутнічалі госьці з Беларусі, то ішлі разам у Princeton Club - будынак, належачы Прынстанскаму універсытэту, з гатэлем, заляю і рэстаранам (15 West 43 Street). Такую магчымасьць трапіць у гэтую прыватную ўстанову мелі таму, што Томас Бэрд быў выпускніком Прынстана.

Наступны аб'ект на 42 Street зьлева - Цэнтральны вакзал (Grand Central Terminal), размешчаны паміж Vanderbilt Avenue і Lexington Avenue. Адрас вакзалу - 89 East 42 Street. Гэта адна з вядомых гістарычных забудоваў гораду.

Першы будынак вакзалу быў пабудаваны ў 1871 годзе транспартным і чыгуначным магнатам Карнэліусам Вандэрбілтам (Cornelius Vanderbilt), чыё імя носіць вуліца побач з вакзалам. Будынак разбурылі пасьля чыгуначнай катастрофы ў 1902 годзе, калі загінулі і былі параненыя больш паўсотні пасажыраў. На гэтым месцы пачалося будаўніцтва некалькімі кампаніямі новага будынку, які быў адчынены афіцыйна 2 лютага 1913 году, у 2013 годзе у Нью-Ёрку адзначаліся 100-я ўгодкі вакзала. Grand Central стаў буйным чыгуначным вузлом краіны. У 1947 годзе, напрыклад, больш за 65 млн. людзей, што складала 40 адсоткаў насельніцтва ЗША, падарожнічалі праз гэты вакзал.

У 1967 годзе будаўнічыя кампаніі, якія фінансаваліся вялікімі капіталамі, мелі намер разбурыць будынак вакзалу і пабудаваць на гэтым прэстыжным месцы яшчэ адзін «хмарачос». Але, перашкоду ў гэтай справе ім паставіла грамадзкасьць

гораду. У справе абароны будынку актыўны ўдзел брала Жаклін Кэнэдзі Онасіс (Jacqueline Kennedy Onassis), удава прэзыдэнта Джона Кэнэдзі. Арганізаваўся масавы грамадзкі рух, у горадзе адбыліся шматлікія дэманстрацыі, мітынгі, пікеты каля будынку вакзала. Нью-Ёркскія беларусы таксама ўдзельнічалі ў гэтых акцыях. Нарэшце, будынак удалося захаваць і пазьней ён быў абʼяўлены помнікам архітэктуры. Сёньня гэта адна з самых прыгожых забудоваў у цэнтры Мангэтэну, якую наведваюць мноства турыстаў, яна ўнесена у сьпіс нацыянальных гістарычных помнікаў.

Grand Central абслугоўвае пяць чыгуначных ліній: Hudson Line, Harlem Line, New Haven Line, New Canaan Branch, Danbury Branch. Вакзал мае 44 платформы, з якіх адпраўляюцца цягнікі па 67 маршрутах. Пад вакзалам знаходзіцца буйная станцыя сабвэю - Grand Central.

Уладальнікам вакзалу ёсьць кампанія Midtown Ventures, абслугоўваньне ажыцьцяўляе кампанія Metro Railroad

Нью-Ёркскія беларусы ездзяць у цягніках, якія ідуць з гэтага вакзала. Тут звычайна прызначаліся сустрэчы, калі рыхтаваліся да ўдзелу ў нейкіх вялікіх мерапрыемствах і сьвятах, напрыклад - Парады ляяльнасьці, Паняволеных народаў і інш. Зьбіралася каля двух сотняў чалавек з бел-чырвона-белымі сьцягамі і гэта заўсёды выклікала зацікаўленасьць журналістаў і фаторгафаў.

У 80-х гадох у цэнтры вакзала была адчыненая «будка», там запісваліся ўспаміны розных людзей дзеля захаваньня вуснай гісторыі краіны, гэта быў адмысловы праект. Некаторыя беларусы наведалі «будку», каб распавесьці пра свае лёсы і перажытае імі на чужыне.

Фірма Eastman Kodak некалі пастаянна дэманстравала ў якасьці сваёй рэклямы вялізныя фотаздымкі на ўсходняй сьцяне вакзала. У 1992 годзе сярод гэтых фота была пададзена выява Чырвонага касьцёла ў Менску.

На Грэнд Цэнтрал адчынены рэстараны і бары, мноства іншых гандлёвых кропак. На паўднева-заходнім канцы вакзала, два паверхі ўніз, знаходзіцца сусьветна ведамы сярод гурманаў рэстаран. Такім гурманам быў вядомы дасьледчык-беларусіст Гай Пікарда з Лёндану. Пад час сваіх прыездаў у Нью-Ёрк ён заўсёды наведваў гэты рэстаран і запрашаў сваіх беларускіх сяброў, шмат хто з беларусаў пабываў там з Гаем Пікарда, французам, які сваё жыцьцё прысьвяціў служэньню беларускай справе, з маладосьці да канца жыцьця жыў у пакойчыку пры Лёнданскай беларускай бібліятэцы імя Скарыны і займаўся дасьледваньнямі беларускай музыкі. Гай Пікарда таксама працаваў з беларускімі матэрыяламі ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы і бібліятэцы Лінкальн Цэнтра. У 1979 годзе ездзіў у Саўт Рывэр, каб пазнаёміцца з кампазітарам Зьміцерам Верасавым, і там некалькі дзён яны разьбіралі нотныя архівы ў Царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

За Grand Central, з таго ж левага боку 42 Street, на перасячэньні з Lexington Avenue ўзвышаецца знакаміты будынак «Крайслер Білдінг» (The Chrysler Building) — шэдэўр амэрыканскай архітэктуры «хмарачосаў», клясічны прыклад архітэктурнага стылю арт-дэко. Праект быў складзены Уолтэрам П. Крайслерам (Walter Chrysler), а практычнае ўвасабленьне ажыцьцявіў архітэктар — Уільям Ван Ален (William Van Alen). Будаўніцтва было закладзена 19 верасьня 1928 году, афіцыйная дата завяршэньня — 27 траўня 1930 году,


Chrysler Building

гэты будынак упрыгожыў Нью-Ёрк раней за Empire State Building. Будаўніцтва ажыцьцяўлялася рэкорднымі на той час тэмпамі - 4 паверхі на тыдзень. Адметна, што на гэтым будаўніцтве не загінуў ніводны працаўнік.

The Chrysler Building — адна з ліку самых высотных будоваў Нью-Ёрку (319 м., 77 паверхаў). Будынак занесены ў рэгістр нацыянальных гістарычных помнікаў.

З 1930 па 1950 год будынак быў штаб-кватэраю аўтамабільнай кампаніі The Chrysler Corporation. Сёньняшні ягоны ўласьнік — Abu Dhabi Investment Council.

На пабудове The Chrysler Building працавалі каля дзесятка беларусаў - эмігранты з часоў перад Першай сусьветнай вайною. У 50-х гадох у будынку дзейнічала Бюро тэхнічных перакладаў, там перакладаліся і навуковыя часапісы з БССР.

На наступным скрыжаваньні 42 Street і 3 Avenue, калі павярнуць налева (на поўнач) і прайсьці два блёкі да 44 Street, у будынку пад нумарам 708 на 3 Авэню знаходзіцца Генеральны консулят Рэспублікі Беларусь у Нью-Ёрку. Ён адчыніўся, калі Беларусь здабыла незалежнасьць напачатку 90-х гадоў. Колішні міністр замежных справаў Пётр Краўчанка зьвярнуўся да амэрыканскіх беларусаў дапамагчы ўпрыгожыць інтэр'ер Консуляту. Водгук быў надзвычайны. Беларусы падаравалі дзесяткі абразоў беларускіх мастакоў у Амэрыцы. Некаторыя ўпрыгожваюць Консулят і цяпер. Гэта дыпляматычнае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у тыя часы выклікала пачуцьцё радасьці і гонару сярод беларускіх імігрантаў у Амэрыцы, бо яно сымбалізуе дзяржаўную незалежнасьць краіны.




*Будынак, дзе месьціцца Консулят Рэспублікі Беларусь*

Аднак, пасьля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі кантакты нью-ёркскіх беларусаў з Кансулятам паступова пачалі звужацца і амаль што перапыніліся зусім. Хіба што некаторыя наведваюць Кансулят дзеля вырашэньня нейкіх юрыдычных пытаньняў, зьвязаных з Беларусьсю, ці за атрыманьнем візы. Часа ад часу каля будынку, дзе знаходзіцца Кансулят, нью-ёркскімі беларусамі праводзяцца акцыі пратэсту супроць дыктатарскай улады ў Беларусі.



*Ford Foundation*

Далей паміж 2 Авэню і 1 Avenue, на суседняй вуліцы знаходзіцца будынак Фундацыі Форда (320 East 43 Street), пабудаваны ў 1963-1968 г.г.

The Ford Foundation была закладзена ў 1936 годзе прадстаўнікамі сямейства Фордаў — Edsel Ford і Henry Ford, пасьля іх сьмерці Фундацыя амаль цалкам знаходзіцца ва ўласнасьці аўтамабільнай кампаніі Ford Motor Company. Фундацыя выдае гранты на гуманітарныя мэты па цэлым сьвеце. У 50-х гадох шмат беларускіх студэнтаў-імігрантаў атрымлівалі стыпендыі на адукацыю ад гэтай Фундацыі.

У канцы 42 Street, перад самым выхадам на 1 Avenue, па абодвух баках вуліцы відаць адметныя сваёй архітэктураю высокія цагляныя дамы ў стылі нэаготыкі, паміж сабою асяродак злучаны мастком, перакінутым праз 42 Street. Гэта жыльлёвы комплекс Tudor City, некаторыя беларусы жылі тут



*Tudor City*

да таго часу, пакуль там не ўзрасьлі занадта высока кошты на арэнду.

Завяршаецца наша экскурсія па 42 Street выхадам на 1 Avenue і аглядам комплексу забудоваў Штаб-кватэры Арганізацыі Абьяднаных Нацый (The United Nations Headquarters).

Комплекс знаходзіцца на другім, усходнім баку 1 Avenue, паміж 42-48 Streets, гэта адно з найбольш сусьветна вядомых месцаў Нью-Ёрка.

ААН была заснаваная ў Сан Францыска (San Francisco),



*Будынак сакратарыята ААН*

дзе ў красавіку-чэрвені 1945 году праходзіла канфэрэнцыя, на якой быў зацьверджаны Статут ААН і падпісаны прадстаўнікамі 50 краінаў (у тым ліку і БССР). Статут уступіў у дзеяньне 24 кастрычніка 1945 году, гэтая дата адзначаецца як Дзень ААН.

ААН напачатку не мела сталага месца для штаб-кватэры. Першыя пасяджэньні Генэральнай Асамблеі і Рады Бясьпекі прайшлі ў Лёндане. Але, ужо на першай сэсіі Генэральнай Асамблеі ў Лёндане 14 лютага 1946 году было прынята

рашэньне размясьціць штаб-кватэру ў ЗША, каля Нью-Ёрка. Ад 16 жніўня 1946 году ААН пераехала ў Амэрыку і часова яе структуры разьмясьціліся ў вёсцы Лэйк Саксес на Лонг Айлендзе.

Амэрыканскі мільярдэр Джон Д. Рокфэллер - малодшы прапанаваў 8.5 млн. дал. на куплю цяперашняга зямельнага участка ў Нью-Ёрку для будаўніцтва пастаяннага месца для штаб-кватэры ААН (раней гэты раён называўся Тёртл-Бэй (Turtle Bay). Прапанова была прынятая і ў лістападзе 1947 году Генеральная Ассамблея зацьвердзіла архітэктурны плян забудовы.

Для будаўніцтва ЗША далі крэдыт ААН на суму 65 млн. дал. Фундамент быў закладзены 24 кастрычніка 1949 году, афіцыйнае адкрыцьцё штаб-кватэры адбылося 10 студзеня 1951 году. У будаўніцтве бралі ўдзел вядомыя архітэктары, інжынеры і дызайнеры з розных краінаў сьвету, у тым ліку знакамітыя бразіліец Оскар Німейра і француз Шарль І.Ле Карбюзье.

Комплекс ААН займае плошчу 18 акраў (73 тыс. кв. м.). Галоўным будынкам комплексу зьяўляецца 39-павярховы «хмарачос», дзе размяшчаецца Сакратарыят ААН (UN Secretariat). На тэрыторыі комплекса таксама знаходзяцца - будынак Генеральнай Ассамблеі (General Assembly Building), будынак для прэс-канферэнцый (Conference Building), Бібліятэка імя Дага Хамаршэльда (Dag Hammarskjold Library), Цэнтр для наведвальнікаў.

З фасаднага боку комплекса пастаўлены рад флагштокаў, на якіх узнятыя дзяржаўныя сьцягі 193 краінаў- сяброў ААН, у тым ліку і беларускі.

На тэрыторыі комплексу разьбіты невялікі парк, які ўпрыгожваюць скульптуры. Сярод іх зьвяртае на сябе ўвагу кампазіцыя Зураба Цэрэтэлі - Георгі Пабеданосец перамагае сымбалічнага дракона, змантаванага з астанкаў ядзерных ракетаў.

Насупроць комплексу, на другім баку 1 Avenue знаходзяцца будынкі з іншымі дадатковымі службамі, якія выконваюць розныя абслугоўваючыя функцыі.

Комлекс ААН юрыдычна зьяўляецца міжнароднай зонаю, якая належыць усім дзяржавам - сябрам ААН, у тым ліку і Беларусі. Аднак, у адпаведнасьці з дамоваю паміж ЗША і ААН раён штаб-кватэры застаецца ў рамках судовай юрысдыкцыі ЗША.

ААН мае яшчэ тры дадатковыя - рэгіянальныя штаб-кватэры ў Жэневе, Вене і Найробі. Усяго у структурах ААН па цэлым сьвеце працуюць больш 60 тыс. супрацоўнікаў.

У Нью-Ёрку знаходзіцца прыкладна трэйцяя частка з гэтай колькасьці. Але, менавіта тут праходзяць паседжаньні Генеральнай Ассамблеі і Рады бясьпекі, дзе прымаюцца найбольш важныя пастановы.

Штаб-кватэра ААН валодае вялікай і каштоўнай калекцыяй твораў мастацтва, падараваных з розных краінаў сьвету. Для беларусаў цікава, што там ёсьць твор Марка Шагала - падараваны Францыяй каляровы вітраж вышынёю каля 3.5 м, на якім сымбалічна адлюстравана тэма барацьбы за мір. Рэспубліка Беларусь падаравала ААН у верасьні 1991 году габелен мастака Аляксандра Кішчанкі памерам 40 кв. м. пад назваю «Чарнобыль», які быў вывешаны ў прэстыжнай залі Эканамічнай і Сацыяльнай рады. Пад час урачыстай перадачы

габелену былі прысутныя прадстаўнікі беларускіх арганізацый у Амэрыцы. У будынку ААН прадаюцца таксама беларускія сувеніры.

Штаб-кватэра ААН для беларусаў не проста турыстычнае месца. Менавіта тут Беларусь займае «свой пачэсны пасад між народамі», тут ажыцьцявілася мара Янкі Купалы, каб яго-ная Бацькаўшчына сталася роўнай сярод іншых народаў сьвету. Сёньня Рэспубліка Беларусь - адна з 193 краінаў- правамоцных сяброў ААН. З гэтай колькасьці заснавальнікамі арганізацыі лічацца толькі 50 краінаў, якія 26 чэрвеня 1945 году ў Сан Францыска падпісалі Статут ААН. Сярод гэтых краінаў была і БССР, побач з Украінаю. Для іх было зроблена



*ААН*

выключэньне, бо абедзьве не былі самастойнымі краінамі і ўваходзілі ў склад СССР. Гэта было зроблена па прапанове Сталіна, які такім чынам плянаваў пашырыць у ААН прысутнасьць Савецкага Саюзу.

У часы існаваньня СССР Беларусь не праводзіла самастойную палітыку ў ААН, дзейнасьць яе прадстаўнікоў поўнасьцю кіравалася Масквою. Тым не меньш, у верасьні 1958 году ў Нью-Ёрку было адчынена асобнае Пастаяннае прадстаўніцтва БССР пры ААН. Першым кіраўніком гэтай першай для БССР замежнай дыпляматычнай місіі быў Феадосій Гразноў, паходжаньнем беларус, але з Масквы, прафесійны дыплямат і супрацоўнік Міністэрстав замежных спраў СССР. Першым сакратаром прызначылі беларуса з Менску - Анатоля Гурыновіча, на той час супрацоўніка міністэрства замежных спраў БССР, пазьней ён быў міністрам замежных спраў



*Будынак, дзе знаходзіцца Прадстаўніцтва Беларусі пры ААН*

БССР у 1966- 1990 гадох.

Сёньня няма ўжо ні Сталіна, ні Савецкага Саюзу, а самастойная Рэспубліка Беларусь, якая пераняла ў ААН месца БССР, застаецца краінаю - заснавальніцаю ААН.

Пастаяннае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь дзейнічае ўжо ад імя незалежнай дзяржавы, мае офіс на адрасе: 136 East 67 Street, 4th Floor New York, N.Y. 10065. Аднак, па-ранейшаму знаходзіцца пад расейскім уплывам і нават месьціцца ў тым жа будынку, дзе і Пастаяннае прадстаўніцтва Расейскай Федэрацыі. Каля гэтага будынку ў савецкія часы беларусы Нью-Ёрку праводзілі акцыі пратэсту супроць палітыкі савецкіх уладаў.

Напачатку 90-х гадоў, калі была адноўлена незалежнасьць, амэрыканскія беларусы горача віталі гэтую лёсаносную падзею для іх Бацькаўшчыны, ладзілі добрыя адносіны з супрацоўнікамі Пастаяннага прадстаўніцтва. Тагачасны кіраўнік Прадстаўніцтва Генадзь Бураўкін быў частым госьцем на беларускіх імпрэзах і сьвятах у Нью-Ёрку. На Сэсіі Генеральнай Асамблеі ў верасьні 1990 году выступаў упершыню на беларускай мове міністр замежных справаў Беларусі Пётр Краўчанка, тэмаю выступу была Чарнобыльская катастрофа, у самай вялікай залі комплексу ААН тады прысутнічалі і пяцёра амэрыканскіх беларусаў. На гэтай Сэсіі была прынята Рэзалюцыя па чарнобыльскаму пытаньню. Праводзіліся прысьвечаныя беларускай тэматыцы розныя імпрэзы ў Бібліятэцы ААН з удзелам амэрыканскіх беларусаў, у тым ліку і сьвяткаваньне 100- х угодкаў Максіма Багдановіча, пад час імпрэзы выступалі «Песьняры» з музычным цыклям на вершы Багдановіча.

З прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі сытуацыя зьмянілася да горшага і сёньня асноўныя беларускія арганізацыі ў Нью-Ёрку не падтрымліваюць кантактаў з Прадстаўніцтвам, часам толькі праводзяць акцыі пратэсту каля будынку на 67 вуліцы.

Але, больш актыўныя акцыі пратэсту як ў савецкія часы, так і ў час панаваньня дыктатуры ў Беларусі, праводзіліся каля штаб-кватэры ААН. Пляцоўкі перад ААН з'яўляюцца традыцыйнымі месцамі для розных мітынгаў, дэманстрацый, пікетаў, якія праводзяцца прадстаўнікамі розных народаў сьвету.

Паваенныя іміграНты ладзілі пратэстныя акцыі супроць палітыкі савецкіх уладаў, у падтрымку дысыдэнтаў. На такія дэманстрацыі часам зьбіралася каля тысячы людзей. У 1979 годзе Вітаўт Кіпель і Антон Шукелойц асабіста разьнеслі ва ўсе Місіі ААН асобнікі кнігі «Дэкалянізацыя СССР». Беларусы пратэставалі таксама супроць замоўчваньня наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Для правядзеньня акцый патрэбна было атрымліваць дазволы. Сп-ры Кіпель і Шукелойц хадзілі ў паліцэйскі участак непадалёку ад ААН па гэты дазвол, там заўсёды пыталіся, пад якім сьцягам будзеце выступаць, яны заўсёды гаварылі, што пад бел-чырвона-белым і там ужо пра гэта ведалі, на сьцяне вісеў наш сьцяжок побач са сьцяжкамі іншых заяўнікаў.

У 1991 годзе бел-чырвона-белы сьцяг быў узьняты, як дзяржаўны, сярод сьцягоў усіх краінаў- сяброў ААН, якія ўстаноўленыя на флагштоках перад комлексам ААН. Сьцяг гэты падаравалі амэрыканскія беларусы. Юрка Кіпель, на той час кіраўнік моладзевай арганізацыі, уручыў прынесены сьцяг

Генадзю Бураўкіну, кіраўніку беларускага Прадстаўніцтва.

Бел-чырвона-белы сьцяг быў урачыста ўзьняты на флагштоку. Прысутнічалі прадстаўнікі беларускай дыяспары.

Калі ў Беларусі пазьней быў зьменены сьцяг, беларусы Нью-Ёрку надалей дэманстравалі пад сваім бел-чырвона-белым







*Пратэсты каля ААН*

сьцягам. Паліцэйскія, якія выдавалі дазвол на мітынгі, ведалі пра зьмену, але не маглі самі памяняць той сьцяжок на сьцяне, бо не атрымалі афіцыйнае паведамленьне, відаць, у беларускім Прадстаўніцтве не ведалі, што гэта можна зрабіць.

Цягам усяго часу панаваньня дыктатарскага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі пратэстныя акцыі праводзіліся пастаянна з розных нагодаў.

Побач з прадстаўнікамі іншых народаў беларусы актыўна ўдзельнічалі ў 2015 годзе ў серыі дэманстрацыяў каля будыгку ААН у сувязі з адзначэньнем 70-й гадавіны ад пачатку дзейнасьці ААН, калі на юбілейную сэсію сабраліся кіраўнікі краінаў-сяброў ААН, у тым ліку Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін.

Комплекс ААН не зьяўляецца абсалютна закрытаю зонаю, яго могуць наведаць усе жадаючыя. Уваход магчымы з квітком на экскурсію ў суправаджэньні гіда. Інфармацыю пра парадак набыцьця квіткоў і ўваходу ў комплекс можна знайсьці ў інтэрнэце на афіцыйным сайце ААН.

Пасьля азнаямленьня з беларускімі «сьлядамі» на 42 Street працягнем наша падарожжа па Мангэтэну на поўнач.

У раёне 40-х Streets існуюць і іншыя беларускія памяткі. Асабліва трэба ўзгадаць гатэль Білтмор (Biltmore Hotel) на Madison Ave і 43 Street. У 1956 -58, 1962, 1971-78 гадох у гэтым прэстыжным месцы адзначалася гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці БНР. Двойчы на сьвяткаваньні прыходзіў мэр Нью-Ёрка Эд Кач (Ed Koch).

5-6 верасьня 1970 году ў Нью-Ёрку праходзіла 9-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, афіцыйная частка

Сустрэчы адбывалася таксама ў залі гатэля Білтмор. 15-21 кастрычніка 1979 году у Нью-Ёрку ладзіўся Другі «Тыдзень Славянскіх культур», заключны баль адбыўся ў гатэлі Білтмор, прысутнічалі і прадстаўнікі беларускай грамадзкасьці. Будынак гатэлю захаваўся, але цяпер ён аддадзены пад дарагія офісы.




*Будынак былога гатэлю Biltmore*

На той жа 43 Street, але на заходнім баку, беларусы бралі удзел у Вялікім Міжнацыянальным Канцэрце ў залі TOWN HALL, 123 West, 43 Street 14 сакавіка 1954 году. у Гэтым будынку адбываліся зборкі беларускага рэспубліканскага клюбу.

Некалькі гадоў беларусы ў Нью-Ёрку мелі і сваю тыднёвую

радыёперадачу на радыёстанцыі станцыі WPOW. Рэдакцыя была на 41 East 42 Street, з гэтай студыі вялася адмысловая праграма да сьвяткаваньня ўгодкаў БНР.

24 кастрычніка 1971 праходзіў Фестываль народаў у гонар 15-х угодкаў Вугорскага паўстаньня 1956году, падзея адбывалася ў гатэлі Roosevelt на Мэдысон Авэню (Madison Avenue) і 45 Street, бралі ўдзел і беларусы як у мастацкай праграме, так і ў якасьці прамоўцаў.




*Diamond District*

Будучы на 40-х вуліцах, варта заглянуць на 47 Street паміж 5 і 6 Avenue. Тут знаходзіцца знакаміты Дыяментавы квартал (Diamond District). Паабапал вуліцы наўсьцяж размяшчаюцца крамы з дыяментавымі ювелірнымі вырабамі. Калі нават няма грошай, каб нешта набыць, цікава проста паглядзець на ўсю гэту выстаўленую ў вітрынах прыгажосьць. Мала ёсьць мясьцінаў, дзе можна ў адным месцы пабачыць так шмат дыяментаў. Нью-Ёркскі Diamond District зьяўляецца адным з буйнейшых у сьвеце. Бізнэсам з дыяментамі займаліся і габрэйскія імігранты з Беларусі. Сп. Кіпель згадвае, што

нават некалі пазнаёміўся з адным такім імігрантам. Некаторыя беларускія ювелірныя майстры працавалі ў Diamond District.

Падыходзім да 50-х вуліц, дзе таксама знойдзем адзнакі беларускай прысутнасьці.

На рагу 50 Street і 5 Avenue перад намі паўстае велічны храм — Сабор Сьв. Патрыка (The Cathedral of St. Patrick) - галоўная катэдра Рымска-каталіцкай дыяцэзіі Нью-Ёрка. Гэта самы вялікі сабор у Амэрыцы ў стылі нэаготыкі. Будаўніцтва яго пачалося 15 жніўня 1858 году, завершана ў 1878 годзе, асвячэньне сабору адбылося 25 траўня 1879 году. Вежы былі дабудаваны ў 1888 годзе. Архітэктар сабору Джэймс Рэнвік стварыў праект па ўзору знакамітага Кёльнскага сабору ў Нямеччыне, але меншы па памерах.



The Cathedral of St. Patrick

У 1976 годзе храму нададзены статус нацыянальнага гістарычнага помніка.

Сабор Сьв. Патрыка адзін з самых вялікіх па памерах, даўжыня — 101 м., шырыня — 53 м. Адначасна ў ім можа зьмясьціцца 2200 чалавек. Штогод сабор наведваюць больш за 3 млн. вернікаў і турыстаў.

Для беларусаў Нью-Ёрка Сабор Сьв. Патрыка — важнае месца. Разам з прадстаўнікамі іншых народаў беларускія імігранты ўдзельнічалі ў штогадовых Тыднях паняволеных народаў. У праграме Тыдняў былі багаслужбы ў Саборы Сьв. Патрыка, на якіх прысутнічалі дэлегацыі са сьцягамі, у тым ліку і беларусы пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Пад час урачыстай цырымоніі пералічваліся ўсе народы, прадстаўнікі якіх былі прысутныя, у тым ліку гучала і імя беларусаў. Пасьля багаслужбы адбываўся вялікі маніфэстацыйны паход ад Сабора Сьв. Патрыка, па 5 Avenue, вуліцамі Нью-Ёрку да будынку ААН, ці да савецкай амбасады, часам ішлі ў Цэнтральны Парк, дзе адбываліся мітынгі.

28 кастрычніка 1957 біскуп Чэслаў Сіповіч, які прыязджаў з Лёндану, адправіў імшу на беларускай мове ў Капліцы Божай Маці ў Саборы Сьв. Патрыка. Скончыў імшу малітваю за Беларусь, прысутнічалі беларусы з Нью-Ёрку і ваколіцаў. Сабор Сьв. Патрыка наведаў і біскуп Тадэвуш Кандрусэвіч пад час свайго прыезду ў Нью-Ёрк, з ім там мелі спатканьне Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік і Францішак Бартуль.

Насупраць Сабору Сьв. Патрыка знаходзіцца яшчэ адна папулярная мясьціна Нью-Ёрку - знакаміты Рокфэлер Цэнтр.

Рокфэлер Цэнтр (Rockefeller Center) — комплекс будынкаў паміж 48-й і 51-й Streets, а таксама паміж 6 і 5 Avenue. Гэта буйны офісны цэнтр у Нью-Ёрку. Агульная плошча комплексу - 8,9 га. З 1987 году мае статус Нацыянальнага гістарычнага помніка.

Будаўніцтва комплексу пачалося ў 1930 годзе на дзялянцы зямлі, якую ўзяў у 1928 годзе ў арэнду ад Калумбійскага ўніверсытэта Джон Рокфэлер-малодшы. У будаўніцтве



*Rockefeller Center,*
*у цетры Comcust Building*

было задзейнічана 40 тыс. працаўнікоў і цягнулася яно дзевяць гадоў, было пабудавана 14 вышынных будынкаў у стылі арт-дэко. Да сёньня гэты комплекс застаецца адным з самых буйных прыватных будаўнічых праектаў у сьвеце.

Комплекс цяпер складаецца з 19 будынкаў. Тут знаходзяцца штаб-кватэры розных буйных карпарацый і знакаміты аўкцыённы дом «Крысьціс»(Cristie's).

Цэнтральнае месца ў комплексе займае 70-павярховы «хмарачос» вышынёю 266 м. Раней ён меў назву RCA (Radio Corporation of America) Building, у 1988 годзе, калі там знаходзілася General Electric, быў перайменаваны ў GE Building, а у 2015 годзе атрымаў новую назву - Comcast Building. У 2005 годзе на 259-метровай вышыні гэтага будынка была адчынена аглядальная пляцоўка (Top of the Rock Observation Desk of Rockefeller Plaza), з якой можна пабачыць амаль увесь Мангэтэн.

Да адметнасьцяў Рокфэлер Цэнтру належыць будынак Radio City Music Hall, які знаходзіцца на 1260 Avenue of the

Americas і 50 Street, ён быў пабудаваны ў 1932 годзе.

У музычнай залі будынку адбываюцца розныя канцэрты і шоў. Найперш, выступы знакамітага танцавальнага калектыву Рокетс (The Rockettes).

The Rockettes — жаночы танцавальны калектыў. Першапачатковая танцавальная група была створана Расэлам Маркертам (Russell Markert) ў 1925 годзе ў горадзе Сент Луіс (Saint Louis), штат МІсуры (Missouri) і называўся Missouri Rockets. У 1927 годзе калектыў пераехаў у Нью-Ёрк.

27 сьнежня 1932 году група брала ўдзел у мастацкай праграме на адкрыцьці Radio City Music Hall, ад гэтага часу дзейнасьць калектыва зьвязана менавіта з гэтай заляю, дзе ён пачаў выступаць пад новаю назваю, якая існуе да сёньня - The Rockettes.

Танцавальны стыль — сумесь традыцыі французскага варьетэ і амэрыканскага танцавальнага мюзыкла. Калектыў найбольш вядомы




*RadioCity*



*The Rockettes*

асаблівай сінхроннасьцю выкананьня. У складзе The Rockettes выступаюць прыкладна 80 танцаўшчыц.

Галоўным і найбольш папулярным праектам The Rockettes зьяўляецца традыцыйнае штогадовае шоў, якое паказваецца ў



*The Rockettes*

Калядны сэзон пяць разоў на дзень цягам сямі дзён у тыдзень на сцэне Radio City Music Hall. Шоў наведваюць каля 2 млн. гледачоў, сярод якіх былі і беларусы.

Калектыў таксама пастаянна бярэ ўдзел у парадах на Дзень падзякі, якія ладзіць кампанія Мэйсіс (The Macy Parades). The Rockettes дэманструе і шмат іншых арыгінальных выступаў.

Асноўная пляцоўка The Rockettes – Radio City Music Hall. Аднак калектыў гастралюе па розных гарадох ЗША і Канады. Калектыў вядомы сваёй актыўнай дабрачыннай дзейнасьцю, танцоры таксама праводзяць урокі танцаў для моладзі.

Пакуль невядома, ці былі ў складзе калектыву дзяўчаты з беларускімі каранямі.

У 1989 годзе Рокфэлер Цэнтр быў куплены ў сям'і Рокфэлераў дэвэлоперскаю структураю японскага аўтамабільнага канцэрна Міцубісі. Аднак, пазьней у 2000 годзе група амэрыканскіх інвэстараў начале з Джэры Спэйерам (Jerry Speyer), блізкім сябрам Дэвіда Рокфэлера, выкупіла назад знакамітую амэрыканскую маёмасьць за 1,85 мільярдаў дал.

Офіс сям'і Рокфэлераў і цяпер знаходзіцца на 54-56 паверхах ў цэнтральным «хмарачосе» - Comcast Building.

Рокфэлер Цэнтр для нью-ёркцаў адметны тым, што традыцыйна на Каляды там устанаўліваецца ад 1933 году вялікая ялінка (Christmas Tree), упрыгожаная цацкамі і агнямі. Побач адчыняецца каток (ice-skating rink in Lower Plaza), дзе любяць пасьлізгацца дзеці і дарослыя, упершыню ён быў адчынена ў 1936 годзе. Каток мае форму квадрата і на трох ягоных бакавых межах устаноўленыя сьцягі краінаў ААН, у тым ліку і

беларускі. Уся тэрыторыя комплексу прыгожа аздабляецца да сьвята. Тысячы людзей у сьвяточны месяц прыходзяць туды пацешыцца на Ялінку, адчуць урачыстасьць калядных дзён і радасьць ад весткі пра нараджэньне Хрыста-Збаўцы. Бадай што не знойдзецца ў Нью-Ёрку ніводнага беларуса, хто хаця б раз не наведаў Рокфэлер Цэнтр на Каляды, а некаторыя прыходзяць туды з дзецьмі кожны год. Госьці з Беларусі, беларусы з іншых краінаў таксама наведваюцца ў сьвяточны час каб паглядзець на цудоўную ялінку.




*Ялінка ў Рокфэлер Цэнтры*

Рокфэлераўскія ялінкі — традыцыя рабіць сьвята для ўсіх людзей, запачаткаваная была сям'ёй Рокфэлераў ў 30-я гады мінулага стагоддзя, ў часы Вялікай дэпрэсіі, калі грамадзтва патрабавала маральнай падтрымкі, хоць нейкіх хвілінаў радасьці і суцяшэньня, надзеі на лепшае з прыходам Калядаў.

І цяпер гэтыя Ялінкі ставяцца для ўсіх — багатых і бедных, каб кожны мог прыйсьці і адчуць сьвяточны настрой. Знайсьці адпаведнае дрэва для такой функцыі даволі складаная справа, займаецца гэтым адмысловая каманда Рокфэлер Цэнтру. Яе прадстаўнікі ездзяць па лясах і прыватных гаспадарках, аглядаючы вялікія яліны. Калі адпаведнае дрэва знаходзіцца, дамаўляюцца з уласьнікам. Уласьнікі дрэваў звычайна перадаюць яго ў дар, а потым яны запрашаюцца ў якасьці ганаровых гасьцей на ўрачыстую дзею, калі Ялінка запальваецца. Калядная ялінка ў Рокфэлер Цэнтры — гэта адна з найлепшых традыцый Нью-Ёрка.

*Адрас: 45 Rockefeller Plaza, New York, NY 10111*
*Трэйны: B/D/F/M*
*станцыя: 47-50th Street/ - Rockefeller Ctr*

На 50-х вуліцах нельга абыйсьці ўвагаю знакаміты Карнэгі Гол.

Карнегі Гол (Carnegie Hall) — канцертная заля на рагу 7Avenue і 57 Street. Гэта адна з самых прэстыжных у сьвеце сцэнаў для выкананьня клясычнай музыкі.

Карнэгі Гол быў адчынены 5 траўня 1891 году канцэртам Нью-Ёркскага сімфанічнага аркестра, якім дырыгаваў кампазітар Пётр Чайкоўскі.

Напачатку Карнэгі Гол меў звычайную назву - «Музычная заля», у 1898 годзе залі было нададзена імя Эндру Карнэгі (Andrew Carnegie), які фінансаваў пабудову. Эндру Карнэгі - прадпрыймальнік, буйны сталепрамысловец, мульцімільянер і філантроп быў імігрантам з Шатляндыі. У гісторыі ЗША

вядомы сваёй дабрачыннай дзейнасьцю ў галіне культуры і адукацыі. Акрамя Карнэгі Гол ён фінансаваў заснаваньне Карпарацыі Карнэгі ў Нью-Ёрку, Фонда Карнэгі, Інстытута Карнэгі ў Вашынгтоне, унівэрсытэта Карнэгі-Мелона і Музэя Карнэгі у Пітсбургу.



*Карнэгі Гол*

Будынак Карнэгі Гол выкананы ў стылі «італьянскага рэнесанса», мае тры канцэртныя сцэны, агульная колькасьць месцаў – 2800.

Беларусы не толькі наведваюць канцэрты ў Карнэгі Гол, але і на ягоных сцэнах выступалі нашы майстры музычнага мастацтва. У сьнежні 1956 году там адбыўся канцэрт беларускага сьпявака Пятра Конюха, які прыехаў тады з Італіі. Пад час Пятага Славянскага тыдня 12-21 лістапада 1982 году асноўны канцэрт быў у Карнэгі Гол, дзе выступаў Данчык.

16 сьнежня 1993 году ў Карнэгі Гол адбыўся вельмі ўрачысты канцэрт «Дзецям Чарнобыля» дзеля збору сродкаў на дапамогу пацярпелым ад катастрофы. Асноўным арганізатарм канцэрту быў амэрыканскі пастар з Нью-Ёрку а. Пол Мур (Paul Moor), які шмат дапамагаў пацярпелым ад Чарнобылю. Ён езьдзіў у Беларусь разам з сям’ёю, ягоны сын закахаўся у беларускую дзяўчыну, якая памерла ад радыяцыі і гэта сталася

іх прыватнаю драмаю.

У Карнэгі Гол праходзілі і грамадзкія імпрэзы. У 1953 годзе прайшла арганізаваная беларусамі жалобная акадэмія ў памяць слуцкіх паўстанцаў. У красавіку 1956 году там адбывалася навуковая канфэрэнцыя Інстытуту вывучэньня СССР з удзелам прадстаўнікоў беларускай іміграцыі.

Не варта абмінуць увагаю Нью-Ёркскі музэй сучаснага мастацтва (Museum of Modern Art, кароткая назва - MoMA) на 11 West 53 Street (паміж 5 і 6 Avenue). Гэта адзін з першых і найбольш прадстаўнічых музэяў сучаснага мастацтва ў сьвеце, прымае больш 3 млн. наведвальнікаў у год.

Заснаваны ў 1928 годзе пры дапамозе сям'і Рокфэлераў, напачатку музэй меў шэсць пакояў у офісным будынку на Мангэтэне (на рагу 5 Avenue і 57 Street). Сучасны будынак музэя пачаў будавацца ў 1939 годзе і цяпер музэй знаходзіцца ў гэтым мадэрнізаваным і пашыраным будынку. Можам паспрабаваць і там знайсьці беларускі сьлед.



*Museum of Modern Art*

Далей сьцежка беларускага падарожніка прыводзіць у знакаміты культурны цэнтр Нью-Ёрка - Лінкальн Цэнтр, на перасячэньні Брадвэя і 65 Street.

Лінкальн Цэнтр (Lincoln Center) — цэнтр мастацтваў, названы ў гонар прэзыдэнта ЗША Абраама Лінкальна, уяўляе сабою комплекс з 12 будынкаў, кожны з якіх прызначаны для публічных культурных мерапрыемстваў і адукацыйных мэтаў - канцэртных заляў, оперных і драматычных тэатраў, сцэнаў для балетных пастановак, кінацэнтраў і інш. Агульная тэрыторыя комплекса складае 6 га. Сёньня Лінкальн Цэнтр зьяўляецца буйнейшай у сьвеце кангламерацыяй у галіне культуры.

Лінкальн Цэнтр быў закладзены ў 1959 годзе прэзыдэнтам ЗША Дуайтам Эйзенхаўэрам з мэтаю абьяднаць у адным месцы ўжо вядомыя, ад даўна дзейныя культурныя ўстановы з новымі, якія пачалі будавацца ў Нью-Ёрку ў 60 -х гадох пад наглядам Джона Рокфэлера.

На 29 сцэнічных пляцоўках Лінкальн Цэнтра кожны год паказваецца больш за 400 спектакляў і канцэртаў. У склад Лінкальн Цэнтра ўваходзяць:

— *Тэатр оперы «Метраполітэн-опэра» (Metropolitan Opera);*
— *«Нью-Ёркская гарадзкая опэра» (New York City Opera);*
— *«Нью-Ёркскі балет» (New York City Ballet);*
— *Заля камернай музыкі (Chamber Music Society of Lincoln Center);*
— *Нью-Ёркская філармонія (New York Philharmonic);*
— *Школа амэрыканскага балета (School of American*

*Ballet);*
*— Джазавы Лінкальн-цэнтр (Jazz of Lincoln Center);*
*— Тэатр «Лінкальн-цэнтр» (Lincoln Center Theater);*
*— Кінацэнтр (Film Society of Lincoln Center);*
*— Вышэйшая музычная школа «Джуліард» (Juilliard School), (гэтую школу скончыў беларус Джымі Бычкоўскі з Саўт Рывэру)*
*— Гарадзкая публічная біблятэка выканаўчых мастацтваў (New York Public Library for the Performing Arts);*
*— Цэнтр выканаўчага мастацтва ў Лінкальн-цэнтры (Lincoln Center for the Performing Arts);*

Лінкальн Цэнтр таксама выдае праспекты і часопісы у галіне культуры, у тым ліку і сусьветна вядомыя часопісы «Opera News» і «Film Comment».

Для беларусаў Нью-Ёрка Лінкальн Цэнтр таксама зьяўляецца важным культурным асяродкам, Асабліва для тых, хто любіць клясічную музыку, оперу, балет. Менавіта ў Лінкальн Цэнтры можна пабачыць спектаклі з удзелам сусьветна вядомых майстроў мастацтва, зорак опернай сцэны, лепшыя балетныя пастаноўкі, паслухаць знакамітых музыкантаў і знаныя ў сьвеце аркестры. Трэба таксама ўзгадаць, што ў музычнай бібліятэцы Цэнтру захоўваецца зьмястоўная беларуская калекцыя.

Пад час правядзеньня «Славянскіх тыдняў», калі ладзіліся вялікія канцэрты ў Лінкальн Цэнтры, там выступаў і беларускі танцавальны гурт «Васілёк».

Метраполітэн-опэра.




*Metropolitan Opera*

Найбольш вядомым аб'ектам Лінкальн Цэнтру зьяўляецца Метрапо́літэн-опэра (Metropolitan Opera), скарочана Met - знакаміты музычны тэатр, належыць да самых вядомых і прэстыжных оперных сцэнаў у сьвеце.

Тэатр быў закладзены на сродкі акцыянернага таварыства «Метрополітэн-опэра хаус кампані», якое было створана ў 1880 годзе. Фінансавае забесьпячэньне ажыцьцяўляецца буйнымі фірмамі і прыватнымі асобамі. Будынак у Лінкальн цэнтры зьяўляецца ўласнасьцю тэатра(афіцыйная назва ўласьніка - Metropolitan Opera Assotiation). Ад пачатку тэатр працаваў у старым будынку на Брадвэі і 39 Street, той будынак быў зьнесены, а тэатр у 1966 годзе перабраўся ў сёньняшнюю мадэрную пабудову. Глядзельная заля Метраполітэн-опэра

налічвае 3900 месцаў. Акрамя асноўнай сцэны тэатр мае яшчэ тры дадатковыя.

Тэатр мае сваю сістэму падбору творчага складу: салісты і дырыжоры запрашаюцца па кантракту на сезон, або толькі на асобныя пастаноўкі, аркестр і хор працуюць на пастаяннай аснове. Опэры традыцыйна выконваюцца на мове арыгіналу. Аснову рэпертуара складае сусьветная клясыка.

Тэатр адчынены сем месяцаў цягам году - з верасьня па красавік. Спектаклі ідуць кожны дзень. Ад траўня па чэрвень штогод тэатр выязджае на гастролі. У ліпені трупа дае бясплатныя спектаклі ў парках Нью-Ёрку.

Для беларусаў цікава тое, што сьцены вэстыбюля Метраполітэн-опэра ўпрыгожаныя фрэскамі нашага зямляка - Марка Шагала (Marc Chagall). Нядаўна гэтыя творы былі прададзеныя ў прыватныя рукі. Аднак. не варта хвалявацца за іх лёс, бо ўмоваю продажу было тое, каб фрэскі і надалей заставаліся ў тэатры. Такім чынам, акцыя выглядала намінальнай і хутчэй за ўсё ёсьць проста адной з формаў аказаньня спонсаркай дапамогі



*Марк Шагал каля фрэскі у Метраполітэн-опера у 1966 г*

знакамітаму тэатру, якім так ганарацца амэрыканцы.

На сцэне Метраполітэн-опэра выступалі і беларускія сьпевакі. Паводле вядомага дасьледчыка гісторыі беларускага опэрнага мастацтва Віктара Скарабагатава, у 1913 годзе ў тэатры сьпявала беларуская артыстка Ганна Мейчык. У наш час на сцэне Метраполітэн-опэра ў опэрных спектаклях удзельнічала былая артыстка Беларускага опэрнага тэатра Марыя Гулегіна (у Беларусі вядомая, як Марыя Мурадзян), у Менску яна пачынала сваю опэрную кар'еру. У кардэбалеце тэатра некаторы час танцаваў беларус Віталь Краўчанка, які цяпер жыве ў Нью-Ёрку. І, вядома, многія нью-ёркскія беларусы — сталыя наведвальнікі тэатра.

Даезд да Лінкальн Цэнтра сабвэем, трэйн 1 да станцыі 66 Street.

Цэнтр можна агледзець у складзе арганізаваных экскурсій, якія праводзяцца па найбольш значных будынках комплексу.

На 60-х вуліцах трэба зьвярнуць увагу на будынак Гантэр Каледжа (Roosvelt House at Hunter College, 47-49 East 65 Street). Тут адбываліся лекцыі на беларускія тэмы, выставы (мастацтва, друк), канфэрэнцыі з удзелам беларусаў. Шмат беларусаў вучыліся ў гэтым каледжы. Беларускі вольны тэатр пад час гастроляў у Нью-Ёрку восеньню 2015 году ставіў там спектакль 2 лістапада.

Наша вандроўка набліжаецца да галоўнага парку Нью-Ёрка — Цэнтральнага парку.

Цэнтральны парк (Central Park) — ёсьць адным з буйнейшых у ЗША і вядомых у сьвеце гарадзкіх паркаў, працягнуўся ад 59 да 110 Street, паміж 5 і 8 Avenue. Даўжыня — каля 4 км., шырыня - прыкладна 800 м., агульная плошча 3.41 кв. км.



*Hunter College*

Парк наведваюць блізу 25 млн. чалавек у год.

Будаўніцтва парку было заплянаванае ўладаміі горада ў 1853 годзе і на гэтую мэту была выдзеленая тэрыторыя паміж горадам і тады існуючай вёскаю Гарлем (Harlem).

Не зважаючы на тое, што парк выглядае вельмі натуральна, практычна ўсе ягоныя ландшафты створаныя штучна.

Цэнтральны парк — гэта не толькі зона адпачынку для жыхароў мегаполіса, але і культурны цэнтр, дзе ладзяцца канцэрты, выставы, спаборніцтвы.

У 1958 годзе на Міжнародным летнім фестывалі, які адбываўся ў парку, беларускія танцоры занялі першае месца. Танцавальная група «Васілёк» пад кіраўніцтвам Алы Орсы выступала таксама на Вясеньнім Народным фэстывалі 17 траўня 1964 году і на канцэрце, прысьвечаным 300- годдзю

Нью-Ёрка.

Цэнтральны парк таксама быў часта месцам правядзеньня розных дэманстрацый і мітынгаў, дзе бралі ўдзел і беларускія арганізацыі.

У парку знаходзіцца шмат помнікаў, скульптураў і розных твораў мастацтва. Для беларусаў мае цікавасьць адметная конная статуя караля Ягайлы.

Статуя была створана ў Польшчы скульптарам Станіславам Астроўскім і прывезеная ў Нью-Ёрк у 1939 годзе на Сусьветную выставу, дзе была выстаўлена дзеля аздабленьня Польскага павільёна. Выстава дэманстравалася ў Куінсе, раён Флашынг (World's Fair of Flushing Meadows). У верасьні 1939 году пачалася Другая сусьветная вайна, гітлераўцы акупавалі Польшчу і не стала магчымасьці вярнуць статую назад.

У 1945 годзе па просьбе польскіх уладаў пакінуць статую ў Нью-Ёрку для яе ўстаноўкі было выдзелена месца ў Цэнтральным парку, дзе цяпер яе можна пабачыць.

Гэты помнік мае непасрэднае дачыненьне да беларускай гісторыі, надпіс на ім яскрава сведчыць пра гэта: «Wladislaw Jagiello, King of Poland, Grand Duke of Lithuania...» - «Уладзіслаў Ягайла, Кароль Польскі, Вялікі Князь Літоўскі...». На сайце Цэнтральнага парку можна знайсьці інфармацыю пра статую і кароткае апісаньне, хто быў кароль Ягайла: «It portrays, who united Lithuania and Poland and became king after marrying the Queen of Poland in 1386. The monument depicts the moment at the Battle of Grunwald of 1410 when the King crossed over his head the two swords handed to him by his adversaries, the Teutonic Knights of the Cross». У перакладзе: «Гэта помнік таму, хто абьяднаў Літву і Польшчу







*Статуя караля Ягайлы.*

пасьля таго, як ажаніўся на каралеўне Польшчы ў 1386 годзе. Памятнік адлюстроўвае той момант бітвы пры Грунвальдзе

ў 1410 годзе, калі кароль скрыжаваў над галавою два мячы, уручаныя яму ягонымі (пераможанымі -Г.С.) праціўнікамі, тэўтонскімі рыцарамі-крыжаносцамі».

На статуі ёсьць надпіс вялікімі літарамі «Poland», гэта азначае толькі назву польскага павільёна на Сусьветнай выставе, бо помнік стаяў пры ўваходзе ў павільён.

Месца знаходжаньня статуі ў парку: *Mid-Park at 79th Street on the east side of the Turtle Pond*.

Помнік знаходзіцца ва ўсходняй сярэдняй частцы Цэнтральнага парку. Каб знайсьці яго, трэба заходзіць у парк з 5 Avenue і 79 Street, якая перасякае цэлы парк па гарызанталі. Ісьці не па вуліцы, а па дарожцы ў самім парку паралельна 79 Street, дайсьці да мастка, прайсьці пад ім і павярнуць налева, прайсьці ўверх і зьлева будзе бачная конная статуя.

Каля Цэнтральнага парку размяшчаецца знакамітая Музэйная міля.

Музэйная міля (Museum Mile) — адрэзак на 5 Авэню ад 82 да 110 Street уздоўж верхняй усходняй мяжы Цэнтральнага парку, на якім знаходзяцца 11 вядомых нью-ёркскіх музэяў:

– *Метраполітэн-музэй (82 St)*
– *Нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ (83 St)*
–*Новая галерэя (86 St)*
– *Музэй Саламона Гугенхайма (88 St)*
– *Нацыянальная Акадэмія Дызайна (89 St)*
– *Нацыянальны музэй дызайна Купэра-Хьюіта, частка Смітсанаўскага інстытута (91 St)*
– *Габрэйскі музэй (92 St)*

*— Міжнародны цэнтр фотаграфіі (94 St)*
*— Музэй Нью-Ёрка (103 St)*
*— Музэй Ла Барыо (ліціна-амэрыканскага мастацтва) (104 St)*
*— Музэй афра-амэрыканскага мастацтва (110 St)*

Штогод ад 1979 году тут праводзяцца фэстывалі Музэйнай мілі. Падзея адбываецца ў другі аўторак чэрвеня з 6 да 9 гадзін вечара. У гэты дзень дзьверы ўсіх музэяў адчыненыя для публікі бясплатна. У фэстывальныя часы перакрываецца аўтамабільны рух па 5 Avenue і Міля ператвараецца ў пешаходную зону, дзе адбываюцца розныя імпрэзы.

На Музэйнай мілі таксама знойдуцца беларускія сьляды, найперш у самых буйных музэях — Метраполітэн музэі, Музэі Саламона Гугенхайма. Дакладна вядома, што ў абодвух музэях ёсьць творы Марка Шагала і Марка Ротко, якія паходзяць з Беларусі. Верагодна, што прадстаўленныя і іншыя творцы з беларускімі каранямі, якія трэба яшчэ адшукаць у далейшым.

Метраполітэн музэй (The Metropolitan Museum of Art) — адзін з буйнейшых і чацьвёрты па колькасьці наведвальнікаў музей у сьвеце. Напрыклад, у 2016 годзе Музэй прыняў 7 млн. наведвальнікаў.

Музэй існуе на сродкі ахвярадаўцаў пры невялікай дзяржаўнай падтрымцы.

Заснаваны ў 1870 годзе групаю амэрыканскіх бізнэсоўцаў і аматараў мастацтва (the Union League Club of New York). Адчыніўся для наведвальнікаў 20 лютага 1872 году. першым прэзыдэнтам быў Джон Тейлар Джонстан (John Taylor Johnston), а выканаўчым дырэктарам - выдавец Джордж




*The Metropolitan Museum*

Палмэр Путнэм (George Palmer Putnam).

У свой цяперашні будынак па адрасу - 1000 Fifth Avenue Музэй пераехаў у 1880 годзе. Будынак у нэагатычным стылі быў спраектаваны амэрыканскімі архітэктарамі Калвертом Во (Calvert Youx) и Джейкобам Молдам (Jacob Wrey Mould).

У аснову Музэя былі пакладзены тры прыватныя калекцыі - 174 творы эўрапейскага жывапісу аўтарства Халса, Ван Дэйка, Тьеполо і Пуссэна. Калекцыя хутка папаўнялася новымі набыткамі. Сёньня ў Музэі налічваецца больш 2 млн. адзінак, сярод іх шмат розных тэматычных калекцый. Інфармацыю пра новыя паступлeньні Музэй падае у сваім

штогадовым друкаваным выданьні The Metropolitan Museum of Art Bulletin.

У лютым 2017 году Музэй зрабіў даступнымі для шырокага карыстаньня аблічбаваныя 375 000 выяваў мастацкіх твораў са сваёй калекцыі, якія даступныя ў інтэрнэце. Яны могуць выкарыстоўвацца як у асабістых, так і камерцыйных мэтах, іх можна рэдагаваць і выкарыстоўваць у якасьці частак новых твора.

У Метраполітэн музэі існуе асобная структура — Музэй мастацтва касьцюма, заснаваны Эйлін Бернстайн (Aline Bernstein) і Айрын Левісон (Irene Lewisohn). У 1937 годзе ён увайшоў у склад Метраполітэн музэя і стаў называцца Інстытутам касьцюма (The Costume Institute). Сёньня яго калекцыя складае 35 000 касьцюмаў і аксэсуараў. Аднак пастаянная экспазыцыя касьцюмаў не існуе з-за далікатнасьці экспанатаў. Замест таго Інстытут два разы ў год арганізуе тэматычныя выставы касьцюмаў ў галерэях Музэя. Інстытут касьцюма вядомы сваім штогадовым шоу «Мэт Гала» (Met Gala), якое праводзіцца ў Нью-Ёрку.

Метраполітэн музэй мае вельмі дэмакратычную сістэму наведваньня. Асноўная ідэя заключаецца ў тым, каб кожны жадаючы мог паглядзець экспазыцыі незалежна ад ягоных фінансавых магчымасьцяў. Наведвальнік плаціць за ўваход колькі можа, білет можна атрымаць нават за 1 даляр.

Музэй Саламона Гугэнхайма (Solomon R. Guggenheim Museum) - адзін з найбольш буйных музэяў сучаснага мастацтва ў сьвеце. Заснаваны ў 1937 годзе мецэнатам Саламонам Робертам Гугенхаймам. Будынак Музэя мае адметную архітэктуру, ягонае будаўніцтва было завершана ў




*Guggenheim Museum*

1959 годзе.

Архітэктар Фрэнк Ллойд Райт (Frank Lloyd Wright) распрацаваў нетрадыцыйны праект музэйнай будовы. Ён прапанаваў наведвальнікам спачатку падняцца на ліфце на верхнія паверхі, а потым ідучы ўніз па лесвіцы-спіралі аглядаць экспазыцыі. Знешне Музэй нагадвае перавернутую пірамідальную вежу. Гэты будынак лічыцца адным з самых яркіх прыкладаў архітэктуры 20 стагоддзя.

Музэй праводзіць грандыёзныя выставы, на якіх паказваецца мастацтва цэлых цывілізацый. Верагодна, што Музэй мае творы мастакоў, зьвязаных паходжаньнем з Беларусьсю.

Штогод Музэй наведваюць прыкладна 3 млн. чалавек. Адрас Музэя: 1071 Fifth Avenue at 89th Street.

Прысутнасьць твораў мастакоў, зьвязаных паходжаньнем з Беларусьсю, верагодна можна знайсьці таксама ў Габрэйскім

музэі і Музэі Нью-Ёрка. Таксама там могуць быць і дакумэнты, фота, кнігі, датычныя два беларускай гісторыі.

Каля Цэнтральнага парку, на адрасе 154 West 70 Street, ёсьць гатэль, дзе гучаў наш гімн «Магутны Божа». У гатэлі затрымліваліся пераважна музыканты, сьпевакі, дзеля іх гатэль меў адмыслова абсталяваныя студыі для рэпетыцый. Там жыў пад час прыездаў у Нью-Ёрк беларускі сьпявак Пётра Конюх. Ён сьпяваў у казацкім хоры імя Жарава і настаяў на тым, каб хор выконваў «Магутны Божа», сам быў салістам і рэпетыцыі ягоныя адбываліся менавіта ў гэтым гатэлі. Хор нават выдаў плыту з нашым гімнам, дзе саліраваў сп. Конюх. Пад час побыту ў Нью-Ёрку Пётра Конюх заўсёды заходзіў у Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Atlantic Avenue і сьпяваў для беларусаў.

У раёне 70-х вуліц на East Side знаходзіцца адзін са старэйшых шпіталяў Нью-Ёрку - Lenox Hill Hospital, заснаваны ў 1857 годзе. Адрас - 100 East 77 Street і Park Avenue. Для мяне асабіста ён цікавы тым, што там нарадзіўся мой унук Джастын, таксама ў гэтым шпіталі прыйшла на сьвет унучка актыўнай удзельніцы беларускага жыцьця Тацьцяны Красоўскай - Эма.

Далей накіруемся на заходні бок Цэнтральнага парку. Калі ўсходні бок парку абрамляе 5 Avenue, то ягоная заходняя мяжа ляжыць на вуліцы Central Park West. На яе перасячэньні з 79 Street знаходзіцца шырока вядомы Музэй натуральнай гісторыі - American Museum of Natural History (можна сказаць - Музэй прыроды).

Музэй уяўляе сабою 25 злучаных паміж сабою будынкаў, у якіх размяшчаюцца 46 пастаянных экспазыцый, дасьледчыя лябараторыі і знакамітая бібліятэка. У калекцыі Музэя 32 млн.



*American Museum of Natural History*

экзэмпляраў, колькасьць наведвальнікаў - прыкладна 5 млн. у год з усяго сьвету. Заснаваны 6 красавіка 1869 году.

Для беларусаў можа мець цікавасьць спадзяваньне, што там, магчыма, захоўваюцца кавалкі Брагініту - Брагінскага метэарыта. Цягам 1807-1968 гадоў у раёне беларускага Брагіна былі знойдзены кавалкі метэарытаў. Навукоўцы мяркуюць, што над гэтай мясцовасьцю прыкладна 1 тыс. гадоў назад прайшоў метэарытны дождж. Усяго было знойдзена кавалкаў агульнай вагою - 853 кг. Належаць яны да тыпу паласітаў - жалезна-каменных метэарытаў. Можна дапусьціць, што такая салідная ўстанова, як Амэрыканскі музэй натуральнай гісторыі, спрабавала займець у сябе ўнікальны экспанат. Метэарыт «Брагін» (Brahin) добра вядомы сярод навукоўцаў

сьвету.

Таксама, магчыма, што ёсьць зьвесткі пра ўнікальны запаведнік - Белавежскую пушчу. Сп. Кіпель успамінае, што недзе сустракаў інфармацыю, што там ёсьць мапа нашай пушчы. Гэтыя інфармацыі патрабуюць больш дакладнага высьвятленьня, што, трэба спадзявацца, будзе зроблена ў будучыні.

Амэрыканскі музэй натуральнай гісторыі, адзін з самых папулярных у Нью-Ёрку, асабліва сярод малодшай папуляцыі. Дзеці з вялікай цікавасьцю назіраюць прадстаўленыя там узоры жыцьця акаляючай нас прыроды, якія амаль немагчыма назіраць пры жыцьці ў вялізным горадзе. Беларусы Нью-Ёрка таксама не абыходзяць увагаю гэты унікальны, пазнавальны і вельмі прыгожы Музэй.

Да асабліва важных месцаў у гісторыі беларускай прысутнасьці ў Нью-Ёрку трэба аднесьці месца ва ўсходняй



*100 Street, зьлева, там дзе відаць дрэвы, верагодна знаходзіўся дом №325*

частцы 100 Street, паміж 1 і 2 Avenue, у Гарлеме. Менавіта там ў доме пад нумарам 325 у кватэры Янкі Станкевіча 31 ліпеня 1949 году адбыўся сход беларускага актыву, на якім была створаная галоўная беларуская грамадзкая арганізацыя ў ЗША — Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА). На жаль, будынак не захаваўся, на тым месцы цяпер школьны стадыён.

Ва ўсходнім Гарлеме жылі, акрамя сям'і Станкевічаў, іншыя беларусы, на 119 Street жыла сям'я Стагановічаў, потым Антон Адамовіч і Антон Шукелойц. І цяпер у гэтым раёне жывуць некаторыя беларусы з новай эміграцыі.




*107 Str. - Lexington Ave*

На 107 Street і Lexington Avenue 6 красавіка 1912 году ладзіўся беларускі баль. На гэтым скрыжаваньні ў Гарлеме

захаваўся нейкі стары будынак, але незразумела ці той самы.

У верхнім Мангэтане варта не абмінуць увагаю і такі вядомы абьект, які прапануецца наведаць турыстам, як велічны будынак Катэдральнага сабора Сьвятого Іаана Багаслова (Cathedral of Saint John the Divine). Комплекс з храмам, скульптурнымі экспазыцыямі і іншымі будынкамі разьмешчаны на 1047 Amsterdam Ave, паміж 110 і 113 Street.

Cathedral of St. John the Divine належыць да епіскапальнай дыяцэзіі Нью-Ёрка. Гэта адзін з самых вялікіх хрысьціянскіх храмаў не толькі ў горадзе, але і ў цэлым сьвеце . Будаўніцтва яго пачалося ў 1892 годзе і не завершана да сёньняшняга дня.



*Cathedral of St. John the Divine*

Плошча храма складае 11.200 кв. м., шырыня- 70.7 м., даўжыня -183 м. Сьцены ўзьведзены вакол васьмі гіганцкіх гранітных калёнаў, кожная з якіх важыць 130 тон і мае

вышыню 15 м. З -за працяглага будаўніцтва і зьмены архітэктараў у архітэктуры сабору прысутнічаюць розныя архітэктурныя стылі. Сабор адчыніўся для багаслужбаў 30 лістапада 1941 году.

Заканчваецца наша падарожжа па Мангэтэну на Брадвэі і 116 Street. Якраз тут з правага боку пачынаецца гарадок вядомага Калюмбійскага універсытэта. Даехаць да яго можна цягніком сабвэя №1 да станцыі «116 Street».

Калюмбійскі унівэрсытэт (Columbia University) — адзін з




*Columbia University*

самых вядомых універсытэтаў Амэрыкі, уваходзіць у элітную Лігу Плюшча (асацыяцыя васьмі прыватных універсытэтаў Амэрыкі, якія вызначаюцца высокім узроўнем адукацыі).

Універсытэт знаходзіцца на Брадвэі, універсытэцкі гарадок займае шэсьць кварталаў, пачынаючы ад 116 Street.

Універсытэт быў заснаваны ў 1754 годзе, як каралеўскі каледж (King's College), атрымаў хартыю ад ангельскага караля Георга Другога і стаў першым каледжам у Нью-Ёрку і пятым - на тэрыторыі Калёній. З 1787 году каледж стаў прыватнаю навучальнаю ўстановаю, якая кіруецца радаю апякуноў (Board of Trustees). У 1912 годзе яму прысвоены статус універсытэта.

З 1946 году пры універсытэце дзейнічае акадэмічны цэнтр дасьледаваньняў Савецкага Саюзу, а потым Расеі, Эўраазіі і Усходняй Эўропы. Цэнтр мае назву Інстытута Гарымана (Harriman Institute). У інстытуце выкладаў д-р Янка Запруднік. Там амаль штомесячна праводзіліся беларускія лекцыі. Універсытэт мае аддзяленьне славянскіх моваў (Department of Slavic Languages), у пачатку 1950-х гадоў там выкладалася гісторыя беларускай мовы. Калюмбійскі універсытэт у той час быў цэнтрам адмысловай праграмы вывучэньня СССР (адміністрацыя яе знаходзілася на адрасе 401 West 118 Street). У рамках гэтай праграмы была апрацаваная кніга (517 старонак) пад назваю «The Byelorussian Theater and Drama» Уладзіміра Сядуры з прадмоваю Эрнэста Сіманса з Калюмбійскага універсытэта. Фактычна, гэта была першая грунтоўная гісторыя беларускага тэатральнага мастацтва. Кніга зрабіла вялікую прапаганду беларукай культуры і самому аўтару, які дзякуючы гэтаму атрымаў працу ў адным з амэрыканскіх універсытэтаў.

Архітэктурная бібліятэка мае калекцыю беларускіх кнігаў. Сярод дакумэнтаў, якія захоўваюцца ва універсытэце ёсьць

датычныя да беларускай гісторыі: архіў Гіра — апошняга губернатара Менскай губерні (1913-1914 г.г.), архіў Бахмецьева, дакумэнты са збораў Рускага загранічнага архіву з Прагі і інш.

У вэстыбюлі бібліятэкі Інстытута Гарымана ўстаноўлены бюст Васіля Быкава работы скульптра Алеся Шатэрніка.

Беларускія студэнты вучыліся і вучацца ў гэтым прэстыжным унівэрсытэце. Тут атрымалі адукацыю Расьціслаў Гарошка, Юрка Андрусышын.

У адной з бібліятэкаў унівэрсытэту доўгі час працаваў актыўны ўдзельнік беларускага грамадзкага жыцьця Васіль Шчэцька.

Ва унівэрсытэце выступаў беларускі танцавальны гурт «Васілёк».

У раёне паблізу Калюмбійскага унівэрсытэту, як паведамляла газэта The New York Times, жыве Крыстафэр (Kristopher Rothko), сын знакамітага мастака Марка Ротка, які быў паходжаньнем з Беларусі. Марк Ротка жыў і памёр на Мангэтэне, але дакладны адрас нам невядомы. Крыстафэр Ротка напісаў і выдаў у 2015 годзе кнігу пра бацьку.

Будучы ў гэтым раёне Мангэтэна, які афіцыйна называецца Morningside Heights, не варта абыйсьці ўвагаю адну вельмі арыгінальную мясьціну, якая можа быць важнаю для беларусаў - хрысьціянаў.

Недалёка ад Калюмбійскага унівэрсытэта (кірункам на поўнач), з другога боку Бродвэя здалёку прыцягвае ўвагу арыгінальная будова з высачэзнаю белаю вежаю. Гэта вядомая ў Нью-Ёрку Рывэрсайдская царква. Яна арыгінальная не толькі архітэктураю, але і функцыянальным прызначэньнем.

Riverside Church — міжканфэсійная хрысьціянская царква, якая дзейнічае для ўсіх хрысьціянаў, незалежна ад канфэсійных падзелаў. Комплекс Царквы знаходзіцца на пляцы паміж Рывэрсайд Драйв (Riverside Drive), Клермант Авэню (Claremont Avenue), 120 і 122 Streets.

На пачатку 20 стагоддзя фінансіст Джон Д. Рокфэлер малодшыы (John D. Rockefeller Jr.) і прапаведнік Гарры Эмэрсан Фосдзік (Harry Emerson Fosdick) задумалі пабудаваць агульную царкву для ўсіх, хто верыць у Хрыста. Ракфэлер паслаў архітэктараў у Францыю і Гішпанію, каб вывучыць вопыт эўрапейскіх майстроў. Будаўніцтва заняло ўсяго тры гады і першая служба прайшла ў 1930 годзе.

Будынак Царквы — самы высокі сярод храмаў не толькі ў Нью-Ёрку, але і ў ЗША. Вышыня вежы складае 119 м., налічвае 74 звоны, сярод якіх 20-тонны Бурдон, самы вялікі звон у сьвеце. Асноўная царкоўная заля, дзе адбываюцца багаслужбы, зьмяшчае 2100 месц для вернікаў.

У комлексе знаходзіцца не толькі царква, але і бібліятэка, глядацкая і спартовая залі,



*Riverside Church*

канфэрэнц-заля, дзіцячы садок і інш. сацыяльныя структуры. Рокфэлер хацеў, каб Царква выконвала і сацыяльныя функцыі для насельніцтва. Пазьней Царква стала і палітычным цэнтрам, дзе выступалі Біл Клінтан, Марцін Лютэр Кінг -малодшы, Нэльсан Мандэла, Кофі Аннан і інш.



# Бруклін (Brooklyn)

Бру́клін — самае населенае боро Нью- Ёрку, колькасьць жыхароў складае больш за 2,5 млн.

Знаходзіцца ў паўднёва-заходняй частцы вострава Лонг Айленд (Long Island), аддзелены ад Мангэтэна пратокаю Іст Рывэр (East River), якая называецца ракою, але, насамрэч зьяўляецца рукавом ракі Гудзон. Напачатку гэта было галандзкае пасяленьне Брокелен, якое з цягам часу пашырылася і ў 1854 годзе пад назваю Бруклін (ангельская транскрыпцыя Брокелена) стала горадам. Паступова Бруклін выйшаў на трэйцяе месца ў ЗША па колькасьці насельніцтва пасьля Нью-Ёрка і Чыкага. У 1898 годзе ўвайшоў у склад горада Нью-Ёрка, цікава, што на адмысловым рэфэрэндуме пра далучэньне да Нью-Ёрка сваю згоду выказалі толькі 51 адсотак жыхароў Брукліна. Да сёньня Бруклін выглядае як самастойны горад з адпаведнаю структураю, асноўныя элементы якой захаваліся - будынак муніцыпалітэту, Бруклінскі музэй, Праспект-парк і інш.

Бруклін займае асаблівае месца ў гісторыі беларускай прысутнасьці ў Нью-Ёрку. Можна сказаць, што менавіта ў гэтым боро стварыўся цэнтр беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку.




Традыцыйна ў Брукліне сяліліся шмат імігрантаў з Усходняй Эўропы, сярод іх былі выхадцы з беларускіх зямель. Беларуская прысутнасьць выразна выяўлялася ў Брукліне ў міжваенны час, калі прыязджалі імігранты з Заходняй Беларусі. Актыўнае беларускае грамадзкае жыцьцё пачалося ў Брукліне з прыездам у Амэрыку паваеннай іміграцыі.

Знаёмства з беларускімі мясьцінамі ў Брукліне трэба пачынаць з галоўнага аб'екту — будынку Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Atlantic Avenue. Сёньня гэта сапраўдны Беларускі грамадзкі і рэлігійны цэнтр, вакол якога арганізуецца



*Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага*

нацыянальнае жыцьцё беларусаў Нью-Ёрку.

Будынак належыць Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ). Гэта асноўны, катэдральны Сабор БАПЦ, дзе рэгулярна праводзяцца Багаслужбы і іншыя дзеі рэлігійнага жыцьця. У Саборы ёсьць грамадзка-царкоўная заля, дзе адбываюцца сьвяткаваньні, імпрэзы, сустрэчы, канцэрты, працавалі беларускія школы для дзяцей. Тут праходзілі некалькі Сустрэчаў беларусаў Паўночнай Амэрыкі, Саборы БАПЦ, пасяджэньні Рады БНР. У будынку ажыцьцяўляе сваю дзейнасьць галоўная і старэйшая беларуская арганізацыя ў ЗША - Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА). У Цэнтры існуе багатая бібліятэка і збор музейных экспанатаў па гісторыі эміграцыі.

У будынку Сабору па замове мясцовай гарадзкой адміністрацыі праводзіцца навучаньне

функцыянераў-ўдзельнікаў розных выбарчых кампаній, так што гэткім чынам беларуская грамада аказвае спрыяньне і ў амэрыканскім адміністрацыйным жыцьці.

Будынак Сабору, фармальным уласьнікам якога зьяўляецца Парафія БАПЦ, ёсьць набыткам усёй беларускай грамады Нью-Ёрку, незалежна ад рэлігійнай прыналежнасьці. Купля будынку была грамадзкай акцыяй, мэтаю якой было стварэньне беларускага грамадзка-культурнага цэнтру. Дзеля гэтай мэты ў 1952 годзе быў закладзены Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА) грамадзкі фонд па збору сродкаў на набыцьцё маёмасьці. Паваенныя імігранты, якія самі толькі пачыналі жыцьцё ў Амэрыцы і не пасьпелі стварыць свой уласны матэрыяльны падмурак, перадавалі свае заробленыя цяжкай працаю грошы на тое, каб мець сваё месца для нацыянальнага жыцьця. Сёньня поўны сьпіс ахвярадаўцаў



*Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага*

вывешаны ў будынку Сабору для ўшанаваньня іх добрых учынкаў.

Праз пяць гадоў карпатлівай працы актывістаў па збору сродкаў і пошуку адпаведнага аб'екту будынак быў куплены Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА) 15 кастрычніка 1957 году. Будынак раней займала епіскапальная царква, гэта адна са старэйшых пабудоваў у Брукліне, пабудаваная ў 1860 годзе, ён на 23 гады старэйшы за Бруклінскі мост. Пазьней БАЗА передала будынак Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.


*Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага*

Пасьля рамонту і ўпарадкаваньня набытага будынку адбылося афіцыйнае адкрыцьцё 3 лістапада 1957 году.

З таго часу найбольш важныя падзеі беларускага жыцьця адбываліся ў гэтым будынку.

Сабор стаў рэлігійным цэнтрам не толькі для праваслаўных беларусаў, але і вернікаў-беларусаў іншых канфесій. Тут адбываліся шлюбы і хрэсьбіны. Пад час Вялікадняў праводзіліся «Крэсныя ходы» сумесна з іншай суседняй Анціахійскай праваслаўнай царквою Сьв. Мікалая вакол

Сабору і па вуліцы Bond, якая для гэтага зачынялася.

Новы 1959 год беларусы ўпершыню сустракалі ў сваім грамадзкім цэнтры, Госьцем быў айцец Робэрт ван Каўэлярт з Бэльгіі, шчыры прыхільнік беларусаў, які дапамагаў беларускім студэнтам у Лювэне. Традыцыя сустрэчаў Новага году на 401 Atlantic Avenue працягваецца і да сёньня.

У 70-х гадох на 401 Atlantic Avenue былі арганізаваны тры выставы мастакоў з беларускай дыяспары на Захадзе - з Амэрыкі і іншых краінаў.

Свае большыя імпрэзы ладзіў у грамадзкай залі Сабору Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва. Адбыліся вечарыны-сустрэчы з вядомымі асобамі - прэлатам Петрам Татарыновічам (Італія), паэткаю і перакладчыцаю Вераю Рыч (Англія), прафэсарам Вольгай Арэхва (ЗША), прафэсарам Бубенам (Польшча, Люблін), прафэсарам Я. Садоўскім (Канада) і інш. Праходзілі і палітычныя дэбаты паміж прыхільнікамі рэспубліканцаў і дэмакратаў, часам удзельнічалі і амэрыканскія палітыкі.

У Беларускім цэнтры бывалі шматлікія госьці - палітыкі. кангрэсмэны, вядомыя дзеячы з Беларусі і беларускага замежжа.

Варта адзначыць, што Беларускі цэнтр на Atlantic Avenue знаходзіцца на адной з найбольш працяглых магістраляў Брукліна — Atlantic Avenue, што праходзіць праз два боро - Бруклін і Куінс. Сёньня месца, дзе стаіць Сабор, належыцца да прэстыжных раёнаў, гэта амаль цэнтр адміністрацыйнага, дзелавога і культурнага Брукліна. Сабор штогод бярэ ўдзел у традыцыйным фэстывалі Atlantic Antic, на адным з такіх фестываляў беларусам была з боку адміністрацыі раёна ўручана

адмысловая ўзнагарода. Так быў афіцыйна ўшанаваны факт, што Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага зьяўляецца адной са старэйшых арганізацый, якая найбольш доўгі час без праблемаў утрымлівае будынак у гэтым раёне, бальшыня іншых будынкаў шмат разоў мянялі сваіх гаспадароў.

Беларускі цэнтр на 401 Atlantic Avenue знаходзіцца ў вельмі зручным месцы з пункту гледжаньня даезду. Непадалёку размяшчаюцца пяць станцый сабвэю: Atlantic Ave - Barclays Ctr - B,Q,2,3,4,5 and LIRR, Hoyt-Schermerhorn - A,C,G, DeKalb Ave - B,Q,R, Nevins Str - 2,3,4,5, Bergen Str - F,G

Блізка ад Беларускага цэнтру знаходзіцца яшчэ адна важная мясьціна, зьвязаная з дзейнасьцю беларускай моладзевай грамады Нью-Ёрка - гэта будынак пад нумарам 30 на 3 Avenue Асацыяцыі Маладых Хрысьціянскіх Жанчын (Young Women's Christian Assotiation - YWCA). У першай палове 50-х гадоў, калі беларусы яшчэ не мелі ўласнага будынку,




*Будынак YWCA*

моладзь навязала плённае супрацоўніцтва з гэтай вядомай па цэлым сьвеце арганізацыяй. 18 лістапада 1953 году YWCA ладзіла вялікі баль, на які былі запрошаны беларусы і выступілі там з мастацкай праграмаю. 11 лютага 1954 году сябры ЗБМА бралі ўдзел ў вечарыне прапаганды YWCA, моладзь выступіла з танцамі і сьпевамі.

У будынку YWCA праводзілася таксама шмат менавіта беларускіх імпрэзаў. Там ладзілася Калядная ялінка для беларускіх дзяцей 10 сьнежня 1954, працавалі курсы беларусаведы для моладзі, якія арганізавала БАЗА, заняткі пачаліся 19 лістапада 1954 году. У 1955 годзе беларуская моладзь ладзіла ў будынку штодругую пятніцу вечарыны спорту з рознымі гульнямі і плаваньнем.

Непадалёку ад Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на 620 Atlantic Avenue знаходзіцца вядомая спартовая арэна — Barclays Center, адчыненая ў верасьні 2012 году.




*Barclays Center*

Пабудова гэтага значнага абьекту спрыяла падвышэньню рэспектабельнасьці раёну, што сталася важным і для Беларускага цэнтру. У гэтым будынку мае сваю базу папулярная хакейная каманда «Нью-Ёрк Айлэндэрз (New York Islanders). Вядомы беларускі хакеіст Міхаіл Грабоўскі ў 2014 годзе прыехаў у Нью-Ёрк, пасьля таго як падпісаў кантракт з гэтым клюбам у якасьці цэнтральнага нападніку, і іграў на хакейным полі ў Barclays Center.

Беларускі Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага, як ужо адзначалася вышэй, знаходзіцца ў адміністрацыйным цэнтры Брукліна. У гэтым раёне разьмяшчаюцца галоўныя культурныя ўстановы боро, дзе такама знойдзем беларускую




*Academy of Music*

прысутнасьць.

У 2005 годзе у Нью-Ёрку пабываў Віцебскі драматычны тэатр, калектыў выступаў 14-15 кастрычніка на сцэне вядомай Бруклінскай акадэміі музыкі (Brooklyn Academy of Music).

Акадэмія — галоўная музычная інстытуцыя Брукліна. Тут ёсьць опэрная заля, драматычны тэатр, кіназалі. Знаходзіцца на адрасе: 30 Lafayette Avenue, паміж Ashland Place и St. Felix Street. Даезд: сабвэй, трэйны 2, 3,4,5, B,D,M,N,Q,R да станцыі Atlantic Ave



*Brooklyn Museum*

Беларусам варта пабываць і ў Бруклінскім музэі (Brooklyn Museum), дзе можна пабачыць творы вядомых мастакоў беларускага паходжаньня Міколы Цыкоўскага і Марка Ротка.

Бруклінскі музэй — другі па памерах калекцый пасьля Метрополітэн Музэя, заснаваны ў 1895 годзе, размяшчаецца ў велічным будынку, выкананым у стылі бозар. Адрас Музэю: 200 Eastern Parkway. Даезд: станцыя сабвэя Eastern Parkway/ Brooklyn Museum, трэйны 2,3

12 чэрвеня 2016 году ў Бруклінскай бібліятэцы (Brooklyn Public Library) выступала Нобілеўская ляўрэатка 2015 году беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч.




*Brooklyn Public Library*

Бібліятэка займае пятае месца па велічыні сярод бібліятэчных сетак ЗША. Знаходзіцца на Флэтбуш Авэню (Flatbush Avenue) і Усходнім бульвары (Boulevard East) на Гранд Армі Плаза (Grand Army Plaza). Даезд: сабвэй, трэйны 2,3 да станцыі Grand Army Plaza

З бліжняй да Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага станцыі сабвэю Hoyt-Schermerhorn на трэйне G можна даехаць у раён Брукліну Грын Пойнт (Green Point).). У гэтым раёне жылі многія беларусы з паваеннай іміграцыі. У амэрыканскай газэце

«Greenpoint Star» кожны тыдзень друкаваліся інфармацыі пра беларускую моладзь. Тут праводзіліся некаторыя гадавыя сходы Згуртаваньня беларускай моладзі Амэрыкі, напрыклад, 31 кастрычніка 1955 году такі сход прайшоў у «Тоні’с гол» (Toni’s hall). Дзейнічаў моладзевы спартовы клюб «Беларусь», які быў заарганізаваны двума групамі хлопцаў з бруклінскіх раёнаў Грын Пойнт начале з Міхасём Казьлякоўскім і з Іст Нью-Ёрк (East New York) начале з Анатолем Александровічам. Футбольная каманда клюбу ўваходзіла ў Метрапалітэнскую Лігу — спартовы амэрыканскі клюб Metropolitan Ligue.




*Будынак, дзе быў беларускі рэстаран*

На Грын Пойнце існаваў у 1965 годзе беларускі бар-рэстаран на адрасе -1018 Manhattan Avenue. Будынак захаваўся.

У Грын Пойнце знаходзіцца таксама адметны для беларусаў аб’ект — мост Касьцюшкі (Kosciuszko Bridge).




*Месцазнаходжанне моста*



*Новы мост Касцюшкі*

Ад 2013 году мост знаходзіўся ў стане рэканструкцыі з мэтаю ліквідацыі трафікаў на аўтамагістралі the Brooklyn-Queens




*Kosciuszko Street*




*Kosciuszko Street subway station*

Expressway (BQE), якая праходзіць праз мост. Замест старога маста пабудаваны новы, усходняя частка яго адчынілася 27 красавіка 2017.

Кіруючыся з Грын Пойнту на паўднёвы ўсход трапім у раён Bushwick, дзе знойдзем вуліцу Касьцюшкі (Kosciuszko Street), яна злучае Bushwick Avenue і Bedford Avenue, пралягае паралельна паміж DeKalb Avenue і Lafayette Avenue.




*Kosciuszko Street на мапе Нью-Ёрку*

На гэтай вуліцы знаходзіцца аднайменная станцыя сабвэю на лініі трэйна J — Kosciuszko Street, яна якая была адчыненая 25 чэрвеня 1888 году.

На паўднёвы ўсход ад станцыі Касьцюшкі знаходзіцца раён Браўнсвіл (Brownsville), даехаць туды можна трэйнамі 3, C, A. У гэтым раёне на пачатку мінулага стагоддзя асталявалася працоўная эміграцыя з заходніх беларускіх зямель. Некаторыя з гэтых людзей былі нацыянальна сьведамымі і намагаліся запачаткаваць беларускае грамадзкае жыцьцё. У Браўнсвілі беларус Хведар Зварыка меў уласнае адзежнае прадпрыемства, ён не толькі займаўся бізнэсам, але быў

і грамадзкім актывістам, які заклаў там беларускую суполку. Ягоны бліжэйшы паплечнік, беларускі дзеяч ў Нью-Ёрку у 20-х гадох мінулага стагоддзя Сьцяпан Бубешка ў лісьце ў Коўна да вядомага беларускага палітычнага дзеяча Вацлава Ластоўскага ад 1 жніўня 1921 году называе Хведара Зварыку актыўнейшым беларускім работнікам і раіць Ластоўскаму зьвяртацца менавіта да яго ў беларускіх справах. У лісьце быў пададзены адрас Міхася Восіпавіча Зварыкі: 528 Amboy Street, Brooklyn, New York.

Сам Сьцяпан Бубешка меў у Брукліне ўласны рэстаран пад назваю «Свабода», на жаль, пакуль не знайшоўся ягоны адрас.

Беларускія работнікі з Брукліну бралі актыўны ўдзел у амэрыканскім прафсаюзным руху. Менавіта ў Браўнсвілі дзейнічаў лякальны аддзел прафсаюза шавецкае прамысловасьці, які быў арганізаваны беларусамі.

Беларускія імігранты па Другой сусьветнай вайне таксама актыўна засяляліся ў Бруклін. Напачатку пераважна ў гэтыя дальнія ўсходнія раёны боро, дзе жытло каштавала таньней. Але, клапаціліся не толькі пра ўласныя патрэбы, а наймалі памяшканьні для грамадзкіх патрэбаў. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне(БАЗА), закладзенае на Мангэтэне ў 1949 годзе, напачатку сваю асноўную дзейнасьць праводзіла менавіта ва ўсходнім Брукліне. Першую «Беларускую хатку» БАЗА займела на вул. Лінвуд (Linwood Street) у раёне Cyprress Hills (на лініі трэйна J), там знаходзілася канцылярыя БАЗА, праводзіліся зборкі. Тут пачала гуртавацца і моладзь.

Бруклінскі аддзел БАЗА па ініцыятыве Задзіночаньня беларускіх жанчын потым заарганізаваў «Беларускую Хатку»

на 461 Ashford Street у тым жа раёне, у нанятым памяшканьні невялікай крамы (будынак не захаваўся). У 1950 годзе ў Нью-Ёрку быў заснаваны беларускі праваслаўны прыход Сьв. Кірылы Тураўскага, першыя багаслужбы пачаліся ў верасьні таго ж году таксама ў «Беларускай хатцы».



*Сучаснае месца, дзе была «Беларуская Хатка»*

17 сакавіка 1951 году ў «Беларускай Хатцы» адбылася цырымонія заснаваньня першай беларускай скаўцкай групы ў Нью- Ёрку, апеку над ёю ўзяло БАЗА.

Беларускі Інстытуту Навукі і Мастацтва (БІНіМ) свой першы гадавы справаздачны сход правёў 14 сьнежня 1952 году ў памяшканьні «Беларускай Хаткі.». Яна стала цэнтрам сходак і забаваў для беларусаў усяго Нью-Ёрку да таго часу, пакуль беларускае рэлігійнае і грамадзкае жыцьцё не перамясьцілася ў Мангэтэн.

У Брукліне дзейнічалі бізнэсовыя суполкі «Менск», «Пінск», «Слуцак», якія належалі беларусам.

З іншых вядомых асобаў, якія жылі ў Брукліне, можна

назваць імя мастака Пётры Міранавіча. Ён працаваў супэрвайзерам ў адным з бруклінскіх жылых будынкаў, трымаўся за гэтую працу, бо гэта давала яму магчымасьць мець сваю мастацкую студыю для творчай працы. Студыя займала ў тым доме цэлы паўпадвал, дзе было дастаткова месца для абсталяваньня і маляваньня. Мастак маляваў шмат абразоў з куточкамі Бруклінскага парку. Пётра Міранавіч заўсёды ахвотна адгукаўся на просьбу зрабіць мастацкае афармленьне для патрэбаў беларускай школы.

Сучасная беларуская іміграцыя таксама часта выбірае с месцам пражываньня менавіта Бруклін, дзе ёсьць значная колькасьць насельніцтва паходжаньнем з Усходняй Эўропы. Пераважна беларусы цяпер засяляюцца ў заходнія і паўднёва-заходнія раёны боро.



# *Куінс (Queens)*

Куінс - самае вялікае па тэрыторыі і другое па колькасьці насельніцтва (прыкладна 2.3 млн.) боро Нью-Ёрка.

Знаходзіцца ў паўночна-заходняй частцы вострава Лонг Айленд, аддзелены ад Мангэтэна пратокаю Іст Рывэр. Гэта самая неаднародная па этнічнаму складу частка горада, амаль палову насельніцтва складаюць імігранты.

Да таго, як Куінс у 1898 годзе ўвайшоў у склад вялікага Нью-Ёрка, ён складаўся з шэрагу невялікіх пасяленьняў, разьдзеленых лесапаркамі і пляжамі. Пачынаючы ад 1920-х гадоў у Куінсе хуткімі тэмпамі пайшла урбанізацыя і цяпер боро выглядае як суцэльны горад.

Сёньняшні Куінс, найперш, адметны тым, што менавіта ў гэтым боро разьмяшчаюцца два буйных амэрыканскіх аэрапорты - міжнародны імя Джона Кэнэдзі (John F Kennedy (JFK) Airport) і аэрапорт «Ла Гуардзіа «(La Guardia Airport),




*(фота - 139 мапа Куінса -няма)*

які пераважна канцэнтруецца на кантынентальных авіярэйсах. Амэрыканскія беларусы актыўна карыстаюцца сэрвісамі гэтых паветраных гаваняў.

Куінс стаў асвойвацца прадстаўнікамі папярэдніх хваляў беларускай эміграцыі, якія прыязджалі ў Амэрыку ў пошуках заробкаў і лепшага жыцьця, але мала цікавіліся нацыянальнымі праблемамі.

На могільніку ў раёне Маспет (6540 Grand Avenue, Maspeth, NY 11378) можна знайсьці шмат беларускіх прозьвішчаў са старой эміграцыі. Беларусам варта наведваць гэтую мясьціну.

Адзін з найбольш вядомых беларускіх імігрантаў тых часоў, які сярод першых спрабаваў арганізаваць нацыянальнае жыцьцё беларусаў у міжваенны перыяд, Сьцяпан Бубешка свае апошнія дні правёў у Джамэйкаўскім шпіталі (Jamaica Hospital) у Куінсе на Van Wyck Expy, дзе і памёр 23 студзена 1928 году, пахаваны таксама ў Куінсе ў Флашынгу (Flushing). Дарэчы, у гэтым шпіталі беларусы не толькі паміралі, але і нараджаліся, там нарадзілася мая ўнучка Трыніці-Ганна. У Джамэйкаўскім шпіталі доўгі час працавала вядомая беларуская дзеячка Раіса Станкевіч.

Шмат хто з беларускіх паваенных эмігрантаў жылі ў Куінсе, пераважна ў паўночна - ўсходняй частцы боро. Менавіта там, на Джамэйцы (Jamaica) знаходзіцца адна з вядомых беларускіх арганізацый у Амэрыцы - Фундацыя Крэчэўскага (ад 2016 году - Беларуская фундацыя Крэчэўскага (Belarusian Kreceuski Foundation).

Афіцыйнае заснаваньне Фундацуыі Крэчэўскага адбылося 2 чэрвеня 1959 году ў памяшканьні рэстарана «Стакгольм «на

Мангэтэне. Была абраная Рада дырэктараў у складзе: Антон Адамовіч, Віталь Кажан, Натальля Арсеньева, Кастусь Мярляк, Антон Шукелойц, Вітаўт Тумаш. У адпаведнасьці з амэрыканскімі законамі Фундацыя была зарэгістраваная, як самастойная, непрыбытковая, карпаратыўная арганізацыя, якая павінна мець не толькі кіраўніцтва, але і сяброў.

Першыя сродкі на заснаваньне беларускага культурнага цэнтру ў Амэрыцы, у якім павінен быў быць створаны архіў-музэй, былі атрыманыя ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Паміж Радаю БНР і Фундацыяй 1 ліпеня 1960 году была заключаная адпаведная дамова. У дамове напісана, што «пастановы, датычныя да распараджэньня маёмасьцю Фундацыі, падлягаюць зацьвярджэньню Прэзыдэнтам Рады БНР».

У 1960 годзе старшынём Рады дырэктараў Фундацыі быў абраны Мікола Гарошка. Рада дырэктараў занялася пошукам адпаведнага будынку для архіва-музэя. 14 сьнежня 1964 году Фундацыя аформіла куплю чатырох дамоў у Куінсе, у раёне Джамэйка(Jamaica), на вуліцы Gothic Drive 166. На першы ўзнос былі скарыстаны сродкі, перададзеныя Радаю БНР, астатні кошт быў пакрыты пазычкаю ў банку, якая сплачвалася з прыбыткаў са здачы кватэраў у арэнду. Памяшканьні Фундацыі таксама пачалі выкарыстоўвацца для правядзеньня беларускіх імпрэзаў, канфэрэнцый і інш. грамадзкіх патрэбаў.

Пазьней з розных прычынаў утрымаць усе купленыя дамы не ўдалося, у 1979 годзе было вырашана прадаць два дамы, потым быў прададзены трэйці. Прыбыткі не толькі пакрывалі пазычку, але і дазволілі стварыць фінансавыя запасы, якія скарыстоўваліся на беларускія справы - выданьне кніг, выдачу

грантаў на іншыя адпаведныя праекты. У 1983 годзе ва ўласнасьці Фундацыі застаўся адзін дом.

Цягам сваёй дзейнасьці Фундацыя сабрала даволі багатыя архівы і бібліятэку, розныя экспанаты ды партрэты значных асобаў з гісторыі беларускай эміграцыі. Вядзецца праца па іх упарадкаваньню.

Пасьля сп. Гарошкі старшынямі Рады дырэктараў Фундацыі былі: Вітаўт Тумаш (1979 - 1982 г.г.), Францішак Бартуль (1982 - 2005 г.г.), Сяржук Сокалаў-Воюш (2005 - 2009 г.г.), Вячка Станкевіч - ад 2009 году.

З мэтаю ўдасканаленьня дзейнасьці Фундацыі была зроблена яе юрыдычная перарэгістрацыя. 20 ліпеня 2015 году Штатны ўніверсытэт і Аддзел адукацыі Штату Нью-Ёрк зацьвердзілі Статут новай арганізацыі - Беларускай фундацыі Крэчэўскага (Belarusian Kreceuski Foundation). Пасьля атрыманьня дазволу для новай Фундацыі на звальненьне ад фэдэральных і некаторых штатных і гарадзкіх падаткаў, на сваім апошнім агульным сходзе 15 красавіка 2016 гістарычная Фундацыя самаліквідавалася і ўся яе маёмасьць была перададзена Беларускай фундацыі Крэчэўскага. Яе офіс на тым жа адрасе - 166-34 Ghotic Drive, Jamaica, NY 11432

Будынак Фундацыі доўгі час быў адным з цэнтраў беларускага грамадзкага жыцьця ў Нью-Ёрку. У ягонай залі адбываліся імпрэзы, розныя зборкі, канфэрэнцыі.

На адрасе Фундацыі знаходзіўся таксама Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (БІНІМ), які праводзіў у гэтым будынку шмат навуковых мерапрыемстваў.

Ад 1 лютага 1965 году ў памяшканьні Фундацыі дзейнічалі Галоўная управа БАЗА і рэдакцыя газэты «Беларус»,



*Будынак Фундацыі Крэчеўскага*

якія пазьней перабраліся у будынак Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага.

Працяглы час у Фундацыі адбываліся сходы Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА.

Даехаць да Фундацыі можна трэйнам F да прыпынку «169 Street».

На Джамэйцы ў друкарні Five Star Ptinting на адрасе 107-29 180th Street ад 2011 году друкавалася газэта «Беларус».

Адметнай мясьцінаў у Куінсе, зьвязанай з беларускім грамадзкім жыцьцём, зьяўляецца Куінсаўскі каледж Нью-Ёркскага унівэрсытэта (Queens College of the City University of New York (CUNY), Flushing). Адрас: Queens College, CUNY, 65-30 Kissena Blvd., Queens, NY 11367-1597).

Па ініцыятыве амэрыканскага прафэсара-беларусіста Томаса Э. Бэрда і падтрымцы БІНіМа ў 1971-1973 гадох у каледжы была арганізаваная для студэнтаў і беларускай моладзі сэрыя



*Queens College*

літаратурных лекцыяў пад назваю «Вечары з беларускімі пісьменьнікамі». На іх пабывалі шмат вядомых пісьменьнікаў і дзеячаў з Беларусі - Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Вольга Іпатава, Адам Мальдзіс, Віктар Казько, Алена Юрэвіч, Вера Рыч, Аляксандр Надсан і Джым Дзінглі з Лёндану, Алесь Баршчэўскі з Польшчы, таксама Масей Сяднёў, Уладзімір Сядура. Беларусы ў гэтым Каледжы мелі магчымасьць сустракацца са знакамітым расейскім і амэрыканскім літаратарам Іосіфам Бродзкім, які выкладаў там літаратуру.

У тэатры Каледжу часта адбываліся лекцыі на тэмы тэатральнага мастацтва. Прафэсар Бэрд прачытаў каля дзесятку лекцый пра творчасьць беларускіх драматургаў - Аляксея Дударава, Андрэя Макаёнка, Францішка Аляхновіча і інш. Пры дапамозе прафэсара Бэрда ў бібліятэцы ладзіліся выставы, прысьвечаныя знакамітым беларусам - Францішку

Скарыну, Максіму Багдановічу, Васілю Быкаву.

Час ад часу ў каледжы адбываліся зборкі Управы БІНІМ з удзелам прафэсара Бэрда, як сябра БІНІМ. У першай палове 70-х гадоў там выкладаў гісторыю доктар Янка Запруднік.

Куінсаўскі каледж закончылі каля дзесятка беларусаў. Алена Акуліч рабіла на бібліятэчным факультэце семінар-працу пра Васіля Быкава.

У паўночна-усходнім раёне Куінсу - Флашынг (Flushing) таксама варта наведаць Flushing Meadows Corona Park. Менавіта ў гэтым парку некалі адбываліся Сусьветныя выставы (Сусьветная выстава (Expo) - сымбаль індустрыялізацыі, месца для дэманстрацыі тэхнічных дасягненьняў). У той час гэта былі папулярныя міжнародныя падзеі, якія шырока асьвятляліся па цэлым сьвеце. За ўсю гісторыю Сусьветных выставаў Нью-Ёрк тройчы меў гонар быць месцам іх правядзеньня. Ідэя такіх выставаў нарадзілася ў Францыі, аднак першая Сусьветная выстава адбылася ў Лёндане ў 1851 годзе. Нью-Ёрк быў таксама сярод першых і прымаў гасьцей у 1853 годзе. Другая выстава (1939-40 New York World's Fair) адбывалася ў Нью-Ёрку з 30 красавіка 1939 году да 27 кастрычніка 1940 году ў Flushing Meadows Corona Park, яе наведалі 44 млн. чалавек. Менавіта на гэту выставу была прывезена з Польшчы дзеля аздобы польскага павільёну статуя караля Ягайлы, якая цяпер стаіць у Цэнтральным парку на Мангэтане.

Трэйці раз Нью-Ёрк прымаў чарговую Сусьветную выставу ў 1964 годзе (New York World's Fair - 1964/1965). Выстава дзейнічала цягам году ў два перыяды: 22 красавіка-18 кастрычніка 1964, працяг: 21 красавіка-17 кастрычніка 1965)

і знаходзілася таксама ў Флашынгу. Па дзеючых правілах выставы маглі доўжыцца не больш 6 месяцаў, такое парушэньне выклікала пратэст Міжнароднага Бюро Выставаў, у выніку Бюро афіцыйна не прызнала гэту выставу і мы не знойдзем яе ў афіцыйным сьпісе праведзеных выставаў. Больш таго, Бюро заклікала краіны не браць удзел у выставе, што некаторыя і зрабілі. Канфлікт вакол гэтай выставы стварыўся не толькі па гэтай фармальнай прычыне, але свой уплыў мела і складаная міжнародная сытуацыя, выкліканая «кубінскім крызісам».

Аднак, па свайму ўзроўню гэта была адна з самых грандыёзных выставаў, займала плошчу ў 260 га, мела 50 млн. наведвальнікаў. Гораду яна каштавала вялікіх выдаткаў і таму быў працягнуты тэрмін, каб пакрыць затраты. У багатай культурнай праграме гэтай выставы бралі ўдзел амэрыканскія беларусы.

23 траўня 1964 году моладзевая танцавальная група пад кіраўніцтвам Алы Орсы ўдзельнічала ў канцэрце на тэрыторыі Сусьветнай выставы з нагоды Дня ветэранаў.

21 чэрвеня 1964 году ў адным з павільёнаў Сусьветнай выставы ладзіўся адмысловы Беларускі Народны Фэстываль, які рыхтавала БАЗА і Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі. Выступалі хоры і танцавальныя групы, беларускі паказ доўжыўся тры гадзіны. 12 ліпеня 1964 году танцавальная група пад кіраўніцтвам Алы Орсы выступала на выставе пяць разоў з гадзіннаю праграмаю ў павільёне штата Нью-Ёрк.

Другі Беларускі фестываль на Сусьветнай выставе адбыўся праз год - 30 траўня 1965 году. Беларусам было прапанавана

яго правесьці, бо мінулы першы фэстываль быў вельмі пасьпяховым.

Ад Выставы 1964 году ў Флашынгу засталіся памяткі - астаткі збудаваньняў, якія аздаблялі тэрыторыю, іх відаць здалёку, магчыма таксама пабачыць нават з вакна трэйну 7 і цягнікоў, што ідуць на Лонг Айленд, ці з платформы станцыі сабвэю 111 Street (з правага боку, калі ехаць у накірунку на Флашынг)



*Сучасны выгляд Corona Park*

Можна лёгка пазнаць іх, разглядаючы фотаздымкі выставы. 12-метровая шкляная зямная куля (Unisphere) некалі была галоўным сымбалем выставы, знаходзілася ў цэнтры тэрыторыі, была дамінантаю ўсяго комплексу, увасабляла ідэю глябалізацыі. Unisphere з акаляючымі яе фантанамі і да сёньня застаецца ўпрыгожаньнем Corona Park.

Адметна выглядаў на Выставе павільён горада Нью-Ёрку, ад якога засталіся калёны.

Нагадаем, што на могілках у Флашынгу пахаваны вядомы

беларускі грамадзкі актывіст у міжваенны час Сьцяпан Бубешка.



Unisphere

У дальнім усходнім Куінсе, ў раёне Рычманд Гіл (Richmond Hill), знаходзіцца другая беларуская праваслаўная царква ў Нью-Ёрку пасьля Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Брукліне. Парафія таксама носіць імя Сьв. Кірылы Тураўскага і таксама стаіць на Atlantic Avenue, але напрыканцы гэтай вядомай і доўгай магістралі, якая праходзіць праз два боро - Бруклін і Куінс. Таму і цэрквы, якія знаходзяцца на адной вуліцы, належаць да розных боро. Да запачаткаваньня дзейнасьці абодвух цэркваў меў дачыненьне адзін і той жа чалавек - актыўны беларускі дзеяч Кастусь Мярляк, які прыехаў у ЗША з Аргентыны. Ён займаўся пошукам і купляю будынка Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Atlantic Avenue.



Павільён Нью-Ёрку на выставе)

Пазьней, у выніку канфлікту ў беларускай грамадзе, ён адышоў з групаю іншых беларусаў і яны пабудавалі новую

царкву ў гонар таго ж Сьвятога. Царква была высьвечана ў 1983 годзе, знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскага Патрыярхату. Адрас: St. Cyryl of Turov Byelorussian Orthodox Church, 104-29 Atlantic Avenue, Richmond Hill, NY 11418.



*Царква Сьв. Кірылы Тураўскага ў Richmond Hill*

У гэтай царкве адбываліся не толькі багаслужбы, але і грамадзкія імпрэзы ў царкоўнай залі, адзначаліся ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці БНР. Арганізоўвала сьвяты Беларуска-Амэрыканскае Абьяднаньне ў Нью-Ёрку пад старшынствам Кастуся Мярляка. Бывалі і прадстаўнікі БАЗА, выступаў з канцэртам Данчык.

У адрозьненьне ад паваеннай іміграцыі, многія актыўныя прадстаўнікі якой жылі ў Куінсе - спадарствы Орсаў, Гарошкаў, Паланевічаў, Мерлякоў, Савёнкаў, Міхась і Аляксандр Міцкевічы, доктар Шчорс і інш., сучасная

эміграцыя засяляецца ў гэтае бора значна меньш. Але, беларусы ёсьць сярод жыхароў Куінса.



# *Бронкс (Bronx)*

Бронкс — адзінае боро Нью-Ёрка, чыя тэрыторыя знаходзіцца на кантынентальнай частцы Амэрыкі, на поўнач ад ракі Гарлем (Harlem River). Насельніцтва - прыкладна 1,4 млн., больш паловы жыхароў складаюць лаціна-амэрыканцы.

Назву Бронкс атрымаў ад імя Йонаса Бронкса - галандзкага капітана, які некалі валодаў зямлёю на месцы сёньняшняга боро.

У 1874 годзе паўднёвая частка тэрыторыі Бронкса была выведзеная са складу акругі Уэстчэстэр (Westchester) і перададзеная ў акругу Нью-Ёрк. У 1895 годзе Нью-Ёрку была перададзена паўночная частка




*Мапа Бронкса)*

Бронкса. У 1898 годзе Бронкс увайшоў у склад гораду Нью-Ёрку, аднак не быў асобным боро. Толькі ў 1914 годзе Бронкс быў выдзелены ў самастойнае боро горада і акругі штата Нью-Ёрк.

У гэтым боро здаўна жылі іміграны з Беларусі ш іх нашчадкі. Сярод іх найбольш вядомым ёсьць знакаміты заканадаўца моды Ральф Ларэн (Ralph Lauren), які паходзіць з сям'і эмігрантаў з беларускіх земляў ( сапраўднае імя Рубэн Ліўшыц). Ягоны бацька Франк Ліўшыц выехаў у Амэрыку ў 1920 годзе з Пінску, а маці Фрыда Катляр у 1921 годзе прыехала ў Нью-Ёрк з Гародні. Бацька працаваў маляром, а маці выхоўвала чатырох дзяцей. Сям'я жыла ў бедным раёне Бронкса, дзе і нарадзіўся Рубэн 14 кастрычніка 1939. Сярод іхных суседзяў быў Кэльвін Кляйн — таксама будучы знакаміты мадэльер.

Хлопец з дзяцінства марыў займацца мастацтвам. Ва ўзросьце 16 гадоў ён зьмяніў прозьвішча на Ральф Ларэн. Калі яму споўнілася 26 гадоў, Ларэн ужо заклаў сваю кампанію па вытворчасьці мужчынскіх гальштукаў. У 1967 годзе ён адчыніў сваю першую краму і пачаў гандляваць гальштукамі пад маркаю POLO, лягатыпам якой стала выява гульца ў пола на кані. Пазьней ягоны бізнэс пашырыўся да вытворчасьці мужчынскага і жаночага адзеньня, аксесуараў, мэблі, пасьцельнай бялізны. Ральф Ларэн пачаў таксама пасьпяховае супрацоўніцтва з галівудзкімі кінастудыямі і распрацоўваў касьцюмы для некаторых вядомых фільмаў. Ён быў афіцыйным дызайнерам амэрыканскай спартовай зборнай на некалькіх Алімпійскіх гульнях.

У 2007 годзе брэнд POLO налічваў каля 300 крамаў па ўсім

сьвеце. Ральф Ларэн пакінуў у 2015 годзе пасаду галоўнага крэатыўнага дырэктара кампаніі і перадаў гэтую функцыю Стэфану Ларсану.

Бронкс асвойвае і сучасная беларуская эміграцыя.

У Бронксе знаходзіцца гістарычная сядзіба — галоўны ўніверсытэцкі гарадок Rose Hill вядомага каталіцкага універсытэта - Фордэм (Fordham Univercity), які быў заклад-зены Рыма-каталіцкай дыяцэзіяй Нью-Ёрка ў 1841 годзе, як St. John's College. Аднак, універсытэт мае і дзейны «Праваслаўны цэнтр».



*Fordham Univercity*

Сёньня Фордэм - буйная навучальная ўстанова, больш за 15 тыс. студэнтаў. Ва універсытэце вучылася і беларуская моладзь - унук сп. Вітаўта Кіпеля - Алесь Кіпель, сын сп.

Алы Орса Рамана - Коля Рамана, пляменьнік вядомай грамадзкай дзеячкі Лянгіны Брылеўскай - Алесь Вайцяховіч, выдатны спартовец.

У Фордэм бывалі беларускія лекцыі, у бібліятэцы унівэрсытэта ёсьць таксама беларускія кнігі.

Даехаць да унівэрсытэцкага гарадка можна на трэйнах B, D да парыпынку Fordam Rd. Варта паглядзець на прыгожую гістарычную архітэктуру унівэрсытэцкага гарадка.



## *Статэн Айленд (Staten Island)*

Боро Статэн Айленд - знаходзіцца на востраве з аднайменнаю назваю, які ляжыць на паўднёвы захад ад Мангэтэна. Першым эўрапейцам, які ступіў на тэрыторыю вострава ў 1524 годзе быў быў італьянскі мораплаўца Джовані дэ Верразана (Giovanni da Verrazzano). На галяндзкай мове назва востраву азначае «Востраў Генеральных штатаў», так ён быў названы ў гонар парлямента галяндзкай канфэдэрацыі.

Статэн Айленд - найбольш тэрытэрыяльна аддалены і найменш заселены з усіх боро Нью-Ёрка, налічвае каля 460 тыс жыхароў, найбольш буйная нацыянальная мяньшыня сярод іх - італьянцы. Гарадзкім раёнам Нью-Ёрку стаў у 1898 годзе.

Доўгі час жыхары боро мелі транспартную сувязь з іншымі боро гораду толькі праз паромную пераправу на Мангэтэн, якая была не вельмі зручнаю, бо ў ёй былі задзейнічаныя толькі дзьве баржы.

Дзеля забесьпячэньня больш надзейнай і зручнай камунікацыі з астатнім горадам у жніўні 1950 году пачалося будаўніцтва сталага маста з ніжняга Брукліна (раён Bay Ridge) на Статэн Айленд праз праліў — Нарроус (Narrows). Працы былі завершаныя ў 1969 годзе і 28 чэрвеня мост быў адчынены. Арыгінальнае збудаваньне атрымала назву ў гонар




*Мапа Статэн Айленда*

італьянскага мараплаўца Giovanni da Verrazzano, які адным з першых эўрапейцаў прыплыў у бухту Нью-Ёрка. Поўная назва — The Verrazano Narrows Bridge, ці коратка — мост Веразана (Verrazano Bridge).

Мост па 1981 год быў найбольшым у сьвеце падвясным мастом, цяпер займае 11 месца па памерах. Мост мае 12 транспартых палосаў на двух ўзроўнях (па 6 палосаў на кожным). Даўжыня асноўнага пралёта 1298 м., бакавых — па 370.5 м. шырыня — 31 м., вышыня пралёту пад мастом — 69.5 м., што дазваляе праходзіць любым судам. На мосце Веразана стартуе Нью-ёркскі маратон.

Паромная пераправа Фэрры (South Ferry) таксама захавалася і зьвязвае Статэн Айленд з Мангэтэнам, але гэта



*The Verrazano Narrows Bridge*

ўжо больш мадэрнізавны і камфорты сродак камунікацыі. Прыпынак парома знаходзіцца на самай паўднёвай кропцы Мангэтэна - South Ferry, ў блізкасьці да станцый сабвэю, трэйн 1 непасрэдна давозіць пасажыраў да паромнай станцыі. Працягласьць воднага маршрута складае - 8,4 км, паездка трывае каля 25 хвілін.

Паромы Статен Айленд Фэрры працуюць штодня, 5 паромаў робяць 104 рэйсы за дзень і перавозяць 65 тыс. чалавек, за год гэта складае 19 млн. пасажыраў. Праезд паромам бясплатны.

Статэн Айленд лічыцца «спальным» раёнам Нью-Ёрку, да 1960 году ў паўднёвай частцы вострава яшчэ існавалі фермерскія гаспадаркі. Ад 1947 году на востраве знаходзіўся гарадзкі сьметнік, у 2001 годзе быў зачынены.

Пасьля пабудовы маста Верразана пачалося больш актыўнае

засяленьне вострава, у тым ліку і беларусамі.

Найбольш вядомым сярод беларусаў жыхаром Статэн Айленда быў паэт Янка Юхнавец, які засяліўся туды, бо там жылі сваякі па лініі жонкі (з Кандыбовічаў). Янка Юхнавец і ягоная жонка Ірына пахаваныя на тамтэйшых могілках. Таксама, верагодна, што апошні перыяд жыцьця там правёў мастак Пётра Мірановіч, які да гэтага жыў у Брукліне, і, магчыма, пераехаў на Статэн Айленд, дзе ягоны сын купіў дом, бо мастак пахаваны менавіта ў гэтым боро.

Сёньня на Статэн Айлендзе жывуць беларускія семы, якія маюць кантакты з беларускай грамадою ў Нью-Ёрку.



# Заувага

У нашым Спадарожніку мы не прадугледзелі вандроўкі па такіх вядомых мясьцінах Нью-Ёрку, як востраў Рузвэльта (Roosevelt Island), што знаходзіцца на Іст Рывэры паміж Магэтанам і Куінсам, і Губернатарскі востраў (Governors Island), што ляжыць у 1 км. ад паўднёвай аканечнасьці Мангэтана. Пакуль намі не знойдзены там сьляды адметнай беларускай прысутнасьці, акрамя магчымых фізічных сьлядоў беларусаў, хто пабывалі там па розных прычынах. Гэта справа будучых дасьледчыкаў, знайсьці такія зьвесткі.



# Грамадзкі транспарт у Нью-Ёрку

Грамадскі транспарт займае важнае месца ў жыцці Нью-Ёркую. Менавіта ен звязвае вялікі мегаполіс у адзіную функцыянальную сістэму. Варта прысвяціць гэтай тэме асобны артыкул. Ведаць сістэму грамадскага траспарту патрэбна кожнаму, хто хоча агледзіць горад.

Сетка грамадзкага транспарту мегаполіса складаецца з метрапалітэну, аўтобусных маршрутаў, функулёра на востраў Рузвэльта і паромаў на Статэн Айленд і ў Нью Джэрзі.

Нью-Ёркскі метрапалітэн, які тут называецца падземкаю — сабвэй (Subway) — унікальная зьява, гэта цэлы падземны горад. Але, ёсьць і 40 адсоткаў наземных ліній, частка з іх пракладзена ў раёнах, блізкіх да акіяну.

Сабвэй абслугоўвае чатыры боро — Мангэтэн, Бруклін, Куінс і Бронкс, на Статэн Айлендзе ёсьць свой рэйкавы транспарт. Агульная даўжыня ліній сабвэя складае больш за 1350 км., існуюць 472 станцыі на больш як 30 маршрутах. Маршруты маюць літарную і лічбавую назвы. Гэта неаднароднасьць тлумачыцца тым, што будавалі іх у свой час розныя кампаніі і кожная завяла свой парадак прысваеньня назваў.

Нью-Ёркскі метрапалітэн — адзін са старэйшых у




*Мапа сабвэю*

сьвеце. Першая лінія была адчынена ў 1868 годзе прыватнай кампаніяй BRT (Brooklyn Rapid Transit Company). Да1932 году мэтрапалітэн быў прыватнай уласнасьцю і належаў дзьвюм кампаніям: BRT і IRT (Interborough Rapid Transit Company). Затым да іх далучылася муніцыпальная кампанія,

*Статэн Айленд (Staten Island)*

якая ў 1940 годзе купіла тыя абедзьве прыватныя і абьяднала ўсю гаспадарку ў адзіны гарадзкі мэтрапалітэн. Зараз мэтрапалітэнам кіруе адзіная кампанія МТА - Metropolitan Transportation Autority.

У падпарадкаваньні МТА знаходзіцца і аўтобусны транспарт гораду. Праязныя квіткі аднолькава дзейсныя як для сабвэя, так і для аўтобусаў, магчымая таксама перасадка на іншы маршрут пры разавай аплаце.

Нью-Ёркскі сабвэй працуе штодня 24 гадзіны ў горадзе, які ніколі не сьпіць, перавозіць каля 4 млн. пасажыраў за суткі. Гэта найбольш зручны і даступны грамадзкі транспарт, дзякуючы наладжанай сістэме працы сабвэй забясьпечвае пасьпяховае функцыяваньне шматмільённага мегаполіса. Тут метро мае чыста функцыянальнае прызначэньне, у адрозьненьне, напрыклад, ад метро ў Менску ці Маскве, дзе пераважаў клопат пра эстэтычнае афармленьне станцыяў, часта з прапагандыстцкімі мэтамі. Толькі апошнім часам на сьценах станцый пачалі ўжываць мастацкае афармленьне. Нью-Ёркскі сабвэй не выглядае, як музэй, не блішчыць чысьцінёю, на бальшыні станцый няма эскалатараў, вузкія лесьвіцы. Але, менавіта, толькі ў такім выглядзе ён і можа выконваць сваю асноўную задачу - хутка перавозіць людзей на вялікія адлегласьці. З недахопамі можна мірыцца, калі разумець, што розныя паляпшэньні і ўпрыгожаньні могуць занадта высока ўзьняць кошты праезду да недаступных і тым самым паралізаваць горад.

Недахоп эстэтыкі на станцыях сабвэя кампенсуюць іншыя віды мастацтва.Часта тут гучыць музыка, сьпевы, таленавітыя людзі могуць тут знайсьці месца для самавыражэньня, але, і кожны можа сабе дазволіць пасьпяваць ці паіграць на

станцыях ці ў вагонах трэйнаў. Нью-Ёркская падземка - дэмакратычнае, дружалюбнае, камфортнае асяроддзе. Тут амаль не бывае сварак паміж пасажырамі, ніхто не піхаецца і не лезе ў вагон без чаргі, у спакойных і паважлівых узаемаадносінах усім хапае месца.




*Станцыя сабвэю на 2 Авеню*

Нью-Ёрк, асабліва Мангэтан, жыве як бы на двух паверхах. Жыццё бурліць на гарадзкіх вуліцах і такое ж не меньш інтэнсіўнае жыццё ідзе пад зямлёю. Хаця, сказаць «пад зямлёю» будзе не зусім дакладна. Горад стаіць на скалах і лініі метро таксама пракладваліся ў каменным грунце, што значна павышае кошты будаўніцтва. Але, будаўніцтва ідзе, на Мангэтане пракладзена новая лінія ўздоўж 2 Avenue да 96 Street, якая была заплянаваная яшчэ ў 30-я гады.

У нью-ёркскім грамадзкім транспарце беларусы не толькі

ездзяць пасажырамі, але і працуюць у абслугоўваньні сістэмы. Доўгія гады працаваў і займаў паважную пасаду, нават меў свой асобны офіс, беларус з паваеннай іміграцыі Васіль Юрцэвіч. У наш час працуюць новыя імігранты - Сяргей Пятровіч і Васіль Кузьменка. Магчыма, што і іншыя, але не далучаныя да беларускага грамадзкага жыцьця.

У Нью-Ёрку існуе яшчэ адзін сабвэй, значна меншы, але функцыянальна вельмі важны. Гэта PATH - Port Authority Trans-Hudson, ён зьвязвае праз Гудзон горад Нью-Ёрк са штатам Нью Джэрзі. Абслугоўвае транспартную сувязь з бліжнімі да Нью-Ёрка гарадамі паўночнага Нью Джэрзі - Jersey City, Jornal Square, Hoboken, Harrison, Newark. На Мангэтэне ёсьць дзьве станцыі PATH - World Trade Center і 33 Street. Апошняя станцыя ў Нью Джэрзі - Penn Station in Newark, з гэтай станцыі адпраўляюцца цягнікі на ўвесь амэрыканскі кантынент, таксама арганізаваны даезд да міжнароднага аэрапорта ў Ньюарку. Першыя цягнікі PATH пачалі хадзіць у 1907 годзе.

PATH таксама працуе бесперапынна, кошт праезду такі ж самы, як і ў Нью-Ёрскім сабвэі, але набываюцца асобныя квіткі.

Адметнасцю нью-ёркскіх сабвэяў есць тое. што ўсе дзейсныя лініі абавязкова праходзяць праз Мангэтан (акрамя кароткіх дапаможных ліній як, на прыклад — S). Гэта азначае, што трэйны перасякаюць рэкі Іст-Рывер і Гудзон па мастах і падводных тунэлях. Пад Іст-Рывер тунэлі знаходзяцца на глыбіні 20 м, а пад Гудзонам — 22 м.

Паромныя пераправы (Ferry) — шырока разьвітая водная транспартная сетка, наладжаны паміж Мангэтэнам, Статэн Айлендам, Бруклінам, Куінсам, астравамі Свабоды і Эліс, Губернатарскім востравам, з іншымі раёнамі Нью-Ёрка, а таксама з узбярэжжам Гудзона ў Нью Джэрзі. Пра дзеючыя маршруты можна даведацца ў інтэрнэце.



*Паром*

Roosevelt Island Tramway — фунікулёр ці падвясная канатная дарога над Іст Рывэр злучае востраў Рузвэльта і Мангэтэн. Дзейнічае ад 1976 году. У Мангэтэне ўваход у Roosevelt Island Tramway знаходзіцца на Tram Plaza, паміж 60 Street и 2 Avenue. Аплата звычайнай MetroCard, якая ўжываецца ў сабвэі і аўтобусах.

Нью-Ёрк — адзіны горад у ЗША, дзе больш паловы хатніх гаспадарак не маюць уласных аўта, на Мангэтане гэта складае 75%. У цэлым па краіне не маюць аўта толькі 8% жыхароў. Разьвітая сістэма грамадзкага транспарту ў Нью-Ёрку як раз

*Roosevelt Island Tramway*

і ёсьць прычынаю таго, што жыхарам няма вострай патрэбы набываць уласны транспарты сродак.



# Нью-ёркскі маратон

Аглядаючы Нью-Ёрк і знаёмячыся з гісторыяй і жыццём гораду, нельга не згадаць пра знакаміты маратон (Marathon). Кожны год у першую нядзелю лістапада ў Нью-Ёрку перакрываюцца многія вуліцы і горад напаўняецца




*Маратон праходзіць праз мост Верразана*

людзьмі ў спартовай форме розных узростаў і нацыянальнасьцяў. Нью-Ёркскі маратон - адзін з буйнейшых у сьвеце, напрыклад, у 2014 годзе прабег скончылі каля 50 тыс. чалавек. Разам з Бостанскім і Чыкагскім маратонамі ўваходзіць у сэрыю World Marathon Majors. Быў арганізаваны Асацыяцыяй бягуноў Нью-Ёрка, першы адбыўся у 1970 годзе. Стартуе маратон з маста Веразана. Можна спадзявацца, што і беларусы розных пакаленьняў бралі ўдзел у гэтым спартовым сьвяце. У працы абслугоўваючага персанала пад час маратонаў браў удзел беларус — доктар медыцыны Юрка Кіпель.







*Юрка Кіпель*

Маратон 2017 году, які праходзіў 5 лістапада, быў адметным для беларусаў. У цырымоніі ягонага адкрыцця ўздельнічала сяброўка БАЗА — Алёна Змушко. Яна брала ўдзел ў конкурсе і была абраная удзельнічаць у адкрыцці, дзе

Алёна пазіцыянавала сабе, як беларуска, была апранутая у нацыянальным стылі, мела пры сябе бел-чырвона-белы сьцяг і плакат з назваю краіны.




*Алёна Змушко*

Канец другой часткі



# ЧАСТКА **III**

## Беларускія мясьціны паблізу Нью-Ёрка

З Нью-Ёрку адносна лёгка можна дастацца да іншых беларускіх мясьцінаў, якія знаходзяцца на адлегаласьці, што можна пераадолець аўтам, на аўтобусе або цягніком.

Найперш, згадаем тыя, якія належаць да штату Нью-Ёрк.

### *Лонг Айленд (Long Island)*

Лонг Айленд (Доўгі востраў) — востраў у Атлянтычным акіяне, яго даўжыня - каля 225 км., максімальная шырыня - 48 км., каля 8 млн. насельніцтва. Лонг-Айленд аддзелены ад

Мангэтэна пратокаю Іст Рывэр.

Бліжэйшая да Мангэтэну заходняя частка вострава адміністрацыйна належыць да гораду Нью-Ёрку, там размяшчаюцца два нью-ёрскіх бора — Бруклін і Куінс. Цэнтральная і ўсходняя часткі вострава адміністрацыйна ўваходзяць у штат Нью-Ёрк, там знаходзяцца дзьве адміністрацыйныя акругі - Нэсо(Nassau County) і Сафолк (Suffolk County). Менавіта гэтыя акругі мясцовыя жыхары называюць Лонг Айлендам, жадаючы падкрэсьліць сваю адасобленасьць ад мегаполіса. У такога жаданьня ёсьць свая падстава. Лонг-Айленд вядомы высокім паказьнікам заробкаў і адпаведна больш высокім узроўнем жыцьця насельніцтва. Акруга Нэсо займае трэйцяе месца сярод самых багатых акругаў ЗША.

У акрузе Сафолк ёсьць дзьве індзейскія рэзэрвацыі — Пуспатук і Шіннекок.

Сярод насельнікаў акругаў Нэсо і Сафолк можна знайсьці




*Лонг Айленд (Long Island)*

*Лонг Айленд (Long Island)*

і беларускія прозьвішчы. Жыхары акругі Нэсо — Барыс Данілюк, Юрка Касьцюкевіч і Кастусь Верабей, па ўспамінах сп. Марыі Данілюк, ў 1966 годзе зладзілі сустрэчу з кіраўніком адміністрацыі акругі Нэсо- Юджынам Нікарсанам, каб такім чынам адсьвяткаваць 25 Сакавіка і паінфармаваць сп. Нікарсана пра беларускую прысутнасьць у гэтай акрузе. Яны ўручылі сп. Нікарсану ў якасьці падарунка кружэлку з беларускімі песьнямі і танцамі. Дэлегацыю ўдала аздобіла прысутнасьць маленькай дачкі сп. Данілюка ў нацыянальным строі.

Аднак, беларуская іміграцыя ў Лонг Айлендзе не была шматлікаю. Беларусы там не мелі сваіх асобных арганізацый і пераважна далучаліся да беларускага грамадзкага жыцьця ў Нью-Ёрку, сярод іх былі вельмі актыўныя і вядомыя асобы ў беларускім руху - Янка Запруднік, Ала Орса Рамана, Францішак Бартуль, Коля Заморскі з сем'ямі.

## *Апстэйт (Upstate)*

Апстэйт — паўночная частка штату Нью-Ёрк, гэта практычна ўся тэрыторыя штату, акрамя горада Нью-Ёрка, цягнецца на поўнач ад Мангэтэну і Бронксу да мяжы з Канадаю. У гэтай частцы знаходзяцца буйнейшыя гарады штату - Бафала (Buffalo), Рочэстэр (Rochester), Сыракьюс (Syracuse), Ніягара Фолс (Niagara Falls), Ютыка (Utica), Бінгамтон (Binghamton).




*Мапа штату Нью-Ёрк*

Апстэйт — папулярнае месца адпачынку жыхароў Нью-Ёрку, людзей прываблiваюць прыгожыя горныя пейзажы, вазёры, рэкi.

У Апстэйце 40 гадоў iснаваў беларускi цэнтр адпачынку Белэр - Менск (Belair-Mensk), якi адыгрываў важную ролю ў жыцьцi беларускай грамады Нью-Ёрку i ваколiцаў.

Стварэньне цэнтру было пасьпяховым бiзнэсовым праектам, якi ўдалося ажыцьцявiць сiламi беларускай грамады. У 50-я гады беларусы з Нью-Ёрку езьдзiлi адпачываць улетку на селiшча «Бобрык» i ферму «Кэры», але гэта не была iх маёмасьць. На пачатку 60-х гадоў група актывiстаў з Нью-Ёрку i ваколiцаў выступiла з прапановаю набыць уласнае адпачынкавае селiшча для патрэбаў беларускай грамады, дзе можна было б не толькi адпачываць, але праводзiць культурныя i спартовыя мерапрыемствы. Было вырашана набыць калектыўную

маёмасьць праз акцыянерны ўдзел. Ініцыятарамі праекту былі Васіль Юрцэвіч, Уладзімір Пеляса, Зора і Вітаўт Кіпелі, Юрка Станкевіч, Васіль Захаркевіч, Кастусь Мярляк, Пётра Мельяновіч, Даніла Клінцэвіч. Прыдатнае месца было знойдзена ў акрузе Салівэн (Sullivan county), у штаце Нью-Ёрк. Беларускі адпачынкавы цэнтр быў адчынены 4 ліпеня 1963 году. Селішча сталася папулярным месцам, дзе ад ранньяе вясны да позьняй восені віравала беларускае жыцьцё - адбываліся розныя культурныя імпрэзы, спартовыя спаборніцтвы, сустрэчы з гасьцямі. Аднак, з-за фінансавых праблемаў селішча давялося прадаць, набыла яго група беларускіх праваслаўных парафіяў. Будучы вызваленымі ад падаткаў, яны здолелі палепшыць матэрыяльны стан селішча і захаваць яго на некаторы час дзеля патрэбаў беларускай грамады. Але, на пачатку 2000 -х гадоў цэнтр заняпаў і быў канчаткова прададзены.

Некаторыя беларусы і многія ўкраінцы маюць у Апстэйце свае ўласныя летнія дамы-дачы.

Сярод беларусаў найбольш вядомы «Родны кут» - лецішча сям'і Юлі і Паўла Андрусышын каля гораду Эленвіл (Ellenville). Яны пабудавалі ўсё ўласнымі рукамі і заўсёды былі гасьціннымі гаспадарамі для шматлікіх гасьцей.

Бальшыня беларусаў Нью-Ёрку і прыезжых гасьцей з Беларусі і іншых краінаў пабывалі ў «Родным куце», дзе ладзіліся сяброўскія пасядзелкі каля вогнішча, гучалі беларускія сьпевы, сьпяваў Данчык, гойдаліся на арэлях дзеці. Тут гуртавалася як паваенная, так і пазьней новая беларуская іміграцыя.

З новай іміграцыі сваю беларускую сядзібу будуе недалёка




*У «Родным куце»*

ад «Роднага кута» яшчэ адна беларуская сям'я - Сьвятланы і Сяргея Пятровічаў.

Памятным месцам для беларусаў у Апстэйце ёсьць горад Ніягара Фолс. У гэтых мясьцінах каля знакамітага Ніягарскага вадаспада былі запачаткаваныя традыцыйныя Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якія праходзяць да сёньня раз на два гады па чарзе - у Амэрыцы і Канадзе. Першая адбылася 4-6 ліпеня 1952 году на беразе вадаспада.

У горадзе Рочэстэры пражыла апошні перыяд свайго жыцьцёвага шляху паэтка Натальля Арсеньева, яна пераехала з Нью-Ёрку да сына Уладзіміра. Паэтка там памерла ў 1997 годзе і пахаваная на гарадзкіх могілках. Сын Натальлі Арсеньневай Уладзімір Кушаль да сёньня жыве ў гэтым горадзе.

У горадзе Уотэртаўн (Watertown, Jefferson County) жыў

вядомы беларускі палітычны дзеяч Мікола Шчорс. Доктар Шчорс меў уласны хірургічны кабінет і некаторыя беларусы ездзілі да яго лячыцца. Іншы беларускі лекар і вядомы грамадзкі дзеяч Уладзімір Набагез жыў ў мясцовасьці Уолдэн (Walden, Orange County).

У Бінгэмтоне (Binghamton, Broome County) жыў і меў медычны кабінет яшчэ адзін вядомы беларускі палітычны дзеяч і лекар Іван Ермачэнка. З Нью-Ёрка перасяліліся ў Бінгамтон у 2016 годзе браты Расьціслаў і Валянцін Гарошкі.

У Бінгэмтоне існуе вядомы культурны цэнтр - Roberson Museum and Sciece Center, на 30 Front Street. У гэтым Цэнтры недзе ў пачатку 80-х ладзілася выстава тэкстыльнай індустрыі, дзе было шмат інфармацыі пра Беларусь, дэманстраваліся два Слуцкія паясы, мапа Беларусі. Сп. Кіпель згадвае, што здаецца, паясы былі пазычаныя для выставы ў музэі ў Бафала. Варта ў будучыні больш дакладна высьветліць гэты факт.

## *Вэст Пойнт (West Point)*

Вэст Пойнт — горад у штаце Нью-Ёрк, знаходзіцца прыкладна ў 80 км. на поўнач ад горада Нью-Ёрку, у жывапіснай мясьціне з выглядам на раку Гудзон.

Для беларусаў горад цікавы тым, што ягоная гісторыя зьвязаная з дзейнасьцю Тадэвуша Касьцюшкі.

У горадзе знаходзіцца знакамітая Вайсковая акадэмія ЗША пад такой жа назваю — Вэст Пойнт, гэта вышэйшая



*Вэст Пойнт*

фэдэральная вайсковая навучальная ўстанова Войска ЗША. Акадэмія ёсьць старэйшай з пяці вайсковых акадэміяў




*Форт Т. Касцюшкі*

Амэрыкі. Акадэмію скончылі некалькі амэрыканскіх беларусаў, сярод іх Міхась Швэд, які юнаком доўгі час танцаваў у «Васільку».

Цэнтральны акадэмічны гарадок зьяўляецца месцам, дзе знаходзяцца бальшыня гістарычных будынкаў і помнікаў, таксама Музэй Войска ЗША.

Вайсковы форт на зямельнай уласнасьці акадэміі быў пабудаваны ў 1778 годзе па праекту Тадэвуша Касьцюшкі. Форт адыграў ключавую ролю ў Вайне за незалежнасьць. Умацаваньні захаваліся да сёньняшняга часу. Там устаноўлены помнік Касьцюшку.

Даехаць да Вэст Пойнта найлепш аўтам.

На поўначы штату Нью-Ёрк, недалёка ад сталіцы штату горада Олбані (Albany), знаходзіцца другі пасьля




*Мост Т.Касцюшкі каля Олбані*

нью-ёркскага мост Тадэвуша Касьцюшкі (The Thaddeus Kosciusko Bridge). Мост пабудаваны праз Mohawk River, злучае горад Colonie (Albany County) і горад Halfmoon (Saratoga County).

Мост знаходзіцца на буйной аўтамагістралі 1-87, якая ідзе ад Нью-Ёрка на поўнач да мяжы з Канадаю. Гэта стальны арачны падвойны мост тыпу Twin Bridges. Адчынены ў 1959 годзе. Вядомы таксама пад назвамі -The Twin Bridges і Dolly Parton Bridge.

## *Ароў Парк (Arrow Park)*

Асобна патрэбна сказаць пра гісторыю Ароў Парку, да якой маюць дачыненьне беларусы, але выключна са старэйшай перадваеннай эміграцыі.

Ароў Парк — гэта зямельная ўласнасьць, набытая ў канцы 40-х гадоў некалькімі групамі эмігрантаў, сярод якіх было шмат беларусаў. Знаходзіцца ў акрузе Манроў (Monroe), штат Нью-Ёрк. На гэтым зямельным участку з цягам часу быў пабудаваны культурна-бізнэсовы цэнтр. Беларусы былі сярод актывістаў гэтага асяродку, але, пераважна не былі нацыянальна сьведамыя, трымаліся левых прарасейскіх поглядаў, падтрымлівалі Савецкі Саюз.

Раней штогод у Ароў Парку на пачатку жніўня ладзіўся Расейска-Беларускі Дзень Культуры, адбываліся беларускія сцэнічныя паказы. Ароў Парк часта наведвалі савецкія

дэлегацыі.

У 1973 годзе ў Ароў Парку быў устаноўлены помнік Янку Купалу побач з помнікамі Уолту Уітмэну, Тарасу Шаўчэнку і Аляксандру Пушкіну.

Сёньня гэты асяродак дзейнічае пераважна як камерцыйнае прадпрыемства, якое прапануе адпачынак і месца для правядзеньня розных прыватных урачыстасьцяў, мае дзеля рэклямы ўласны інтэрнэт-сайт, дзе можна атрымаць пра іхны сэрвіс больш падрабязную інфармацыю.

## *Нью Джэрзі (New Jersey)*

У бліжэйшым да гораду Нью-Ёрку штаце Нью Джэрзі (New Jersey), трапіць у які можна пераехаўшы раку Гудзон, традыцыйна пражывае значная колькасьць беларускіх імігрантаў. Тут ёсьць два знакамітыя беларускія цэнтры, якія былі закладзеныя паваеннай хваляю іміграцыі.

**Нью-Бра́нсуік (New Brunswick)** — горад у акрузе Мідлсэкс (Middlesex), знаходзіцца ў 43 км. ад Мангэтана на паўдзённым беразе ракі Рарытан (Raritan River). Заснаваны 30 сьнежня 1730 году як пасяленьне, 1 верасьня 1784 году зарэгістраваны ў штаце Нью Джэрзі ў якасьці гораду. Колькасьць насельніцтва прыкладна 55 тыс. чалавек. Вядомы, як горад нацыянальнай разнастайнасьці. У гэтым кангламераце ад канца 19 ст. належнае мейсца займаюць і беларусы.

Пасьля Другой сусьветнай вайны імігранты пачалі прыязджаць у гэтыя мясьціны ў 1948-1950 гадох. Беларуская грамада заклала сваю царкву. Царква Сьвятое Жыровіцкае Іконы Божае Маці / Saint Mary of Zyrovicy BAOChurch) належыць да Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Парафія была заснаваная 12 жніўня 1951 году і праз дзесятак гадоў набыла царкоўны будынак у горадзе Гайленд Парку (Highland Park) праз раку Рарытан ад Нью Брансуіку. Раней гэта была грэцкая царква, праваслаўныя грэкі прадалі будынак беларусам па ніжэйшаму кошту, чым можна было спадзявацца ў гэтым заможным раёне. Царква дзейнічае да сёньня, кожную нядзелю там праводзяцца багаслужбы, а ў грамадзкай залі адбываюцца імпрэзы, сьвяткаваньні і зборкі Аддзела Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Джэрзі. Адрас Царквы: 9 River Road Highland Park, New Jersey, 08904.



*Беларуская царква ў Гайленд Парку*







*У Беларускай царкве ў Гайленд Парку*

Недалёка ад Нью Брансуіка знаходзяцца самыя вядомыя ў

Амэрыцы беларускія могілкі, якія Вітаўт Кіпель назваў Беларускім Некропалем Паўночнай Амэрыкі. Пляц быў куплены Парафіяй Царквы, якая і да сёньня апякуецца могільнікам. Там пахавана шмат вядомых беларусаў з Амэрыкі і Канады.



*Беларускія могілкі*

У Нью Брансуіку знаходзіцца адзін з вядомых унівэрсытэтаў Амэрыкі - Ратгерскі (University Rutgers, The State University of New Jersey).

Унівэрсытэт заснаваны ў 1766 годзе, ён зьяўляецца восьмым старэйшым унівэрсытэтам ЗША і адным з дзевяці каланіяльных каледжаў, адчыненых да таго, як ЗША здабылі незалежнасьць. Ратгерс быў прыватным унівэрсытэтам пры Галандзкай рэфарматарскай царкве. Цяпер гэта дзяржаўны штатны ўнівэрсытэт. Кампусы ўнівэрсытэта знаходзяцца ў

Нью Брансуіку, Піскатавэй (Piscataway), Ньюарку (Newark) і Камдэне (Camden). Кампус у Ньюарку раней быў Ньюарскім унівэрсытэтам, які ў 1946 годзе абьяднаўся з Ратгерскім.

У Ратгерсы вучыліся і вучацца некаторыя з беларускіх імімгрантаў і іх нашчадкаў. Выпускнікамі Ратгерс а зьяўляюцца Зора і Вітаўт Кіпелі, Аўген Вярбіцкі, Расьціслаў Завістовіч, Юрка Азарка і інш., усяго налічваецца каля сотні чалавек.

У Нью Брансуіку знаходзіцца штаб-кватэра сусьветна вядомай амэрыканскай фармацэўтычнай кампаніі Джонсан і Джонсан (Johnson & Johnson). Заснавана ў Нью Брансуіку ў 1886 годзе братами Робэртам, Джэймсам и Эдвардам Джонсанамі. Кампанія таксама ёсьць буйнейшым у сьвеце вытворцам медычнага абсталяваньня. У склад карпарацыі ўваходзяць 230 падпарадкаваных ёй кампаній ў больш чым 50 краінах сьвету, прадукцыя прадаецца ў 175 краінах.

Можна спадзявацца, што і беларускія іміґранты сваёю працаю паспрыялі росквіту кампаніі не толькі ў самім Нью Брансуіку, але і ў іншых месцах, дзе працуюць яе прадпрыемствы.


*Майкл Даглас*

Варта адзначыць, што ў Нью Брансуіку нарадзіўся знакаміты амэрыканскі кінаактор Майкл Даглас, продкі якога паходзяць з Беларусі.

Даехаць да Нью Брансуіка зручна цягнікамі кампаній NJT (New Jersey Transit) і Amtrak з Penn Station на Мангэтэне.

Цягнік браць у накірунку на Трэнтан (Trenton), прыпынак - New Brunswick, далей пешкі праз мост да Царквы Сьвятое Жыровіцкае Іконы Божае Маці ў Гайленд Парку




**Саўт Рывэр (South River)** — горад таксама ў акрузе Мідлсэкс. Як пасяленьне быў заснаваны ў 1720 годзе, горадам стаў у 1897 годзе. Горад вырас за кошт прытоку імігрантаў, пераважна з Усходняй Эўропы. Колькасьць насельніцтва - прыкладна 16 тыс. чалавек.

Саўт Рывэр зьяўляецца адным з цэнтраў беларускай іміграцыі ў Амэрыцы. Беларусы пачалі прыязджаць сюды ўжо напрыканцы 19 ст. і часамі бывала так, што яны складалі дзве траціны насельніцтва гораду. Эмігранты з Вілейкі і Маладзечна пабудавалі ў Саўт Рывэры праваслаўную царкву Сьв. Пятра І Паўла пад апекаю расейскай царквы, ад 1970 году знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Праваслаўнай Царквы Амэрыкі (Orthodox Church of America — OCA). Беларускія каталікі у Саўт Рывэры таксама пабудавалі свой храм

— касьцёл Вострабрамскай Божай Маці.

Паваеннныя праваслаўныя імігранты, якія былі больш нацыянальна сьведамымі, не далучыліся да царквы Сьв. Пятра і Паўла, а залажылі сваю беларускую царкву Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Заснавальнікам Парафіі быў адзін з найбольш вядомых беларускіх рэлігійных дзеячаў а. Мікалай Лапіцкі. Новая Парафія ўзьнікла, як працяг дзейнасьці пабуданай ў 1946 годзе пад наглядам а. Лапіцкага ў лягеры ДП у Рэгенсбургу ў паваеннай Нямеччные беларускай праваслаўнай царквы імя Эўфрасіньні Полацкай.

Афіцыйна Парафія была закладзена 20 лістапада 1950 году. Царква належыць да юрысдыкцыі Канстанцінопальскага Патрыярхату. Існуючы сёньня будынак царквы быў пабудаваны на набытым у горада пляцы ў 1972 годзе.



*Беларуская царква у Саўт Рывэры*

Беларуская грамада, якая гуртавалася вакол гэтай царквы, заарганізавала сваё нацыянальнае грамадзкае жыцьцё. У 1972 годзе было скончана будаўніцтва побач з

царквою Беларуска-Амэрыканскага культурнага цэнтру, які стаў буйнейшым ў Амэрыцы. Там адбываюцца розныя імпрэзы, сьвяткаваньні, праходзіла ў 2010 годзе 29-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі.



*29-я Сустрэча ў Саўт Рывэры*

У 1974 годзе на пляцы Цэнтру быў установлены помнік «Змагарам за Вольную Беларусь».

Недалёка ад гораду знаходзіцца могільнік, дзе пахаваныя пераважна дзеячы БЦР і Кангрэсавага камітэта Аэрыкі

У Саўт Рывэры выдаваліся першыя пасьля вайны беларускія газэты — «Беларус у Амэрыцы», «Беларускае слова ў Амэрыцы», «Беларуская трыбуна», часапіс «Царкоўны Сьветач». Сёньня выдаецца часапіс «Беларуская думка».

Доўгія гады там была сядзіба Беларускага Кангрэсавага Камітэта і прыхільнікаў Беларускай Цэнтральнай Рады.

Больш падрабязна пра гісторыю беларускай прысутнасьці ў Саўт Рывэры пасьля Другой усясьветнай вайны можна прачытаць у кнігах гісторыка з Беларусі Алега Гардзіенкі:




«Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі (БККА)» (Смаленск, 2009)

«Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР). Стварэньне, дзейнасьць, заняпад. 1943-1995», Менск, «Кнігазбор», 2016

Распавядаючы пра беларускую прысутнасьць у штаце Нью Джэрзі, патрэбна згадаць пра такую ўнікальную з'яву, якую сарганізавалі тамтэйшыя беларусы паваеннай хвалі іміграцыі, як беларускія фестывалі і выстаўкі. Пра шматгадовую нястомную дзейнасьць беларускай грамады, якая жадала паказаць амэрыканскаму грамадзтву ўсю прыгажосьць, адметнасьць, унікальнасьць беларускай культуры, напісаў зьмястоўную кнігу д-р Янка Запруднік. Кніга пад назваю «Беларускія фестывалі і выстаўкі ў Нью Джэрзі. Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948-2011)», была выдадзена ў Нью-Ёрку ў 2013 годзе Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва. Кніга выдадзена па-беларуску і па-ангельску (Belarusian

Festivals & Exhibitions in New Jarsey). Кніга можа быць найлепшым спадарожнікам па тых мясьцінах у Нью Джэрзі, дзе адбываліся беларускія выступы і канцэрты.

Адрас Беларускага Цэнтру:

284 Whitehead Avenue, South River, NJ 08882

Даехаць можна аўтобусам з Port Authority Bus Terminal на Мангэтэне ці аўтам.

## *Філадэльфія (штат Пенсыльванія)*

Беларусам Нью-Ёрку і гасьцям варта рэкамендаваць зрабіць аднадзённае падарожжа ў горад Філадэльфію (Philadelphia), буйнейшы горад штата Пенсыльванія (Pennsylvania). Знаходзіцца ў 45 мілях у паўднёва-заходнім накірунку ад Нью-Ёрку, трапіць туды можна аўтобусам альбо цягнікам. Штат мяжуе з бліжэйшым да Нью-Ёрку штатам Нью-Джэрзі. Па колькасьці жыхароў (1.5 млн.) займае шостае месца у ЗША, а разам з прыгарадамі нават пятае месца. Горад заснаваны ў 1682 годзе Уільямам Пэнам (William Penn). Пенн лічыцца адным з бацькоў-заснавальнікаў Злучаных Штатаў.

Філадэльфія — гэта гістарычнае сэрца Амэрыкі, горад, дзе адбываліся важнейшыя гістарычныя падзеі, якія прывялі да ўзьнікненьня незалежнай краіны - Злучаныя Штаты Амэрыкі. Філадэльфія была буйнейшым горадам на тэрыторыі трынаццаці брытанскіх калёніяў Паўночнай Амэрыкі. Менавіта тут пачаўся рух за вызваленьне ад брытанцаў, Філадэльфія



*Independence Hall*

лічыцца калыскаю амэрыканскай незалежнасьці. У гэтым горадзе была падпісаная Дэклярацыя аб незалежнасьці 4 ліпеня 1776 году, а потым і прынята Канстытуцыя ЗША. Філадэльфія была сталіцаю абьяднаных калёній пад час вайны за незалежнасьць і стала першай сталіцаю ЗША, функцыю сталіцы горад выконваў з перапынкамі да 1800 году, калі сталіца была перанесена ў Вашынгтон (з 5 верасьня 1774 па 24 кастрычніка 1774, з 10 траўня 1775 па 12 сьнежня 1776, з 4 сакавіка 1777 па 18 верасьня 1777, з 2 ліпеня 1778 па 21 чэрвеня 1783, з 6 сьнежня 1790 па 14 траўня 1800).

У гістарычнай частцы Філадэльфіі, у Independence National Historical Park, да сёньня захаваліся гістарычныя пабудовы і помнікі, зьвязаныя з падзеямі таго часу. Найбольш важны з іх — Індэпэндэнс Хол (Independence Hall – «Заля Незалежнасьці») дзе была падпісаная Дэклярацыя аб незалежнасьці.



*Liberty Bell*

Можна пабываць у павільёне са знакамітым Звонам Свабоды (Liberty Bell), які склікаў жыхароў на змаганьне за свабоду.

У горадзе можна пабачыць яшчэ мноства адметных гістарычных месцаў. Для беларусаў Філадэльфія таксама асаблівае месца. Як вядома, актыўным удзельнікам вайны амэрыканцаў за незалежнасьць быў наш суродзіч Тадэвуш Касьцюшка. Ён жыў некалі у гэтым горадзе і цяпер у тым будынку існуе Мемарыял Касьцюшкі (Kosciuszko Memorial).

Стары дом часоў Касьцюшкі быў адрамантаваны і Мемарыял ў ім быў адчынены ў 1972 годзе. Знаходзіцца недалёка ад Cociety Hill на рогу S 3rd і Pine Street, дакладны адрас - 301 Pine Street, знайсьці можна, калі ад вялікай вуліцы ў гістарычнай частцы Walnut Street прайсьці да S 3rd Street і па ёй дайсьці да Pine Street. У Філадэльфіі ёсьць яшчэ толькі адзін персанальны мемарыял змагароў за незалежнасьць - Бенджаміна Фрэнкліна (Benjamin Franklin). Дарэчы, з ім Тадэвуш Касьцюшка быў у добрых сяброўскіх адносінах.

У Філадэльфіі ёсьць таксама велічная статуя Касьцюшкі (Thaddeus Kosciuszko Statue), стаіць у цэнтральнай частцы




*Kosciuszko Memorial*

гораду на рогу - Benjamin Franklin Parkway і 18 Street. Пастаўлена ў ліпені 1976 году да 200- сотай гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці ЗША. Аўтар — скульптар Марыян




*Kosciuszko Statue*

Канечны.

Беларуская прысутнасьць была ў Філадэльфіі з даўніх часоў. Пра гэта можна знайсьці інфармацыю ў вядомай кнізе Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША». Сёньня ў Філадэльфіі жывуць беларускія імміграНТЫ, пераважна з новай сучаснай хвалі. Некаторыя бяруць актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці, зьяўляюцца сябрамі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў складзе Бруклінскага аддзелу БАЗА. Аднак сучасныя філадэльфійскія беларусы сваіх арганізацыйных структураў пакуль не залажылі.



*Беларуская грамада у Філадэльфіі*

Канец трэцяй часткі



